А. СМОЛІЧ.



# ГЕОГРАФІЯ БЕЛАРУСІ.



Рэдакцыя школьнае Камісіі Беларускага Навуковага Т-ва.

ВІЛЬНЯ — 1919.
Друкарня „Промень“.

# Ад рэдакцыі.

Школьная камісія Беларускага Навуковага Таварыства, перагле́дзіўшы кнігу А. Смоліча *„Географія Беларусі“*, думае, што яна будзе вельмі карыснай і патрэбнай як для вучняў у школе так і для шырокіх кругоў чытаючае Беларусі, і найбале́й для вучыцялёў, ад каторых цяпер новая працоўная школа вымагае, каб яны навучылі дзяцей ня толькі пісаць і чытаць, але і добра працаваць. Скончыўшы школу, прыдзецца перш-на-перш працаваць у сваім краі. А каб магчы працаваць шчырэй і ляпей, трэба яго любіць. Старая школа ўсіх тыпаў не навучыла нас любіць працу і наўмысьля адварочавала нашыя здольнасьці ад вучэньня свайго роднага: ад веды гісторыі, географіі, літэратуры і мовы беларускага народу. І мы пакідаючы навет сярэднюю школу, бале́й ведалі аб далёкай чужыне, чымся аб сваім родным. Дык вось цяпер прышла пара ўсім больш-менш цікаўлівым беларусам і наўпе́рад вучыцялём папоўніць вялікія нястачы старое школы і зьвярнуцца да свайго краю, да таго, што і як у ім было і што і як цяпер у ім ёсьць. *„Географія Беларусі“* А. Смоліча дае магчымасьць папоўніць нястачу ў ведзе географіі роднага краю.

Як першая спроба, кніжка А. Смоліча павінна выклікаць да сябе цікавасьць паміж усіх добрых грамадзян Беларусі, ня вытруціўшых у сабе пад цяжкім уціскам чужынцоў любоў да нашага вельмі прыгожага краю і нашага працавітага народу.

Няхай-жа чытары гэтае кніжкі і — бале́й за ўсіх — вучыцялі вясковых і мескіх школ, азнаёміўшыся з *„Географіяй Беларусі“* А. Смоліча, не адмовяцца паказаць нам і тое, што ім здаецца зробленым ня так, або не дароблена. Усе пэўныя недахваты будуць прыняты пад увагу пры другім выданьні гэтае кніжкі.

**Школьная Камісія Бел. Нав Т-ва.**
Вільня, Вастрабрамская, № 9.

1919 г. Сакавік.

# I. Беларусь паміж сваймі суседзямі.

### Палажэньне Беларусі.

Беларусь ляжыць у самай сярэдзіне Эўропы. Яна займае вялікі кавалак зямлі (каля 300 тысячаў квадратных вёрстаў, альбо 30 міліёнаў дзесяцін,) які, можна сказаць, з большага мае форму трапэцыі (як сякéра) з асноваю ўдаўжкі ў 700 вёр., а ўвышкі ў 550 вёр. (Верхняя аснова мае ўдаўжкі каля 400 вёрст) Значыцца каб пераехаць цераз усю Беларусь з усходу на захад прыдзецца ехаць 100 міль, а з паўдня на поўнач—80 міль.

Каб акуратней адзначыць мейсца, дзе ляжыць нашая бацькаўшчына на зямной кулі, мы мусім сказаць, што яна ляжыць балéй-меней паміж 40 і 52 градусамі ўсходняе даўжыні (лічачы ад Фэрро) і паміж 51 і 57 градусамі паўночнае шырыні. Як раз у заходняй Беларусі ёсьць географічны цэнтр Эўропы (42,5 і 54).

### Прастор Беларусі.

Беларусь займае прастору каля 300 тысячаў квадр. вёрстаў альбо 30 міліёнаў дзесяцін. Прастор гэта не малы. Сярод культурных краёў ня шмат такіх, каб мелі балéй зямлі, чымсі мае Беларусь, большая часьць гаспадарстваў у Эўропе займае мéньшы прастор.

Большыя за Беларусь вось якія старонкі — Нямеччына больш у 1½ разы (мае 480 тыс. кв. вёрст), Францыя, Норвэгія, Швэдзія, Гішпанія і Аўстра-Вэнгрыя таксама большыя за Беларусь. Большая за Беларусь і Украіна і Маскоўшчына — гэтыя старонкі маюць найбольш у Эўропе зямлі.—Роўна з Беларусьсю зямлі маюць Англія (без калёніяў), Італія і Фінляндыя. А рэшта—Баўгарыя, Румынія, Польшча, Літва, Грэцыя, Сэрбія, Бэльгія, Швайцарыя і шмат іншых маюць зямлі меньш чымся ў Беларусі у 2, у 3 і больш таго разоў.

## Колькасьць насяле́ньня і яго шчыльнасьць.

Шмат зямлі ёсьць у Беларусі, ды рэдка народ у ёй жыве. На ўсім прасторы Беларусі жыве ўсяго каля 16 міліёнаў чалавек. Большая часьць зямлі ў нас ляжыць пад бесканечнымі лясамі, пад дзікім балотам. Ворнай зямлі ў нас ня шмат, дый на тэй, якая ёсьць, наш народ гаспадарыць блага, бо лепей ня ўмее. Дык нашая зямля ледзь-ледзь пракормлявае гэтых 16 міліёнаў чалавек.

У Няме́ччыне на гэткім самым прасторы жыло-б міліёнаў 45 народу, а ў іншых старонках (напр. у Бэльгіі) шмат балей.

Дзеля гэтага па колькасьці насяленьня эўропэйскія гаспадарствы ўжо ня ў $1^1/_2$ разы большыя за Беларусь, а ў 3, у 4 разы. Нямеччына мае 65 міліёнаў народу, каля гэтага мае і Англія і Аўстрыя. Меней маюць Італія, Францыя, Украіна, але ўсё-ж шмат балей чымся Беларусь. У Польшчы, Гішпаніі народу будзе блізка што толькі, колькі і ў Беларусі, а рэшта гаспадарстваў маюць насяленьня шмат меней, чымся ёсьць у Беларусі Гэткія культурныя старонкі, як Швайцарыя, Фінляндыя, Данія маюць усяго па 3 міліёны, а ў Грэцыі і Норвэгіі па 2 міліёны жыхароў.

За тое з боку гушчыні насяленьня Беларусь стаіць бязмална ў самым канцы ўсіх Эўропэйскіх гаспадарстваў. У Беларусі на 1 квадратнай вярсьце — кругом бяручы, жыве ўсяго толькі 50 чалавек. Радзей, як у Беларусі, народ жыве яшчэ вось у якіх старонках — у Грэцыі Гішпаніі, Турцыі, Маскоўшчыне, Швэдзіі і Фінляндыі У Фінляндыі на 1 кв. вярсьце жывець толькі 10 чалавек. Тым часам старонка гэтая вельмі культурная, дый людзі там багата жывуць.

## Суседзі Беларусі.

З захаду Беларусь мяжуецца з Польшчаю, Літвою і Латвіяй. Даўжыня мяжы з Польшчаю каля 250 вёр., Літвой 400 вёр. Латвіяй 200 вёрст.

На паўдня ад Беларусі ляжыць Украіна. Мяжа з ёю мае даўжыні каля 1000 вёрстаў.

З усходу і поўначы Беларусь аблягае Маскоўшчына. Мяжа з ёю мае даўжыні каля 900 вёрстаў.

Беларусь яшчэ не разьмяжавалася акуратна з сваймі суседзямі. Дзеля гэтага, кажучы аб межах Беларусі, мы разумеем тыя межы, у якіх, як усе згаджаюцца, жыве́ беларускі народ. Быць можа, што пры ўстанаўленьні ме́жаў які невялічкі лапік беларускае зямлі дастанецца якому суседу, альбо наадварот — дзеля таго, каб ме́жы крыху выпрасталіся. Дык межы Беларусі могуць яшчэ зьмяніцца. Цяпер мы даём апісаньне тых толькі межаў, якія аддзяляюць народ Беларускі ад яго суседзяў.

З Польшчаю мяжа ідзе ад м. Мельніка, што ляжыць на р. Бугу, па гэтай рацэ ўніз, пасьля па рацэ Нурцу і далей пераходзіць на рэкі Нарэў і Бобр. Зыйшоўшы з Бабра, граніца кіруецца на Аўгустоў, а адтуль ідзе проста на Друзгенікі, і пераходзіць ужо ў край Літоўскі. Далей граніца з Літвою йдзе праз мястэчкі Дубічы, Эйшышкі, Біняконі, Рудзішкі, Еўе, Падбярэзьзе. Сьвянцяны, Відзы і Езёросы (Нова-Аляксандраўск).

За Езёросамі пачынаецца мяжа з латышамі. Яна йдзець праз Ілукшту, Вышкі, Дагду, Люцын, і да Корсаўкі. Ад Корсаўкі пачынаецца мяжа з Маскоўшчынаю. Яна йдзець праз Апочку, Вялікія Лукі ў кірунку на Ржэў і Зубцоў. Адтуль-жа паварочвае на паўдня і йдзе ў кірунку на Дарагабуж. Не даходзячы гэнага места, граніца паварочвае крыху на ўсход, а пасьля ідзець ізноў у паўднёвым кірунку на места Бранск і далей па рацэ Дзясьне да мястэчка Грэмяча. Ад Грэмяча ўжо пачынаецца Беларуска-Украінская граніца.

Гэная граніца ад Грэмяча ідзець на поўдзень і паўднёва-заход, перасякаючы папалям Чарнігаўшчыну аж пакуль ня трапіць да Дняпра каля м. Любеча. Ад Любеча мяжа йдзе ўніз па Дняпры да ўтоку Прыпяці і там трапляе на старую гістарычную мяжу Беларусі з Украінай, якая йдзе нераз пустынныя лясы і балоты, што ляжаць на паўдня ад Прыпяці. Гэная мяжа ў нядаўныя часы разьдзяляла Менскую і Горадзенскую губэрню ад Валынскае.

Гэткім парадкам даходзіць мяжа Беларусі да Бугу і далей ідзець уніз па ім да м. Мельніка. У Мельніку канчаецца мяжа з Украінаю і пачынаецца мяжа з Польшчаю.

На нашых межах з Маскоўшчынаю праз увесь час гісторыі Беларусі ішлі войны, якія спусташалі месты і вёскі і не давалі людзём добра асесьці і завесьці гаспадарку. Дзеля гэтага тамака даўнейшае поле пазарастала лесам і цяпер Беларусь ад Маскоўшчыны аддзяляюць вялікія лясы—Окоўскія, Бранскія і іншыя. Ад Украіны Беларусь аддзелена альбо глыбокімі рэкамі, альбо непраходнымі балотамі. Вялікія пушчы растуць і ўздоўж нашых межаў з Польшчаю (Белавежская, Горадзенская) дый балотаў там даволі. А па нашых межах з Літвою ды Латвіяй няма ні лясоў вялікіх, ні рэкаў, ні балотаў; толькі ось азёраў ёсьць даволі. Ды нам і непатрэбны з таго боку моцныя межы, з гэтымі нашымі суседзямі беларусы заўсёды хаўрусавалі і жылі ў згодзе.

### Адміністрацыйнае дзяленьне.

Да вайны 1914 году ўся Беларусь была падзелена на губэрні і паветы. Усіх беларускіх паветаў 62-65. Яны падзелены паміж губэрнямі: Віленскай, Віцебскай, Горадзенскай, Менскай, Магілеўскай, Смаленскай і Чарнігаўскай. Апроч гэтых губэрняў да Беларусі трэба залічаваць і суседнія паветы іншых губэрняў.

Разьдзяленьне Беларусі на губэрні было штучным і дзеля гэтага мы далей аб губэрнях гаварыць ня будзем. Мы будзем апісаваць толькі асобныя паветы, групіруючы іх, як таго будзе вымагаць іхняя прырода і іншыя адзнакі.

## Прырода Беларусі.

### Паверхня. Тры віды беларускіх мясцовасьцяў.

На сьвеце ёсьць многа высокіх гор, якіх вярхі хаваюцца ў хмарах. Гэныя горы бываюць увышкі па некалькі вёрстаў. На Беларусі такіх вялікіх гор няма. Найвышэйшая гара на Беларусі — Лысая Гара (5 міль на поўнач ад Менску) мае ўсяго вышыні 160 сажняў, значыць толькі $^1/_3$ вярсты.

На паўдня ад Беларусі, на Украіне ляжаць стэпы. Тамака, як выйдзеш у поле, дык, бывае, нідзе дрэўца не пабачыш, як вокам глянуць—усё толькі поле ды поле. Таксама не пабачыш і ўзгорка такога, якіх у нас на Беларусі ўсюдых хапае. Роўнае, як стол, поле ідзе ў даль, аж пакуль ня зьліваецца з небам аж да самага гарызонту. І толькі дзе-ня-дзе трапляюцца глыбокія равы-яры, якія папракопавала вада, што зьбіралася з усяго вялікага поля. Равы гэныя бываюць вельмі глыбокія і вялізнае шырыні. Яны бягуць да рэчкі, якая так сама плыве па шырокай даліне паміж дзьвёх высокіх сьценаў, на версе якіх поле. Калі глянуць з нізу ад рэчкі на гэныя сьцены-берагі — здаецца, што гэта такія самыя горы, як і ў нас (бо часамі вышыня іх бывае так тама па сотні і балей сажняў). Але гэтак здаецца толькі зьнізу. Калі ўзыйсьці на такую гару — мы пабачым з усіх бакоў сябе роўнае поле.

Яшчэ мы ведаем, што ў стэпу ляжыць тоўсты пласт чорнае зямлі па аршыну дый больш таўшчыні, што на гэным чарназёме надта дабра збожжа родзіць.

Вось-жа, калі мы глянем па Беларусі, дык мы такіх стэпоў нідзе ня знойдзем. Яны ляжаць як раз за нашай мяжою, за р. Дзясною. А на наш бок Дзясны праўдзівых стэпоў ужо няма. Есьць толькі лесастэпы. Яны ляжаць найбольш у Чарнігаўшчыне і па суседзтву з ёю. Некалісь тут таксама ляжалі стэпы, але пасьля пакрысе сталі зьяўляцца маленькія гаі лісьцястых дрэў, з гаёў вырасталі лясы і на мейсцу стэпу зрабіўся лес. Вільгаці тут было і так больш чымся ў стэпу (бо далей на поўнач), а як пайшлі лясы, дык яшчэ балей яе стала. Вада павыкопавала шмат новых яроў, і павымывала з чарназёму шмат яго сытных для расьпінаў частак.

Цяпер лясоў тых ужо мала асталося, але ўсё-ж ні тэм, то там выгляне зялёны гаёк з старымі дубамі, яварамі, ляшчынаю

У ярох і ў рачных далінах сустракаюцца вялікія прасторы пескавога грунту, на якім растуць хваёвыя бары.

У лесастэпу зямля ўсё-ж вельмі багатая і добра родзіць збожжа. Толькі трэба ўмець на ёй гаспадарыць, бо інакш можна зьвесьці зямлю на чыстую пустыню.

Перанясёмся цяпер думкаю з нашага Чарнігаўскага лесастэпу на другі канец Беларусі, у Віцебшчыну.

Добра жыць у гэтым краю, ды цяжка гаспадарыць—зямлю робіць. Куды ні глянь — усё горы ды горы. Едзеш па дарозе, дык усё альбо пад гару альбо з гары; рэдка, рэдка трапіцца поўвярсты роўнага мейсца. Апрыч таго, усюдых як-бы пасеяна каменьня; ляжыць яно і паасобку і цэлымі грудамі альбо гнёздамі, а то дык і вялікае поле скрозь бывае завалена каменьнем. Асабліва многа каменьня на ўзгорках. Горы найчасьцей паабрасталі лесам—елкамі, хвоямі. Дзеля гэтага ўсюдых вока ўпіраецца ў лес. Горы гэтыя бываюць стромкімі. Найчасьцей яны памалу падымаюцца над нізінаю, а зьверху роўныя, гладкія як-бы рукой прагладжаны.

Паміж гораў ляжаць глыбокія вазёры. Увесь край чыста зрэзаны гэтымі вазёрамі. Дарога мусіць дзесятак вёрст круціцца паміж іх, каб выйсьці на другі бок возера за якую вярсту. Гэты край гораў, каменьня і вазёраў называюць м о р э н н ы м краем.

А вось яшчэ адзін абразок, які вельмі часта можна сустрэць на Беларусі. Невялікая роўненькая палянка. Навокал, як вокам сягнуць, хваёвы бор. У рагу палянкі з бору выплывае рэчка, ля рэчкі стаіць невялікая шэрая вёсачка, а ад яе па ўсёй палянцы цягнуцца роўныя зялёныя шнуры сялянскага збожжа. Ніводнага ўзгорка — усё роўна, як у стэпу. Але няма і тых яроў ды далінаў глыбокіх — у рэчцы вады поўныя берэгі, рачное даліны зусім блізка ня знаць. Ціха цячэ гэтая вада па нязначнаму спаду, аж пакуль яе што не задзяржыць. А як задзяржыць яе што, яна разьліваецца шырака і зробіць на мейсцу поля балота.

Трапляецца часамі, што гэткае балота цягнецца на дзесяткі вёрстаў. На гэткім балоце травы расьце досіць трава благая, балоціна, але шмат яе. Сяляне цярэбяць лазу, якою вельмі скора абрастаюць гэткія балоты, і вось зьяўляюцца вялізэрныя сенажаці.

Зямля тутака ўсюдых вельмі лёгкая — пясок. Ураджай з яе малы, дык народ па большай часьці з сена жыве, ды жывёлу гадуе.

Часамі бывае лясы высякаюць. Тады далёка - далёка, як вока сягае, відна ўсё тая самая раўніна з роўнымі паскамі нівы з абшырнымі балотнымі сенажацямі, аж пакуль недзе на гарызонце ні пакажацца палоска лесу.

Гэты край пясковых раўнінаў, паросшых хваёвымі барамі, называюць палесьсем.

Гэткім парадкам мы разгледзілі тры галаўнейшыя віды беларускіх мяйсцовасьцяў: лесастэп, морэнны край і палесьсе. Трапляюцца яшчэ і крыху іншыя — аб іх будзем гукаць ніжэй. Цяпер паглядзём, як у навуцы растлумачана, адкуль зьявіўся гэткі выгляд нашае зямлі і як ён стварыўся.

У далёкай мінуўшчыне, многа тысяч гадоў назад, быў такі час, калі над усёй паўночнай Эўропаю стаялі вялізныя сьцюжы. І разам з гэтым бязупынна ліліся дажджы, ішоў сьнег. Гэтак дзеялася па працягу тысячы гадоў. Дзякуючы гэтаму тамака — у Фінляндыі, у Скандынавіі павырасталі вялізазныя масы лёду на некалькі вёрстаў таўшчынёю. Тым часам дажджы ўсё ліліся, нарасталі ўсё новыя ледавыя горы, націскалі на тыя, што ўперад былі, і дзякуючы гэтаму ўся ледавая маса кранулася на паўдня, адрываючы ад скалаў ды пераціраючы ў дробны пясок большае і меншае каменьне. Шмат каменьня было зьверху на лёдзе, шмат было ў ім у сярэдзіне, шмат валок гэты, як яго называюць, ледавік над сабою каменьня, пяску, гліны і г. д.

Гэтае каменьне, пясок, гліну называюць морэнаю. Гэты ледавік дапоўз і да Беларусі і накрыў яе ўсю. Доўга-доўга схавана была зямелька нашая пад ледавой вопраткаю, аж пакуль ізноў не вярнуліся цяплейшыя гады. Тады лёд пачаў паволі растапляцца. На паўдні скора ўжо яго зусім нястала, а цераз нейкі час і ўвесь лёд зыйшоў з Беларусі. *). Пэўне-ж, што ад такіх масаў лёду выйшла бяз меры многа вады і яна рынулася кудою толькі можна было, каб трапіць у моры ды акіяны.

На паўдня ад Беларусі — у Валыні ляжаць досіць высокія Аўратынскія горы Гэныя горы задзяржалі цячэньне вады і яна перад імі стала, зробіўшы вялікае т. зв. Гэродотава мора. Гэнае мора як раз і заняло паўднёвую Беларусь.

Ледавіка ўжо даўно ня было, але пазаставаліся па ім вялікія сьляды. Уся морэна — маса пяску, каменьня і цэлыя скалы, якія нёс з сабою ледавік, засталася на мейсцы. Шмат гадоў ляжала гэтая морэна на мейсцы і з ёю зробіліся вялікія зьмены. Скалы парашчапляліся на каменьне, каменьне парашчаплялася на жарству, а з жарствы зробілася гліна.

Тым часам з поўначы ўсё цяклі патокі вады. Яны размывалі морэнную гліну і несьлі яе з сабою.

Калі ў бягучай вадзе раскалаціць жменю гліны, дык вада замуціцца. Мутная вада пацячэ далей, але хутка мута асядзе. У гліне ёсьць пяшчынкі і ёсьць глей. Пяшчынкі большыя і цяжэйшыя — яны бліжэй асядуць. А глей вада можа далёка занясьці.

*) Якісь час пасьля яшчэ раз надыходзіў ледавік на нашую старану, але алёка не зайшоў — абняў ён тады толькі паўночна-заходнюю частку Беларусі.

Узмучаная вада з поўначы трапляла ў тое самае Гэродотава мора. Цячэньне яе тут было слабейшае і дзеля таго тут асядаў пясок. Гляістыя-ж часткі вада несла далей.

Калі ледавік растапіўся, падняліся моцныя сухія паўночныя вятры. Яны абсушылі увесь морэнны матар'ял, што застаўся пасьля ледавіка, і на мейсцу ледавіка хутка зрабілася зусім сухая бязводная пустыня. Вецер дакончыў тую работу, якую пачала вада. Ен выдзьмухаў з зямлі, з гліны ўсе лягчэйшыя, гляістыя часткі і зробіў з іх над нашаю старонкаю беспрасьветныя хмары пылу.

Увесь гэты пыл вецер гнаў на паўдня і тамака, за Дзясною, дзе цяпер украінскія стэпы, ён асядаў на зямлю. Шмат сотняў гадоў цягнулася гэтая справа і за гэты час тамака павырасталі вялізазнай таўшчыні пласты гэтага пылу. Вучоныя яго завуць лёсам. Пасьля на ім парасьлі буйныя стэповыя травы і зробіўся чарназём.

Пласты лёсу трапляюцца і ў нас. Яны пакрываюць якраз наш чарнігаўскі лесастэп. На іх таксама быў калісь чарназём, хоць і не такі багаты, як на Украіне. Аб іх мы ўжо казалі вышэй.

Там, дзе морэннага матар'ялу было асабліва многа, ні вада, ні вецер не змаглі яго сьцерці. Праз шмат гадоў каменьне зьверху зрабілася глінаю і на ім сталі расьці дрэвы і трава. На мейсцу бесканечных грудаў каменьня зьявіліся харошыя лясістыя ўзгоркі; у глыбокіх лагчынах паміж іх парабіліся вазёры.

Вецер і вада праўда адкопавалі ўсё новае і новае каменьне, але усё ж на мейсцу каменнае пустыні зьявіўся харошы морэнны край.

Патроху высыхала і Гэродотава мора. Між іншым Гэродотавым яно завецца дзеля таго, што адзіны вучоны, які аб ім пісаў зваўся Гэродот. Жыў ён 2400 гадоў назад. Значыць 2400 гадоў назад гэтае мора яшчэ было. Цяпер яго ўжо няма. Ад яго засталіся толькі вялізазныя Пінскія балоты, што ляжаць уздоўж р. Прыпяці, ды пескавыя прасторы палесься, што былі калісь яго дном.

## Узгор'і.

Мы ўжо ведаем, што вялікіх гораў на Беларусі няма; ёсьць толькі больш ці менш даўгія ланцугі, гнёзды ўзгоркаў або ўзгор'і. Хоць вышыня іх і невялікая, але значэньне яны маюць вельмі важнае — з беларускіх узгор'еў расьцякаюцца ўва ўсе бакі найвялікшыя рэкі Эўропы — Нёман, Дняпро, Дзьвіна; навет Волга. Важнейшыя ўзгор'і: *Менскае*, *Наваградзкае*, *Вялейскае*, *Задзьвінская морэна*, *Смаленская морэна*, *Окаускі лес*, *Задняпроускае узгор'е* і *Аршанскае*.

**Менскае узгор'е** складаецца з некалькіх ланцугоў узгоркаў, якія йдуць у розных кірунках па заходняй часьці Барысаўскага павету, запаўняюць сабою бязмална ўвесь Менскі і заходзяць у некалькіх мяйсцох досіць далёка ў Ігуменскі пав. На мяжы Менскага і Барысоўскага паветаў гэтыя ўзгоркі даходзяць найвялікшае вышыні і тут ля вёскі Лысая Гара.

Есьць найвышэйшы пункт усяе Беларусі — Лысая Гара, якая паднята над морам на 1127 фут., альбо на 161 сажань. Таксама значную вышыню маюць узгоркі і некалькі міль на захад ад Менску. У паўднёвай частцы сваёй узгор'е пакрыта багатай гляістай зямлёю. З Менскага ўзгор'я выцякаюць Нёман, Вельля, Бярэзіна, Птыч і шмат драбнейшых рэчак.

**Наваградзкае узгор'е** складаецца з некалькіх гнёздаў узгоркаў, спаміж каторых найвышэйшым ёсьць гняздо, што ляжыць ля самага Наваградку. Там пры Каменцы ёсьць горы, з якіх адчыняюцца віды на дзесяткі вёрст вакола. Наваградзкае ўзгор'е заходзіць і ў Слонімскі павет, запаўняючы сабою тую частку павету, якая ляжыць на ўсход ад Шчары. Урэшце Наваградзкае ўзгор'е ідзець шырокай пасай у Случчыну. Тамака ўзгор'е памалу паніжаецца і нязначна пераходзіць у Палескую раўніну.

Усё ўзгор'е пакрыта багатай гляістай зямлёю, якая дае вельмі вялікія ўраджаі. Народ тут жыве вельмі густа; гаспадары ўсё багатыя. Лічаць, што Наваградзкая і Слуцкая зямля лепшая на ўсю Беларусь.

**Віленскае узгор'е** ідзець уздоўж левага берагу Вельлі па Ашмянскім і Віленскім паветах. На мяжы гэтах паветаў ёсьць найвышэйшыя пункты гэтага ўзгор'я каля Гудагаю (154 сажні) і пры Медніках (138 саж.) У гэтым мейсцу Віленскае ўзгор'е дзеліцца на дзьве часткі. Адна паварочавае на паўднёвы захад і запаўняе сабою Лідзкі павет. Ступянёва зьніжаючыся падыходзіць узгор'е да Нёмну і прымушае яго зьвярнуць на паўдня і аж да Горадня ісьці назад проці свайго першага кірунку. Другая ланцугом досіць высокіх узгоркаў ідзець да Меднік у кірунку на Вільню і пры ўпадзе Вялейкі ў Вельлю робіць шырокую катлавіну, у якой ляжыць Вільня. Заходнюю сьцяну гэтай катлавіны твораць Понары — ланцуг высокіх лясістых узгоркаў, прарэзаных ярамі. Вёрст 7 за Вільняю Понары ўпіраюцца ў Вельлю, творачы на рэцэ значнай высокасьці берагі, далёка вядомыя па сваім харастве чаруючых ваколіцаў. Пад Понарамі пралажаны тунэль для чыгункі. З усходу Віленская катлавіна абмежана высокімі ды ўсхонаватымі горамі, спаміж якіх найвышэйшыя — Замковая, Трох Кражавая і Бакішовая гара, што высяцца над Вільняю. Урэшце на правым беразе Вельлі, проці Вільні, ёсць узгор'е, якое называюць Шэшкінямі.

**Завялейскае узгор'е** складаецца з ланцуга досыць высокіх узгоркаў, які аддзяляе басэйн Вельлі ад басэйну Дзьвіны. Узгор'е гэтае цягнецца па Дзісьненскім, Вялейскім і Сьвянцянскім паветах. Да Завялейскага ўзгор'я ў Лепельскім пав це прылучаюцца яшчэ два горных гнязды — узгор'е **Пышнагор** —якое ляжыць сярод вазёраў на заход ад Лепля і горы **Котарсы** — на ўсход ад Лепля на мяжы трох паветаў: Лепельскага, Сенненскага і Барысаўскага.

**Задзьвінскія узгор'і.** Усю Задзьвінскую Віцебшчыну пакрываюць морэнныя ўзгоркі і вазёры. На поўначы яе паміж Себежа і Невеля гэтыя ўзгоркі даходзяць значнае вышыні. У вадным досьледзе пішацца аб гэтым узгор'і вось што: „Глыбокія прорвы, даліны і катлавіны чарадуюцца блізу-што няпрыступнымі усхонаватымі горамі. Існуючыя карты не даюць ніякага прадстаўленьня аб гэтым горным ляндшафту. Вышыня гораў, нідзе ня мераная, павінна быць вельмі значнаю, бо навет лінія чыгункі, якая йдзець нізам, усё ж паднята больш чымся на 100 сажняў над морам". Ад гэтых паўночных гораў у кірунку на паўдня адыходзіць ужо акуратна вымераная **Віцебска-Невельская горная града.** Яна складаецца з узгоркаў, якія маюць закругленыя вярхі і адхонаватыя спады. На паверхні — шмат каменьня.

**Смаленскія узгор'і.** У паветах Парэцкім, Смаленскім і часткаю Духаўшчынскім і Вяліскім, так сама як і ў Віцебшчыне, край мае морэнны выгляд. Паса досыць высокіх узгоркаў з закругленымі і адхонаватымі спадамі дзеліць тут басэйны Дняпра і Дзьвіны. Найбалей рэзка выяўляецца гэтае ўзгор'е на мяжы Духаўшчынскага і Парэцкага паветаў у вярхоўях р. Хмосьці.

**Окаускі лес** — гэтак называецца высакападняты край, які ляжыць на самай усходняй мяжы Беларусі і займае павет Бельскі, Дарагабужскі, Ельнінскі і часткі суседніх. Ні гораў, ні ўзгоркаў тут няма. Азёры сустракаюцца вельмі рэдка. Увесь край робіць уражэньне аднае бесканечнае раўніны. Мы аднак разглядаем Окаўскі лес разам з узгор'ямі дзеля таго, што ён высака падняты над морам.

Рэкі ў Окаўскім лесе цякуць у высокіх і ўсхонаватых берагох. Такія самыя берагі маюць часта і яры, якіх у гэтым краю ёсьць досіць многа. Яры з Окаўскага лесу па свайму выгляду крыху навет прыпамінаюць стэповыя яры, пракопаныя вадою ў лёсе. Гэта дзякуючы таму, што Окаўскі лес пакрыты гліістай зямлёю, такою самаю мягкаю, як лёс. Каменьня ў ёй зусім няма. Гэтую мягкую гліістую зямлю завуць лёсавідным глеем.

Найвышэйшаю часткаю Окаўскага лесу зьяўляецца т. зв. Ельнінскі вузёл. Гэта так сама раўніна, як і ўвесь Окаўскі

лес. Цікаўны Ельнінскі вузёл тым, што з яго вельмі блізка адна ад аднае пачынаюцца такія вялікія рэкі, як Сож, Дзьвіна і інш. З паўночнае часткі Окаўскага лесу выцякае і вялікі Дняпро.




Пад пластамі гліны ў Окаўскім лесе ляжыць вапна. Вада, якая працякае зьверху, робіць у вапне цэлыя пячуры і ходы. Дзякуючы гэтаму часта трапляецца, што рэчка будзе цячы да пэўнага мейсца, а далей правалюецца пад зямлю — гэта яна сходзіць ў вапенныя ходы. Цераз некалькі вёрстаў яна йзноў паказаваецца з-пад зямлі і цячэ далей.

Окаўскае ўзгор'е ўсё пакрыта лясамі і бярозавымі гаямі. Дзеля гэтага яно і завецца „лесам“.

**Дняпроўскае узгор'е.** Уздоўж левага берагу Дняпра па Красьненскім, Мсьціслаўскім, Горэцкім і Чаўскім паветах ідзець значна паднятая горная града, якую мы завём Дняпроўскім узгор'ем. Гэтае ўзгор'е прымушае Дняпро на працягу многіх вёрстаў цячы ў заходнім кірунку, аж пакуль ён не прабівае сабе дарогу скрозь узгор'е каля Воршы і не паварочвае на паўдня. У гэтым мейсцы на Дняпры ёсьць Кобеляцкія парагі, якія моцна перашкаджалі судаходзтву; цяпер частку іх узарвалі. На правым беразе Дняпра ўзгор'е, крыху зьніжыўшыся, ідзець па Аршанскім павеце, а часткаю і па суседніх, дзелячы басэйны Дняпра і Дзьвіны.

Усё ўзгор'е пакрыта па большай часьці урадліваю гліністаю зямлёю.

На паўдні Дняпроўскае ўзгор'е памалу пераходзіць у Палескую нізіну.

## Нізіны Беларусі.

Бязмална ўся Паўднёвая Беларусь прадстаўляе з сябе балоцістую нізіну, якую завуць Палесьсем. З усходу, Гпоўнаы; і заходу гэтая нізіна адмяжавана Дняпроўскмчі, Менскім і Наваградзкім узгор'ямі ды пакатай на паўдня маздзенскай раўнінаю. На паўдні Палесьсе йдзець далей у ідзы Украіны аж да Аўратынскіх гараў*). Беларускае Палесьсе займае каля 60 тыс. кв. вёр., значыцца пятую часьць усяго прастору Беларусі і цягнецца з усходу на заход на 800 вёрст. Пэўне-ж, што на гэткім прасторы прырода і характар мясцовасьці далёка ня роўны. Дзеля гэтага Беларускае Палесьсе трэба разьдзяліць на тры часткі — Усходняе або Дняпроўскае, Цэнтральнае—Прыпяцкае і Заходняе—Берасьцейскае Палесьсе.

**Усходняе Палесьсе** разлажылася па рэках Бярэзіне, Дняпру і Сожу. Займае яно Бабруйскі, Рэчыцкі, Рагачоўскі, Гомельскі і Гароднянскі (Чарнігаўшчыны) паветы Гэта край лясных пескавых раўнінаў, якія чарадуюцца з бесканечнымі балоцістымі сенажацямі. Аднак трэба адзначыць, што ў частцы гэтага Палесься — у Гомельшчыне даўнейшых лясоў ужо няма. Гомельшчына прадстаўляе сабою адкрытую густазаселеную пескавую раўніну. Апроч таго, у некаторых мясцох Усходняга Палесься трапляюцца досіць значныя кліны багатае гліістае зямлі на якой добра расьце пшаніца. Тут мясцовасьць таксама траціць палескі характар і густа засяляецца. Але гэта толькі астраўкі сярод мора хваёвых і ліставых лясоў праўдзівага Палесься.

*) Мы ўжо казалі, што цяперашняе Палесьсе зьяўляецца днём даўнейшага Гэродотавага мора, якое істнавала ў паледавіковыя часы.

**Прыпяцкае Палесьсе** ёсьць зусім апрычонная, непадобная да іншых краёў Беларусі, старонка. Большую яе частку займаюць непраходныя гразкія балоты, парослыя то высокімі балотнымі травамі, то дробнымі зарасьнікамі і купінамі. Мясцовасьць на паўдня ад Пінску, т. зв. Зарэчча, каля 1500 кв. вёрстаў прастору, увясну і ўвосень зусім заліваецца вадою і мае выгляд вялізнага возера*)

Паміж балотаў параскіданы астравы — крыху сушэйшыя лапікі зямлі, найчасьцей з пескавымі грунтамі. Па іх растуць хваёвыя бары, будуюцца і гаспадарацьрэдкія вёскі паляшукаў. Над усім Прыпяцкім Палесьсем падняты два вялізных астравы з багатаю глiністаю зямлёю і густым насяленьнем— гэта Загародзьдзе каля Пінску і высокі бераг Прыпяці каля Мозыра.

**Берасьцейскае Палесьсе**, якое займае Кобрынскі, Слонімскі і Берасьцейскі паветы, мае ў сабе так сама вялізазныя балоцістыя прасторы. Аднак дзякуючы лепшай зямлі гэты край досіць густа заселены і бязьлесны.

**Полацкая нізіна** абыймае большую часьць паветаў Полацкага, Дзісьненскага, Дрысенскага і Дзьвінскага. Яна зьяўляецца прадаўжэньнем ляжачае далей на захад Балтыцкае нізіны. Усходняя яе часьць каля Полацку вельмі лясістая і балоцістая; зямля тут бедная, народ жыве рэдка. Зусім што іншае ў заходняй палавіне дзякуючы багатаму глiністаму грунту.

## Абводненьне Беларусі.

### Рэкі Беларусі.

Беларускія рэкі цякуць або ў Чорнае або ў Балтыцкае мора. Вададзелам паміж тымі і гэтымі, або, як кажуць, басэйнамі Чорнага і Балтыцкага мора ёсьць Смаленскія ўзгор'і, Аршанская частка Дняпроўскага, Котарсы, Пышнагор, Менскае і Наваградзкае ўзгор'е. Далей на паўдня вададзел ідзець па балотах Берасьцейскага Палесься ажно да меж Баларусі.

Окаўскі лес аддзяляе Беларусь ад басэйну Касьпійскага мора, ад прытокаў Волгі, некаторыя з апошніх так сама маюць свой пачатак на беларускіх узгор'ях.

У Чорнае мора цячэ найвялікшая ды найважнейшая беларуская рака — Дняпро. Дняпро пачынаецца на Окаўскім лесе, у Бельскім павеце, каля самае мяжы Беларусі. Ен выцякае з імшару каля в. Клёцавае у мясцовасьці вельмі лясістай глухой. Спачатку Дняпро цячэ на паўдня і творыць мяжу Беларусі з Маскоўшчынаю, а крыху не даходзячы м. Дарагабужу паварочавае на захад і цячэ ў гэтым кірунку ажно да Воршы. Пад Воршаю Дняпро перарываецца цераз Дняпроўскае ўзгор'е і тут на ім ёсьць, ужо ўспамінаныя, Кобеляцкія парагі.

*) Зарэчча паднята над морам на 60—65 сажняў.

Ад Воршы Дняпро ідзець у паўднёвым кірунку. Верхні Дняпро да Воршы цячэ у досіць шырокай даліне — да 3 вёр. у шыркі па гарыстай і лясістай мясцовасьці. На харошых ляднепроўскіх узгорках, прарэзаных глыбокімі ярамі, пабудаваны Смаленск. Каля Воршы Дняпро цячэ між усхонаватых, абрывістых берагоў, а далей на паўдня даліна Дняпра шырэе і даходзіць 5-ёх вёрстаў, асабліва пасьля ўпадзеньня ў Дняпро яго вялікіх прытокаў — Бярэзіны і Сожа. Глыбіня Дняпра вельмі няроўная. Навет ніжэй Магілева трапляюцца такія няглыбокія месцы, што цераз іх прыходзіцца параходы на лінах перацягаваць. *)



Дняпро блізка Магілева.

Па Дняпры баркі ходзяць аж да Дарагабужу, а параходы да Смаленску. Асабліва жывы параходны рух між Воршаю і

*) Шырыня Дняпра ўлетку вышэй Воршы 15—25 сажняў, а ніжэй даходзіць да 100 і балей сажняў. Ніжэй Воршы ёсьць толькі два масты цераз Дняпро — у Магілеве і Жлобіне.

Магілевам і ніжэй утоку Бярэзіны. Значнейшыя Дняпроўскія прыстані вось якія: Смаленск, Дуброўна. Ворша, Копысь, Шклоў, Магілёў, Ст. Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Рэчыца і Лоеў.

У Дняпро цякуць вось якія рэкі і рэчкі: з правага боку—Воп, Хмосьць, Друць, Бярэзіна і Прыпяць; з левага—Сож і Дзясна.

**Бярэзіна** выцякае з Менскага ўзгор'я недалёка ад м. Докшыц, і цячэ на большай часьці па нізіннай палескай мясцовасьці Мясцамі аднак берагі яе робяцца ўсхонаватымі і няпрыступнымі. Ад м. Барысава па ёй ходзяць баркі і параходы, хаця і з перарывамі ўлетку, бо на Бярэзіне трапляецца многа плыткіх мясцоў. Цячэньне Бярэзіны ціхое, павольнае, бо спад невялікі. Шырыня яе пад Барысавам каля 20 сажняў, а ніжэй Бабруйска яна даходзіць 70 і балей сажняў. Даўжыня ўсяе ракі — 590 вёрстаў.

Бярэзіна злучана з Дзьвіною — Бярэзінскім каналам, які мае вялізнае значэньне для нашага гандлю.

З паміж прытокаў Бярэзіны трэба адзначыць найвялікшы Сьвіслач (мае ўдаўжкі 250 вёрстаў), на якой стаіць Менск. Улетку гэта невялічкая рэчка, за тое ўвясну яна дужа разьліваецца і затапляе частку места.

**Прыпяць** выцякае з Валыні (на Украіне), мае характар балотнае ракі. Цячэ яна ўвесь час сярод балотаў, дзеліцца сама на шмат рукавоў, якія то разыходзяцца, то ізноў злучаюцца паміж сабою. Асабліва ў верхнім сваім цячэньні яна прадстаўляе з сябе сетку рэк, якія пакрываюць сабою Пінскія балоты. Гэтыя рукавы Прыпяці часта маюць свае асобныя назовы (нават у некаторых мясцох раку завуць ня Прыпяцяй, а Струмемем, Парком і г. д.). Даўжыня ўсяе Прыпяці каля 800 вёрст., з гэтага ліку на Беларусі яна цячэ на працягу 550 верстаў. Шырыня яе даходзіць да 200 сажняў, а ў веснавое разводзьдзе Прыпяць разьліваецца на 10—15 вёрстаў. Вады ў ёй тады гэтулькі бывае, што баркі могуць хадзіць па тых мясцох, дзе ўлетку аралі ці касілі.

Прыпяць мае вялікія прытокі — з правага боку — Стоход, Стыр, Горынь, Уборць і Славечну, а з левага—Ясельду, Цну, Лань, Морач і Птыч. Гэтыя ўсе рэкі маюць асабліва важнае значэньне дзеля таго, што толькі па іх жыхары Палесься могуць мець зносіны з светам, бо іншых ніякіх дарог там няма. З прытокаў Прыпяці—па Стоходу, Стыру, Горыні, Ясельдзе ходзяць параходы, па шмат якіх іншых ходзяць непаравыя судны. На самай-жа Прыпяці параходы ходзяць да Пінску. Вялікай перашкодай параходзтву ёсьць плыткія месцы, карчы, калоды, якіх шмат у гэтай палескай рацэ; затое парагоў няма. Важнейшыя прыстані: Пінск, Тураў, Петрыкоў і Мозыр. З Ясельды йдзець да Шчары—прытока Нёмнавага—Агінскі канал. А з прытоку Ясельдзінага— Піны ідзець праз Мухавец да Бугу—Кара-

леўскі канал. Гэныя каналы так сама, як і Бярэзінскі, злучаюць Чорнае мора з Балтыцкім, збажжавыя ўкраінскія стэпы, багатае лесам беларускае палесьсе—з Заходняй Еўропаю, якая патрабуе і нашага лесу і ўкраінскага хлеба.

**Сож** пачынаецца пад самым Смаленскам, некалькі вёрстаў на паўдня ад яго. Цячэць ён пераз усю ўсходнюю Магілёўшчыну па шырокай балоцістай даліне. Шырыня яго самага даходзіць 100 сажняў. Агульная даўжыня яго 550 вёрстаў. Ад м. Крычэва па Сожу ходзяць баркі, а ад Прапойска і параходы. Галаўнейшыя прыстані—Гомель, Ветка, Прапойск, Чэрыкаў і Крычэў.

Прытокі Сожа: Асьпёр, Проня, Беседзь і Іпуць. Усе яны даволі вялікія рэкі (найвялікшая Іпуць—350 в. удаўжкі), якія абвадняюць вялікшую частку паўднёва-ўсходняе Беларусі.

**Дзясна** выцякае з Окаўскага лесу, з-пад м. Ельні. На працягу каля 2‧0 вёрстаў яна ідзе па мяжы Беларусі, аддзяляючы яе ад Маскоўшчыны і Украіны. Шырыня яе даходзіць 70 сажняў. Правы—беларускі бераг яе высокі, з багатаю гляістаю зямлёю. густа заселены. На ім стаяць месты Бранск і Трубчэўск. Левы бераг нізкі, пескавы і лясісты. З беларускіх прытокаў Дзясны большыя—Сноў і Судасьць.

Калі мы цяпер абвядзём на карце басэйн Дняпра, дык пабачым, што вадою Дняпра і яго прытокаў жывіцца ўся ўсходня-паўднёвая палавіна Беларусі.

Паўночную і Заходнюю Беларусь займаюць басэйны Нёмна і Дзьвіны.

**Нёман** выцякае з балоцістых лясоў, якія ляжаць на спадах Менскага ўзгор'я каля м. Узды Ігуменскага пав. Верхнім сваім цячэньнем абкружае Нёман Наваградзкае ўзгор'е. Левы бераг яго тут высокі, густа заселены, правы прадстаўляе з сябе пескавую раўніну, пакрытую лесам, т. зв. Налібоцкую пушчу. Нёман цячэ выкручуючыся сярод нетры Дакудаўскіх лясоў. Пачынаючы ад м. Беліцы левы бераг Нёмна робіцца высокім і стромкім.

Ад м. Мастоў Нёман паварочавае на паўночны захад. Яго правы бераг цяпер пакрыты лесам, балотамі, а левы гарысты. Гэтак падыходзіць Нёман да старога Горадня, каля каторага берагі ракі ўкрыты ярамі ды курганамі. Зараз за Горадням Нёман крута паварочавае на поўнач. Прайшоўшы яшчэ з дзьве мілі, Нёман даходзіць Друскенік, найлепшага нашага курорту. За Друскенікамі ўжо пачынаецца Літва. Ужо ў літоўскай старане ў Нёман уліваецца яго важнейшы прыток

Вельля. Нёман у Балтыцкае мора ўліваецца ў Усходніх Прусах (у затоку Курыш-гаф). Шырыня Нёмна ў нас даходзіць да 70 сажняў. Баркі ходзяць па ім аж да Сьвержаня. Параходы ходзяць толькі на некаторых кавалках ракі, а па ўсёй рацэ ня ходзяць, бо вельмі многа на Нёмне падводнага каменьня і плыткіх мясцоў.

Прытокі Нёмна: — правыя: Барэзіна, Котра і Вельля, левыя: Шчара.

**Вельля** выцякае з Менскага ўзгор'я—у Барысаўскім павеце. Уся яе даўжыня даходзіць 650 вёрст. Берагі Вельлі вельмі харошыя: то ўсхонаваты высокія горы, часамі навет няпрыступныя скалы, укрыты густым лесам і закіданыя розным увелькі каменьнем.

Судаходзтва па Вельлі ад м. Вялейкі. Яму вельмі перашкаджаюць падводныя камяні, якіх у рацэ ёсьць шмат. Дзеля гэтага пробы наладзіць параходную зьвязь па Вельлі у колькі нéбудзь значнай меры—не ўдаваліся. Цяпер па Вельлі ходзяць параходы толькі на невялічкім кавалку ракі каля Вільні.

**Шчара**, пачаўшыся ў Наваградчыне, цячэ ўвесь час балотамі ды лясамі. Агінскім каналам яна зьвязана з Прыпяцьцю.

**Дзьвіна** выцякае з возера Жадзеньня, якое ляжыць у Цьверскай губэрні каля мяжы яе з Бельскім паветам Смаленшчы-



Дзьвіна ля Дзьвінска.

ны. Адтуль яна аж за Віцебск ідзець у паўднёвым і паўднёва-заходнім кірунках. Ад м. Бешанкавічаў Дзьвіна паварочавае на

паўночны заход і гэтак ідзе аж да Рыжскае затокі, у якую яна ўпадае у Ліфляндыі (Латвіі) пры м. Рызе. Агульная даўжыня яе 920 вёрст. З гэтага ліку каля 600 вёрст Дзьвіна ідзе па Беларусі. Шырыня Дзьвіны пад Віцебскам каля 50 сажняў. Ніжэй яна даходзіць 100—150 саж.

Па ўсім цячэньні Дзьвіны параскіданы парагі, вельмі перашкаджаючыя судаходзтву. Есьць парагі пад Вяліжам (Пушкарскія), каля Віцебску, (Руба, Капачы) Дзісны, Краслаўкі; але найбольшыя парагі ляжаць за Дзьвінскам—яны завуцца Паракорыш (каля мястэчка Крэйцбургу) *)

Баркі па Дзьвіне ходзяць аж за Вяліж—да ўтоку р. Межы. Паміж Дзьвінскам і Вяліжом ходзяць параходы. Важнейшыя прыстані: Вяліж, Сураж, Лепель (на Бярэзінскім канале), Полацак, Дзьвінск, Віцебск і Бешанкавічы.

Прытокі Дзьвіны: правыя—Вобаль, Полата, Дрыса; левыя —Межа (яе прыток Вобша), Каспля, Улла, Дзісенка. Большае значэньне маюць левыя прытокі, якія злучаюць Дзьвіну з Ляднятроўскім краем. Асабліва вялікае значэньне іх было ў далёкай мінуўшчыне, калі па іх ішоў вядомы шлях з Варагаў у Грэкі.

Апроч гэтых усіх важнейшых беларускіх рэк і іх прытокаў, пры межах Беларусі цякуць яшчэ і іншыя рэкі. На мяжы з Польшчаю (у Горадзеншчыне) цячэць прыток Віслы—Заходні Буг з сваймі прытокамі Мухаўцом, Нурцом і Нарэвам. Нарэў мае прытока —Бабра, які злучаны Аўгустоўскім каналам з Нёмнам. Мухавец-жа злучаны з Пінаю і Прыпяцьцю Каралеўскім каналам.

Прытокі Бугу выцякаюць з нязначных узгор'яў, схаваных у нашых заходніх Горадзенскіх пушчах (Белавежскай, Аўгустоўскай і інш.) Сам-жа Буг выцякае з Карпацкіх гораў у Галічыне ў Аўстрыі, цякуць Нарэў і Бобр найбольш у вельмі балоцістых лагчынах.

На паўночным усходзе мяжа Беларусі на працягу некалькіх дзесяткоў вёрстаў ідзе берагом верхняй Волгі—найбольшае ракі ўсяе Маскоўшчыны. Тамака з Окаўскага лесу выцякаюць некаторыя прытокі Волгі—напр. Малады Туд, Угра (прыток Окі).

Паміж азёраў і ўзгор'яў морэннага краю пачынаюцца яшчэ дзьве іншых важных для Маскоўшчыны ракі—Ловаць і Вялікая. Яны цякуць у Ільменскае возера, якое злучана пераз р. Волхаў з морам. Дзеля гэтага па Ловаці і Вялікай у даўнай мінуўшчыне ішлі важныя водныя дарогі з Варагаў—у Грэкі—гэта была дарога да мора. Аб ёй мы ўжо казалі.

### Значэньне рэкаў.

У старадаўныя часы ўвесь наш край быў пакрыты непраходнымі балоцістымі лясамі—пушчамі. Вельмі многа трэба было

*) Дзьвіну зьвязавае з Бярэзінаю і Дняпром Бярэзінскі канал.

патраціць часу і працы, каб праз тую нетру пралажыць хоць якую такую дарожку. Дзеля гэтага людзі пераяжджалі з аднаго мейсца ў другое па рэках і наагул — вадою. Гэта была лёгкая і хуткая дарога. Ня йначай жа, як па рэках перавозілі і ўсе тавары. На берагох рэк будавалі гарады, а ў іх на рынк… ішоў торг-менка тавараў. Можна сказаць, што ўсё жыцьцё нашых прэдкаў ішло каля рэк і на рэках, на гэтых водных дарогах.

Вось-жа Дзьвіна была вельмі важнай воднай дарогаю—па ёй везьлі тавары з усходу, з Азіі да культурных заходніх народаў—у Нямеччыну, Скандынавію і г. д. Дзеля гэтага першыя беларускія гарады — Полацак ды Віцебск пабудованы ля Дзьвіны.

Вялікае значэньне меў і Дняпро. Гэта была дарога з Бізантыі (Грэцыі) ў Нямеччыну ды Скандынавію. Бізантыйскія, альбо Кіеўскія госьці падымаліся ўверх па Дняпру, ці па якім з яго прытокаў аж пакуль можна было плысьці, а пасьля перацягавалі свае чаўны ў бліжэйшы прыток Дзьвіны альбо Нёмну і плылі далей. Тое месца, па якому цягнулі (валаклі) чаўны называлася волакам. Між іншым успамінанае ўжо намі ўзгор'е —Окаўскі лес, называўся даўней Валокаўскім, дзеля таго што цераз яго як раз ішлі волакі.

Цяперака няма даўнейшых лясоў, высыхаюць, і рэкі. Апроч таго людзі папракладалі новыя, нязнаныя ўпярод дарогі — чыгункі, на якіх езьдзіць і выгодна і скора. Дык цяпер рэкі ня маюць ужо ўсяго даўнейшага значэньня.

Але усё-ж значэньне гэтае вялізазнае. Ня гледзячы на тое, што нашымі воднымі дарогамі мала апекаваліся і яны не агледжаныя, пакрысе псаваліся, усё-ж па іх ішла ў чужыя краі большая частка важнейшага нашага вывознага тавару — лесу і дрэва.

А шмат якія мяйсцовасьці, дзе няма чыгункі, і дагэтуль яшчэ зьвязаны з рэштай сьвету толькі вадою. Прыходзіць параход—прывозіць почту, тавары, новых людзей. У надрэчным мястэчку адразу ўсё ажывае, пачынае кратацца, мітусіцца. Хто прадае, хто купляе, хто зьбіраецца ў дарогу—на параход.

Адыйшоў параход і ізноў ціха ў мястэчку — усе заняты сваёй штодзеннай працаю.

Каб больш увагі ў нас зварочавалася на водныя дарогі, шмат багацьця знайшлі-б мы ў нашым глухім і дзікім Палесьсі.

## Вазёры.

На Беларусі трапляюцца вазёры двох відаў — вазёры палескія і вазёры морэнныя. Першыя ляжаць на бесканечнай нізіне. Іхныя берагі на некалькі вёрст навокала прадстаўляюць з сябе непраходнае балота. Д о ў іх пакрыта цэлым лесам тва-

ні і іншых вадзяных расьцінаў. Форма гэтых вазёраў найбольш закругленая бяз ніякіх рэзкіх выступаў, зубцоў і г. п. Зусім што іншае морэнныя вазёры. Яны ляжаць памі-ж лясістых узгоркаў, маюць часта ўсхонаватыя стромкія берагі, форма іх заўсёды самая дзіўная з бесканечнай лічбаю затокаў, зубцоў, выкрутаў.

Спаміж палескіх возёраў важнейшыя: воз. *Князь*, *Выганаўскае*, *Пагостскае*.

Воз. **Князь** ляжыць у глухім Палесьсі, у Мозырскім павеце. Займае яно само прастору каля 45 кв. вёрстаў. Гэтае возера ня злучана ні з якою вялікшаю ракою, а толькі ў яго цячэ невялічкая рэчка—*Яма*. Возера гэта вельмі рыбнае. Усе акалічныя жыхары жывуць з рыбы. На возеры шмат паляў, на якіх калісь была мусіць будоўля. Легенда кажа, што сярод возера адзін князь пабудаваў замак і ў ім запёр свайго брата. А як была вялікая паводка, дык замак увесь і затапіла; утапіўся і той князь. Дзеля гэтага і возера завецца Князем.

**Выганаускае** возера ляжыць на мяжы Пінскага і Слонімскага паветаў. Цераз яго праходзіць Агінскі канал. З усіх бакоў на якіх 10—15 вёрстаў да гэтага возера нельга даступіцца. Толькі ўзімку можна пад'ехаць коньмі да яго берагу. Улетку-ж да яго можна трапіць толькі цераз канал на чоўне. Акружаюць возера тарфяныя балоты (Качай-балота), паросшыя дробным лозовым зарасьнікам. Прастору займае возера каля 30 кв. вёр., але ў часе паводкі яно пакрывае суседнія лясы на шмат вёрст. Выганаўскае возера няглыбокае; на ім бываюць вялікія буры.

З паміж вазёраў морэннага краю трэба ўспамянуць *Себежскае* воз., якое акружае паўвостраў, на каторым пабудавана м. Себеж. *Асьвей* — у Дрысенскім павеце — глыбокае і бурнае возера; займае прастору 42 кв. вярсты. Пасярод возера ляжыць вялікі востраў Ду. У Полацкім павеце ёсьць возера *Нешчорда*, 24 кв. вярсты. Яго паўночны бераг абсеян хорошымі ўзгоркамі, і вёскамі. На паўвостраве, што далёка ўрэзаваецца ў возера ёсьць руіны старасьвецкага замку, якога пабудаваў калісь Іван Грозны на страх нашым дзядом. — Недалёка ад руінаў ёсьць „княжая магіла“. Легенда кажа, што якісь князь напаў на замак, што тут стаяў, узяў яго ды перабіў бязміласэрна ўсіх людзей. За тое Бог пакараў яго — паслаў чуму, ад якое паўмірала ўся дружына князева і сам князь. Есьць яшчэ ў Себежскім павеце воз. *Сьвібло*, якое вядома з таго, што тамака вядуцца вялізазныя ляшчы і *Лепельскае* — цераз якое йдзець Бярэзінскі канал. Ля яго стаіць м. Лепель. На мяжы Вялейскага і Сьвянцянскага паветаў ляжыць найвялікшае беларускае воз. *Нарач* — якое займае каля 80-х кв. вёрстаў. Возера гэтае багата рыбаю; у буры хвалі бывае выкідаюць на берагі шмат рыбы. З заходняга берагу ў возера спушчаецца пад ваду каменная грэбля

да востраву, які ляжыць сярод возера. Возера ня глыбокае, навет на сярэдзіне.

Каля воз. Нароча у суседзтве ляжаць яшчэ — даўгое ды вузкое воз. *Сьвір*, воз. *Мядзёл* і інш.

У Брацлаўскім павеце надзвычайна многа вазёраў. Некаторыя з іх дзесіць вялікія — воз. *Дрысьвяты*, *Брацлаўскае*, *Спуды* маюць каля 30—35 кв. вёрстаў кожнае. Воз. Дрысьвяты вельмі глыбокае. Мясцамі глыбіня яго даходзіць 25 сажняў.—Усе гэтыя вазёры багаты рыбаю. Часамі ў іх знаходзяць шчупакоў па пуду вагі і вялікшых.

Урэшце трэба ўспамянуць аб праслаўленым на ўвесь сьвет нашым Міцкевічам воз. *Сьвітэзь* Ляжыць гэтае возера ў Навагрaдчыне, каля м. Гарадзішча Берагі яго абкружаныя дубовымі і бярозавымі гаямі робяць чаруючае ўражаньне. Пад гэнымі дубамі ня раз сядзеў Міцкевіч пішучы свае несьмяротныя творы. Вада ў возеры чыстая, як у крыніцы, берагі высланы, як сумысьля, рознакалёрнымі каменьчыкамі. Дно цьвёрдае, пакрытае дробнымі каменчыкамі і белым пяском. Падарожныя, якіх шмат ходзіць, каб агледзіць бацькаўшчыну Міцкевіча, ніколі ня мінаюць гэтага харошага кутка.

### Балоты.

Мала якая старонка мае гэтулькі балотаў, як нашая Бацькаўшчына. Восьмая частка Беларускае Зямлі ляжыць пад балотамі. Дык варта нам бліжэй пазнаёміцца з балотамі.

Балоты бываюць розныя. Галоўныя віды балотаў гэта — імшары альбо сфагнавыя і травяныя.

Сфагнавыя балоты завуцца гэтак таму, што яны парасьлі мохам сфагнумам. Мох гэты мы ўсе добра ведаем — гэта белаваты мох, які кладуць у сьцены пры будоўлі. Таксама ўсюды трапляюцца, і можа найчасьцей, сфагнавыя балоты. Па большай часьці яны зарастаюць багуном, буякамі (ягады падобныя да чарніцы), журавінамі. У пер-межжку з усімі гэтымі ягадамі расьцець нізкая, хоць ужо старая, балотная хвойка. А пад мохам сфагнумам ляжаць тоўстыя пласты торфу. І вось часамі на цэлыя вёрсты і дзесяткі навет вёрстаў цягнуцца гэтыя прасторы маленькіх хвоек, хаваючых пад сабою сфагнавае балота. Найбалей сфагнавыя балоты ляжаць паміж лясоў. Як высякаюць лясы, дык высыхае і балота.

Сфагнум мае вялікую здольнасьць прыцягаць вільгаць Там, дзе пасяліўся і разрастаецца сфагнум, пакрысе робіцца ўсё вільгатней і творыцца сфагнавае балота часамі на роўным месцы. Творацца сфагнавыя балоты і начай—зарастаньнем азёраў. Зарастаюць азёры і з берагоў — там часамі возера акружана бывае паясом ушыркі ў некалькі вёрстаў—чаротаў, асакі, сітніку, харошых касачоў, аеру і іншых балотных траваў. Пасярод возера растуць таксама ў бесканечнай лічбе ўсякія водныя расьціны. Кожную восень яны адміраюць і апускаюцца

дно, творачы тое, што мы завём тваньню (ціна). Праз даўгія гады гэтае твані зьбярэцца шмат, возера будзе ўсё плынець і ўрэшце навет і пасярэдзіне яго пачне расьці чарот і сітнік. Гэтак на месцы возера творыцца *травяное балота.*



**Палесское возера.**

Паміж чароту і асакі пакрысе зьяўляецца сфагнум і што далей—усё балей разрастаецца ў балоце, выціскаючы балотныя травы. Аж урэшце на мейсцы травянога балота робіцца сфагнавае. Ня з кожнага травянога балота можа зробіцца сфагнавае. Сфагнум ня любіць праточнае вады, ня любіць мутное вады і ня любіць цьвёрдае вады (калі ў вадзе ёсьць распушчана вапна альбо іншая соль). А любіць ён пасяляцца ў ціхіх прэсных вазёрах з чыстаю вадою ды пескавым дном.—Дзеля гэтага ў балотах з праточнаю, мутною вадою, і асабліва там, дзе вада цьвёрдая, сфагнуму ня бывае. Балота застаецца назаўсёды травяным балотам. Усьлед за буйнымі балотнымі травамі зьяўляюцца драбнейшыя — асокі, курасьлепы і інш. З часам яны зарастаюць хмызьнякамі, але ўжо ня хвойкаю, а больш лазою ды алешнікам.—З гэтых балотаў чалавеку лёгка скарыстаць, калі яны крыху падсохлі: выцерабіў лазу і ёсьць сенажаць. Ня лішне добрая трава, але ўсё-ж жывёла есьць. На сфагнавых-жа балотах трава па большай часьці не расьце. Ляжаць іхныя вялізныя прасторы бяз усякае карысьці для людзей. А ўсё затым, што ня ўсюдых навучыліся яшчэ нашыя людзі карыстаць з вялікага скарбу, што схаваны ў гэтых балотах, з *торфу.* Сфагнавыя балоты найбалей ляжаць у паўночнай Беларусі—у марэн

ным краі. Есьць іх даволі і ў Палесьсі, але тамака на першы плян выступаюць ужо травяныя балоты.

Найвялікшы прастор займаюць травяныя балоты *Зарэчча* (на паўдня ад Пінску) — каля 1400 кв. вёр. Тут зыходзіцца шмат прытокаў Прыпяці і яны пераплятаючыся паміж сабою пакрываюць усё Зарэчча густою сеткаю вадзяных пратокаў. Увясну, як разьліваюцца гэтыя рэчкі, усё Зарэчча робіцца вялізазным возерам і прыпамінае нам тыя часы, як на ўсім Палесьсі стаялі воды Гэродотавага мора. Аж да сярэдзіны лета стаіць паводка, так што па ўсіх кірунках сярод густых чаротаў можна езьдзіць у чаўнох. Над балотам толькі дзе-ня-дзе віднеюцца вёскі паляшукоў, пабудаваныя на пескавых узгорках.

Другое вялізнае балота ляжыць на ўсход ад р. Горыні — гэта *Вялікія Галы*. Галы займаюць старану вышэйшую, чымся Зарэчча і дзеля гэтага веснавыя паводкі рэдка калі іх заліваюць. Галы пакрыты купінамі і густою травою, з параскіданым усюды лазовым зарасьнікам. Пад Галамі ляжыць глыбокі слой торфу.

Такі самы характар, як В. Галы, маюць абшырныя балоты, што акружаюць возера Князь.

Вялізазныя травяныя балоты ляжаць і на паўдня ад Прыпяці. На самым захадзе каля м. Зьдзітава ляжыць балота *Малочкава*. Далей на ўсход, каля р. Шчары, ляжыць вялізнае балота *Качайло*. Яно акружае Выганоўскае возера і праразаецца Агінскім каналам. Лічуць, што балота Качайло займае больш 1.000 кв. вёр. прастору. Яшчэ далей на ўсход — за р. Цною ляжыць балота *Грычын* — як аб ім кажуць — затока даўнейшага Гэродотавага мора. Балота Грычын цікаўнае тым, што яно ўсё адкрытае і непраходнае і йдзець увесь час без перарыву. Прастору яно займае каля 500 кв. вёр. З берагоў балота косяць, трава расьце добрая. Але ніколі не дакошавалі да сярэдзіны балота.

Спаміж балотаў паўночнае Беларусі найвялікшыя — *Верацейскае* балота ў Аршанскім павеце—цягнецца на якіх 25 вёрстаў удаўжкі, балота *Лоньніца* ў Полацкім павеце—паміж рэкамі Дрысаю і Полатаю — якое займае каля 75 кв. в. прастору. На ім раскіданы сем невялічкіх вазёраў.

Тыповымі імшарамі ёсьць балоты паўночнае Смаленшчыны— *Жакоускі мох* і *Сьвіцкі мох*. Першы ляжыць на мяжы Парэцкага і Бельскага паветаў, а другі ў Бельскім павеце. Абодва яны цягнуцца вёрстаў на 15 удаўжкі.

## Клімат Беларусі.

Дзякуючы блізкасьці Беларусі да мора і таму, што яна не аддзелена ад мора якімі нѐбудзь высокімі горнымі ланцугамі, у ёй пануе клімат (калі раўнаваць прыкладам з Маскоўшчынаю) мягкі, мерны, з цёплымі зімамі і ня вельмі гарачымі летамі.

Важным паказчыкам характару клімату ёсьць сярэдняя тэмпэратура паветра—гадавая, летняя і зімовая.

Сярэдняй тэмпэратураю году для Беларусі трэба лічыць +6°. Ізотэрма*) +6° сячэ Беларусь як раз папалам. Яна йдзець з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход каля Ілукшты, Брацлава, Ігуменя, Бабруйску, Гомеля. Дзеля прыраўнаваньня возьмем тэмпэратуры году для іншых краёў Для Масквы яна будзе +3,9°, для Рыгі, так, як і ў нас—+6°, а для Варшавы +7,5°. Мы бачым якое вялізазнае значэньне маюць гэтыя цыфры. Тыя два градусы, якія адрозьніваюць наш клімат ад клімату Масквы дазваляюць расьці ў нашым краю грабу, просу, дасьпяваць кіяхам і далікатным гатункам садовіны.

Сярэднюю тэмпэратуру зімы *) (студня) для Беларусі трэба лічыць—6,5°. Для Масквы гэтая сярэдняя будзе—11°, для Рыгі—6°, для Варшавы—4°. За тое ў сярэдняй тэмпэратуры лета гэткіх розьніцаў няма. Для Беларусі сярэдняя тэмпэратура ліпня будзе каля +18,°5, для Масквы +19°, для Рыгі +17,5°, для Варшавы каля +19°.

Гэткі агульны характар клімату Беларусі. Але між асобнымі часткамі яе ёсьць таксама досіць значная розьніца ў клімаце. Досіць, сказаць, што сярэдняя гадавая тэмпэратура для Смаленска +4,5° для Вільні +6,7°, а для Беластоку і Бярэсьця перавышае +7°. Яшчэ вялікшыя ёсьць розьніцы паміж зімовымі тэмпэратурамі. Сярэднія тэмпэратуры студня хістаюцца для Беларусі паміж—4,5° (Беласточчына) і—9° (Окаўскі лес). На грунце гэтых цыфраў мы можам разьдзяліць Беларусь на некалькі кліматычных краёў: 1) Окаўскі лес, Дняпроўскае ўзгор'е і Смаленская морэна — якія маюць гадавую тэмпэратуру ніжэй +5°, а тэмпэратуру студня ад —9° да—8°. Тут клімат контычэнтальны—з сьцюдзёнай маразянаю зімою і гарачым летам, досіць падобны да клімату суседняе Маскоўшчыны. Сьнег тут ляжыць узімку каля 5-х месяцаў—ад палавіны лістападу аж да палавіны красавіка і ніколі сярод зімы ня гіне. Дый тут сьнягі бываюць глыбокія, бо вялікая частка опадзі прыпадае на зімовы час. Улетку тут бываюць часта навет сярод лета вялікія замаразкі, ад якіх, бывае, гіне збожжа, гароды і сады. 2) Наддзьвінскі край з гадавою тэмпэратураю ад +5° да +6°, з тэмпэратураю студня каля —7°, а ліпня каля +18°—мае клімат мягчэйшы дзякуючы свайму блізкому суседзтву з морам. Тут сьнег ляжыць каля 3—4 х месяцаў. 3) Дняпроўскае і Сожскае палесьсі, а так сама і лесастэп пры тэй самай, што і Наддзьвіньне гадавой тэмпэратуры (+5°— +6°) маюць крыху халаднейшую зіму і гарачэйшае лета (для Новазыбкава тэмпэр. студня —8,2°, а ліпня +19,6°). Гэта так сама край з контынэнтальным кліматам, пераходным да клімату стэпоў. Бязмала на ўвесь цэнтр і захад Беларусі — Менскае і Наваградзкае ўзгор'і, Надвялейскія і Наднёманскія краі, усё Прыпяцкае палесьсе мае сярэднюю тэмпэратуру году

*) Лінія, што злучае на пляне месцы з роўнаю тэмпэратураю.

**) Самы сьцюдзёны месяц у Беларусі—студзень, самы гарачы—ліпень.

ад +6° да +7°. Тутака ўжо клімат значна мягчэйшы. Сярэдняя тэмпэратура зімы каля —5,5°—6°—на цэлых 3° вышэй чымся, ан ўсходзе, у Смаленшчыне, тым часам як улетку розьніца тэм-



Зімою у Меншчыне.

пэратур куды меншая — не даходзіць і 1°. Дзякуючы гэтаму тут ужо не вымярзае граб, а ўзімку — у студні і лютым часта па некалькі тыдняў бываюць адлігі і сьнег зусім сходзіць з зямлі. Ды і наагул тут сьнег ляжыць ня доўга — усяго каля 3-х месяцаў і бывае ён няглыбокі. Ня бывае тут і вялікіх маразоў узімку, як на ўсходзе. А што яшчэ важней—што тут блізка што зусім ня бывае летніх замаразкаў, якія гэтульки шкодзяць гаспадарцы, асабліва садом, на ўсходзе. 5) Найцяплейшы куток Беларусі—гэта Беласточчына і Берасьцейскі край, тутака гадавая тэмпэратура вышэй +7°, а сярэдняя тэмпэратура сьнежня каля—4,5° Тут у некаторыя зімы зусім сьнегу ня бывае.

**Вятры** на Беларусі найбалей дзьмуць паўднёва-заходнія, заходнія і паўднёвыя. У Смаленшчыне і наагул на ўсходзе Беларусі бывае шмат і ўсходніх сухіх вятроў. Найбалей дажджыстыя—заходнія вятры, тым часам як усходнія сушэйшыя. Гэта зусім зразумела. Заходнія вятры дзьмуць з над мора, а ўсходнія з сухіх контынэнтальных краеў.

Дні бяз ветру бываюць у нас вельмі рэдка.

**Опадзі** (дажджу і сьнегу) ў Беларусі хапае. Тым часам як у Маскоўшчыне ў сярэднім спадае каля 470 мілімэтраў, у Беларусі спадае 550 міл., а мясцамі і балей. Гэта мае важнае значэньне для нас. Каб у Беларусі падала меней дажджу, дык-бы нашыя лёгкія пескавыя грунты не давалі-б ураджаю збожжа і травы, але абярнуліся-б у выдму, пескавую пустыню. Дзякуючы дажджом нашыя бедныя пяскі даюць другі раз лепшыя ўраджаі, чымся навет усходні чарназём. У контынэнтальных краёх часамі за адзін раз спадае чацьвёртая часьць усяе гадавое колькасьці опадзі. Гэтая маса вады змывае і размывае зямлю, робіць шмат шкоды і сьцякае ў рэкі. Зямля пасьля таго хутка абсыхае і расьціны даўгі час бывае сохнуць без вады, хоць гадавая колькасьць опадзі там і вялікая. Ня тое ў нас. Опадзь у Беларусі йдзе пакрысе, дробнымі порцыямі, але раўнамерна праз увесь год.

Трэба аднак адзначыць, што ў паўднё-ўсходняй Беларусі (Лесастэп, Дняпроўскае і Раданскае палесьсе) опадзі меней, чымся ў рэшты Беларусі (меней за 500 міл.) і гэта робіць тамашнія пяскі менш ураджайнымі. Апроч таго, у гэтым краі найбалей опадзі йдзе ў чэрвені, тым часам як у рэшце Беларусі ў ліпні.

Трэба яшчэ адзначыць адно цікавае зьявішча. На поўначы Беларусі летняе опадзі ў два разы балей, чымся зімовае, а на паўдні ў чатыры разы. Гэта ўжо ясна паказуе, што на паўдні зімы бываюць зусім маласьнежныя, аб чым мы ўжо і казалі вышэй.

**Сухмяні** *) бываюць у Беларусі рэдка ды найбалей на ўсходзе. А дзеля таго, што блізка ўсюды на ўсходзе ляжаць цяжкія гляістыя грунты, сухмяні шкоды вялікае ня робяць. Навет, наадварот, у Смаленшчыне бывалі выпадкі, калі пасьля вельмі даўгое сухмені ўраджаі выходзілі яшчэ лепшыя, чымся ў звычайны год. Гэта аднак ня можна лічыць за правіла,—асабліва, што да пескавых грунтоў.

## Грунты Беларусі.

Мы ўжо ведаем, што першыя часы пасьля ледавіковага пэрыаду ўвесь прастор Беларусі быў пакрыты ледавіковым (морэнным) матэр'ялам і што зьверху каменьне, прынесенае ледавіком пакрысе рассыпалася, аж пакуль з яго ня зробілася ўперад жарства, а пасьля гліна і пясок. Ведаем яшчэ, што на паўднёвым усходзе Беларусі ляжаў між іншым і лёсс, які асеў з пылу, што прынесены быў ветрам з поўначы. Вось на гэтых глінах, пяскох ды лёссе і павырасталі грунты.

Грунты ствараюцца з *горных пародаў* пры помачы расьцінаў і мікраарганізмаў. На дзікой скале пасяляюцца ўперад самыя непераборлівыя расьціны — лішайнікі, імхі і інш. Пасьля зьяўляюцца ўсё балей і балей пераборлівыя, вышэйшыя расьціны. Усе яны ўміраючы перагніваюць на зямлі і ўгноіваюць зямлю для тых расьцінаў, што растуць пасьля іх. Вось-жа дзікая гліна, альбо жвір угноены рэшткамі перагніўшых расьцінаў ці *перагноем* і робіцца грунтам. У грунце пашыраецца карэньне траў і збожжа, ворны грунт пераварочуе гаспадар сахою і бараною, гатуючы яго да сяўбы.

Калі беларускія грунты паробіліся з тае гліны, пяску і лёсу, якія пакінуў па сабе ледавік, дык пэўне і якасьці ўсіх грунтоў залежаць ад таго, з якое, як кажуць, мацярынскае пароды грунт злажыўся.

Мы ўжо казалі, што ў старадаўныя часы ўся Беларусь была пад лесам, апроч паўднёва-ўсходняга краю. Тамака ляжалі стэпы. Праўда, пасьля і там парос лес, але ўсё ж стэп пакінуў па сабе вельмі значныя сьляды, дзеля чаго і паўднёва-ўсходні край завуць лесастэпам. Грунты лесастэпу моцна розьняцца ад грунтаў лясное Беларусі і дзеля таго мы іх будзем разглядаць асобна.

### Грунты лясное Беларусі. (Дзярновыя).

Гэтыя грунты ня вельмі багаты перагноем. Хоць у лесе перагнівае досыць многа рэштак расьцінаў, але перагною шмат ня зьбіраецца. Гэта дзеля таго, што тут вельмі многа *вільгаці*.

*) Засухі.

Дзякуючы вільгаці робяцца *перагнойныя квасы.* Гэтыя квасы апушчаюцца ў ісподнія пласты грунту, вымываючы з усяго грунгу шмат частак яго пажыўных для расьцінаў. Ад гэтага грунт робіцца бялейшым, найбалей яго ісподні пласт; гэты пабялеўшы, выпаласканы грунт завецца *падзолістым.* Бывае, што грунт бялее да самага верху і падобны зьверху да попялу. Тады яго завуць *падзолам.* Падзол, калі ён мокры—сьлізкі, як высахне—цьвярдзее, і з яго робіцца пыл. Гэтым ён прыпамінае гляісты грунт. Але з яго ўсе пажыўныя для расьцінаў часткі выпаласканы. Дык падзолы — вельмі бедныя грунты. Па ўраджайнасьці яны стаяць можа ніжэй навет за пескавыя грунты.

Падзолы ляжаць у паўночнай Беларусі, іх там досыць многа. Найбалей іх на поўначы Парэцкага і Бельскага пав., у Вяліскім і Полацкім паветах.

Найбалей ураджайным грунтам лічыцца ў нас *гляісты грунт.* У ім, таксама як і ўва ўсіх іншых грунтох, ёсьць шмат і пяску (да 40%, рэшта 60%—глей). Гэты пясок яму, ведама, толькі памагае, бо іначай-бы ён, высахшы, быў цьвёрды, як скала. І так ён да выpaбу цяжкі, асабліва ў сушу. Але ў ім ёсьць шмат сытных для расьцінаў частак і дзеля гэтага ён даець добрыя ўраджаі, якія аплачуюць цяжкую працу.

Гляістага грунту найбалей ёсьць у паветах Слуцкім, Наваградзкім, Менскім, Невельскім і Гарадоцкім. Слуцкія і Наваградзкія грунты лічацца самымі ўраджайнымі на ўсю Беларусь.

**Суглілісты грунт** мае ў сабе балей пяску. Тут пяску роўна з глеем, або і балей чымся глею. Пераз гэта суглілісты грунт лягчэйшы за гляісты. Ен таксама лічыцца добра ўраджайным. Гляісты і суглілісты грунты завуць цяжкімі грунтамі і яшчэ завуць пшанічнымі грунтамі, дзеля таго што на іх добра ўдаецца пшаніца. З лясных пародаў на гэтых грунтох растуць: елка, дуб, асіна, ляшчына і інш.

Суглілістых грунтоў на Беларусі шмат. Найбалей іх у цэнтральнай Смаленшчыне, паўночнай палавіне Магілеўшчыны, Віленшчыне і паўночна-заходняй Горадзеншчыне.

**Супескавы грунт** мае ў сабе яшчэ меней глею, а балей пяску. Гэты грунт дае вельмі добры ўраджай, калі яго акуратна гнаіць. Аднак ён па ўраджайнасьці лічыцца горшым за першыя два. Яго завуць жытнім грунтам.

Супескавых грунтоў у Беларусі яшчэ балей, як суглілістых. Іх ёсьць вельмі многа ўва ўсіх частках Беларусі, апрача Прыпяцкага і Дняпроўскага Палесься.

**Пескавыя грунты** маюць у сабе мала глею (не балей за 5—7%), рэшта пясок. Таксама мала ў іх бывае і перагною, і дзеля гэтага яны даюць ураджай толькі, калі іх добра гнаіць. Інaчай ня толькі нічога не парасьце, але яшчэ да таго зямлю

непакрытую расьцінамі вельмі лёгка разьдзьмухае вецер і зробіць з поля пескавую пустыню, выдму. На гэтых грунтох добра ўдаецца толькі грэчка (дзеля чаго іх завуць грачанымі). З лясных народаў на пяску добра расьце хвоя. Гэтыя грунты найбалей пакрыты чыстымі хваёвымі барамі.

Пескавыя грунты параскіданы на ўсёй Беларусі, асабліва каля вялікіх рэкаў. Але найбалей іх у Паўднёвай Беларусі. Тут яны пераменжаючыся з балотамі запаўняюць усё палесьсе— Прыпяцкае, Берасьцейскае, Бярэзінскае і Прыдняпроўскае, г. зн. вялізазныя прасторы на паўдня ад лініі Бярэсьце—Магілеў.

Грунты **балотныя** і **прырэчныя**, калі іх асушыць, звычайна аказуюцца вельмі багатымі і даюць вялікія ўраджаі траваў, а дзе можна, то і збожжа. Гэтых грунтоў найбалей у Палесьсі і на берагох рэк.

## Грунты лесастэпу.

У лесастэпу сустракаецца шмат пескавых, супескавых і суглінкістых грунтоў, зусім ня розьнячыхся ад толькі што апісаных. Але побач з імі ёсьць новыя грунты—гэта грунты ляжачыя на лёссе.

Лёсс багацейшы за морэнную гліну вапнаю і іншымі пажыўнымі рэчамі. Апроч таго пад стэпам грунт ня гэтак выпаласкуецца, як у лесе. Дзеля гэтых прычын стэповыя грунты на лёссе—чарназёмы зьяўляюцца вельмі багатымі і даюць найвялікшыя ўраджаі. У лесастэпу на даўнейшых стэповых грунтох чарназёмах калісь парос лес і гэныя чарназёмы пад ім балей ці меней выпаласкаліся. Вось гэткія выпаласканыя грунты завуцца *шэрымі суглінкамі*. А калі грунты выпаласкаліся да таго, што аж ніжэйшы іхні пласт пабялеў, дык яны лічацца ўжо *падзолістымі суглінкамі*. Уся розьніца іх адзвычайных падзолістых суглінкаў тая, што яны ляжаць на лёссе.

Шэрыя суглінкі ляжаць у нашым лесастэпу астравамі. Найвялікшыя такія астравы ёсьць — 1) у Старадубскім павеце, дзе займаюць каля палавіны гэтага павету; 2) на мяжы Клімавіцкага і Чэрыкаўскага павету; 3) у Мсьціслаўскім павеце, каля самага места.

Суглінкі на лёссе займаюць вялікшыя прасторы. Яны пакрываюць увесь правы бераг Дзясны і пашыраны ў паветах — Рослаўскім, Бранскім, Мглінскім, Трубчэўскім, Старадубскім, Ноўгарод-Северскім, крыху меней іх ёсьць у паветах Новазыбкаўскім, Суражскім і Гараднянскім і ўрэшце ёсьць два іхных астравы ў Мазырскім павеце (каля места) і ў Рэчыцкім.

Хаця гэтыя грунты ўтварыліся пад лесам, аднак цяпер на іх лясоў блізка што няма. Іх, як і ўсе наагул урадлівейшыя грунты, чалавек расьцерабіў і заараў у першы чарод.

## Расьціннасьць.

У даўнейшыя часы бязмална ўся Беларусь была пакрыта бязмежнымі лясамі, ад якіх пазаставаліся толькі слабыя ўспаміны—цяперашнія нашыя пушчы. Тады-ж зямля была падзелена між лесам і балотам. Узвышшы пакрываў лес, а нізіны—балота. І толькі на паўднёвым усходзе Беларусі — за Сожам разьлёгся бязьлесны стэп. Але ў працягу вякоў лес адваяваў сабе і гэты невялікі кавалак беларускага стэпу і дайшоў да Дзясны. Стэп застаўся за Дзясною.

Панаваньню лесу палажыў канец чалавек. Ен павысякаў бары і зрабіў поле, парасьцярэбліваў балоты і зрабіў сенажаці. І цяпер, у нашыя часы ўжо мала лесу асталося ў Беларусі. Пазаставаўся лес найбалей на такіх грунтох, дзе нішто балей расьці ня можа. Цяпер лясы займаюць каля чэцьверці ўсяго прастору Беларусі.

Аднак лясы—галоўнае багацьце Беларусі. Хоць і ня лішне шмат іх у нас ёсьць, але ўсё-ж шмат балей, як у нашых суседзяў. Дзеля гэтага Беларусь свой лес вывозіць чуць ні ўва ўсе бакі—і ў Нямеччыну і на Украіну і ў іншыя Эўропэйскія краі. Апроч гэтага лясы маюць і іншае значэньне — праз увесь час гісторыі яны баранілі наш народ ад чужаземных нападаў, дый цяпер толькі лясы і балоты абараняюць нашыя межы з суседзямі.—Урэшце лясы задзержуюць у сабе вільгаць, дзякуючы чаму ў нас ня бывае сухменяў. Яны задзержуюць пескавыя грунты ад выдзьмухаваньня. Часта здараецца гэтак, што высеклі стары хваёвы бор і з пасекі робіцца пескавая выдма.

Найбалей лясоў — у Бярэзінскім і Прыпяцкім палесьсях, на Окаўскім лесе, у Вяліскім, Парэцкім і Аршанскім паветах. Ува ўсіх гэтых краёх лясы займаюць каля 40% усяго прастору. У Заходняй Беларусі і ў лесастэпу лясоў мала. Таксама лясы павысяканы каля вялікшых местаў—Віцебску, Смаленску, Гомеля і інш.

Пароды лесу залежаць найбалей ад грунту. Кожын лёгка можа бачыць, што на пяску расьце хвоя, а на гляі — елка ды дуб. Па тым якое дрэва расьце навет пазнаюць які дзе грунт.

Залежаць яшчэ пароды лесу і ад клімату. На далёкай поўначы—у Магілеўшчыне ляжыць пояс чыстых хваёвых лясоў. На паўдні Беларусі—у лесастэпу і яшчэ далей на паўдня найбалей ліставыя дрэвы. А вялікшая частка Беларусі ляжыць у паясе мяшаных лясоў.

Чым далей на паўдня, тым % ліставых лясоў вялікшы. Вось для прыкладу 4 паветы, якія ляжаць адзін пры адным на адным балей-меней мэрыдзіане. Барысаўскі мае 15% ліставых лясоў, Ігуменскі і Бабруйскі па 20%, а Рэчыцкі 30%.

Аднак і на поўначы Беларусі ёсьць цэлыя краі, дзе пераважаюць ліставыя дрэвы. Гэтак вось Окаўскі лес—самы лясны край Беларусі, пакрыты бярозавымі ды асінавымі лясамі з не-

вялікай прымешкаю елкі. Такія-ж бярозавыя ды асінавыя лясы з прымешкаю дубу і елкі пакрываюць і Невельскае ўзгор'е. Трапляюцца тамака і чыстыя дубнякі і наагул чыстыя ліставыя лясы. І толькі на пескавых узгорках растуць там хваёвыя бары.

У мяшаных лясох вялікшае часьці Беларусі на цяжэйшых грунтох трапляюцца найбалей гэткія дрэвы: елка, бяроза ды асіна, а таксама белая вольха, арэшнік (ляшчына). Радзей трапляецца хвоя, а яшчэ радзей—дуб, клён і ліпа. На паўдні Беларусі да іх прылучаюцца яшчэ граб, вяз, ясень і ясакар. На захадзе Беларусі лясы пазаставаліся найбалей на пескавых грунтох і дзеля гэтага тут перавагу мае хвоя.



**Дуброва у Новаградчыне.**

Да апошніх часоў на захадзе Беларусі было некалькі вялізных кавалкаў яшчэ не чапанага лесу, гэта пушчы. Спаміж іх ёсьць вядомая на ўвесь сьвет *Белавежская пуша*. Пушча гэтая займае балей за 100 000 дзесяцін прастору у Пружанскім павеце і часткаю ў суседніх. Спаміж пародаў лесу найбалей у пушчы хвоі, елкі і дубу. Есьць і шмат іншых пародаў. Дрэва ў пушчы трапляецца надта добрае і вялікае. Пушча гэтая захавалася, дзякуючы асаблівай апецы каралёў і цароў, якія пераховавалі яе для свайго паляваньня. Апроч Белавежскае—ёсьць яшчэ пушчы *Горадзенская*—на поўначы ад Горадня, *Налібоцкая*—у Ашмянскім павеце ля Нёмну—адна з вялікіх пушчаў, *Рудніцкая* ля Вільні, у якой заўсёды палявалі Вялікія Князі Літоўскія, *Аўгустоўская* ў Сувалшчыне і шмат іншых. Вялікшая частка іх зусім вынішчана, асабліва за час цяперашняе вайны.

Клімат Беларусі пазваляе расьці і не вымярзаць некаторым дрэвам, якія далей на поўнач ісьці ня могуць. Мы ўжо казалі аб *грабу*, які расьце ў паўднёва-заходняй Беларусі, на

паўдня ад Менску. Там-жа расьце на дрэвах *паразіт омела*.
У Прыпяцкім і Берасьцейскім Палесьсі расьце *ракіта*. Урэшце
трэба сказаць, што ў паўночнай Віцебшчыне і Смаленшчыне
ўжо не растуць сьлівы, а цёрн далей на паўночны - ўсход за
Меншчыну і Магілеўшчыну ня йдзе.

## Зьвярынае царства.

Даўней у Беларусі было шмат усякае зьвярыны. Былі
часы, калі галоўным заняткам і спосабам пражыўленьня нашых
прэдкаў было паляваньне. Прэдкі нашыя найбалей гандлявалі
дарагімі зьвярынымі скурамі—ды імі-ж і падаткі навет плацілі.
Цяперака няма тых лясоў, няма тае і зьвярыны.

Як памятка мінуўшчыны застаўся ў Белавежскай пушчы
зубр. Па ўсёй Эўропе ўжо павыміралі ўсе яго сваякі і толькі
на Каўказе ў горах засталіся. Ды і ў Белавежскай пушчы зу-
броў менее і менее. Цяпер іх некалькі сотняў. Яны ўжо досыць
асвоеныя з чалавекам. Узімку іх падкормлююць сенам, зумысьля
на гэта прыгатаваным.

На палескіх рэчках каля Прыпяці і Бярэзіны сустракаюц-
ца яшчэ хоць вельмі рэдка — бабры. І хоць кажа прыслоўе:
„хто заб'ець бабра, ня будзе мець дабра" аднак бброў не шкаду-
ючы зьніштажаюць дзеля дарагое шкуркі. Рэдка пачынае
сустракацца ўжо ў нашых лясох і такая зьвярына, як мядзьведзь,
лось, сарна, дзік, рысь. Затое хапае ваўкоў, лісоў, зайцоў і ін-
шае драбнейшае зьвярыны. Трапляюцца часамі горнастаі і ку-
ніцы. Ля рэчак і азёр жывуць выдры.

Закон заўсёды абараняў зьвярыну ад лупежнага зьнішта-
жэньня. Ашчаджалі яе і лепшыя гаспадары лясоў. Аднак мала
гэта памагае. Радзеюць лясы, а паляўнічых усё прыбывае.

Ды найбольш нішчыцца зьвярыны ў часе войнаў. Асабліва
страшныя былі для зьвярыны 1812 і 1863 гады, калі ў лясох
адбывалася партызанская вайна.

## Мінэральныя багацьці.

**Мінэральныя багацьці** Беларусі невялікія, дый тыя, якія
ёсьць, зусім блізка не абсьледжаны. *Зялезныя руды* сустракаюцца
ў Смаленшчыне і Віцебшчыне, але мала вядомы. Шмат балей
увагі зварочавалася на *балотную зялезную руду*. Сустракаецца
гэтая руда ўсюдых, але найбалей у Палесьсі. У мінуўшым веку
шмат дзе працавалі гуты, якія выплаўлялі з гэнае руды зялеза,
але гэныя гуты пазакрываліся, бо руда аказалася ня прыгод-
наю для выплаўкі. У балотах таксама сустракаецца *охра*,
з якой робяць хварбу.

Каля Мозыра на беразе Прыпяці ляжыць досыць таўсты
пласт *бурага вугаля*. У Лідзкім павеце знаходзяць *лігніт*.

Урэшце шмат дзе, у тых мясцох, дзе ўжо не хапае лесу, пачынаюць капаць *торф*.



Друскеніцкіе крыніцы.

*Торфу* ў Беларусі вялізазныя запасы. І пэўне, калі на яго будзе зьвернена належная ўвага, ён зможа хоць часткаю

замяніць нашай прамысловасьці чорнае золата-каменны вугаль. Махавы торф найбалей сустракаецца на поўначы Беларусі, а травяны—на паўдні, у Палесьсі. Самым глыбокім торфам пакуль што лічыцца рэчыцкі торф з над рэчкі *Віці.*

*Бурштын* (янтар) сустракаецца хоць рэдка ў Пінскім Палесьсі—каля м. Любязі.

Важнае значэньне для гаспадаркі маюць *фосфорыты,* якія мелюцца і пасьля ідуць на пагноеньне поля. Фосфорыты пакуль што разрабляюцца ў Рослаўскім павеце у некалькіх мясцох. Але апошнімі часамі знаходзяць фосфорыты і ў іншых краёх, прыкл. Наваградчыне. З часам разрабляньне фосфорытаў пойдзе шмат барджджэй. Тады, трэба спадзявацца, паадчыняецца яшчэ шмат новых фосфорытных капальняў.

*Гліны* сустракаюцца вельмі добрыя і ў розных мясцох, але ніхто акуратней імі не заняўся і дзеля гэтага яны зусім блізка ня выкарыстаны. Таксама ў розных мясцох капаюць *вапну.* Асабліва славіцца Аршанская вапна. Урэшце разрабляюць для будоўлі *пескавікі*—у Рэчыцкім павеце, каля Лоева.

**Мінэральныя крыніцы** таксама вельмі мала асочаны і выкарыстаны. Найбалей вядомы *Друскеніцкія крыніцы* з бромоёдавымі солямі, ляжачыя ў харошай і здаровай мясцовасьці ля Нёмна. Што год сюды зьяжджаюцца лячыцца дзесяткі тысяч людзей з усяе Беларусі і Літвы.

З іншых мінэральных крыніц можна паказаць на *Баркоўшчыну.* У Баркоўшчыне Лепельскага пав. на возеры ёсьць серна-зялезная крыніца. У 30-х гадох прошлага веку быў тут невялічкі курорт, ад якога цяпер асталіся адны руіны. Такая самая серна-зялезная крыніца эксплюатуецца ў *Пагулянцы* Дзьвінскага павету. Пагулянка ляжыць у харошай мясцовасьці на беразе Дзьвіны. Серная крыніца ёсьць у *Студзенцы* Невельскага пав. У Магілеўшчыне вядомы крыніцы зялезістыя каля *Любавіч і Дворыцы,* Аршанскага пав., в. *В. Слабады* Мсьціслаўскага пав., *Трошчыц і Рудні*—Рагачоўскага пав. і яшчэ некалькі іншых. Крыніцы гэтыя ня выкарыстаны.

# III. Насяленьне Беларусі.

## Гістарычнье межы.

### Досьвіткі гісторыі.

Першыя пэўныя весткі аб Беларусі адносяцца да IX веку па Нар. Хр. Аб тым, што было ўпярод мы можам толькі дадумавацца, апіраючыся перш-на перш на данныя здабытыя раскопкамі курганаў. Гэныя д...ныя кажуць, што старана нашая

была заселена яшчэ ў самай далёкай мінуўшчыне — балей за 1500 гадоў назад. Ведама, цяжка ўгадаць які тады тут народ жыў, але некаторыя вучоныя думаюць, што гэта маглі быць прэдкі беларусаў. На берагох тады яшчэ быўшага Гэродотавага мора яны жылі цэлымі аселіцамі, вёскамі; далей-жа на поўнач, у Наддзьвіньне заходзілі толькі невялікія групы іх. Народ гэты ўжо вёў гандаль з свaймі суседзямі.

У пазьнейшыя часы аб нашай старане пачалі пісаць розныя грэцкія географы і гісторыкі. Яны зьмяшчалі тут народы з рознымі іменьнямі, апавядалі аб іх і аб самай старане шмат фантастычнага, але іхныя весткі мала памогуць нам дзеля сваe супярэчнасьці. Вучоныя нашых часоў будуюць свае ўласныя гіпотэзы аб тым які народ жыў на прасторах цяперашняе Беларусі і чым ён займаўся.

Лічаць, што досыць значная частка Беларусі ў даўныя часы была занята літоўскімі і фінскімі пляменьнямі; асабліва першымі. Аднак у Прыпяцкім Палесьсі аж да Бярэзіны, як усе згаджаюцца, жыў народ славянскага племя—прэдкі беларусаў. З часам яны крыху адціснулі сваіх суседзяў—адных на захад, другіх на паўночны ўсход і занялі блізка той прастор, які цяпер займае Беларускі Народ.

## Гістарычныя межы незалежнае Беларусі.

Подлуг першага летапісу ў IX веку на Беларускай Зямлі жылі тры славянскія пляменьні—крывічы, дрыгвічы і радзімічы.

*Крывічы* займалі паўночную Беларусь. Яны жылі па ўсім Наддзьвіньні і па верхнім Дняпры і спускаліся на паўдня аж да Вельлі і вытокаў Сожа і Дзясны. На поўнач і ўсход пад крывічамі лічыліся прасторы ляжачыя за цяперашнімі межамі Беларусі, найбалей ля Верхняе Волгі і яе прытокаў. У зямлі крывічоў былі такія гарады, як Полацак, Віцебск, Смаленск, Менск, Лагойск і шмат іншых.

*Дрыгвічы* займалі Прыпяцкае Палесьсе і Наднёманскі край. На ўсходзе іхныя сёлы даходзілі да Дняпра, на захадзе—да Бугу і Нарві. Іхнымі найвялікшымі гарадамі былі—Тураў, Мозыр, Бярэсьце, Драгічын, Горадзен і Слуцак.

Частка племя Дрыгвічоў у часох перасяленьня народаў пакінула свой край, прабілася на Балканскі паўвостраў і асела навакол Салонік. Грэкі звалі іх Другувітамі. Мовы Другувітаў навучыліся сьв. Кірыла і Мефодзій.

*Радзімічы* жылі ля Сожа і займалі ўвесь край паміж Дняпром і Дзясною. Іхнія паўдневыя і ўсходнія межы йдуць блізка што па цяперашняй мяжы Беларусі. На Дзясьне яны сустракаліся з Северанамі, а па Жыздры (прыток Окі) з Вяцічамі—двума суседнімі славянскімі пляменьнямі. На поўначы яны ня йшлі далей лініі Ельня—Мсьціслаў—Магілеў.

Навукай этнографіі, філёлёгіі і гісторыі цяпер ужо цьвёрда даведзена, што гэныя тры пляменьні ўжо ў тыя часы ня розьніліся паміж сабою ані мовай, ані правам сваім, ані рэлігійнымі абрадамі, ды ўсімі гэтымі супольнымі адзнакамі розьніліся ад пляменьняў, якія становяць пачатак Маскоўскага і Украінскага народаў.

Гэтыя пляменьні гісторыя знаходзіць ужо з сваймі князьмі, з знакамі дзяржаўнае арганізацыі. Як раз відаць у IX і X вякох сярод беларускіх пляменьняў, як і сярод іхных суседзяў пачынаецца працэс утварэньня моцных і вялікіх гаспадарстваў.

На першы плян тут высоўваецца Полацак. Полацкія князі патрапілі падгарнуць пад сябе ўсю паўночна-заходнюю Беларусь аж да верхняга Нёмна і Дняпра. Скора побач з ім становіцца яго малодшы брат Смаленск, пашырыўшы свае межы далёка на ўсход. На чале гэтых двох гаспадарстваў стаялі Крывічы. Два іншых пляменьні—Дрыгвічы і Радзімічы вельмі хутка падпалі пад чужую ўладу — іх землі разабралі княсьствы — Валынскае, Кіеўскае, Чарнігаўскае і Северскае.

### Гістарычныя мяжы Беларуска-Літоўскага Гаспадарства.

Але прыйшоў час балей шырокага і поўнага злучэньня Беларускіх пляменьняў і Беларускае Зямлі. Літоўскі князь Міндоўг залажыў аснову новае дзяржаўнасьці Літоўска Беларускай у беларускім Наваградку. Гэтая дзяржаўнасьць ужо пры Міндоўгу абняла вялікшую частку Беларускай Зямлі. Гэдымін, які княжыў з 1315—1340 г. умацаваў Літоўскае Гаспадарства і давёў яго межы аж да Гомельскага павету, Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны. Пры Ольгердзе была прылучана Чарнігаўшчына і адрэзаны вялікі лапік ад Смаленшчыны. Апроч таго Вялікае Княсьства пашырылася далёка на паўдня на землях украінскіх. Урэшце Вітаўт давяршыў зьбіраньне Зямлі Беларускае, забраўшы Смаленск. Пад ім знаходзілася ўжо ўся Беларусь.

Каля 100 гадоў жыла ўся Беларусь злучанаю — аж да часоў Маскоўскага Вялікага Князя Васілія III, якому і яго наступнікам удалося адарваць у часе стогадовае вайны вялікі лапік Беларускае Зямлі. У 1514 г. ад Беларусі была адрэзана ўся Смаленшчына, паўночная і ўсходняя Віцебшчына (Себеж, Невель, Вяліж), Гомельшчына і Чарнігаўшчына.

Масква добра ўмацавалася і доўга не маглі Літоўскія Вялікія Князі адабраць ад яе гэтых земляў. Наадварот маскоўцы ня раз пераходзілі з агнём і мячом цераз усю Беларусь з канца ў канец, а ў забранай частцы пазаводзілі свае маскоўскія парадкі, панасялялі маскоўскіх людзей, а тамашніх беларусаў масамі высялялі ў Маскоўшчыну.

Настаў у Маскве „смутны час“ і яе наступная сіла троху аслабела. Карыстаючыся гэтым Літва, якая тады ўжо была

ў зьвязі з Польшчаю, адабрала назад тое, што заваяваў Васіль III і Іван IV, адабрала Смаленск і ізноў давяла мяжу Літвы-Беларусі да яе прыроднага палажэньня. Па Дэўлінскаму замірэньню мяжа паміж Масквою і Літвою праходзіць па Дзясьне і верхняму Дняпру — значыцца па тэй мяжы, якая і цяпер дзеліць Беларускі Народ ад Маскоўскага. Узноў Беларусь злучылася, але не надоўга. Пасьля цяжкіх войнаў, па Андрусаўскай згодзе Маскоўшчына ізноў адабрала Смаленшчыну і Чарнігаўшчыну. Мяжа ўстаноўлена была акуратна па цяперашніх усходняй і паўночнай межах Магілеўскае і Віцебскае губэрняў.




У гэткім стане аставалася Беларусь ажно да разьдзелаў Польшчы. Па першаму разьдзелу (1772 г) Масква забрала паў-

ночную і ўсходнюю Беларусь. Мяжа праходзіла па Дзьвіне і па Друці. У другі разьдзел (1793 г.) да Масквы адыйшла Меншчына і прылягаючыя паветы. Мяжа ішла ад Дзьвінска на Пінск. Урэшце па 3-му разьдзелу да Масквы адыйшла ўся Беларусь апрача паветаў Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага і Аўгустоўскага, каторыя адыйшлі да Прусаў. Гэтыя паветы ў 1814 г. па Тыльзіцкай згодзе таксама прылучаны былі да Расеі.

Гэткім парадкам у 1814 г. уся Беларусь ізноў злучылася пад Расеяю і гэтак была ажно да вялікае вайны 1914 году.

Мы разглядалі мяжу Літоўскага Князьства, як мяжу Беларусі, дзеля таго, што фактычна гэта была дзяржаўнасьць беларуская—з беларускаю культураю, моваю, законамі і з пераважаючым уплывам на дзяржаўныя справы беларускае арыстакратыі.

Пазьней Літоўскае Гаспадарства злучылася у фэдэрацыю з Польшчаю і юрыдычна ўвесь час лічылася самастойным гаспадарствам. На Люблінскай уніі была замацавана мяжа паміж Польшчаю і Літвою-Беларусьсю. Яна йшла па цяперашняй паўднёвай мяжы Менскае і Горадзенскае губэрняў і далей па Бугу і Нарве аддзяляла Горадзеншчыну і Сувальшчыну ад Польшчы.

**Значэньне гістарычных межаў** вялізазнае. Як мы бачылі, Беларускі Народ блізу цераз увесь час свае гісторыі жыў пад уладаю ці прынамсі пад моцнымі ўплывамі іншых народаў: маскоўцаў і палякоў. Народ уладар заўсёды стараўся налажыць сьлед свае культуры і на Зямлю Беларускую і на самую душу беларускага народу. Ен стараўся тую частку Зямлі Беларускае, якая была пад ім, назаўсёды зьвязаць з сабою. І трэба сказаць, што хоць народ беларускі і сьвядома і несьвядома бараніўся ад палітычнае і культурнае няволі, аднак шмат удалося пакінуць сьлядоў свайго панаваньня і маскоўцам і паляком. Гэтыя сьляды пазаставаліся, ведама, толькі на тых краёх Беларусі, якія ў свой час былі пад Маскоўшчынаю ці Польшчаю.

Вось-жа веда гістарычных межаў Беларусі вельмі паможа нам разабрацца ў шмат якіх фактах сучаснасьці. Прыкладам, проф. Карскі устанавіў мяжу, да якое даходзяць моцныя ўплывы маскоўскае мовы на беларускую. Гэная мяжа йдзе блізу што па тэй самай мяжы, якая ўстанавілася ў часе стогодніх войнаў з Маскоўшчынаю пры Васілю III. Змаскаленыя краі—ляжачыя на ўсход ад мяжы праведзенае проф. Карскім былі пад Маскоўшчынаю на 100 гадоў балей, а частка іх, што адыйшла да Масквы па Андрусаўскай згодзе — на 200 гадоў балей, чымся рэшта Беларусі.

Заходняя і цэнтральная Беларусь была пад Маскоўшчынаю каля 125 гадоў, паўночная Віцебшчына і Гомельскі край—каля 230 гадоў, а Смаленшчына і Чарнігаўшчына—335 гадоў.

## Колькасьць народу Беларусі.

На Беларусі ў цяперашнім часе жыве каля $15^1/_2$ *міліёнаў* людзей.

На Беларускай Зямлі найбалей, ведама, жыве беларусоў. На кожную сотню чалавек прыходзіцца ў сярэднім 77 чалавек беларусоў. Значыцца *ўсіх беларусоў у Беларусі* жывець 12 *міліёнаў*.

Пасьля беларусоў найбалей жыве ў Беларусі жыдоў. З 100 чалавек жыдоў будзе *14*. А значыць усіх *жыдоў* у Беларусі троху балей за *2 міліёны*.

*Палякоў і маскоўцаў* жыве на нашай зямлі *па 600 тысячаў* адных і другіх — значыцца з кожнае сотні будзе чатыры палякі і чатыры маскоўцы.

Жывуць у нас і іншыя народы—немцы, латышы, ліцьвіны, украінцы, татары, але кожнага з гэтых народаў жыве ня шмат. Немцаў якіх 50 тысячаў, іншых народаў па 30 тысячаў і таго меней.

## Беларусы.

Беларусы жывуць масай па ўсім краі. Па вёсках і дварох яны займаюцца гаспадаркаю. Местачковыя беларусы займаюцца таксама найбалей гаспадаркаю, але шмат хто есьць хлеб і з майстроўкі. У мястох беларусы займаюцца рамяслом і дробным гандлем і навет гаспадаркаю. Але ня меншая частка, а ў вялікіх мястох у некалькі разоў вялікшая часьць працуе работнікамі на хвабрыках, у майстроў-рамесьнікаў і ў прыватных багацейшых людзей. Апроч таго, значная частка меskіх беларусоў займаецца службаю ўва ўсякіх урадах, так званай інтэлігэнцкай працай і ўрэшце належыць да тае клясы народу, якая жыве з капіталаў.

Ня ўсе беларусы яшчэ зразумелі хто яны і дзеля гэтага шмат хто можа і не прызнаецца, што ён беларус. Неграматны, цёмны чалавек не прызнаецца таму, што ён ня ведае, ніхто яго не навучыў; але ёсьць шмат і добра вучаных беларусоў, якія прызнаюць сябе палякамі або маскоўцамі. Гэта таму, што іхнія дзяды і прадзеды, а можа і яны самі, здрадзілі свайму народу, выракліся роднае мовы і самога імя беларускага. Дык цяпер, хоць яны і ведаюць другі раз, што яны беларусы, але ўжо ня хочуць адступаць ад свае прызвычкі, ад прызвычайнае мовы і ад чужога народу, да якога яны альбо дзяды іхныя прылучыліся. Ведама гэта толькі зьява пераходнага часу. Сьвядомасьць беларуская гэтак расьце, што за некалькі гадоў вернуцца да народу беларускага ўсе яго збаламучаныя сыны.

## Беларускія гаворкі.

Азнакаю беларуса служыць яго мова. Праўда, ёсьць шмат такіх беларусоў, што на хочуць а то і ня ўмеюць гукаць пабеларуску. Гэта іхнае няшчасьце. Есьць паміж беларусаў і зусім нéмыя людзі. Іх усё-ж мы павінны лічыць беларусамі, бо іхныя бацькі, дзяды і прадзеды гукалі пабеларуску.

*Беларуская мова* ад Горадня і Беластоку аж да Бранску— *адна мова.* Адныя ў ёй словы і звароты, бо яе стварыў адзін народ, што мае сваю асобную і рэзка выдзеленую душу. Але на вялізазным прасторы Беларусі стварыліся розныя прызвычкі ў мове, *розныя гаворкі і розныя вымовы.*

У паўночна-усходнім куце Беларусі ёсьць *цокаючая гаворка.* Тамака заместа зыку *ч* часта вымаўляюць *ц*, прыкл. рэцка (зам. рэчка), цужы (зам. чужы), цалавек (зам. чалавек). Апроч таго тут пасьля зыку *р* могуць быць мягкія галосныя гукі, чаго ў беларускай мове звычайна ня бывае. Кажуць, прыкл. ряка (зам. рака), Прячыстая (зам. Прачыстая). Гэтая гаворка пашырана ў *Бельскім*, *Парэцкім* і *Вяліскім паветах*, а часткаю і ў суседніх.

У рэшце *Смаленшчыны* ды ў *Чарнігаўшчыне* ўжо ня цокаюць, але *мягкі зык р* застаецца. І тут кажуць: беряг (зам. бераг), ряка (зам. рака), апроч таго ў Смаленшчыне часамі заместа *а* кажуць *ы*:—мыладзік (зам. маладзік), зылаты (зам. залаты).

У абедзьвюх гэтых гаворках сустракаецца досіць многа *маскоўскіх слоў* праз тое, што яны, як мы ўжо казалі, найдаўжэй былы пад уладаю Масквы. Мяжою моцных уплываў маскоўшчыны на беларускую мову проф. Карскі лічыць лінію, што йдзе цераз *Себеж*, *Віцебск*, *Мсьціслаў*, *Клімавічы* і *Навазыбкаў.*

На захад ад гэтае мяжы Беларуская мова зусім чыстая. Ва ўсіх гаворках, якія там ёсьць, ніколі ня бывае мягкога *р*. Дзеля гэтага ў літэратурнай мове мягкое *р* ня ўжываецца.

*Галоўная беларуская гаворка* займае сабою блізка ўсю *цэнтральную* і *заходнюю Беларусь* — і Менск і Магілеў і Полацак і Слуцак, г. зн. балей за палавіну ўсяго прастору Беларусі. У гэтай гутарцы пішуцца беларускія кніжкі.

У трох паветах на заходзе — *Аўгустоўскім*, *Сакольскім* і *Беластоцкім* на беларускай мове зазсталіся сьлядкі *ўплываў польскае мовы* дзеля блізкога суседзтва і сумежнасці гэтых паветаў з Польшчаю. Тамака беларусы досіць часта ўжываюць польскія словы.

На паўдня ад лініі *Горадзень-Слонім-Гомель*, г. зн. у Прыпяцкім Палесьсі і ў Горадзеншчыне ёсьць *паўднёвая гаворка.* Рэзкай яе адзнакаю ёсьць ужываньне заместа — *ся* на канцы слоў — *са* (прылкл. зваліўса, глядзеўса), дзеля чаго тамашніх беларусаў завуць *сакунамі.* У іхнай гутарцы ёсьць і яшчэ нека-

торыя асобнасьці: прыкл. яны часамі заместа буду хадзіць, буду робіць і г. далей кажуць хадзіціму, робіціму і г. д.

Гэтыя асобнасьці ўжываюцца часамі і ў літэратурнай беларускай мове.

Урэшце на паўднёвым захадзе Беларусі, ў Пінскім, Кобрынскім і часткаю ў суседніх паветах жывуць *пінчукі*. Гаворка іх апрача провінцыанальных беларускіх асабліваасьцяў розьніцца яшчэ і тым, што ў ёй дзякуючы блізкому суседзтву і сумежнасьцы з Украінай ёсьць вялікі ўплыў украінскі. Піншчына аднак заўсёды была часткаю Беларусі.

## Рэлігійныя адносіны.

Беларусы бываюць найбалей дзьвёх вераў — *праваслаўныя* і *каталікі*. Сустракаюцца беларусы і іншых вераў — кальвіны, стараверы, мусульмане, але іх вельмі мала. Паміж беларусамі каталікамі і праваслаўнымі апрача веры ніякае балей розьніцы няма. Толькі цёмныя і несьвядомыя людзі, альбо ашуканцы, бывае, кажуць, што каталікі — гэта палякі, а праваслаўныя — маскоўцы. Якой-бы веры ні дзяржаўся беларус, ён усё роўна беларусам астаецца.

У вялікшай часьці Беларусі, беларусы каталікі і праваслаўныя жывуць перемяшаўшыся. Але ў усходняй Беларусі (Магілеўшчына, Смаленшчына) вялізазная большасьць праваслаўных, а ў заходняй (Віленшчына, частка Горадзеншчыны і Віцебшчыны) большасьць каталікоў, а праваслаўных вельмі мала.

Беларусаў *праваслаўных* лічаць у *тры разы балей чымся каталікоў*, значыцца першых ёсьць каля *9-х міліёнаў*, а другіх каля *3-х міліёнаў*.

## Жыды.

Жыды пасяліліся ў Беларусі найбалей у часы Вітаўта. Цяпер жыве іх найбалей у мястох і мястэчках. Але ёсьць, хоць мала, такіх жыдоў, што жывуць на гаспадарцы ў т. зв. *жыдоўскіх калёніях*. У мястэчках і мястох найчасьцей жыды становяць большасць народу. Займаецца вялікшая іх частка рамяслом і гандлем; але досіць значная частка, асабліва ў вялікіх мястох служыць работнікамі ў хвабрыках і майстроўнях.

Найбалей жыдоў жывець *у Горадзеншчыне* і ў *Меншчыне* (16—17 чалавек на 100 жыхараў). У Смаленшчыне жыдоў вельмі мала.

## Палякі.

Да палякоў належыць частка шляхты—буйных земляўласьнікаў і іхнае дворнае адміністрацыі, частка інтэлігенцыі і час-

тка мяшчанства некаторых мест, як прыкл. Вільні. Па перапісу 1897 г.—(а яго рсбілі людзі безстаронныя—маскоўскія ураднікі*) ні палякі, ні беларусы), палякоў у Беларусі ўсіх каля 4%. Найбалей палякоў у Віленшчыне і Горадзеншчыне. У Магілеўшчыне іх вельмі мала, а ў Смаленшчыне зусім няма.

### Маскоўцы.

Маскоўцы сяліліся ў Беларусі за часоў маскоўскага панаваньня. Маскоўскі ўрад, хочучы як наймацней зьвязаць Беларусь з Маскоўшчынаю прысылаў сюды сваіх урадні̇каў, духоўнікоў, раздаваў маемасьці маскоўскім вяльможам і перасяляў навет маскоўскіх сялян на беларускую зямлю. Найбалей такога насыльнага элемэнту ў усходняй Беларусі, асабліва ў Смаленшчыне.

Апрыч таго ў Беларусі шмат жыве маскоўцаў—*старавераў*, якія перабраліся сюды з Маскоўшчыны самі ў XVII веку і пазьней, уцякаючы ад тамашняга рэлігійнага ўціску.

Найбалей стараверaў жыве ў двух гнёздах—адно каля Новазыбкава і другое каля Дзьвінску. Каля Дзьвінску жыве іх шмат у Брацлаўскім, Дзісьненскім і Сьвянцянскім паветах. Есьць іх крыху ў Віцебшчыне.

Навазыбкаўскія староверы жывуць найбалей вялікімі сёламі *пасадамі*.

Жывуць староверы і ў іншых мясцох Беларусі. Займаюцца яны найбалей рамяслом, майстроўкай, гародніцтвам і гандлем.

## Заняткі насяленьня Беларусі.

### Сельская гаспадарка.

Блізу *тры чвэрці насяленьня* Беларусі займаецца *каля зямлі*. Рэшта—працуе на хвабрыках, займаецца рамяством, гандлем і ўсякаю службаю і жыве найбольш у мястох.

У тых краінах Беларусі, дзе ёсьць вялікія месты, дзе шмат хвабрыкаў і заводаў, там менш людзей працуе каля зямлі, а больш мае іншыя заняткі. На ўсходзе Беларусі найбольш народу займаецца гаспадаркаю, на захадзе-ж,—у Горадзеншчыне,—наадварот, найменш. Аднак і ў Горадзеншчыне з сотні чалавек больш як 60 займаецца каля зямлі.

Гэткім парадкам Беларусь трэба лічыць краем земляробскім. Паглядзём жа цяпер, як стаіць у нас гаспадарка і ў якіх яна варунках.

---

*) Чыноўнікі.

## Зямля.

Значная часьць зямлі ў Беларусі ляжыць зусім бяз усякага ўжытку,—гэта балоты, пескавыя выдмы, а гэтак сама і прасторы занятыя вазёрамі і рэкамі. Усіх такіх *няўжыткаў* каля *4 міліёнаў дзесяцін*. Праўда, значную частку гэтых земляў можна было-б выкарыстаць, абсушыўшы балоты, пасеяўшы лес на пяскох, ды завёўшы добрую рыбную гаспадарку на вазёрах. Але пакуль што—ад іх карысьці ніякае.



Стары гаспадар.

Яшчэ большы простор занялі *лясы і гаі*. Трэба лічыць, што іх ёсць *каля 9 міліёнаў* дзесяцін. З лесу нашая гаспадарка мае вялікую падмогу. Гаспадарка бяз грошай, без капіталу ня можа паляпшацца. Весь гэты капітал даюць лясы, якія патрабуюць ад гаспадара самых малых на сябе затратаў і даюць чысты зыск. Хто мае свой лес, зарабляе на продажы, хто лесу ня мае, наймаецца на работу, зарабляе сваёй мазольнаю працаю ў лесе.

Разам лясы і няўжыткі займаюць бязмалага палову ўсяго простору Беларусі. Значыцца, *пад гаспадарку* застаецца крыху болей паловы ўсяе зямлі, *каля 16 міліёнаў дзесяцін*.

З гэтага ліку прымерна *трэйцяя частка пад сенажацямі.* Найбольш сенажацяў ёсьць на прасторах Палескае нізіны. Тамака яны займаюць безканечныя даліны рэкаў і падсушаныя і расьцярэбленыя балоты. З усіх сенажацяў Беларусі накошуецца каля *300* міліёнаў пудоў сена Дзесяціна сенажаці даець у нас небагата,—усяго каля *60 пудоў* сена (3—4 вазы—калясьнікі).

*Ворнае зямлі* ў Беларусі *каля 11 міліёнаў дзесяцін.*

## Дворная і вясковая гаспадарка.

Накшая гаспадарка ў дварох, накшая ў вёсках. Вясковы гаспадар мае некалькі дзесяцінаў зямлі і працуе на ёй сам з сям'ёю. У двары зямлі некалькі сотняў, а то і тысячаў дзесяцін. Гаспадар двара сам не працуе на полі; за яго працуюць najміты-парабкі.

Вясковаму гаспадару трудна пракарміцца з свае лапіны зямлі. З усіх сіл стараецца селянін, каб павялічыць свой палетак: расьцярэблюе пасекі, хмызьнякі і балоты, ні аднэй лапінцы зямлі ня дасьць гуляць. Лесу вясковы гаспадар па большай часьці ня мае; калі і меў, дык уптрэбіў.



Сьвіран у фальварку.

У двары хлеба хапае. Лепшую зямлю гаспадар арэ, горшую запускае пад лес. Чуць ня ўсе нашыя лясы стаяць на дворнай зямлі Шмат дворнае зямлі ляжыць пад зарасьнікамі і дзірванамі.—За тое дворныя балоты часьцей бываюць асушаны, чымся сялянскія, часамі больш іх і расьцярэблена. Больш сілы ў двара, больш капіталу

Есьць яшчэ ў нас зямля скарбовая; яна ўся блізу ляжыць пад лясамі і няўжыткамі. *Да дзяржаўнага скарбу* належыць *каля 2 міліёнаў* дзесяцін.

Даўней (гадоў 50 назад) дворнае зямлі было шмат больш, чымся сялянскае. Дворнае было 15 міліёнаў, сялянскае 12 міліёнаў дзесяцін Але з кожным годам і двароў і дворнае зямлі убывае,—яе раскупляюць сяляне і наагул дробныя гаспадары. На мейсцы даўнейшых двароў разсыпаліся дробныя фальваркі, засьценкі і хутары пакупцоў.

Цяпер *дворнае зямлі*, трэба лічыць, ёсьць *толькі* прымерна *колькі сялянскае*. Рэшта даўнейшае дворнае зямлі належыць дробным пакупцом.

## Засевы.

Найбольш сеюць у нас жыта. Яно ня надта пераборліва на зямлю і зьяўляецца для нас разам з бульбаю галоўным срэдствам пражыўленьня Звычайна займае яно трэцюю часьць поля *жытнюю зьмяну*. Апроч жытняе зьмяны ёсьць яшчэ яравая і папарная. Яны усе тры бываюць з большага роўныя У яравой зьмені сеюць ярыну авёс, ячмень, бульбу і г. д. У папарнай зьмяне зямлю падгатаўляюць на жыта.

Такі парадак гаспадаркі, калі ворная зямля разьдзелена на тры зьмяны называецца *трохпалёўкаю*.

У Горадзеншчыне, ў жытняй зьмяне часта сеюць апроч жыта **пшаніцу-азімку**. Сеюць яе патроху і у Віленшчыне і Меншчыне.

Пасьля жыта найбольш сеецца аўса, бульбы, ячменю. Шмат яшчэ сеюць грэчкі, лёну, гароху. Сеюць таксама пшаніцу-ярыцу, каноплі, проса і інш.

**Аўса** сеюць усюдых шмат, а найбольш у Смаленшчыне. Ен займае прастору ў два разы менш, як жыта. На паўднёвым усходзе Беларусі ў Чарнігаўшчыне, ля Прыпяці і Сожа аўса сеюць менш. Там яго мейсца займае грэчка і бульба.

**Ячменю** шмат сеюць у цэнтральнай і заходняй Беларусі, а найбалей у Віцебшчыне. Гэта тлумачыцца суседзтвам Балтыцкага краю (Латвіі), дзе асабліва шмат сеюць ячменю, значная частка ячменю ідзець на бравары і перакуруецца на піва.

**Бульбы** найбольш сеюць на лёгкіх грунтох на поўдні і захадзе; там яна асабліва добра ўдаецца. Бульбаю засаджуюць тамака вялікія абшары. Яна ідзець найбольш на бравары, дзе з яе гоняць сьпірытус. Найбалей бульбы садзяць у паветах Рэчыцкім, Суражскім, Гомельскім і Новазыбкаўскім і ўва ўсёй паўднёвай і заходняй Городзеншчыне і Заходнім Палесьсі.

У лепшых гаспадарках сеюць **кармовыя буракі** на корм скаціне. Яны патрабуюць добрай гнойнай зямлі і шмат працы, але даюць вялікую карысьць.

Урэшце на паўдні дзе ня-дзе сеюць **цукровыя буракі**, з якіх робяць цукар. Гэтыя буракі аднак могуць расьці так сама блізка што і па ўсёй Беларусі на лепшых глыбокіх грунтох. Даўней у нас былі і свае цукраварні напр. у Пінскім павеце у двары Парэччы ды пазакрываліся дзеля розных прычынаў.

**Грэчкі** найбольш сеюць на пескавых грунтох у паўднёвай Беларусі. На поўначы яе сеюць мала, бо яна баіцца халадоў і дзеля таго, што там наагул больш цяжкія грунты. На паўдня ад лініі Пінск—Магілеў—Рослаў грэчкі сеюць асабліва многа. На пескавых разлогах паўднёвага Палесься іншае збожжа родзіць слаба, а грэчка ўдаецца. У Чарнігаўшчыне і сумежных з ёю частках Магілеўшчыны грэчкі сеюць так многа, што яна займае часамі большую палавіну яравой зьмяны. Многа сеюць грэчкі і ля Нёмну у паўночнай Горадзеншчыне і ў Лідзкім павеце.

На поўначы Беларусі у Віцебшчыне і Смаленшчыне вялікае значэньне мае **лён**. Для дамовага ужытку сеюць лён усюдых, але у вышэй памянёных краёх сеюць лён напродаж. Сеюць яго найбольш на дзерванох і пасьля канюшыны. Лён тут удаецца добры і дае вялікае грашавое падтрыманьне гаспадарцы. Найбольш лёну сеюць у паўночнай Смаленшчыне (Бельскі, Духаўшчынскі, Красенскі, Парэцкі, Дарагабужскі паветы).

**Канопліў** ва ўсёй Беларусі сеюць у гародах па якім гарцу. На паўднёвым жа ўсходзе Беларусі (Чарнігаўшчына, сумежныя з ёю часьці Магілеўшчыны і Смаленшчыны) канопляў сеюць шмат і прадаюць пяньку. Пянька тут мае такое самае значэньне, як на поўначы лён. Яна прыносіць у гаспадарку вольны грош на зварот, на падаткі і на патрэбную ў гаспадарцы куплю. За тое яна моцна вынішчуе поле. Там, дзе сеюць больш канопляў, пад іх ідзе увесь гной і для рэшты поля нічога не застаецца.

У паўднёвай Беларусі сеюць патроху **проса** ў Мозырскім, Рэчыцкім, Гомельскім і інш. паветах. Так сама ў паўднёвай Беларусі, асабліва ў Чарнігаўшчыне сеюць досіць многа **табакі**. Тамашнія гаспадары маюць з табакі вялікую карысьць. Прыказка навет кажа, што „без табакі няма чым падаткаў плаціць.“ Трэба заўважыць, што якраз у беларускай Чарнігаўшчыне разводзяцца найбольш цэнныя сарты табакі (амэрыканскія, або цыгарныя).

Апрача збожжа сеюць яшчэ на полі **траву**: *канюшыну, выку, сарадэлю, цімафейку і інш.*; найбольш сеюць канюшыну і выку. Шмат канюшыны і цімафейкі сеюць у Смаленшчыне і Віцебшчыне, бо пасьля іх добра ўдаецца лён. Іншых траваў там мала знаюць. Затое на захадзе Беларусі побач з канюшынаю, якой сеюць так сама багата, знаходзіцца шмат выкі (на цяжэйшых грунтох) і сарадэлі (на пяскох). З гэтых траваў выходзіць сена надта дагоднае для малочных кароў.

Сеюць яшчэ ў нас на палёх **лубін**. Лубін у восені, як ён вырасьце высокі, заоруюць і ён угнойвае зямлю. Асабліва карысны лубін на бедных пескавых грунтох, якія ён можа праз некалькі год зрабіць ураджайнымі.

Лубін гэта новая расьціна. Сеяць яго пачалі гадоў 10—20 таму назад, а ўперад у нас яго ня зналі. Так сама нядаўна пачалі сеяць сарадэлю, выку і наагул траву.

## Сыстэмы або способы гаспадаркі.

Мы ўжо абзнаёміліся з адным са способаў гаспадаркі—з трохпалёўкаю, якая найбольш пашырана ў сялянскіх гаспадарках на ўсёй Беларусі. Пры *трохпалёўцы* ворная зямля падзелена на тры зьмяны і з гэтых зьменаў адна,—папарная (кожны год іншая),—гуляе. У восені на папары сеюць жыта.

Апрача трохпалёўкі ёсьць і іншыя способы гаспадаркі і лепшыя і горшыя, ці можа, сказаць ляпей, і вышэйшыя і ніжэйшыя. Бо ўсюдых гаспадарка уперад была горшаю, а пасля паднялася у гару—зрабілася вышэйшай, лепшай. Паляпшаецца гаспадарка ад таго, што на яе чалавек больш працы і капіталу кладзе. Вось жа чым людзём цясьней жыць робіцца, тым больш яны стараюцца і больш кладуць працы на свой кавалачак зямлі, тым і гаспадарка вышэйшая. *Вышэйшая гаспадарка дае з кожнай дзесяціны зямлі больш прыбытку чымся ніжэйшая.*

Як стала цясьней жыць у нас, агледзіліся гаспадары, што цэлая траціна поля заўсёды гуляе. Сталі патроху займаць папар—то выкай, ці канюшынаю, то бульбаю. Цяперака ўсюдых, дзе сялянская гаспадарка паднялася, усюдых частку папару нечым займаюць.

Па дварох рэдка дзе можна стрэць трохпалёўку. Найбольш там *способ пладазьменны.* Орная зямля пабіта на 4—6—8 і больш зьменаў і на кожнай зьмяне накшае збожжа, дый кожны год у парадку зьмяняецца. Бывае і тут папар, але яго мала—найбольш чацьвертая частка. За тое шмат сеюць травы, бульбы і буракоў.

Пладазьменная гаспадарка вядзецца цяпер блізу па ўсіх дварох у цэнтральнай і заходняй Беларусі і у вялізазнай большасьці двароў у ўсходняй і паўднёвай Беларусі. Так сама гэты способ гаспадаркі мы знойдзем у большасьці дробных гаспадароў, што сядзяць на адзіноце на фальварках і хутарох, асабліва на захадзе.

Па вёсках пладазьмен спатыкаецца рэдка, бо гэтаму перашкаджаюць вясковыя парадкі—напр. супольная паша скаціны на папары і г. д. Праўда, што за апошнія гады шмат вёсак разсялілася на хутары і завяло пладазьмен, але большасьць сядзіць на мейсцы і толькі што год усё зьмяншае і зьмяншае свой папар, займаючы яго засевамі.

Пладазьменны спосаб гаспадаркі вышэйшы за трохпалёўку. Есць і ніжэйшыя за трохпалёўку спосабы. Гэта лядовы і абложны.

Пакуль на Беларусі было лішне многа лесу, была досыць пашырана *лядавая* альбо пасечная *гаспадарка.* Поля тады не гнаілі, а сеялі дабро на пасеках, Ссякуць лес, лепшае бярвеньне зьвязуць, а ссечаныя хмызьнякі, ламаччо пакідаюць на мейсцы. Як яно падсохне, пасеку пацпалююць. Як-жа перегарыць усё гэта ламаччо і пні, пасека застаецца пакрытаю попелам. Тады яе аруць, і сеюць адразу лён, пасьля жыта, авёс і год у год усялякае збожжа аж пакуль ляда зусім ня спусьцее. Тады яго кідаюць і паляць другое ляда. Першае ляда патроху зарастае лесам.

Ясна, што такі спосаб гаспадаркі можа быць толькі там, дзе вельмі рэдка жыве народ і дзе вялізазныя прасторы пакрыты лесам. На Беларусі цяпер лядавага спосабу у чыстым відзе бліз што не спатыкаецца. Толькі у Смаленшчыне пры агульнай трохпалёўцы запускаюць пусьцейшыя кавалкі зямлі *(пустошы)*, каб зарасьлі лесам, а пасьля расцерэбіўшы цераз некалькі дзесяткаў гадоў, ды выпаліўшы ляда, сеюць лён.

Пасекі выпалююць і па ўсёй Беларусі, дзе яшчэ хапае лесу на апал.

**Абложная,** або **дзярванная гаспадарка** спатыкаецца у рэдка заселеных мяйсцовасьцях, на беднай зямлі, дзе ў гаспадароў не хапае гною, а бяз гною зямля ня родзіць. Там звычайна пакідаюць пусьцейшую частку поля *дзерваном,* і на ёй ня сеюць некалькі год. Яна тым часам вылежуецца і крыху папраўляецца сама. Тады яе ізноў аруць і засяюць.

Найчасьцей спатыкаецца такі спосаб гаспадаркі у нашым паўднёвым Палесьсі.

## Выраб зямлі.

З кожным годам гаспадарка ў Беларусі паляпшаецца. Гэта асабліва знаць па вырабу зямлі. Зусім яшчэ нядаўна ўсюды у нас аралі сахою. Ня толькі аб якіх машынах, але і аб плугу мала хто чуў. Цяпер саху мала дзе можна пабачыць. Толькі хіба дзе у самым глухім закутку, за некалькі дзясяткаў вёрст ад гарадоў і чыгунак спатыкаюцца мейсцы, дзе яшчэ аруць сахою. У больш-жа культурных мяйсцовасьцях ужываюцца і *спранжыновыя бароны* і *рандалі* (дысковая барана).

Араць сталі глыбей. Навучыліся араць у пару пад ярыну у восень, пад жыта сталі араць два, а то і тры разы.

Ляпей сталі і *гнаіць* зямлю. Гаспадар зразумеў, што бяз гною ураджаю ня будзе і цяпер з усіх сіл дбае аб гной. Побач са звычайным гноем сталі ужываць *штучныя гнаі* „парашкі“ і урэшце зачалі сеяць *лубін.*

Усе гэтыя палепшаньні увайшлі у гаспадарку за апошнія 20-30 гадоў. Ішлі яны да нас з захаду, дзеля таго найраней з імі абзнаёмілася Заходняя Беларусь, а пасьля яны пакрысе перадаліся і на ўсход.

### Ураджайнасьць.

Ня роўна зямля плаціць за працу чалавеку. У аднэй мяйсцовасьці зямля урадлівая, хлеба хапае ня толькі для гаспадара і яго сям'і, а яшчэ і на продаж. У другой-жа гаспадару прыходзіцца дакупляць хлеб.

Найбольш урадлівым краем лічыцца ў нас Случчына і Наваградчына. Вельмі добрыя ураджаі дае зямля у Горадзеншчыне (асабліва ўсходняй — у Бельскім павеце) і ў Смаленшчыне. Самая бедная зямля ў Задзьвіньні і у Віленшчыне.



Старасьвецкая саха.

*Усяго збожжа*, якое ідзе на пражыўленьня людзём (апроч аўсу і бульбы) у Беларусі *намалочуюць каля 180 міліонаў пудоў*. У гэтым ліку каля 140 пудоў жыта. Гэтага дабра аднак не хапае на пражыўленьня ўсяго народу Беларусі. Беларусь мусіць *прывозіць* да сябе са стараны яшчэ *каля 20 міліонаў пудоў* збожжа і мукі.

Найбольш бедныя хлебам палескія паветы і так сама Віцебшчына. За тое багацэйшыя паветы напр. Случчына вывозіць хлеб за межы Беларусі.

Усяго ў 1910 гаду з Беларусі *вывезена* была каля *10 міліёнаў пудоў збожжа.* Усяго *прывезена* на Беларусь

каля *30 міліонаў* пудоў. Вывозім мы найбольш *жыта, ячмень*, а прывозім блізка што адну *пшаніцу* і *пшанічную муку*. Гэтыя прадукты ідуць да нас *з Украіны*.

Усходняя палавіна Беларусі вывозіць за мяжу каля *2-х міл. пудоў лёну* (кудзелі) і каля *1-го міліону пуд пяньКі*. Рэшта Беларусі асабліва Меншчына і Палесьсе вывозяць за мяжу шмат *спірытусу*.

Увесь блізу прывозны хлеб ідзець у месты: Вільня прывозіць да сябе 4 міл. пуд. збожжа і мукі, Беласток каля 3 міл., Віцебск 3 з паловаю міл. і г. д. Вёска-ж мала карыстае з прывознага хлеба. Недахват свайго хлеба там запаўняецца бульбаю, якой ёсьць годзе. Але часамі нехватае і бульбы. Тады нашыя сяляне ядуць хлеб і з усякімі суррогатамі — з карой, мякінаю і г. д.

### Гароднiцтва і садаўніцтва.

*Гароднiцтва* на Беларусі слаба разьвіта. Найлепшыя гароды і найбольш іх бывае каля вялікіх местаў. Сяляне-ж пабольшай часьці маюць гароды вельмі маленькія і садзяць тамака толькі варыва, як для сябе. Гароднiцтвам, як профэсіяй, займаюцца



Барана „смык", якою вырабляюць пасекі.

у нас найбольш мяшчане беларусы, а так сама жыды і староверы. Найбольш праславіліся сваімі гародамі Магілеўскія мяшчане. Досіць добрыя гароды маюць староверы пад Гомелем і Навазыбкавам.

*Садаўнiцтва* ў Беларусі ня вельмі разьвіта, але за апошнія гады яно шмат пасунулася наперад. Прамысловае садоўніцтва вельмі залежыць ад развіцьця чыгунак, па якім фрукты можна дастаўляць у далёкія мейсцы спажываньня — у вялікія гарады.

*Прамысловыя сады* знаходзяцца па большай часьці у дварох, а так сама пад гарадамі і у гарадох.

Звычайна яны займаюць якіх адну—дзьве дзесяціны, але ў большых дварох спатыкаюцца сады па дзесятку і больш дзесяціч Дворныя сады найбольш здаюцца кожны год у арэнду, толькі у некаторых дварох самі займаюцца садам.

У прамысловых садох найбольш бывае яблынаў *антонавак*. Гэты сорт вельмі падходзіць да нашага клімату. Грушы менш трымаюць, бо з іх не такі пэўны ураджай. Аднак на паўдні Беларусі у садох вельмі многа ігрушаў. Тут навет веведзены вельмі цэнныя беларускія сарты ігрушаў *Слуцкая Бэра* (пад Слуцкам) і *Сапяжанка* (у Горадзеншчыне). На сваёй бацькаўшчыне гэтыя сарты даюць вельмі добрыя ураджаі.

Разводзяць яшчэ у садох сьліўкі, вішні, чарэшні, аграст, парэчкі і інш. Апошнія часы сталі шмат дзе займацца *трускаўкамі* (клубнікаю).

Звычайных непрам[illegible]ых садоў і садкоў вельмі многа. У кожным двары, фальварку будзе заўсёды некалькі дзесяткаў садовых дрэўцаў. Так сама і пры кожнай блізка сялянскай хаце ёсьць невялічкі садок. Ведама, што у бяднейшых ваколіцах, дзе хлеба нехватае, там і садоў няма. Мала садоў у пескавым Палесьсі. Але між іншым і ў Смаленшчыне, хоць там сялянства ня вельмі беднае, садоў па вёсках зусім мала.

У такіх хатніх садкох садзяць розныя дрэўцы ўсякіх гатункаў, садзяць яшчэ і дэкоратыўныя расьціны: бэз, рожы, акацыі, таполі.

**Пчалярства** некаліс мела вялікае значэньне для Беларусі. Мёд і воск былі адными з важнейшых тавараў, якія Беларусь вывозіла у чужыя краі. Цяпер пчалярства падупала. Толькі у паўднёвым Палесьсі — (асабліва у Пінскім, Мозырскім ды Бабруйскім паветах) пчалярства шмат памагае у гаспадарцы. Пчолы там дзержаць найбольш у калодах-*борцях*, зачым і пчаляры называюцца *бортнікамі*.

У заходняй Беларусі значная частка пчаляроў мае ўжо *рамовыя* вулы. У ўсходняй больш ужываюцца калоды.

### Гадоўля скаціны.

У большасьці гаспадарак трымаюць *коней* мяйсцовых пародаў, памяшаных з усякімі заводзкімі. Аднак у некаторых мяйсцох разьвілася гадоўля заводзкіх коней — найбольш цяжкіх пародаў. Шмат займаюцца гэтай справай напр. у Наваградчыне, у Случчыне, у Магілеўшчыне. У Меншчыне коней у сялянства не хапае — каля пятай часьці салянскіх гаспадарак ня маюць коней.

*Кароў* найбольш трымаюць у нас *чырвонай беларускай пароды*. Скаціна гэта невялікая на рост,, але неперабарлівая на яду і дае досіць многа тлустага малака. Аднак гэтая парода

на благіх кармох змізарнела і пагоршылася. Апошнімі часамі у некаторых дварох сталі сумысьне разводзіць беларускую пароду і дайшлі добрых рэзультатаў.

У большасьці двароў трымаюць заводзкую скаціну, найбольш галяндзкай пароды, дзеля яе малочнасьці.

Значная частка двароў прадае малако *пактарам*, якія вырабляюць з яго масла і сыры.

*Сыраварняў* ёсць досіць многа у Меншчыне і у Смаленшчыне—асабліва-ж у паветах: Бельскім, Парэцкім і Красьнінскім. Беларускія „галяндэрскія“ сыры збываюцца у Вільню, Менск, Варшаву, Маскву і інш. вялікія гарады. Аднак дзела у сыраварнях і у пактах пастаўлена досіць дрэнна і затым ад малочнай гаспадаркі няма таго зыску, які яна з часам напэўна дасьць. У сялян з малаком яшчэ горай. Малочных коопэратываў зусім няма. Скаціну трымаюць толькі дзеля гною.

Разумеецца, іншы абраз—пад вялікімі гарадамі. У Менск напр. вязуць малако усёй ваколіцы на некалькі міль у ва ўсе бакі. Ведама, што тут іначай кароў даглядаюць і маюць ад іх вялікі зыск.

Наагул кажучы малочною гаспадаркаю найбольш займаюцца ў Меншчыне і у Віцебшчыне.

Вялікае значэньне у гаспадарцы мае *гадоўля сьвіней*. Калі масла на вёсцы спажываюць мала, дык намагаюць сьвіным салам і тлустасьцю — гэта вельмі важны спажыўны прадукт. Апроч таго вельмі значная частка сьвіньняў ідзець на продаж, скупляецца гандлярамі і вывозіцца у вялікшыя гарады і за граніцу. Сьвінаводзтва найбольш пашырана у Віленшчыне, Магілеўшчыне і Чарнігаўшчыне.

Даўней шмат разводзілася у нас *авечак*, найбольш, праўда для свайго ўжытку. Цяпер іх засталося найболей у Смаленшчыне. У іншых краёх замест авечак сталі трымаць больш кароў і сьвіньняў. Толькі у Горадзеншчыне лік авечак мала зьмяншаецца. Да таго-ж там разводзяць шмат заводзкіх авечак з тонкаю, далікатнаю воўнаю. Гэта дзеля блізкасьці Беластоку і яго раёну, дзе знаходзяцца ткацкія суконныя фабрыкі, якія куплююць шмат воўны.

Гадоўля скаціны і сьвіньняў у будучыне павінна стаць асноваю багацьця і гаспадарскага росквіту Беларусі, бо на беларускіх грунтох гаспадарка можа даваць шмат сена і бульбы.

## Прамысловасьць.

### Лесавыя промыслы.

У лясістых мяйсцовасьцях Беларусі гандаль лесам і праца у лесе зьяўляюцца заняткам вельмі значнай часткі жыхараў. У Палесьсі мала ўвагі зьвяртаюць на гаспадарку. Усе здаравейшыя, дужейшыя мужчыны ідуць на працу ў лес.

Галоўная работа ў лесе — гэта павал лесу і дастаўка яго на *рум*.

Румам называецца берег сплаўнай ракі, на які звозіцца дрэва з акалічных лясоў. Тут купец прыймае дрэва.

Павал і возка дрэва ідзець у восені і праз усю зіму.

Вясною, як толькі рушаць рэкі, дрэва сплаўляецца па малых рэчках *розсыпам*, г. зн. асобнымі калодамі, па вялікіх—*плытамі*. Розсыпам дрэва ідзець аж да вялікіх рэкаў. Там яго ловяць і вяжуць у плыты.

У плыту бывае па 300—500 калод, у залежнасьці ад вады. Калі вада глыбокая — кладуць больш. Плыт сядзіць у вадзе ня больш як на аршын, а над вадою высунуты на які вяршок. З 10-20 плытоў складаецца *сотня* або „*гонка*“.

Пры кожнай гонцы ёсьць цэлая грамада плытнікаў. На чале іх знаходзіцца *дубавік* або *рэтман*, які загадуе сплавам. Для плытнікаў на адным з плытоў ёсьць хатка з печкай, дзе яны вараць сабе есьці.

Плыты найбольш гоняць у Рыгу, Коўну і Кацярынаслаў. Часам плытнікі патрапляюць зьвярнуцца за лета па некалькі разоў.

Па Дняпру гоняць найбольш нячэсанае бярвеньне. Найлепшы лес ідзе да Херсону і Адэсы. Драбнейшы лес ідзе бліжэй—у Кіеў ды Кацярынаслаў—для капальняў на падпоркі ў шахтах.

Па Дзьвіне і Нёмну гоняць найбольш ужо чэсаны тавар. Апошнімі гадамі ў Беларусі пабудавалася шмат *пільняў* і цяпер ужо значная частка лесавога тавару ідзець пілаваная.

### Рыбацтва.

Хаця ў Беларусі вельмі многа рэкаў і вазёраў, аднак рыбацтвам спэцыяльна займаецца толькі некалькі тысячаў чалавек, якія жывуць ля берагоў рэк і вазёр. Найбольш рыбацтвам займаюцца ў азёрных краёх: у Наддзьвіньні, і Задзьвіньні, а так сама ў Палесьсі. З Наддзьвінскіх азёраў рыбу адпраўляюць навет за межы Беларусі. А ў Палесьсі, у Кожан—Гарадку, Давыд—Гарадку рыбалкі копцяць рыбу і ў гэткім відзе адпраўляюць на продаж у большыя гарады—гл. чынам у Бярэсьце і ў Варшаву.

Гаспадары найбольш займаюцца рыбацтвам як дадатковым заняткам. Рыба робіць яду ўзьбярэжнага селяніна больш разнароднай і сытнай.

Да гадоўлі рыбы толькі цяпер пачынаюць брацца лепшыя гаспадары. Пры дастатку на Беларусі прыродных вазёраў, гадоўля рыбы магла-б даць вялікі зыск.

Апроч рыбы ў нас па дробных рэчках вельмі многа ловяць *ракаў*, якіх купцы адпраўляюць у вялікія гарады, навет заграніцу—напр у Бэрлін.

Аб здабычы мінэральных *(падземных)* багацьцяў ужо гаварылася вышэй (стр. 35).

### Хатнія рамёслы.

Хатнія рамёслы ў Беларусі ня маюць шырокага разьвіцьця. У даўнейшыя часы, хатнія рамёслы мелі вельмі важнае значэньне. Асабліва іх падтрымлівалі багатыя двары, якія ўсё патрэбнае да раскошнага, другі раз, жыцьця выраблялі на мейсцу рукамі падданых—рамясьнікоў. Як зьбяднелі двары—сталі нішчыцца і хатнія рамёслы. А яшчэ больш ім пашкодзіла кан-



**Беларусінка у сьвяточнай вопратцы свае работы.**

курэнцыя танных хвабрычных вырабаў—тандэты. Цяпер хатнія вырабы найбольш пашыраны ў глухіх закутках, куды яшчэ не дайшла хвабрычная „культура“.

Спаміж хатніх рамёслаў найбольш пашырана і разьвіта *ткацтва*. Даўней Беларусь славілася сваім ткацтвам. І да гэтых часоў у музэях пераховуюцца залататканыя *слуцкія паясы*, вя-




**Дэсані беларускіх паясоў: 1) „тры елачкі“ 2) „крывыя крыжыкі“, 3) „крывулькі“, 4) „два капыцікі“, 5) „сыркі“, 6) „капыцікі,“ 7) „ланцужок,“ 8) „грабелькі.“**



Драўляныя каўшы і міскі (работа беларускіх вясковых рамясьнікоў).

домыя тады са свайго хараства па ўсім сьвеце. Ткалі ў нас і дываны, на якіх вытыкаліся цэлыя малюнкі ды абразы

Цяперака ў той самай Случчыне вырабляюць толькі тыя тканіны, якія патрэбны для штодзеннага ўжытку сялян.

Ткацтва пашырана ўва ўсёй Беларусі; толькі хіба у ўсходняй Смаленшчыне яно мала дзе ёсьць. У рэшце Бэларусі сялянства адзяецца ў вопратку дамовага вырабу. Праўда, верхняя вопратка, асабліва сьвяточная і ў маладзежы, бывае крамная. Гэта асабліва значна ў заходняй Беларусі і каля гарадоў. У ўсходняй-жа і паўднёвай ад Слуцку да Смаленску пануе ўсюдых і верхняя вопратка свае работы.

У большай часьці вясковай Беларусі ткуць усе кабеты. Ткуць яны—паясы, палатно, ручнікі, сурвэты, гунькі, коўдры, дываны, сукно, корт і інш. Усе гэтыя тканіны маюць чысга беларускі рысунак, які перадаецца ад матак дачкам.

Цяперашняе ткацтва на Беларусі абслужуе найбольш сялянства. Аднак у апошнія часы, за прыкладам іншых старонак, сталі заводзіцца і ў нас ткацкія школы. Піонэркай у гэтай справе была пані Моль, якая залажыла школу ў Рэжыцы. Дзякуючы працы гэтай школы стала ізноў разьвівацца ў нас артыстычнае ткацтва. Пазакладаліся варштаты ў шмат якіх дварох у Наддзьвіньні і Віленшчыне. На жаль толькі Рэжыцкая школа мала займалася беларускімі матывамі ў рысунках тканін. Рысункі браліся найбольш польскія з-пад Кракава. А як заводзілі школу маскоўцы—дык яны заводзілі маскоўскія дэсані.

Другім досіць важным хатнім рамяслом ёсьць *ганчарства* і вырабы з гліны. Гэтыя рамёслы даюць таннае, але досіць грубога выгляду судзьдзё. Займаюцца імі ўсюдых. Найбольш вядомы ганчары з Крэва (Ашмян. пав.), Дзісны, Чашнікаў (Лепельск. пав.), Чарняўкі (Барысаўскі пав.) і Горадна (Пінскі павет).

У Івенцы (Менск. пав.) вырабляюць добрыя *кахлі* (для печак). У Лепельскім павеце шмат людзей займаецца вырабам цэглы.

Дзякуючы багацьцю лесам у Беларусі досіць пашыраны хатнія рамёслы *драўляных вырабаў*.

*Стальмахоў* (што робяць калёсы) найбольш у Ігуменскім пав., у Лідзкім, Чавусскім, Аршанскім паветах і ў Смаленшчыне. Можна гэтых майстроў спаткаць блізка ў кожным мястэчку. Яшчэ больш пашырана *рамясло бандарскае*. У Смаленшчыне (Красьненскі павет) робяць шмат *лыжак* і точанай драўлянай пасуды.

У Глуску і Любані (Бабруйск. пав). і ў Старобіне (Слуцк. пав). і ў Магілеўшчыне робяць драўляныя *мэблі*,—шафы, сталы, ложкі і інш, а так сама пасуду. Сталяроў, наагул кажучы, ёсьць досіць многа і яны, ня маючы працы, часта займяюцца цесьлярскай работай.

У Ракаве (Менск. пав). робяць драўляныя *малатарні і гар-*
*фы*, якія вельмі падабаюцца гаспадаром дзеля прастаты устрой-
ства і лёгкасьці рамонту.
У Чавусскім і Клімавіцкім паветах шмат рамясьнікоў зай-
маюцца вырабам *рэшатаў* і *бёрдаў*. Для гэтых мэтаў там-жа,
а так сама і ў іншых мяйсцовасьцях, дзяруць ліповую кару на
лыкі. Шмат дзе плятуць на продаж *кошыкі* з лазы. А ў Лахві
(Мозыр. пав). плятуць кошыкі з ракітавага караня.
З іншых хатніх рамёслаў трэба ўспомніць аб *шавецтве*
і *кравецтве*, пашыраных больш-менш усюдых, аб *гарбарстве*,
главуным чынам аб вырабцы кажухоў і аб прыгатаваньню *жорнаў*,
якое асабліва пошырана ў Аршанскім і Сеннінскім пав. Урэшце
ў Гомельскім і Чавусскім паветах пашырана *валеньне шапак*
*і вайлакоў*. Асабліва гэтае рамясло разьвіта ў мяст. Дрыбіне
(Чавусск. пав).

## Мескія рамясьнікі.

У нашых мястох і мястэчках значная частка жыхараў
займаецца рамёсламі. Сярод местачковых рамясьнікоў найбольш
шаўцоў, краўцоў, муляроў, кавалёў сталяроў і інш. Местачко-
выя рамясьнікі працуюць на ўсе акалічныя вёскі і двары, і ро-
бяць тавар на заказ.
У мястох апроч гэтых рамясьнікоў зьяўляецца шмат но-
вых прафэсый, вызваных патрэбамі мескіх жыхараў. Апроч
таго зьяўляецца шмат рамясьнікоў, якія ўжо працуюць не на
заказ, але для магазынаў і крамаў. Іхныя вырабы называюцца
звычайна *тандэтнымі*; яны бываюць звычайна ня вельмі тры-
валыя, за тое вельмі танныя і дзеля гэтага маюць самы
шырокі збыт.
Такога роду рамёслы найбольш разьвіты ў вялікіх мястох
У Вільні і Віцебску вельмі многа выпрабляецца гатовай адзежы.
Гэтак сама ў Вільні і яшчэ ў Менску выпрабляецца харошае тан-
дэгнае абуцьцё. Апроч таго ў Вільні некалькі сотняў рамясь-
нікоў займаецца абработкаю дарагіх скурак, якія закупляюцца
ў Расеі і навет у Нямеччыне і шыцьцём з іх футраў. Наколькі
разьвіты гэтыя рамёслы паказуе тое, што беларуская адзежа
і абуцьцё разыходзіліся па ўсёй даўнейшай Расеі.

## Хвабрычна-заводзкая прамысловасьць.

Хвабрык і заводаў на Беларусі мала, а якія і ёсьць, то най-
больш дробныя. У справе хвабрычна-заводзкай прамысловасьці
Беларусь вельмі адстала. Яна выпрабляла перад вайной усіх
хвабрычных прадуктаў ня больш як *на 150 міліёнаў рублёў*.
тым часам як Расейская толькі Польшча выпрабляла на 800
міліёнаў, а ў Маскоўшчыне толькі прамысловасць Падмаскоў-
скага району давала тавараў больш чым на міліярд рублёў.

У найбольш-жа разьвітай з прамысловага боку краіне—Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі тавараў вырабляецца на 30 міліардаў рублёў.

Такое палажэньне Беларусі тлумачыцца шмат якімі прычынамі. На Беларусі няма каменнага вугаля, ані зялеза. Істнуючыя хвабрыкі мусяць прывозіць сабе гэтыя два важнейшыя сырыя прадукты са стараны—з Польшчы, альбо з Данецкіх капальняў (на Украіне). Другая прычына—гэта палітыка расейскага ўраду, якая рознымі спосабамі памагала прамысловасьці ў Маскоўшчыне коштам іншых краёў даўнейшай Расеі. Дзякуючы гэтаму шырока разьвілася прамысловасьць каля Масквы і Петраграду.

З другога боку ў Польшчы, багатай каменным вугалём і блізкой да Нямеччыны, нямецкі найбольш капітал стварыў другі моцны цэнтр прамысловасьці ў Лодзі і Варшаве. На Беларусь-жа ня трапілі ні нямецкія капіталы, ні падмогі ўраду, а сваймі сіламі Беларусь змагла стварыць толькі тую прамысловасьць, якую цяпер мае.

Але беларуская прамысловасьць шыбка расьце. Напрыклад у Магілеўшчыне за 10 апошніх гадоў лік работнікаў павялічыўся на 1/3, а выраб тавараў падвоіўся. Трэба спадзявацца, што счасам, калі Беларусь стане на свае ногі і спрабуе выкарастаць усе свае прыродныя багацьці, прамысловасьць нашая дойдзе ня меншай ступені, як і ў іншых эўрапейскіх народаў.

У Беларусі, старане найбольш земляробскай, да таго яшчэ багатай лесам, найшырэй павінны былі-б разьвіцца тыя віды прамысловасьці, якія перарабляюць *прадукты гаспадаркі і дрэва.* Аднак і гэтыя віды прамысловасьці ня лішне ў нас разьвіты. Толькі бравароў у нас досіць многа.

**Бравары** гоняць спірт найбольш з бульбы. Бульба, як мы ведаем, любіць лёгкую зямлю. Вось дзеля чаго ў пескавым Палесьсі,—Прыпяцкім, Дняпроўскім і Бярэзінскім,—па дварох садзяць вельмі многа бульбы і амаль ня ў кожным двары ёсьць бровар. Бравары аднак не абыходзяцца сваёю толькі дворнаю бульбаю, а яшчэ скупляюць бульбу ад дробных гаспадароў з усёй ваколіцы. У глухім Палесьсі, дзе гаспадару, каб прадаць што, трэба цягціся за дзесяткі вёрст па дрэннай дарозе, аказуецца такім чынам вельмі выгадна для дробных гаспадароў садзіць бульбы як найбольш і прадаваць яе ў бравары.

Усяго ў беларускіх браварох выкуруецца каля *15-ці міліёнаў вёдраў гарэлкі.* З гэтага ліку на Беларусі зужываецца каля 6 міліёнаў вёдр., рэшта-ж вывозіцца ў Расею. Трэба сказаць, што Беларусь была амаль ня самым цьвярозым краем ува ўсёй даўнейшай Расеі, асабліва заходняя Беларусь. Толькі ў Смаленшчыне ужываецца гарэлкі толькі-ж, як і ў Маскоўшчыне.

У Горадзеншчыне і ў Віцебшчыне выганяюць шмат *піва,* дзеля чаго там сеюць больш ячменю. На ўсходзе Беларусі, дзе

шмат сеюць лёну і канапель часта спатыкаюцца маслабойныя
заводы **алеярні** (Смаленск, Гомель). Апроч таго ў розных мяй-
сцох спатыкаюцца *крахмальныя і дражджавыя* заводы. Апошнія
істнуюць найбольш пры броварох.

Па ўсёй Беларусі параскіданы *сыраварні*, найбольш пры
пактах у вялікіх дварох. Асабліва многа сыраварняў у Смален-
шчыне.

Апошнімі часамі адкрываецца ўсё больш *паравых млыноў*,
якія патроху выціскаюць звычайныя вясковыя вадзяныя млы-
ны і ветракі.

**Цукраварняў** цяпер пакуль што на Беларусі блізка што*)
няма, затое ёсьць хвабрыкі цукеркаў, шакаладу і іншых прысма-
каў; найбольшая з гэтых хвабрык—у Вільні.

У лясістых мясьцінах Беларусі досіць густа разсеяны не-
вялікія заводы *па перарабоцы дрэва* і іншых лясных прадуктаў—
**пільні, смалярні** і інш. Даўней з Беларусі вывозіўся толькі не-
пілаваны лес. Дзякуючы гэтаму паадкрывалася шмат пільняў у
Кіеве, Кацярынаславе, Рызе і г. д. Тады і нашыя лясныя ган-
дляры сталі рабіць пільні і цяпер ужо значная частка лясных
матар'ялаў з Беларусі ідзець пілаванаю. Заводаў гэтых яшчэ
аднак мала і на гэтым наш край шмат траціць.

Дагэтуль яшчэ шмат дрэва з Беларусі прадаецца за рубя-
жом на **паперныя хвабрыкі** і з яго вырабляецца папера, тым
часам у нас паперняў пакуль што толькі каля дзесятку.
Важнейшыя паперні знаходзяцца ў *Дабрушу* (Гомельскага па-
вету), *Чашніках* (Лепельскага павету) і ў *Нова-Вялейцы* (Вілен-
скага павету). Дабрушская хвабрыка выробляе найбольш паперы
і прытым лепшых сартоў. Па свайму ўстройству і па вялічыні
займае яна пачэснае мейсца паміж паперняў усяе Эўропы.
Паперу на ёй робяць лепшыя сарты—з анучаў, горшыя—з дрэва
і саломы, якія перарабляюцца ўперад на асобых заводах. Хваб-
рыка апрыч пары працуе яшчэ і вадой. Для гэтага выкарастана
аграмадная сіла р. Іпуці. На Дабрушскай хвабрыцы працуе каля
1500 работнікаў.

Найбольш дрэва ідзе на тыя хвабрыкі, дзе вырабляюцца
горшыя сарты паперы (на вокладкі, абіцьцё) і бібула. Такіх
хвабрык найбольш у Віцебшчыне.

Выраб **сярнічак** на Беларусі досіць разьвіты. Беларускімі
сярнічкамі карысталася амаль не палавіна даўнейшай Расеі.
Найбольш пашырана гэтая прамысловасць у Чарнігаўшчыне
(Сафіеўка, Злынка, Навазыбкаў і інш.), Меншчыне і ў Віцеб-
шчыне. Найбольшыя хвабрыкі сярнічак у Пінску, Барысаве,
Гомлю і інш. Прамысловасць гэтая вельмі хутка расьце. З кож-
ным годам адкрываюцца ўсе новыя і новыя хвабрыкі.

---

*) Есьць некалькі цукраварняў на самай паўднёвай мяжы Беларусі
ў Чарнігаўшчыне.

Ткацкія хвабрыкі гуртуюцца каля некалькіх цэнтраў: Беластоку, Клінцоў (Суражскага пав) і Ярцава (Духаўшчынскага пав). Найбольш разьвіта гэтая прамысловасьць у Беластоку і каля яго. Тамака працуюць найбольш хвабрыкі, што прадуць воўну і выробляюць сукно, корт і драп. Хвабрыкі гэтыя былі пазакладаны немцамі каля 1800 г., калі яны тамака гаспадарылі пасьля III падзелу Польшчы. Хаця па Тыльзіцкай згодзе Беласточчына і адыйшла да Расеі, аднак прамысловасьць разьвівалася далей дзякуючы блізкасьці мяжы і чужаземным капіталам. Беластоцкія хвабрыкі выробляюць найбольш танныя сарты сукна і драпу, а так сама корт. Шмат гэтых матар'ялаў ідзець на тандэтную адзежу.

Ткацтва разьвілося ня толькі ў самым Беластоку, але і ўва ўсіх яго ваколіцах. Па дробных мястэчках пад Беластокам пабудаваліся вялікія хвабрыкі з сотнямі работнікаў, а так сама шмат ёсьць і дробных рамясьнікоў-ткачоў, якія маюць у хаце варштаты. З гэтых мястэчак важнейшыя — *Заблудаў, Харошча, Супрасьль* і інш.

Беластоцкія хвабрыкі выробляюць у год тавараў больш як на 10 міліёнаў рублёў. На іх працуюць каля 10 тысяч работнікаў. Гэта самы важны цэнтр хвабрычнай прамысловасьці ў Беларусі.

Другім важным цэнтрам ткацтва трэба лічыць *Клінцы*, Суражскага пав. разам з яго прадмесьцямі—Стадоламі, Казённаю Туросьняю і іншымі. Тут істнуюць вялікія хвабрыкі, найбольш суконныя; яны выробляюць у год тавараў (сукна, драпу, коўдраў, ваты і інш). на 3½ міліоны рублёў пры 4000 работнікаў.

У *Ярцаве*, Духаўшчынскага пав. асобна стаіць вялізная ткацкая хвабрыка т. зв. Ярцаўская мануфактура. Тутака прадуць бавоўну і ткуць найбольш танныя паркалі. Усяго выробляе гэтая хвабрыка у год тавараў на 3 міліёны руб.; а на ёй працуюць больш 4000 работнікаў.

Трэба ўрэшце зьвярнуць увагу на адну невялікую хвабрыку сукна ў Парэччы (Пінск пав). На гэтай хвабрыцы выробляюцца добрыя гатункі сукна што году на 180 тысяч рублёў.

Ткацкая прамысловасьць найбольш разьвіта пры межах Беларусі, пераробляе глаўным чынам прывозныя прадукты (бавоўну, воўну) і патрымліваецца найбольш чужаземным капіталам. Аднак пры дагодных варунках у гэтых істнуючых ужо цэнтрах магла-б разьвіцца і пашырыцца буйная беларуская прамысловасьць.

Вельмі шкода, што ў нас блізка няма хвабрыкаў, якія выраблялі-б *льняныя* ткаціны з нашага-ж лёну, які мы ў аграмадным ліку вывозім за мяжу.

У большых гарадох Беларусі разьвіваюцца буйныя прамысловасьці *кравецкая, шавецкая* і інш. Апрача мэханічнага выробу ботаў, панчох і інш (Вільня, Менск), ёсьць шмат кантораў, якія раздаюць працу на дом сотням рамясьнікоў: шыцьцё

адзежы, хусьця, вобую, панчох. У Вільні ёсьць каля 60 кантораў, якія займаюцца толькі панчохамі (Вільня ў гэтай справе займае вельмі выдатнае месца).

Досіць часта ў мястох і мястэчках заходняе Беларусі сустракаюцца **хвабрыкі табакі**. Яны выпісуюць табаку са стараны, найбалей з паўдня, і пасьля мэханічнае і хымічнае перараробкі яе выпускаюць на рынак табаку да курэньня і нюханьня. У табачных хвабрыках працуе вельмі многа жонак і дзяцей. Найбольшыя хвабрыкі ў Гарадзеншчыне, у Пінску, Віцебску і г. д.

**Гарбарні.** Віднае месца ў беларускай прамысловасьці займаюць гарбарні — г. зн. заводы, на якіх выробляецца скура. Найбольш гарбарняў у Віленшчыне і ў Віцебшчыне. З гэтага боку асабліва адзначаюцца м. *Смаргоні* (Ашмянскага пав.), дзе ёсьць каля 20 гарбарняў, а так сама Вільня, Крынкі і Дзьвінск, Ашмяна, Магілёў, Падабранна (Гомельскага пав.) Клінцы, Беласточчына і інш.

Нашыя гарбарні найбалей зьяўляюцца невялічкімі заводамі. У адным Магілеве да 70 дробных гарбарняў. Яны даюць малы зыск, але харчуюць шмат работнікаў. Буйных гарбарняў мала. Найбольш іх у Вільні.

Гарбарчі выпісуюць сырую скуру здалёку з—Усходу, Каўказу і інш. Выробленыя тавары прадаюцца так сама найбольш у Маскоўшчыне. Устройства нашых гарбарняў ня лішне добрае і ім трудна бывае конкураваць з чужаземнымі гарбарнямі.

Ёсьць на Беларусі *мылаварні* і *заводы сьвечак*. Найбольш іх у Меншчыне.

**Хвабрыкі мінэральных вырабаў.** Пры большых мястох, якія з пашырэньнем сеткі чыгунак, з разьвіцьцём прамысловасьці і гандлю сталі моцна будавацца, павырастала шмат *цагельняў*. Шмат іх ёсьць пад Вільняю, Менскам, Смаленскам і інш. Гэтак сама каля мястоў, альбо чыгунак на лепшых глінах пабудаваліся *кахельныя заводы*. Найбольш іх (каля 15) ёсьць у м. Капысі (Гарэцкага пав.)

У лясістых пескавых мясцовасьцях досіць часта сустракаюцца *гуты—хвабрыкі шкла*. Прамысловасьць гэтая моцна разьвіваецца, бо для гэтага ў Беларусі ёсьць усе патрэбныя ўмовы. Найбольшыя гуты ў Талочыне (Аршанскі пав.), у Рослаўскім павеце, у Залесьсі (Вялейскага пав.) і інш.

**Мэталёвая прамысловасьць** ў нашым краю разьвіта вельмі слаба. Даўней у нас, асабліва у Віленшчыне, было некалькі зялезных заводаў, дзе з балотнае руды выплаўляўся чыгун. Цяпер гэтыя заводы пазакрываліся і ўся мэталёвая прамысловасьць працуе з прывазным матэр'ялам. Найбольш важным ёсьць тут *выраб гаспадарскіх машын і прыладаў*. Гэтыя вырабы разь-

віты каля Вільні і ў Віцебшчыне. Пад Вільняю ёсьць хвабрыка косаў (у Н-Вялейцы), а ў Віцебшчыне вырабляюць плугі.

Іншыя мэталёвыя хвабрыкі сустракаюцца прыпадкова ў розных мясцох. Гэтак пад Воршаю ёсьць вялікая хвабрыка цьвякоў, у Гомелі, Менску і інш.—хвабрыкі чыгуну і г. д.

Вельмі важнае значэньне ў Беларусі маюць усякага роду *чыгункавыя майстроўні*. Хаця яны па большай часьці толькі папраўляюць папсаваныя часьці ў паравозах, вагонах і інш., але займаюць значны лік работнікаў. Такія майстроўні ляжаць у большых чыгункавых вузлох—*Менску*, *Гомелі* і інш.

---

Хвабрычна—заводзкая прамысловасьць можа зьмяняцца вельмі моцна і ў кароткім часе ў залежнасьці ад усякіх прычынаў. Той агляд прамысловасьці, які тут даны, адносіцца да часу перад вайною. Вайна 1914 г. зрабіла вялікія ўплывы на нашую прамысловасьць. Некаторыя прамысловыя цэнтры, напр. Смаргонь, навет зусім развалены. Пасьля вайны, калі ўсё прыдзе да нармальнага стану, ведама, нашая прамысловасьць будзе йначай выглядаць, чымся ўпярод. Але аб гэтым трудна ўгадаваць.

## Адходныя промыслы і эміграцыя.

З прычыны малога разьвіцьця прамысловасьці ў Беларусі, малазямельнасьці, нізкое ўраджайнасьці зямлі і няўменьня на ёй гаспадарыць значная частка насяленьня Беларусі змушана шукаць заробкаў на старане, а часамі і зусім выяжджаць з роднага краю ў чужыну.

За апошнія гады вельмі многа стала выяжджаць на заробкі *у Паўночную Амэрыку*, асабліва з Заходняе Беларусі: з Горадзеншчыны, Віленшчыны. Лепшых і здаравейшых работнікаў цягнула туды высокая плата за працу. Значная частка зарабляных грошай перасылалася ў бацькаўшчыну. Толькі малая частка выехаўшых заставалася ў Амэрыцы на заўсёды, большая-ж частка іх варочалася назад, за зароблечыя грошы купляла зямлю і садзілася на гаспадарку.

З усходняе Беларусі—з Чарнігаўшчыны, з паўднёвае Смаленшчыны, з Клімавіцкага, Чэрыкаўскага, Мсьціслаўскага пав. вельмі многа выяжджае на работу *у Данецкія капальні* (на Украіне). Заробкі там так сама досіць высокія, але варункі працы надта цяжкія і нездаровыя. Асабліва шмат выяжджала з Навазыбкаўскага, Суражскага, Клімавіцкага пав. З Навазыбкаўскага павету выяжджала на заробкі ад $^1/_4$ да $^1/_2$ усяго дарослага насяленьня.

З паўднёвых частак Беларусі шмат хто выяжджае на летнія заробкі *у чарназёмныя стэпы*, на Украіну, Дон, Кубань.

Урэшце з усіх частак Беларусі выяжджала шмат народу на працу ў *большыя месты Расеі*—Петраград, Маскву, Адэсу і

г. д. Шмат хто з выехаўшых у Расею заставаўся там на заўсёды. Гэткім парадкам у гэтых мястох стварылася досіць вялікае беларускае насяленьне. Хаця акуратных падрахункаў не рабілася, але можна лічыць, што ў некаторых з гэтых мест лік беларусоў даходзіў да 100.000 і балей. Да таго-ж трэба сказаць, што выяжджалі на чужыну лепшыя працаўнікі, шмат выяжджала і інтэлігэнцыі.

Апроч таго шмат беларускіх земляробаў выехала ў *Сыбір*. Лічаць, што ў Сыбіру беларусоў павінна быць каля 700.000 чалавек Хаця яны разсыпаліся па ўсім Сыбіру, але найбольш іх жыве ў Енісэйскай губ—у Канскім, Ачынскім і Краснаярскім паветах. У першым з гэтых паветаў беларусы складаюць 1/3 частку ўсяго насяленьня. Так сама шмат беларусоў жыве ў Уссурыйскім краі, у Табольскай і Томскай губ. У Сыбіру беларусы выбіраюць мяйсцы, якія прыпамінаюць ім пакінутую Бацькаўшчыну. Найбольш селяцца яны ў мяйсцох лясістых, ля вады.

## Гандаль.

Значная частка мескіх і местачковых жыхараў займаецца гандлем. Найбольш гандлем займаюцца жыды, а гэта з тае прычыны, што ім закрыты былі палітыкай расейскага ўраду іншыя дарогі. Жыд ня мог набываць зямлі, ня мог служыць чыноўнікам. Аставалася яму заняцца гандлем і промыслам. І вось у нас, у Беларусі, дзе жыдом было дазволена жыць (у Маскоўшчыне жыдом расейскі ўрад не дазваляў жыць) стварылася дзеля гэтага вялікая кляса людзей, якія займаюцца гандлем. Чым балей гандляроў, тым большая паміж іх конкурэнцыя, а чым большая конкурэнцыя, тым пакупцы дастаюць лепшы тавар і таней. Вось-жа ў Беларусі, дзякуючы значнай лічбе гандляроў і іхнай конкурэнцыі гандаль стаіць досіць добра.

Памагае гэтаму і само географічнае палажэньне Беларусі а так сама і досіць значнае разьвіцьцё ўсякіх дарог. Гэтыя прычыны ўжо з даўных часоў далі магчымасьць разьвіцца ў Беларусі шырокаму гандлю.

Яшчэ ў часы дагістарычныя цераз Беларусь ішлі важнейшыя гандлёвыя дарогі і ў беларускіх мястох ішоў бойкі торг і менка тавараў з усяго тадышняга сьвету. Найбольш ходкімі таварамі былі *бурштын*, які знаходзілі на берагох Балтыцкага мора. Так сама ішлі і іншыя тавары — скура, мёд, воск, віны, тканіны, хлеб і інш. Усімі гэтымі таварамі і таргавалі нашыя продкі і для гэтай мэты мусіць наўпярод і пазакладаліся старыя беларускія месты — Менск, Полацак, Віцебск, Смаленск, Горадзен, Тураў, Пінск і інш. Некаторыя месты — напрыклад Менск, навет самае імя сваё дасталі, відаць ад галоўнага занятку сваіх жыхараў — гандлю, *мены*. Месты гэтыя ляжаць найбольш у тых мяйсцох, дзе гандляры перацягавалі свае тавары з аднае ракі ў другую, калі па першай нельга было ехаць.

Пастаянныя войны, якія адбываліся соткі гадоў на Беларускай зямлі, зруйнавалі нашыя месты. Даўнейшыя беларускія гандляры зьбяднелі і сталі займацца іншымі заняткамі. Да таго-ж у тыя часы (у Сярэднія Вякі) занятак гандлям лічыўся для шляхціца, напрыклад, паніжаючым яго годнасьць. Вось як раз тады за гандаль у нас бяруцца жыды, пакрысе арганізуюць яго і займаюць усяго цалiком у свае рукі.

За мяжу Беларусь, як ужо можна было бачыць з апісаньня гаспадаркі і промыслаў, вывозіць найбольш *лес і лясныя матэр'ялы*, а так сама *лён*, *пяньку*, *садовіну*, *сьпірытус*, *сярнічкі* і інш. Увозіцца найбольш *пшоннае* мукі і усялякага *збожжа*, а так сама ўвозяцца *каменны вугаль*, *газа*, *цукар*, *усялякія мэталі* і *мэталёвыя вырабы*, *штучныя гнаі* (парашкі), красныя тавары і галянтэрыя і інш. Акуратнага падрахунку заграмічнага гандлю Беларусі яшчэ ня зроблена.

Галоўнымі тарговымі цэнтрамі, мяйсцамі гуртоўнага гандлю і складаў ёсьць месты: *Вільня*, *Менск*, *Віцебск*, *Беласток*, *Гомель Дзьвінск*, *Пінск*. З гэтых цэнтраў разыходзяцца тавары па дробных мястэчках, аткуль іх і дастае насяленьне.

Найбольшаю перашкодаю для гандлю як і для прамысловасьці ёсьць недахват буйнога капіталу. За тое дробныя капіталы, якія ў Беларусі ёсьць, зварочуюцца скора і значыцца даюць добры зыск. Гэта паказуе, што старана нашая ў гандлёвых адносінах стаіць высака.

Добрая пастаноўка прыватнага гандлю доўга перашкаджала разьвіцца ў Беларусі *коопэрацыі*. Толькі за апошнія гады перш-на-перш пад уплывам палітычных абставін, коопэрацыя стала вельмі моцна разьвівацца, ўсё больш і больш выціскаючы прыватных гандляроў.

# Дарогі.

Беларусь мае густую сетку прыродных дарог. Яна ўся зрэзана рэкамі, якіх вытокі ляжаць недалёка адзін ад аднаго, а да таго-ж яшчэ і не раздзелены высокімі гарамі. Дзеля гэтага няма вялікіх перашкод, каб правесьці злучаючыя каналы. Гэтыя каналы і праведзены — імі злучаюцца рэкі, што цякуць у Чорнае мора з тымі, што цякуць у Балтыцкае мора.

Апроч водных дарог у Беларусі, асабліва Заходняй, разьвіта досіць густая сетка чыгунак і шосаў. Хаця гэтыя дарогі будаваліся найбольш дзеля ваенных мэтаў, аднак яны маюць і вялізазнае эканаміцкае значэньне.

Дарогі Беларусі маюць і вялікае паміжнароднае значэньне. *Беларусь ляжыць як раз на вузьле ўсіх галоўных дарог, якія йдуць з Украіны і Маскоўшчыны ў Заходнюю Эўропу*. Ведама, што і для Украіны і для Маскоўшчыны надзвычайна важна, ці гэтая іхная брама ў Эўропу будзе адчынена, ці не.

# Чыгункі.

Найважнейшае значэньне маюць тыя чыгункі, якія йдуць да марскіх партоў. Важнейшая з іх гэта — *Лібава-Роменская*, па якой ідзець украінскае збожжа ў Лібаву і *Рыга-Арлоўская*, якой злучаюцца чарназёмныя краі Маскоўшчыны з Рыжскім портам, а так сама *Маскоўска-Віндаўская*—гэта карацейшая дарога ад Масквы да мора. Лібава-Роменская дарога ідзець цераз важнейшая беларускія месты Вільню, Менск, Гомель. Рыга-Арлоўская йдзець па паўночнай Беларусі цераз Смаленск, Віцебск Полацак і Дзьвінск. Урэшце Маскоўска-Віндаўская йдзець па паўночнай мяжы Беларусі.

Некалькі дарог ідуць у кірунку на Варшаву. Яны створаны па большай часьці для стратэгічных мэтаў, але так сама і для падвозаў грузаў да граніцы з Нямеччынай і абслужаваньня прамысловасьці польскага краю. Гэта лінія Паўночна-Заходняя, лінія з Полацку на Седлец, Маскоўска-Берасьцейская і Палеская (лінія Бярэсьце-Бранск).

*Паўночна-Заходняя* ідзець каля заходняе мяжы Беларусі і злучаець месты Вільню, Горадзен, Беласток, Дзьвінск. Гэта найстарэйшая з усіх чыгунак Беларусі.

Лінія *Полацак-Седлец* адкрыта нядаўна; яна праходзіць па Заходняй Беларусі, палягчаючы комунікацыю найбольш разьвітае з эканаміцкага боку часткаю краю. Яна ідзець праз месты: Ваўкавыск, Ліду, Маладэчына, Вялейку, Полацак і Невель.

*Маскоўска-Берасьцейская* мае найбольш палітычнае і ваеннае значэньне. Яна злучае цэнтр Маскоўшчыны з цэнтрам Польшчы — Варшавай і праходзіць цераз самую сярэдзіну Беларусі. На ёй стаяць месты: Смаленск, Воршо, Барысаў Менск, Берасьце.

Лінія *Берасьце-Бранск* пралажана праз самую глухую сярэдзіну Палесься, праз непраходныя лясы і балоты; лінія гэтая, апрача стратэгічнага, мае аграмаднае эканаміцкае значэньне, злучаючы са сьветам бязьмежныя прасторы Палесься і Беларускага Лесастэну.

Яна йдзе праз Пінск, Мозыр, Рэчыцу, Гомель і Навазыбкаў.

З Кіева і Заходняй Украіны йдуць праз Беларусь тры лініі: 1) *Карасьцень-Жлобін-Петроград*, 2) *Вільня-Роўна* і 3) *Ковель-Граева*. Першая лінія праходзіць цераз Віцебск, Воршу, Магілеў і Рагачоў. Нядаўна яна прадоўжана далей (на Мозыр і Карасьцень) і цяпер праразае глухую краіну Цэнтральнага Палесься. Перасекшы сярэдзіну Магілеўшчыны, яна ацрадзіла ў гэтым краю эканаміцкае жыцьцё: гарады сталі хутка расьці, разьвіўся гандаль і прамысловасьць.

Лінія Вільня-Роўна і Ковель-Граева маюць аграмаднае эканамічнае значэньне — гэта найбольшыя і найвыгаднейшыя шляхі з хлебароднае Украіны — ў Нямеччыну і да Балтыцкіх партоў. Першая лінія ідзець праз Лунінец, Баранавічы, Ліду

і Вільню, а другая — праз Берасьце, Бельск і Беласток — каля нашае мяжы з Польшчаю.

Апроч гэтых галаўнейшых шлях ў, ёсьць яшчэ некалькі меншых, маючых больш мяйсцовае значэньне. Так для Горадзеншчыны важная — лінія *Беласток-Баранавічы* і так сама лінія *Горадзен-Сувалкі-Марграбова*, якая йдзець проста да нямецкага рубяжу; для паўночнай Віленшчыны лінія *Сьвянцяны-Беразьвеч* (вузкакалейная), для Случчыны—лінія *Асіпавічы-Слуцак* і г. д.

З правядзеньнем чыгункі жыцьцё мяйсцовасьці рэзка зьмяняецца. Моцна ажыўляецца гандаль, людзкі рух, зьяўляюцца ў глушы новыя людзі, будуюцца пры станцыях новыя гарады і мястэчкі і патроху гінуць усе акалічныя лясы на некалькі дзесяткаў вёрст ад лініі. Горад цераз які прайшла чыгунка адразу пачынае моцна расьці і багацець. Найбольшыя гарады Беларусі як раз ляжаць на крыжаваньню некалькіх дарогаў.

Цікава гісторыя некаторых новых гарадоў, павырастаўшых пры станцыях. 50 гадоў назад *Баранавічы* былі маленькаю вёскаю. Цераз іх прайшла тады Маскоўска-Берасьцейская дарога і была набудавана станцыя. Праз гадоў дваццаць цераз Баранавічы перайшла другая дарога. а пасьля і трэйцяя. Баранавічы пачалі моцна расьці. Цяпер яны маюць каля 30 тысяч жыхараў. Такіх зялезнадарожных местаў ёсьць яшчэ некалькі— *Лунінец*, *Маладэчна*, *Жлобін*, *Асіпавічы*, *Новая-Вялейка* і інш.

## Шосы.

Важнейшыя шосы —*Маскоўска-Варшаўская* і *Петраграда-Кіеўская*. Першая перасякае Беларусь з усходу на захад і йдзе цераз Рослаў-Чэрыкаў-Бабруйск-Слуцак і Берасьце. Яна праходзіць цераз шмат глухіх закуткаў Беларусі і зьяўляецца там, —



**Карчма пры гасьцінцы.**

напрыклад у Чэрыкаўскім павеце, адзіным лепшым спосабом комунікацыі.

Петраграда—Кіеўская шоса йдзець найбольш каля зялезных і водных шляхоў і дзеля таго мае меншае значэньне для Беларусі. Яна йдзе праз Невель, Віцебск, Воршу, Магілеў і Гомель.



**Палявая дарога.**

*Найбольш шосаў у Горадзеншчыне*, дзе яны пабудованы дзеля ваенных мэтаў. Тым часам ад іх вялікая карысьць і для гаспадарскага жыцьця краю.

Па заходняй Горадзеншчыне і Сувальшчыне ідзе ў розных кірунках больш дзесятка шосаў. Ад аднаго Беластоку шосы разыходзяцца ў 7-х кірунках. Найменш шосаў у Віленшчыне.

## Гасьцінцы.

Па ўсёй Беларусі йдуць, злучаючы гарады між сабою, даўнейшыя пачтовыя дарогі — *гасьцінцы*. Яны па большай часьці досіць выгадны для руху, маюць значную шырыню, добра ўтрыманы. Гасьцінцы з бакоў звычайна абсаджаны бярозамі. Гэтыя безканечныя прысады са старых бяроз робяць вельмі прыемнае ўражаньне на падарожных. Ды і папраўдзе яны шмат упякняюць гасьцінец і робяць яго выгаднейшым.

## Вадзяныя дарогі.

Аб прыродных вадзяных дарогах мы ўжо казалі. Беларусь мае густую сетку судаходных рэкаў. Праўда, частка іх закінута, неагледжана і дзеля гэтага гэтымі воднымі дарогамі карыстацца няма як. Але пры пэўным клопаце і затратах, число судаходных рэкаў шмат павялічалася-б.

### Штучныя вадзяныя дарогі.

Галаўнейшых судаходных каналаў у Беларусі—чатыры— Бярэзінскі, Агінскі, Аўгустоўскі і Каралеўскі.

**Бярэзінскі канал** злучае Бярэзіну з Дзьвіною. Ен ідзе праз рэчкі Сергуч (прыток Бярэзіны), возера Манец, якое злучана каналом з воз. Бярэшта. З возера-ж Бярэшта выплывае рэчка Бярэшта, прыток Ессы. Есса ўпадае ў Лепельскае возера, а з гэтага возера выплывае Улла—прыток Дзьвіны.

Бярэзінскі канал выкапаны быў у 1805 г. Упярод ён быў судаходны. Пасьля рэкі і возеры абмялелі і цяпер па ім толькі сплаўляюць лес.

**Агінскі канал** злучае Ясельду (прыток Прыпяці) з Шчараю. Даўжыня яго каля 50 вёрст. Канал ідзе па балоцістых прасторах і праходзіць церав два возеры—Выганаўскае воз. і воз. Вульку. Выкапаны ён яшчэ ў XVIII веку. Найбалей служыць канал для сплаву, але перацягуюць па ім і баркі на лінах.

**Аўгустоўскі канал** злучае Віслу з Нёмнам церав р. Бабёр (прыток Нарві), Нэтту (прыток Бабра) і Чорную Ганжу (прыток Нёмна). Большая часьць каналу ідзець недалёка ад мяжы Беларусі. Рух на канале малы, бо ў ім мала вады.

**Каралеўскі канал** злучае Піну (прыток Ясельды) з Мухаўцом (прыток Бугу). Гэта найбольшы з каналаў Беларусі. Ен мае ўдаўжкі 75 в. Пракапаны ён яшчэ ў XVIII веку. У 1840 гаду ён быў паглыблены. Канал гэты мае вялікае значэньне, злучаючы Дняпро з Віслаю. Па ім ідзе лясны тавар, а так сама і хлеб з Украіны ў порт Гданск, што ляжыць на Балтыцкім моры пры ўтоку Віслы.

Усе гэтыя чатыры каналы злучаюць Чорнае мора з Балтыцкім. Ня гледзячы на такое сваё важнае значэньне, даглядаюцца яны вельмі блага і цяпер у поўным упадку.

Даўно ўжо зьявілася думка аб тым, каб каторы з гэтых каналаў, а так сама і рэкі ім злучаныя, моцна паглыбіць і разчысьціць.

Калі-б гэтак сталася, на нашай зямлі йзноў, як у даўнейшыя часы, прайшла-бы вялікая гандлёвая дарога, злучаючая Усход Эўропы з яе Захадам. Пэўне што на гэтым вельмі многа выйгралі-б узьбярэжныя месты і ўся Беларусь.

# Мора.

Марскія дарогі, як ведама, найвыгаднейшыя і найтанейшыя. Беларусь ляжыць паміж двох мораў—Балтыцкага і Чорнага, пры гэтым да першага значна бліжэй, чымся да другога. Але нідзе беларуская зямля да самага берагу мора не даходзіць. Дзеля гэтага мусіць наш гандаль карыстацца марскімі партамі, якія ляжаць на чужой зямлі.

З партоў *Балтыцкага мора* найбольшае значэньне для Беларусі маюць: *Рыга*, *Лібава*, *Клайпеда* і *Кёнігсбэрг* (Каралевец).

**Рыга** ляжыць *ля Рыжскае затокі* пры ўтоку ракі *Дзьвіны*, якая ў сваім верхнім і сярэднім цячэньні абвадняе паўночную Беларусь. Бярэзінскім-жа каналам злучана Дзьвіна з Дняпром. Такім парадкам *уся паўночна-ўсходняя Беларусь*—прымерна на ўсход ад р. Бярэзіны *цягне да Рыжскага порту*. Чыгункі так сама злучаюць Рыгу найпрасьцей з поўначай і ўсходам Беларусі. Тым часам, з Заходняй Беларусяй зьвязь не такая моцная. Цераз Рыжскі порт вывозіцца шмат *лесу*, *лёну* і *пянькі* з *Беларусі*, а так сама збожжа з паўднёвае Маскоўшчыны.

На жаль Рыжскі порт вельмі доўга (кала 4 месяцаў) узімку бывае замерзшы.

Значэньне Рыжскага порту, як мы бачым, для Беларусі надта вялікае. Яно яшчэ пабольшала-б, калі-б нашыя вадзяныя дарогі былі расчышчанымі і каб судаходзтва па іх ня мела толькі перашкодаў. Асабліва паднялося-б значэньне Рыгі пры правядзеньні вялікага Чорнаморска-Балтыцкага каналу, аб якім казана вышэй.

**Лібава** зьвязана *з цэнтрам Беларусі* старой чыгункавай лініяй (*Лібава-Роменская*). Лібава мае блізка што *незамярзаючы* і вельмі выгодны і добра ўстроены порт. Дзеля гэтага мела яна дагэтуль вельмі важнае значэньне для беларускага гандлю. Асабліва гэтае значэньне павялічылася тым, што порты ляжачыя далей на паўдня былі адрэзаны ад Беларусі Нямецка-Расейскай мяжой. Шмат ідзе цераз Лібаву і украінскага збожжа.

Рыга і Лібава ляжаць на латышскай зямлі.

**Кёнігсбэргскі** порт (*Піллау*)—найбліжэйшы з узіх марскіх партоў да Беларускае зямлі ляжыць у Нямеччыне, пры ўтоку р. Прэгалы. Некалькі ліняў чыгункі зьвязуе яго з беларускімі местамі (*Беластокам*, *Горадном*) безпасярэдна, а лінія Коўна-Кёнігсбэрг, якая йдзе цераз Літоўскую зямлю, зьвязуе яго з Вільняю. Апроч таго р. Прэгалу лёгка можна было-б злучыць каналам з Нёмнам.

Кёнігсбэрг з даўных часоў вёў шырокі гандаль з Беларусяй. І дагэтуль праз яго вывозіцца шмат беларускае пянькі, лёну і г. д.

Урэшце для паўднёвае і заходняе Беларусі можа мець нейкас значэньне і *Гданскі порт*, што ляжыць пры ўтоку Віслы. *Рэкі сыстэмы* Віслы — Буг, Нарэў і Бобр абвадняюць заходнюю Беларусь, а Каралеўскі канал зьвязуе з Віслаю паўднёвае Палесьсе.

З партоў **Чорнага мора** пэўнае значэньне могуць для нас мець *Херсон*, што ляжыць пры ўтоку Дняпра (цераз яго йдзе шмат лесу з Беларусі) і суседнія парты—*Адэса*, *Мікалаеў* і г. д. Аднак усе яны ляжаць занадта далёка ад Беларусі. Належаць яны да Украіны.

Нямаючы сваіх марскіх партоў, Беларусь мусіць неяк умовіцца з сваімі заходнімі суседзямі, каб карыстацца іхнімі партамі і каб забяспечыць беларускаму гандлю дарогу на шырокі сьвет.

---

## Дзяленьня Беларусі на краіны.

Мы ўжо шмат чаго даведаліся аб розных бакох жыцьця і становішча Беларусі, аб яе адзнаках: аб паверхні Беларусі, яе расьціннасьці, яе гаспадарцы. Але ўсё гэтае, узятае паасобку—і горы, і рэкі, і гаспадарка і г. д. ёсць толькі як бы асобнымі штрыхамі вялікага вобраза, якім ёсць край і яго жыцьцё. Нам-жа трэба сабе гэты абраз так пазнаць, як ён ёсьць папраўдзе,—адразу з усімі яго хварбамі і адзнакамі. Для гэтага разгледзім усе бакі жыцьця краю, ўсе яго адзнакі *адразу*.

Зрабіць гэта ня так лёгка. Занадта многа будзе гэтых штрыхоў і няма яшчэ ў іх акуратнага парадку. Калі трудна пазнаць увесь край у суцэльнасьці адразу, дык ці ня можам мы ўперад у суцэльнасьці-ж пазнаць асобыя паветы, краіны і г. д.?

Чым дэталічней хочам мы пазнаць край, тым на меншыя абшары павінны мы яго разьдзяліць, каб пасьля кожан такі абшар разглядаць асобна.

У гэтай кнізе далей мы будзем разглядаць асобна *паветы*, ня дзелючы ўжо іх на меншыя раёны.

Паветаў у Беларусі ёсьць каля 65. Калі мы іх будзем разглядаць уважней, пабачым, што часта суседнія паветы вельмі адзін да аднаго пацобны. Паўстае пытаньне, ці не маглі-б мы разглядаць *па некалькі сумежных паветаў разам, злучыўшы іх у адну краіну?* Гэтак нам і трэба зрабіць.

Разгледзіўшы кожны павет з усіх бакоў, пазнаўшы яго ў суцэльнасьці, мы захочам так сама ў суцэльнасьці пазнаць *усю Беларусь*, як мы знаем яе асобныя паветы.

Шмат лягчэй будзе нам сабе прадставіць усю Беларусь, калі мы гэтыя 65 паветаў пакладаем у групы—**краіны**.

Паветы, злучаныя ў краіну маюць шмат у сабе падобнага. Але ў чым, у якой адзнацы для нас ёсьць найважнейшая гэтая падобнасць? Па якіх адзнаках будзем мы злучаць, альбо ня злучаць паміж сабою паветы ў краіны?

Беларусь—край гаспадарскі, а мы ўжо ведаем, што гаспадарка вельмі зьвязана са шчыльнасьцю або гушчынёю насяленьня. Адзнака гэтая—*гушчыня насяленьня*—ўсюдых добра вымерана, людзі палічаны і так сама прастор зямлі. Вось-жа гэтую адзнаку—*гушчыню насяленьня мы прымем за адну з важнейтых*. Гушчыню насяленьня павету мы будзем лічыць як бы выкінуўшы паветавае места, дзеля таго, што ў месьце народ, ведама, жыве надта густа, а на гаспадарку гэта не заўсёды моцна ўплывае. Дзеля гэтага мы будзем разглядаць *гушчыню сельскага насяленьня*.

На гаспадарку апроч жыхараў, іх гушчыні ўплывае *прырода*—грунты, клімат і г. д. Але наймацней прырода залежыць ад паверхні краіны і яе падняцьця над роўняй мора. Адну прыроду маюць узгор'і, другую нізіны. Дзеля таго *ўстройства паверхні* мы прымем за *другую важнейшую* адзнаку.

Абраз краіны стварыла прырода яе і яе насяленьне. Дзейнасць насяленьня цягнецца вось ужо праз тысячы гадоў і ёсьць вельмі рознароднаю. Не заўсёды ззможам мы паводлуг аднае толькі гушчыні насяленьня злучыць раам тыя паветы, якія прыродна паміж сабою злучаны ў жыцьці. Дзеля таго павінны мы зьвярнуць увагу на *эканамічныя звязкі* (напрыклад гандлёвыя) асобных паветаў, на іхныя *зьвязкі ў мінуўшчыне*, на *звычаі іхнае гаспадаркі* і г. д.

Урэшце і палітычная зьвязь накладае часамі моцныя сваe знакі на край. Ня шкодзіць, бывае другі раз, прыняць пад увагу, прыкладам, *палітычныя межы краю—у мінуўшчыне*.

---

Возьмем-жа мы карту Беларусі і панадпісуем на кожным павеце, якая там ёсьць гушчыня насяленьня. А каб лягчэй было нам разгледзіцца ў гэтых цыфрах замалюем паветы хварбамі такім спосабам, прыкладам, каб там, дзе найгусьцей насяленьня жыве, была і хварба найгусьцей палажана.

Гляньма цяпер на карту. У некалькі яе мяйсцох хварба ляжыць найгусьцей. Возьмем такі найгусьцейшы павет, прыкладам Навагрудзкі і палядзём, якія паветы да яго падобны, якія не.

Возьмем з другога боку павет з найбольш рэдкім насяленьнем—Мозырскі. Калі Навагрудзкі будзе асяродкам аднае краіны,—найгусьцейшае, Мозырскі будзе асяродкам найрадзейшае. Паміж гэтых двох паветаў ляжыць пав. Слуцкі. Куды яго аднесьці?

Па гушчыні ён займае як раз блізу сярэдзіну пяміж Навагрудзкім і Мозырскім. І мы ведаем, што, і папраўдзе, яго заходняя і паўночная часткі зусім падобны да Навагрудзкага пав.

гэта край земляробскі, ляжыць на узгор'і; а паўднёвая частка—ёсьць такім самым Палесьсем, як і Мозырскі павет.

Але паветаў мы пастанавілі не дзяліць. Значыцца трэба яго туды ці сюды аднесьці. Прыймаючы пад увагу, што большая частка павету і па паверхні, і па грунтох, і па сваіх зьвязках эканаміцкіх цягне да Навагрудчыны, мы Слуцкі павет злучаем з Навагрудзкім.

Такім самым спосабам ідучы, зьвяжам з Мозырскім паветам рад падобных да яго паветаў Палесься, а з Навагрудзкім—паветы ляжачыя на узгор'ях.

Калі мы ўважней прыгледзімся да некаторых такіх групаў паветаў, мы пабачым, што такую напр. Палескую, рэдка залюдненую групу варта разьдзяляць, бо Барысаўскі павет па сваёй прыродзе досіць мала падобны да Мозырскага, хаця заселены так сама рэдка. Мы зьвяжам Барысаўскі павет з Ігуменскім і назавём гэтую краіну *Верхне-Бярэзінскім Палесьсем* (бо ляжыць ля верхняе р. Бярэзіны), а краіну зложаную з Мозырскаго, Рэчыцкага і Бабруйскага пав. дзеля вялізазнаго прастору можам назваць напр. *Вялікай Палескай нізінаю*.

Прыняўшы пад увагу ўсё толькі—што сказанае, мы дзелім Беларусь на 14 краінаў. Вось іхныя назовы:

1. **Полацкае Наддзьвіньне,**
2. **Віленскі край,**
3. **Краіна Менскага Узгор'я,**
4. **Наднёманскі край (Горадзеншчына),**
5. **Надбужанскі край (Падлясьсе).**
6. **Піншчына.**
7. **Вялікая Палеская Нізіна,**
8. **Беларускі Лесастэп (Чарнігаўшчына).**
9. **Радань (Паўднёвая Магілеўшчына).**
10. **Верхне-Бярэзінская краіна.**
11. **Мсьціслаўшчына,**
12. **Аршанская Краіна (Паўночная Магілеўшчына).**
13. **Краіна Задзьвінскіх Узгор'яў (Віцебшчына)** і
14. **Смаленшчына.**

Разглядаючы ўважна карту Беларусі, падзелянае на гэтыя раіоны, мы можам зрабіць такі вывад.

*Паўднёвы край* Беларусі і яе *Цэнтр* займаюць *краіны нізінныя*, у большай часьці рэдка залюдненыя і лясістыя—6) Піншчына, 7) Вялікая Палеская Нізіна, 8) Лесастэп, 9) Радань і 10) Верхне-Бярэзінская Краіна. Гэта **пояс нізінаў**. Ён дзеліць пояс узгор'яў, што аблягае яго з трох бакоў—з усходу. захаду і паўночы, на **Пояс Заходніх Узгор'яў** у якім ляжаць першыя пяць краінаў і **Пояс Усходніх Узгор'яў**, у якім ляжаць чатыры апошнія краіны.

# Паветы Беларусі,

## іх раьдзел паміж краінамі, іхная шчыльнасьць насяленьня і лясістасьць.

| Паясы, краіны і паветы. | Шчыльнасьць вясковага насяленьня *) | °/₀ прастораў занятых лесам. **) |
|---|---|---|
| **Пояс заходніх Узгор'яў.** | | |
| **I. Полацкае Наддзьвіньне.** | **37** | **30** |
| Полацкі павет . . . | 29 | 37 |
| Лепельскі " . . . | 45 | 23 |
| Дрысьсенскі пав. . . | 36 | 34 |
| Дзісьненскі " . . | 39 | 25 |
| Ілукштанскі " . . | — | — |
| Брацлаўскі (Ново-Александраўскі пав). | — | — |
| **II. Віленскі край . . . .** | **37** | **28** |
| Віленскі павет . . . | 36 | 27 |
| Троцкі " . . . | — | — |
| Сьвянцянскі пав. . . | 37 | 24 |
| Ашмянскі " . . | 37 | 32 |
| Вялейскі " . . | 36 | 28 |
| **III. Краіна Менскага Узгор'я** | **43** | **29** |
| Менскі павет . . . | 41 | 29 |
| Слуцкі " . . . | 35 | 32 |
| Навагрудзкі пав. . . | 53 | 27 |
| **IV. Наднёманскі Край . . (Горадзеншчына).** | **38** | **26** |
| Горадзенскі павет | 42 | 23 |
| Лідзкі " . | 40 | 29 |
| Слонімскі " . | 34 | 28 |
| Ваўкавыскі " . | 41 | 21 |
| Сакольскі " . | 38 | 20 |
| Аўгустоўскі " . | 35 | 30 |
| Пружанскі " . | 36 | 34 |
| **V. Надбужанскі край . . (Падлясьсе).** | **48** | **21** |
| Беластоцкі павет . . | 53 | 21 |
| Бельскі " . . | 47 | 18 |
| Берасьцейскі " . . | 43 | 23 |

| Паясы, краіны і паветы. | Шчыльнасьць вясковага насяленьня. | °/₀ прастораў занятых лесам. |
|---|---|---|
| **Пояс Нізінаў** | | |
| **VI. Піншчына . . . . .** | **28** | **25** |
| Пінскі павет . . . | 19 | 34 |
| Кобрыньскі пав. . . | 38 | 17 |
| **VII. Вялікая Палеская Нізіна** | **17** | **44** |
| Мозырскі павет . . . | 12 | 40 |
| Рэчыцкі " . . . | 19 | 44 |
| Бабруйскі " . . . | 20 | 47 |
| **VIII. Верхне-Бярэзінская Краіна . . . . .** | **25** | **47** |
| Ігуменьскі пав. . . . | 26 | 46 |
| Барысаўскі " . . . | 25 | 48 |
| **IX. Беларускі Лесастэп . .** | **44** | **23** |
| Гомельскі пав. . . . | 41 | 25 |
| Навазыбкаўскі пав. . | 47 | 20 |
| Суражскі " . | 51 | 22 |
| Старадубскі " . | 45 | 20 |
| Мглінскі " . | 40 | 24 |
| Трубчаўскі " . | — | — |
| Бранскі " . | — | — |
| Гарадняпскі " . | 43 | 26 |
| **X. Радань (Паўднёвая Магілеўшчына) . .** | **34** | **40** |
| Рослаўскі пав. . . . | 31 | 42 |
| Клімавіцкі " . . . | 38 | 41 |
| Чэрыкаўскі " . . . | 36 | 40 |
| Быхаўскі " . . . | 29 | 40 |
| Рагачоўскі " . . . | 34 | 36 |
| **Пояс усходніх Узгор'яў.** | | |
| **XI. Мсьціслаўшчына . . .** | **42** | **37** |
| Мсьціслаўскі пав. . . | 43 | 39 |
| Чаўскі " . . | 38 | 42 |
| Гарэцкі " . . | 46 | 35 |
| Красенскі " . . | 42 | 31 |

| Паясы, краіны і паветы. | Шчыльнасць вясковага насяленьня. | % прасторы занятых лесам. |
|---|---|---|
| **XII. Аршанскі край. [Паўночная Магілеўшчына].** | **37** | **40** |
| Аршанскі пав. . . . | 36 | 43 |
| Магілеўскі „ . . . | 38 | 47 |
| Сеннінскі „ . . . | 37 | 31 |
| **XIII. Краіна Задзвіньскіх Узгор'яў (Віцебшчына).** | **32** | **33** |
| Віцебскі пав. . . . | 38 | 34 |
| Гарадоцкі „ . . . . | 34 | 29 |
| Невельскі „ . . . . | 30 | 33 |
| Себежскі „ . . . . | 28 | 35 |
| Люцынскі „ . . . . | — | — |
| Апочацкі „ . . . . | — | — |

| Паясы, краіны і паветы. | Шчыльнасць вясковага насяленьня. | % прасторы занятых лесам. |
|---|---|---|
| **XIV. Смаленшчына . . .** | **28** | **43** |
| Смаленскі пав. . . . | 35 | 34 |
| Парэцкі „ . . . | 25 | 45 |
| Вяліжскі „ . . . | 23 | 46 |
| Духаўшчынскі пав. . | 33 | 39 |
| Ельнінскі „ . | 32 | 39 |
| Дарагабужскі „ . | 30 | 41 |
| Бельскі „ . | 16 | 55 |
| Ржэўскі „ . | — | — |
| Асташкаўскі „ . | — | — |
| Тарапецкі „ . | — | — |

*Увага.* Для паветаў, якія цаліком ня ўходзяць у склад Беларусі, цыфры шчыльнасці і лясістасьці не падаюцца.

*) Цыфры ўзяты з перапісу 1897 году. Цяпер яны шмат зьмяніліся.

**) Цыфры ўзяты з зямельнага перапісу 1887 г. Цяпер яны значна зьмяніліся.

# Паасобныя краіны Беларусі.

## Пояс заходніх узгор'яў.

### I. Полацкае Наддзьвіньне.

Гэтая краіна складаецца з 7-х паветаў — **Дзісьненскага, Дрысенскага, Полацкага, Лепельскага, Іллукштанскага, і Дзьвінскага (Дынэбургскага).** Большая часьць гэтых паветаў належыла да Віцебскае губэрні, але Дзісьненскі пав. належыў да Віленскае, Браслаўскі да Ковенскае, а Іллукштанскі да Курляндзкае.

Уся краіна ёсьць як-бы шырокім логам, абнятым з паўначы Задзьвінскімі, а з паўдня Завялейскімі ўзгор'ямі і нахіленым у бок Балтыцкага мора. Заходні бок гэтага логу адкрыты—тут ён зьліваецца з *Надбалтыцкай Нізінаю.*

Пасярод гэтае краіны цячэ р. *Дзьвіна* з сваймі прытокамі-*Дзісенкаю, Дрысаю і Полатаю.* Дзьвіна тут ужо шырокая і судаходная. Але як раз тутака на ёй спатыкаецца найбольш парагоў, якія перашкаджаюць судаходзтву.

Па абодвух берагох Дзьвіны параскідана бяз ліку вазёраў. Найбольш іх аднак у трох гнёздах: 1) у пав. *Браслаўскім*—дзе

паміж дзесяткаў дробных азёраў, ляжаць і такія *вялізазныя* вазёры,—як **Снуды, Дрысьвяты** і **Дрывяты**, 2) *Лепельскім пав.* і 3) ў *Дзьвінскім*. Паверхня гэтых паветаў проста зрэзана вазёрамі. Мяйсцовасьць мае найбольш чыста марэнны характар, аб якім мы пісалі на стр. 9. Усюдых разсыпаны марэнныя ўзгоркі, то выцягнутыя, то абкругленыя, як бохан хлеба.

На ўсходзе краіны ў Лепельскім павеце мяйсцовасьць ужо моцна паднята; узгоркі там ужо ідуць вялікімі гнёздамі і ланцугамі і маюць значную вышыню. Асабліва гэта трэба сказаць аб *Пышнагоры*, высокім узгор'і, якое ляжыць на захад ад Лепе ля. Так сама моцна паднята сумежная з Лепельскім частка Дзісьненскага павету.

Найбольш пашыраны ў краіне досіць ураджайныя суглінкі і супяскі. Толькі ў Полацкім павеце, побач з добраю гляістаю зямлёю, ляжаць значныя прасторы падзолу і пяшчанага грунту. Так сама і ў Брацлаўскім, асабліва-ж у Іллукштанскім пав. пераважаюць бедныя пяшчаныя грунты.

У Полацкім павеце значныя прасторы займаюць **балоты**, што ляжаць між рэкамі Дрысаю і Полатаю. Досіць вялікае балота ёсьць і ў Дзісьненскім павеце, на захад ад Дзісны. Балоты тут найбольш імховыя, сфагнавыя.

Полацкае Наддзьвіньне ляжыць найбліжэй з усіх краёў Беларусі да мора. Ад Рыжскае затокі да Іллукшту ўсяго 170 вёрст. Да таго-ж яно яшчэ і зьніжаецца ў кірунку да мора і дзеля таго вільготны і мягкі морскі *клімат* без перашкод уразаецца ўздоўж Дзьвіны далёка на ўсход. Сярэдняя гадавая тэмпэратура каля *6°*, ападаў за год бывае каля *600* міллімэтраў. неба па большай часьці закрыта воблакамі.

*Лесу* ў Наддзьвіньні нямгнога. З даўніх часоў сядзіць тут народ досіць густа і дзеля таго лепшыя землі парасьцярэбліваны і ўзараны. Толькі на пяскох, у Полацкім павеце, затрымаліся значныя лясныя прасторы, ды досіць лясісты захад Дзісьнен—скага пав.

**На полі сеюць** звычайнае збожжа—жыта, а з ярыны—авёс, ячмень. Ячменю сеюць досіць многа, асабліва, ў Лепельскім і Дзьвінскім паветах. *Па засеву ячменю* цэты край займае *другое мейсца* пасля Задзьвінскага ўзгор'я. Ячмень часткаю вывозіцца, часткаю на мейсцы перакуруецца на піва. Досіць многа садзяць *бульбы* і сеюць *лёну*. Ураджаі бываюць сярэднія.

Вясковае насяленьне займаецца гаспадаркаю; толькі дзеня-дзе ў лясістых мяйсцовасьцях зарабляюць яшчэ і ў лесе, ды ўзьбярэжныя жыхары займаюцца сплавам дрэва, будаваньнем чаўноў і інш. Апроч таго ў Наддзьвіньні шмат хто займаецца рыбацтвам у вазёрах і рэках.

*Шчыльнасьць* вясковага насяленьня ў Наддзьвіньні большая, чымся ў акалічных краёх, дзякуючы лепшым грунтам і палажэньню ля вялікае ракі. Вёскі ў Наддзьвіньні не вялікія—на 1 вёску

прыходзіцца чалавек 50—60. У Ілукштанскім і Брацлаўскім пав. вёскі яшчэ драбнейшыя.

Наддзьвіньне мусіць было заселена яшче ў дагістарычныя часы. Гісторыя знаходзіць тут ужо моцны і багаты *Полацак*, які вядзе значны гандаль з Усходам і Заходняю Эўропаю. Палачане пазакладалі і ўсе важнейшыя гарады Наддзьвіньня: Дзісну, Брацлаў, Герсіку (быў даўней над Дзьвіною, ніжэй Дзьвінску, цяпер—толькі руіны), Дрысу, Друю і інш. Усе гэтыя гарады былі праз увесь час вельмі цесна зьвязаны з Полацкам, мелі супольных з ім князёў, а пасьля ваяводаў.

На захадзе Дзьвінскага пав. жывуць ужо найбольш *латышы* з невялікаю толькі прымешкаю беларусоў. Зямля іхная не рахавала шмат сьлядоў панаваньня лівонскіх рыцароў. Яны пазакладалі некалькі гарадоў і замкаў, напр. Крэйцбург, Дзьвінск, у руках іхніх патомкаў ёсьць цяпер яшчэ двары Закладалі там гарады і Палачане (Герсіка, Кокенгаўзен), але пасьля імі завaладалі рыцары.

Найбольшыя месты ў гэтым краю—Полацак і Дзьвінск. Але ёсьць шмат драбнейшых мест і мястэчак.

---

**Полацак**—старэйшае з мест беларускіх, сталіца незалежных беларускіх князёў, ляжыць ля Дзьвіны, на правым яе беразе пры ўтоку р. Полаты. Даўней гэта быў вельмі багаты горад. Яшчэ ў XII веку ён вёў шырокі гандаль з нямецкімі краямі (напр. з Гатляндам, пасьля з Рыгаю). У XVI веку Полацак меў больш за 100 тысяч жыхараў і славіўся сваім багацьцем.

Было тады ў Полацку два *замкі*—верхні і ніжні. Стаялі яны на ўзгорку на левым беразе Полаты пры яе ўтоку. У верхнім замку былі княжыя палацы, стаяў старасьвецкі сабор Сьв. Софіі (ён і цяпер стаіць).

Полацку прышлося шмат перацярпець за свой даўгі век. Ня раз зьніштажалі яго пажары, ня раз пусьцеў ён ад чумы ды халеры, ад голаду, а найгорш даводзілася яму ў часы маскоўскіх нападаў. Тады разам ішлі ўсе гэтыя беды і да іх яшчэ дадаваліся няміласэрныя звычаі вайны. У канцы Полацак так змалеў, што ў 1780 годзе ў ім заставалася ўсяго каля 1000 жыхараў.

Пасля таго Полацк яшчэ некаторы час быў аджыў—гэта калі ў 1812 гаду там была адкрыта вышэйшая школа—*акадэмія*. Але акадэмія істнавала ўсяго 8 гадоў. Па яе закрыцьці Полацак зрабіўся самым звычайным паветавым местам, якім ён і астаецца дагэтуль. Жыхараў у ім каля 30 тыс. чалавек, хвабрык і заводаў вялікіх няма.

Ад *старыны* засталося мала. Ад замку засталіся толькі равы, якія яго абкружавалі ды сабор сьв. Софіі, якога праўда перабудавалі ў XVIII веку. Гэта аб гэтым саборы кажацца

ў „Слове аб полку Ігораве“; яго званы чуў князь Усеслаў седзячы ў далёкім Кіеве... Але найцікавейшы будынак у Палацку-гэта старасьвецкая царква—Хрыста—Спаса, якую пабудавала



Полацк, калі на яго глядзець з заходняга боку.

ў XII веку Сьвятая Еўфрасіньня, княжна полацкая.—У вялізных мурох, дзе ўперад зьмяшчалася акадэмія—цяпер ваенная школа.

Харошыя і любыя, а разам з тым балючыя ўспаміны абуджае Полацак у сэрцы беларускім. Горад гордае Рагнеды, якая не хацела разуць нагі кіеўскаму князю, горад Усеслава Чарадзея, найслаўнейшага з князёў беларускіх, горад вялікай багамоліцы-сьвятое Еўфрасіньні заснуў на даўгія вякі. Ня збіраецца шумнае веча, ня плывуць чаўны беларускіх купцоў полацкіх у варажское мора; ды і купцоў беларускіх у Полацку ўжо даўно няма. А званоў Сьв. Софіі даўно ўжо ніхто ня чуў, ня то што ў Кіеве, а навет куды бліжэй—па мястох і вёсках беларускіх.

Як заціх і замёр Полацк, так заціхла і замёрла жыцьцё на ўсёй Беларусі. Калі-ж яно адродзіцца і Беларусь стане на свае ногі, пэўне, зусім іначай будзе выглядаць і Полацк.

У Полацку цяпер крыжуюцца дзьве чыгункі (адна з іх нядаўна пабудавана) і ёсьць параходная прыстань на Дзьвіне Дзеля гэтага трэба спадзявацца, што гэтае адвечнае места йзноў пачне шыбка расьці і разьвівацца.

*Полацкі павет* ляжыць блізка ўвесь на правым беразе Дзьвіны. Грунты яго найбольш неўраджайныя. Затым-жа ў павеце шмат лясоў і балотаў, а насяленьне рэдкае.

Пры *Лепельскім* возеры, ля р. Уллы—ляжыць места **Лепель.** Р. Улла, як ведама, ёсьць часткай сыстэмы Бярэзінскіх каналаў. Ня гледзячы на гэта Лепель мае вельмі малое промысловае і торговае значэньне. Такое значэньне маюць за тое мястэчкі Лепельскага павету, якіх ёсьць больш дзесятка. Сярод іх найбольш адзначаюцца два: Бешанковічы і Чашнікі.

**Бешанковічы** досіць вялікае, (каля 5000 чал.) бойкае торговае мястэчка, на высокіх берагох Дзьвіны там, дзе яна крута заварочуецца на паўночны захад.

Мястэчка мае добры выгляд, усё брукаванае. На Дзьвіне ёсьць бойкая параходная прыстань. Навакол Бешанковіч ляжыць добрая ўроджайная зямля і гаспадарка вядзецца добра. Дзеля гэтага ў Бешанковічах прадаецца шмат збожжа. У мястэчку шмат рамяснікоў (мылавараў, ганчароў і інш.)

**Чашнікі** старасьвецкае мястэчка, ля р. Уллы, слаўнае гістарычнымі ўспамінамі. У сярэдзіне XVI в. беларускія ваяводы мелі тут дзьве вялікія ваенныя перамогі. Мікалай Радзівіл Чорны разбіў тут у 1565 гаду маскоўскае войска, а цераз два гады Сангушка разьбіў татараў. Цяпер Чашнікі вялікае торговае мястэчка, маюць да 7 тыс. жыхараў, спаміж каторых шмат рамясьнікоў.

Пад Чашнікамі у **фольв. Скіне** ёсьць хвабрыка паперыВаладковіча, на якой працуе больш 500 работнікаў. Паперы ў год вырабляецца больш 200 тыс. пудоў.

У Лепельшчыне ёсьць некалькі мінэральных крыніцаў—у **Боркаўшчыне** (каля Ушача) серна-зялезная, у **Вішковічах** (пад

Чашнікамі) серныя і інш. Хаця яны ўлечуюць хворых, аднак застаюцца ня выкарыстанымі.

*Лепельскі павет* належыць да найгусьцей заселеных паветаў Беларусі. У ім шмат шляхоцкіх засьценкаў. Грунты ў ім ляжаць гліністыя, ураджайныя. Сеюць шмат *ячменю.* У мястэчках шмат рамясьнікоў.



Маладзіца—мяшчанка з Лепельшчыны.

**Дрыса**, ля Дзьвіны, пры ўтоку р. Дрысы, даўнейшае прадмесьце Полацку,—цяпер гэта невялікае места.

У паўночнай часьці *Дрысенскага пав.* ёсьць *возера Асьвей* з вялікім востравам пасярод. На гэтым востраве ўперад была капліца з вядомым ўва ўсёй Беларусі цудоўным абразом Багародзіцы. Возера злучана з р. Дрысаю каналам, па якому сплаўляецца шмат дрэва. На беразе возера ляжыць тарговае **м-ка Асьвей**. Ля Дрысы ляжыць **м-ка Валынцы**, дзе ўперад была

гімназія, якую пасьля расейцы закрылі. У гэтым **мястэчку** ёсьць гарбарня, бровар.

**Дзісна** так сама, відаць, была пабудавана палачанамі; праз даўгі час яна належыла да полацкіх архірэяў. Ляжыць ля Дзьвіны, за дзьве мілі ад чыгункі. У Дзісьненскім павеце ёсьць тры важных мястэчкі: Глыбокае, Паставы і Друя. **М-ка Глыбокае** ляжыць на паўдні павету, сярод двох вазёраў. Мае каля 7 тыс.



Селянін з Лепельшчыны.

насяленьня, якое займаецца найбольш гандлем. За возерам знаходзіцца **м-ка Беразьвеч**—з манастыром, пры вузкакалойнай чыгунцы з Сьвянцян, якая йдзе паўднёвым краем Дзісьненскага пав. Пры гэтай так сама дарозе ляжыць **м-ка Паставы**. Некалісь Паставы належылі да Тызенгаўза, вядомага асьветнага і эканаміцкага дзеяча, які жыў у XVIII в. Тызенгаўз быў пабудаваў тут некалькі хвабрыкаў—палатняную, паперню, гарбарню

і інш. Быў тут даўней і багаты музэй, які пасьля быў перанесены ў Вільню. Цяпер Паставы маюць каля 3 тыс. жыхараў.

Друя—значная прыстань на Дзьвіне. Лічыцца местам, мае каля 6 тыс. жыхараў.

*Дзісьненскі павет* ляжыць на добрых грунтох і досіць густа заселяны, апроч заходняе яго часткі, дзе цягнуцца вялікія хваёвыя бары, на пяшчаных грунтох.

Беларускія часткі паветаў *Іллукштанскага і Брацлаўскага (Ново—Аляксандраўскага)* ляжаць на бедных пяшчаных грунтох. Прасторы гэтых паветаў засеяны сотнямі вазёраў, між якіх ёсьць і такія вялікія, як Снуды (22 кв. в.), Дрысьвяты (41 кв. в.), Дрывяты і інш. Лясоў тут мала. Насяленьне займаецца, апрача гаспадаркі, рыбалоўствам на вазёрах.

Ля воз. Дрывяты стаіць стары горад **Брацлаў** (або **Брацлаў**)—равесьнік Полацка, даўнейшае паветавае места. Цяпер гэта невялікае мястэчка. Паветовым местам зрабілі былі пасьля **Езёросы**, якое назвалі **Ново-Аляксандраўскам**. Езёросы ляжаць на мяжы паміж Беларусяй і Літвою. На гэтай-жа мяжы ляжаць на ящчэ **Іллукшты**, другое паветавае места і **Відзы**—значнае мястэчка, вядомае з сваіх мінэральных крыніцаў.

**Дзьвінск** (або *Дынабург*) заложаны быў, у XIII веку, лівонскімі рыцарамі. Гадоў сто назад, тут расейцы пабудавалі крэпасьць. Горад ляжыць у нізініе, ля Дзьвіны, і займае вялікі прастор. З Дзьвінску разыходзяцца ў 5-х кірунках чыгункі і некалькі шосаў. Па Дзьвіне ходзяць параходы да Полацка і Віцебска Дзякуючы гэткаму свайму палажэньню, Дзьвінск вырас у вялікі горад: у ім да 100 тыс. насяленьня. Насяленьне мяшанае: найбольш жыдоў, шмат беларусоў, латышоў і старавераў—расейцаў.

Дзьвінск—прамысловы горад. Асабліва многа ў ім гарбарняў, якія да таго-ж маюць, добрае ўстройства і вырабляюць лепшыя сарты скуры. У Дзьвінску каля 2000 хвабрычяных работнікаў.

За мілю ад Дзьвінска, ля Дзьвіны, ёсьць курорт **Пагулянка**. У харошай мяйсцовасьці, у адвечным хваёвым бары пабудаваны мураваныя вадзяныя і кумысовыя лячэбніцы, дзе хворыя маюць усякія выгоды і камфорт. Хворых сюды зьяжджаецца досіць многа. З Дзьвінску сюды ходзяць параходы.

У харошай мяйсцовасьці, ля Дзьіны, за 6 міль ад Дзьвінску, ляжыць **Краслаўка**, прамысловае і гандлёвае мястэчка. Пабудавана яно вельмі даўно. Кажуць, што ў ім жыла Сьв. Еўфрасіньня Полацкая (XII век.) Краслаўка даўно славілася сваймі дыванамі, аксамітамі, сукнамі, броняю, срыбнымі, залатымі і іншымі вырабамі краслаўскіх рамясьнікоў. Цяпер у Краслаўцы найбольш разьвіта гарбарства.

У Краслаўцы ёсьць вельмі харошы касьцёл і палац з вялізазным паркам, якія пабудаваў краслаўскі дзедзіч, гр. Зібэрк-Плятэр.



**Краслаўка.**

У *Дзьвінскім павеце* беларусы жывуць перамешанымі з латышамі. Чыста беларускімі трэба лічыць толькі ваколіцы Дзьвінску і наагул узьбярэжны пас, уздоўж Дзьвіны, ад Дзьвінску да Друі. У гэтай часьці павету грунты ураджайныя, народ жыве багата.

У Дзьвінскім і суседніх паветах жыве шмат старавераў.

---

## II. Віленскі край.

Да Віленскага краю мы залічуем паветы даўнейшае Віленскае губэрні: **Віленскі, Сьвянцянскі, Вялейскі, Ашмянскі і Троцкі.** Дзісьненскі павет прылучаны намі да Полацкага Наддзьвіньня, а Лідзкі пав., які так сама належыў да Віленскае губ., мае больш у сабе падобнасьці з Горадзеншчынаю, куды мы яго і прылучаем.

Віленшчына ляжыць на двох горных ланцугох—**Віленскім** і **Завялейскім узгор'ях**, паміж якімі ляжыць шырокая лагчына

р. Вяльлі. Гэтыя ўзгор'і даходзяць найбольшай вышыні ў сярэдзіне краю, на левым беразе Вяльлі. Завялейскае ўзгор'е мае ўжо меншыя вышыні і пакрысе схінаецца да Наддзьвінскае Нізіны. Так сама і Віленскае ўзгор'е, ў паўднёвай частцы, зьніжаецца, перахадзячы ў Наднёманскую пяшчаную раўніну.

Па Віленшчыне цячэ *Вяльля* і яе прытокі. На ўсходзе ў Віленскім пав. Вялья цячэ сярод балоцістых і лясістых берагоў. Дно яе тут гліястае, шырыня да 15 сажняў. У сярэднім цячэньні берагі Вяльлі падыходзяць да ўзгор'я і робяцца ўсхонаватымі і высокімі, а дно моцна камяністым. Шырыня Вяльлі пад Вільняю даходзіць да 45 сажняў. Тутака ўжо Вяльля судаходная, толькі плаваньню перашкаджаець каменьне. Урэшце ніжэй Вільні, Вяльля выйшаўшы з Панарскіх цясьнінаў, вольна разьліваецца па раўніне і шырыня яе моцна павялічуецца. Мяйсцамі яна даходзіць 130 сажняў. З прытокаў Вяльлі трэба адзначыць *Вялейку* і *Нарач*. З большых прытокаў Нёмна ў Віленшчыне цякуць *Бярэзіна* і *Марачанка*.

У паўночнай часьці краю ляжыць досіць многа вазёраў. Азёры заходняе часткі ляжаць у зямлі заселенай ліцьвінамі і зьяўляюцца працягам сеткі морэнных азёраў Наддзьвіньня. У Беларускай-жа частцы ляжыць група вялікіх вазёраў (*Нарач*, *Мядзіол*, *Сьвір*), якія ўжо аджначаюцца ад тыповых морэнных сваймі роўнымі берагамі і закругленай формаю. К паўдню ад гэтае, групы азёраў, блізка што не сустракаецца.

*Грунты* ў Віленшчыне ляжаць найбольш супяшчаныя і суглiністыя, часта моцна камяністыя. Суглінкі пакрываюць узгор'і, а супяскі ляжаць у больш паніжаных раўнінных мяйсцовасьцях, найбольш уздоўж верхняга цячэньня Вяльлі. На паўдні Ашмянскага павету, ў басэйне Бярэзіны і іншых правых прытокаў Нёмна, якія разам ствараюць цэлую сетку рэчак, ляжаць на вялікім прасторы пяшчаныя грунты, занятыя хваёвымі барамі аднэй з найбольшых беларускіх пушчаў—*Налібоцкай*. Бары гэныя ў блізкасьці Нёмна зьмяняюцца досіць вялікімі балотамі. Значныя лясныя і балотныя прасторы знаходзяцца і ў Вялейскім павеце, паміж Вялейкаю і Маладэчынам. Апрача таго, на паўдні ад Вільні, як раз ля мяжы Беларусі з Літвою, ляжыць *Рудніцка пушча*, ля р. Марачанкі. Тут так сама пяшчаны грунт і хваёвыя бары, але сустракаецца яшчэ і некалькі вазёраў.

*Клімат* у Віленшчыне цёплы, вільготны і наагул мяккі, дзякуючы блізкасьці мора, асабліва-ж, на заходніх спадах узгор'яў, найбольш адкрытых з боку мора. Гэтак у Вільні сяр. гад. тэмпаратура + *6, 7*, а ападаў бывае звычайна *600 міллім.*, у ўсходніх частках Віленшчыны клімат робіцца крыху сушэйшым і сьцюдзянейшым.

Дзякуючы сваёй лясістасьці, вясковая Віленшчына заселена крыху радзей, чымся суседнія краі—Надзьвіньне, Менскае ўзгор'е Горадзеншчына. За тое тут павырасталі месты і мястэчкі. Вя-

лічыня вёсак тут з большага такая самая, як і ў Наддзьвіньні (каля 50 чалавек у вёсцы) і так сама на захадзе крыху меншыя вёскі, на ўсходзе—большыя. Вясковае насяленьне займаецца гаспадаркаю і толькі ў лясістых частках Ашмянскага і Вялейскага пав. маюць значэньне лесавыя заробкі.

**На полі сеюць** жыта, з ярыны найбольш аўсу, ячменю і бульбы. Грэчкі сеюць вельмі мала. На лепшых грунтох спатыкаецца пшаніца. Гаспадарка стаіць досіць высака, асабліва ў дварох. Часьцей, чымся дзе, можна сутрэць тут заводзкую карову, каня, садок ля хаты, лубін на пяскох.

Хатнія **рамёслы** разьвіты слаба, навет ткацтва. Народ тут носіць найбольш крамную тандэтную вопратку; саматканы ўжываюцца толькі да работы. За тое ў мястэчках шмат рамясьнікоў. Мястэчкаў наагул шмат і ў іх ідзе бойкае гандлёвае і прамысловае жыцьцё. Усе яны вельмі цесна зьвязаны з Вільняю.

**Вільня** - культурны і эканамічны цэнтр усяе Беларусі і Літвы, сталіца вялікіх князёў літоўска—беларускіх, найбольшае места на ўсім прасторы Беларусі. Ляжыць Вільня ў катліне акружанай з усіх бакоў гарамі. З захаду і паўдня, ідуць Панарскія горы, а з усходу, ля самае Вільні, высяцца пяшчаныя горы—*Замковая, Трохкрыжавая і Бякешовая.* З поўначы катліну замыкае ўзгор'е *Шашкіні.* Пасярод катліны цячэ Вяльля і тут у яе, у падножжа Замкавае гары, ўпадае Вялейка. Вільня пабудавана на левым беразе Вяльлі, пры ўтоку Вялейкі.

Хаця лягенда прыпісуе залажэньне Вільні Гэдыміну і адносіць яго да пачатку XVI веку, аднак можна з пэўнасьцю сказаць, што Вільня куды старэйшая. Хто і калі яе залажыў, навет які народ—нямаведама. У летапісі першая вестка аб тым, што віленцы выбралі сабе за князя **аднаго з беларускіх полацкіх князёў**—Расьціслава (унука Усеслава Чараўніка); было гэта ў **1128 гаду**. Гэта дазваляе нам лічыць, што Вільня ад самага пачатку была беларускім местам. Пасьля, калі вялікія князі літоўскія перанесьлі сюды сваю сталіцу і абкружылі сябе беларускім баярствам, Вільня перахавала свой беларускі характар. Ліцьвіны займалі толькі паўночную частку гораду, каля Замкавае гары, каторая і звалася *Літоўская Палавіца. Беларуская палавіца* займала паўднёвую частку Вільні, пад Вострую Браму.

Вільня тых часоў была вялікім, багатым і культурным местам. Насяленьня у ёй было да 200 тысячаў; апроч беларусоў і ліцьвіноў, было шмат жыдоў, немцаў і інш. Прыдворнае жыцьцё вымагала раскошы і вяльможы, жывучы самі ў Вільні, сьцягавалі з усяго прастору дзяржавы ўсё, што было лепшага ў іхніх маемасьцях, а перад усім лепшых майстроў, рамясьнікоў. У сталіцу зьяжджаліся і ўсе лепшыя культурныя сілы. Затым у Вільні былі вельмі моцна разьвіты рамёслы, было шмат школаў, друкарняў. Урэшце красавала тады і гандлёвае жыцьцё

Вільні. Для нас гэта цікава між іншым яшчэ і таму, што ўсе культурныя і тэхнічныя сілы йшлі ў Вільню найбольш з Беларусі і Вільня, дзеля таго, мела характар чыста—беларускага места.




Замкі Віленскія ў XVII веку.

У XVII веку беларускую культуру ў Вільні стала выціскаць польская. З гэтага-ж часу пачаўся і ўпадак Вільні. Рэлігійная барацьба, даведзеная да крайнасьці, пажары, хваробы, голад, напады чужаземцаў — усё гэта памагала ўпадку Вільні.

У канцы XVIII і пачатку XIX в., ў Вільні ўзноў закіпела культурнае жыцьцё. Справы асьветы пайшлі моцна ўперад, паадчынялася шмат новых школаў, стварыўся **Віленскія унівэрсытэт**, які стаяў на чале гэтага сьветнага руху. Хаця ўся навука йшла ў польскай мове, аднак, значэньне Віленскага Унівэрсытэту, для ўсяе Беларусі—было вялізазнае.



**Віленскі унівэрсытэт. Астранамічная обсэрваторыя.**

Праістнаваўшы каля 30 гадоў, Унівэрсытэт быў зачынены расейскім Урадам. Тады-ж, у царстваваньне Мікалая I, была пазачыняна большая частка школ у Беларусі. Лепшыя школы, разам з іхнай маемасьцяй, перавезены былі ў Маскоўшчыну. У будынках Унівэрсытэту і іншых школ, паадчыняліся расейскія сярэднія школы. У палацах вяльможаў, у каталіцкіх манастырох




**Абраз Прачыстай Багародзіцы Вострабрамскай.**
(Старая гравюра).

расейскі ўрад зрабіў вастрогі, казармы. З эўрапейскага культурнага цэнтру, якому дзіваваліся чужаземцы, маскоўцы стараліся зрабіць звычайны „губэрнскі горад“—поўны казармаў і чыноўнікаў.

З другога боку, за апошнія 3 вякі, насяленьне Вільні вельмі моцна спалячылася. Патомкі беларусоў і ліцвіноў часта ўжо не разумеюць роднае мовы і шчыра лічуць сябе палякамі. Гэткім парадкам з беларускае **Вільні сталася Вільня польско-маскоўская.**



Вільня. Ратуша і пляц перад ёю ў пачатку XIX в.

За апошнія часы палажэньне зьмянілася. Абудзіліся нацыянальна і беларусы, і ліцьвіны і пакрысе адбіраюць адну па аднэй свае старыя пазіцыі ў палякоў. А маскоўцы былі наносным элемэнтам і з выхадам расейскіх войскаў з Вільні, счэзьлі.

У Вільні засталося шмат *старасьветчыны*. Цэлыя дзесяткі старасьвецкіх касьцёлаў і цэркваў падымаюць свае вежы над Вільняю.

У *Катэдральным* касьцеле і ў *Прачысьценскай* царкве, пахаваны вялікія князі Літоўска—беларускія. У катэдры знаходзяцца і іхнія партрэты і статуі. У капліцы, над *Востраю Брамаю*, ёсьць найслаўнейшая беларуская сьвятыня: абраз Прачыстае Багародзіцы, якога роўна шануюць і праваслаўныя, і каталікі і да якога з усёй Беларусі йдуць на багамольле. Пад Востраю Брамаю ўсе праежджыя і праходжыя, бяз розьніцы веры, ідуць з непакрытаю галавою.

Шмат якія з касьцёлаў і цэркваў годны ўвагі, дзеля свае архітэктуры, скульптуры і малярства. З гэтага боку Вільня ёсьць найцікавейшым местам Беларусі. Нідзе не захавалася гэтулькі цікавых і харошых будынкаў і абразоў.

У Вільні няма вышэйшае школы, ня вельмі многа сярэдніх і ніжэйшых школаў, ёсьць музэй і бібліатэка. Тым часам, у Вільні, культурнае жыцьцё йдзе байчэй, чымся ў якім іншым месьце. Выдаецца шмат газэт і журналаў у розных мовах, істнавалі ўвесь час культурныя і палітычныя таварыствы і гурткі, іншыя адкрыта, а то і патайна.

Вільня была да апошніх часоў цэнтрам нацыянальнага беларускага руху. Тут выдаваліся першыя беларускія газэты і кніжкі, закладаўся першы тэатр беларускі і навуковыя таварыствы, а так сама і беларускія школы. Вільню так сама лічаць сваім галоўным культурным цэнтрам і жыды (іх у Вільні больш палавіны жыхароў) і ліцьвіны. Усе нацыі Беларусі і Літвы згодна ўжываюцца ў гэтым месьце, павялічуючы ў ім свае культурныя багацьці.

Вільня—найвялікшае места Беларусі; у ім жыве больш за **200.000** чалавек. Апрача палітычных і гістарычных прычынаў гэтаму спрыяе палажэньне Вільні на важным вузьле чыгунак. З Вільні разыходзяцца чыгункі ў пяцёх кірунках. Яны злучаюць Вільню простымі лініямі з Захадам і паўднём Беларусі. Паўночны ўсход Беларусі гэтак добра з Вільняю не зьвязаны.

*Хвабрычная прамысловасьць* у Вільні досіць разьвіта. Па вырабу тавараў Вільня займае другое, пасьля Беластоку, мейсца сярод мест Беларусі, *па лічбе работнікаў* хвабрычных—займае *першае мейсца*. *Работнікаў* у Вільні да *15 000* чал. У Вільні ёсьць 8 вялікіх гарбарняў (з іх 4 паравыя), 2 паравых хвабрыкі панчохаў, шмат пільняў, ткацкія хвабрыкі, хвабрыкі мэталёвых вырабаў і інш. Але найбольшае значэньне ў прамысловасьці Вільні маюць дробныя хвабрыкі і майстроўні рамясьнікоў. У Вільні працуюць больш за 8000 краўцоў, шмат шаўцоў і іншых рамясьнікоў. Частка іх працуе на сваю руку, але большая частка бярэ работу з кантораў, магазынаў, што прадаюць тандэтную адзежу і вобуй.

*Па гандлю* гатовай адзежаю, футрамі, вобуем Вільня займае вельмі віднае мейсца на ўсім усходзе Эўропы. Апроч таго Вільня зьяўляецца галоўным гандлёвым цэнтрам Беларусі і для іншых тавараў. Тут зьмяшчаюцца найболшыя гандлёвыя фірмы, ёсьць склады тавараў, адгэтуль тавары разыходзяцца ня толькі па ўсёй Беларусі і Літве, але навет і далей, за іх межамі.

*Ваколіцы Вільні* надта харошыя. Ад самага места ўва ўсе бакі расьцягнуліся прадмесьці аж да лясоў, што абкружуюць з усіх бакоў Вільню. Ужо і сярод лесу вырастаюць вуліцы, кварталы і цэлыя новыя прадмесьці.

Адно з важнейшых і старэйшых прадмесьцаў **Антокаль**, якое цягнецца на 6 вёрст, уздоўж левага берагу Вяльлі. Тут ёсьць так сама некалькі цікавых старых будынкаў; асабліва варт увагі, па сваёй скульптуры, касьцёл Сьв. Пётры і Паула.



**Касьцёл Сьв. Пётры і Паула, на Антокалі.**

З гораў, што акружуюць Вільню, аткрываюцца надзвычайна харошыя віды на места Вільню і на ўсю ваколіцу. Асабліва часта публіка бывае на *Замкавай гары*, што высіцца над самаю

Вільняю. На гэтэй гары стаяў даўней Замак, пабудаваны Гедымінам. Руіны яго відаць дагэтуль.

За мілю ад Вільні, ў сасновым бары, на правым беразе Вяльлі, параскіданы 33 каплічкі з абразамі прадстаўляючымі цярпеньні Хрыстовыя. Гэта **Кальварыя**. Пачынаючы з мая, сюды ўсё лета йдуць і йдуць тысячы багамольцаў. Пабудавана Кальварыя яшче ў XVI веку. Яшчэ дзьве вярсты далей за Кальварыяй, ля Вяльлі, відаць на высокай гары надзвычайна харошая мяйсцовасць **Вэркі**, сюды прыяжджаюць Віленцы ўлетку адпых-



Скульптура ў касьцеле Сьв. Пётры і Паўла, на Антокалі.

нуць сярод прыроды. Паміж Вэркамі і Вільняю ходзяць параходы. *)

З іншых харошых ваколіцаў Вільні трэба ўспомніць аб **Панарскіх горах, Закрэце** (лес пад Вільняю), **Паплавах** (на ўсход ад Вільні, ля Вялейкі). Мала хіба ёсьць мест, каторыя-бы мелі такія харошыя ваколіцы, як Вільня.

**Новая Вялейка** пад Вільняю, дзе расходзяцца чыгункі на Менск і Дзьвінск, у харошай мяйсцовасьці ля р. Вялейкі. Досіць значнае (больш за 5 тыс насяленьня) прамысловае мястэчка. Шмат хвабрыкаў: напр. хвабрыка косаў, анталяжаў і інш. Каля Н.-Вялейкі ёсьць вялікая бальніца для хворых змысламі (вар'ятаў). На заход ад Вільні, пры **ст. Ляндварове**, ёсьць хвабрыка тэлеграфнага дроту.



**Ваколіцы Вільні.**

Недалёка ад Вільні, пры Ашмянскім гасьцінцы, ляжыць **Бэрэйкоўшчына**, невялічкі фальварак, дзе жыў апошнія гады жыцьця адзін з беларускіх паэтаў—Сыракомля (Л. Кондратовіч), пісаўшы пабеларуску і папольску. Далей на паўдня, над р. Марачанкаю, ляжыць двор **Паўлаў**. Канонік Бжастоўскі, да якага належыў гэты двор, у 1769 гаду аслабаніў усіх сваіх падданых, аддаў ім зямлю і ўстанавіў у Паўлаве *маленькую рэспубліку*, у якой сам стаўся звычайным грамадзянінам. Але ўдзячныя грамадзяне абралі яго за прэзыдэнта. Сэйм зацьвердзіў статут гэ-

*) У Вэрках між іншым ёсьць папярня Шварца.

тае рэспублікі і яна праістнавала аж да 1824 году. У Паўлаўскай рэспубліцы былі школы, бальніцы, народ жыў вольна і багата. Гэта ўсё было ў часе найбольшага росквіту паншчыны.



Берагі Вялейкі.

Ля Вяльлі, на мяжы з Ліцьвінамі, ляжыць беднае мястэчка **Кернова**—некалісь—у XI—XIII вякох—сталіца Літвы.

**Віленскі павет** мае добрыя, ураджайныя грунты, асабліва на поўначы, дзе жывуць ліцьвіны. Усходняя часьць павету лясістая і радзей заселеная. У паўднёва-заходнім рагу павету пачынаюцца лясы *Рудніцкай пушчы*, якая ляжыць найбольш у Троцкім павеце.

*У Троцкім павеце* беларусы займаюць толькі заходнюю частку павету, прымерна ⅕ частку ўсяго яго прастору; зямля тут пяшчаная. На паўдні беларускае часткі павету і ляжыць Рудніцкая пушча на пяскох і балотах ля *р. Марачанкі.* На поўначы беларускае часткі павету, за 4 мілі ад Вільні, ў вазёрнам краю, ляжаць **Трокі,** павятовае места, слаўнае сваёй мінўшчынаю. Места ляжыць на паўвостраве, паміж азёраў; на востраве, сярод возера, высяцца руіны старасьвецкага вялікакняжскага замку. Тут жылі Кейстут і Ольгерд; тут жыў і памёр слаўны Вітаўт, тут жылі Казімір і Аляксандра, вялікія князі беларускалітоўскія.

*Сьвянцянскі павет* ляжыць на правым беразе Вяльлі. У паўднёвай яго палавіне, засялёнай беларусамі, ляжаць лёгкія супяшчаныя грунты. На поўначы-ж ідзе Завялейскае ўзгор'е пакрытае суглінкамі. На усходняй мяжы павету ляжыць *найбольшае возера Беларусі—Нароч,* а недалёка ад яго—другое вялікае возера—*Сьвір.* Ля апошняга возера знаходзіцца старасьвецкае мястэчка **Сьвір**—некалісь сталіца вудзельных князёў Сьвірскіх.

Сьвянцянскі павет досіць лясісты, асабліва ў заходняй частцы. Як і Віленскі, ён увесь засыпаны дробнымі вёсачкамі, засьценкамі. Гаспадарка вядзецца добрая. Шмат садзяць бульбы.

*У Ашмянскім павеце* ёсьць шмат мясьцінаў з вялікай гістарычнай мінуўшчынай. Сярод іх адзначаецца **Крэва**—З старым вялікакняжскім замкам, дзе быў забіты Кейстут. Некалькі мястэчак Ашмянскага пав. маюць асаблівае прамысловае і гандлёвае значэньне. З іх найбольшыя—Смаргоні і Ашмяна. У **Смаргонях** (больш 7 тыс. жыхараў) вельмі разьвіта *гарбарства.* Там працуе некалькі дзесяткаў гарбарняў. Даўней тут князь Радзівіл быў зрабіў школу для вывучкі медзьведзянятаў, якую на жарт называюць да гэтых часаў „Смаргонскай акадэміяй“. Вядомы Смаргоні яшчэ з сваіх абаранак. У **Ашмяне** (каля 8 тыс. жыхараў) так сама шмат гарбарняў.

Так сама ёсьць гарбарні ў досіць значным мястэчку **Гальшанах** (3 тыс. жых.), даўнейшай разыдэнцыі князёў Гальшанскіх. У мястэчку шмат рамясьнікоў, якія займаюцца воўнаю, вырабляюць рукавіцы, панчохі і інш.

Два вялікія мястэчкі **Іўе** (5 тыс. жых.) і **Валожына** (3 тыс), ляжачыя ля чыгункі з Полацку на Седлец,—вядуць асабліва бойкі гандаль. У Валожыне ў мінуўшым веку была на ўвесь сьвет вядомая жыдоўская акадэмія, дзе вучыліся ва рабінаў.



Трокі.

Ўсе гэтыя мястэчкі ляжаць у гарыстай паўночнай часьці павету, пакрытай найбольш ураджайнымі суглінкамі. На паўдні ляжаць, у наднёманскай нізіне, вялізазныя пяшчаныя прасторы, занятыя хваёвымі барамі,— гэтак званаю *Налібоцкаю Пушчаю*. Пушча даўней славілася дастаткам усякай дзічыны, а так сама зялезнаю балотнаю рудою, для выплаўкі якой у Вішневе, пад Налібокамі, былі пазакладаныя зялезныя гуты.

Пры пушчы ляжыць мястэчка **Налібокі**. Апроч зялезнае гуты, тут была яшчэ і шкляная і паташовы завод. Усе гэтыя хвабрыкі цяпер пазачыняліся, дзеля розных прычынаў; між іншым дзеля таго, што падаражэў апал — дровы.

У Вялейскім павеце ёсьць некалькі большых мястэчак, аднак досіць ціхіх і бедных. Гэтак **Радашкавічы** ў паўднёвай частцы павету, з 5 тыс. жахараў, досіць чыстае брукаванае мястэчка, ў харошай мяйсцовасьці, за 5 міляў ад Менску. **Вялейка** з 5 тыс. жыхараў, ля Вяльлі, апошнімі часамі пасьля правядзеньня чыгункі пачынае моцна разьвівацца. Так сама і **Маладэчына**, якое ляжыць на вузьле дзьвёх чыгунак. У Маладэчыне ёсьць старая вучыцельская сэмінарыя. Каля мяст. **Ільлі** ёсьць адна з найбольшых беларускіх шкляных гутаў — *Залеская*.

*Вялейскі павет* мае грунты на поўначы і на паўдні—сугліністыя, а пасярэдзіне павету, ля Вяльлі, супяшчаныя. Увесь павет досіць лясісты, але лясы з кожным годам моцна высякаюцца. Пасярэдзіне павету цячэ *Вяльля* з сваім прытокам *Ільлёю* Ільля важная сплаўная рака; вясною яна ўся бывае, як мастом, пакрыта сплаўным дрэвам. На поўначы павету ёсьць шмат дробных азёраў, на паўдні азёраў няма; ёсьць толькі значныя балоты на ўсход ад Маладэчына. Нясяленьне займаецца найбольш гаспадаркаю, жыве небагата; толькі з правядзеньнем новых чыгунак, край гэты пачаў аджываць у эканамічных адносінах.

## III. Краіна Менскага Узгор‘я.

Менскае ўзгор‘е, разам з суседнім Наваградзкім займаюць паветы: **Менскі, Наваградзкі і Слуцкі**. Заходзяць яны і ў паветы Слонімскі, Барысаўскі і Ігуменскі, але займаюць меншую частку гэтых паветаў, дзеля чаго апошнія прыходзіцца прылучаць да іхніх краёў. Найляпей было-б гэтыя паветы разьдзяліць; тады можна было-б злучыць разам усю краіну, якую займаюць Менскае і Наваградзкае узгор‘і.

Краіна гэтая займае цэнтральнае палажэньне ў Беларусі, да таго-ж яна найвышэй паднята. Тут знаходзяцца найвышэйшыя беларускія горы — напр. *Лысая гара (161 саж.)*.

*Мяйсцовасьць* найбольш мае рэзкі *гарысты характар*. Азёраў тут аднак вельмі мала, чым гэты край выразна адзначаецца ад марэннага Задзьвіньня. З другога боку паўднёвыя часткі Слуц-

кага і Наваградзкага паветаў зьяўляюцца ўжо пераходам да палескае нізіны, а некаторыя мяйсцовасьці ў Слуцкім павеце (на паўдні), маюць навет зусім палескі выгляд. Дый наагул у Случчыне ўзьгор'е ўжо шмат ніжэйшае і мяйсцовасьць па-крысе пераходзіць у раўніну. Так сама ўздоўж Нёмна, на яго правым беразе цягнуцца досіць шырокія пяшчаныя раўніны.



Гаспадар з Меншчыны.

Што ёда *грунтоў*, то на версе ўзгор'яў залеглі найбольш суглінкі і супяскі, на адхонаватых-жа спадах узгор'яў ляжаць цяжкія, але ўраджайныя гляістыя грунты. Слуцкія і Наваградзкія грунты вядомы па усёй Беларусі са сваёй ураджайнасьці. Тут гаспадары сеюць шмат пшаніцы—азімкі і яна добра родзе...

*Гаспадарка* наагул стаіць тут досіць добра і гаспадары найбольш заможныя. У Наваградзкім павеце разьвіта гадоўля коней цяжкіх найбольш randaў; усюдых дзяржаць найлепшыя

пароды сьвіньняў і кароваў. Сеюць шмат травы, а на пяшчаных грунтох сеюць усюдых лубін; акуратна гнояць зямлю, добра яе выробляюць плугам, а часамі і спранжыноўкай. Асабліва добра гаспадараць двары.

*Клімат* Менскага ўзгор'я досіць мяккі і цёплы. Праўда, акуратных досьледаў аб клімаце няма, бо ўва усёй краіне няма добрае мэтэорологічнае станцыі.

Трэба лічыць, што сярэдняя гадавая тэмпэратура Менску—каля + *6*°, студнёвая каля — *7*°, ліпнёвая + *18*. Зіма тут ужо бывае заўсёды з сьнегам; рэдка калі, ў адлігу, сярод зімы гіне сьнег. Ападаў бывае каля *500* міллім. Паветра звычайна тут сушэйшае, чымся ў Віленшчыне і неба часьцей бывае яснае.

*Лясоў* у Менскім краю засталося ўжо мала. Спатыкаецца шмат такіх мясцоў, асабліва ў Наваградзкім і Слуцкім паветах, дзе зусім няма лесу, на дровы навет, і насяленьне пакрысе пачынае апаліваць хаты *торфам*. Найбольш лесу засталося на паўдні Слуцкага і Наваградзкага паветаў, — якія трэба было б залічыць да Палесься... Апроч гэтага лясы захаваліся яшчэ на поўначы Наваградзкага пав., на ўсход ад Менску і на паўдні Менскага пав. уздоўж верхняга Нёмна. Лясы тут найбольш маюць у сабе елкі і хвоі. Але дамешуецца ўжо вельмі многа ліставога дрэва: дубоў, асіны, бярозы, грабу, арэшніку і інш. У Менскім павеце лясныя заробкі кормяць шмат людзей.

Менскі край заселены густа. *Па шчыльнасьці засяленьня* ён займае *адно з першых мяйсцоў* у Беларусі. Гэтак ёсьць дзякуючы добрым грунтом, а так сама большай бязпечнасьці гэтага краю ад нападаў чужынцоў і яго цэнтральнаму палажэньню ў Беларусі. Вясковае насяленьне, апроч гаспадаркі, займаецца часта хатнімі рамёсламі. Асабліва разьвіта ткацтва, хаця за апошнія часы яно пачынае падаць, бо народ усё больш і больш прызвычаюецца да таннае крамніны і саматканы носіць найболыш пры рабоце.

*Хвабрычная прамысловасьць* краю разьвіта слаба. Толькі Менск пакрысе робіцца вялікім хвабрычным местам. У ім каля сотні хвабрыкаў і больш за *2000* работнікаў. У іншых мястох і мястэчках вялікіх хвабрыкаў няма, але па дварох вельмі многа браварoў ва ўсіх трох паветах, асабліва ў Слуцкім. У Менскім павеце ёсьць некалькі пільняў.

У Менскім краю *вадзяных шляхоў* блізка што няма. Толькі Нёман даходзіць тут значнай шырыні і па ім тут ужо пачынаецца судаходзтва. Край перасечаны дробнымі рэчкамі з камяністым найбольш дном і цякучымі ў глыбокіх і шырокіх далінах. Чыгункамі багаты Менскі павет; у Слуцкім-жа да апошняга часу чыгункі можна лічыць што і ня было (праходзіла па глухой мяйсцовасьці на самым краю павета); затое цераз усю Случчыну йшла шоса.

*Важнейшыя мяйсцовасьці:* **Менск** — цяперашні палітычны цэнтр Беларусі, яе сталіца, — вельмі старое места. Калі ён за-

ложаны - нямаведама, але ўжо ў XI веку ён істнаваў і меў відаць важнае значэньне, як гандлёвы пункт. Менск ляжыць ля р. *Сьвіслачы* — цяпер невялікай і плыткой ракі, якая пачынаецца за 4 мілі ад Менску. Даўней Сьвіслач была куды большаю і глыбейшаю. Ня толькі па ёй, але і па яе прытоках, вышэй Менску, хадзілі вялікія чаўны з сольлю, з дабром, з усякімі заморскімі таварамі. Недалёка ад Менску пачынаюцца прытокі Вяльлі. Вось-жа ў Менску сустракаліся тавары з захаду, што плылі Вяльлёю — з усходнімі і паўднёвымі таварамі, прывезенымі па Сьвіслачы, Бярэзіне і Дняпру. У Менску гэтымі таварамі мяняліся — ад чаго і самы назоў места.



Менск. Агульны від.

Менск быў упярод пад уладаю Полацку, а пасьля, разам з гэтым апошнім, увайшоў у склад Літвы. Пад Літвою, а пасьля пад Польшчаю Менск быў увесь час галоўным горадам Менскага ваяводзтва, калі-ж Беларусь адыйшла пад Расею, Менск быў зроблены губэрнскім местам.

У Менску, пры яго тысячагадовай гісторыі, засталося мала памятак старасьветчыны. У цэнтры места, каля нізкога Рынку, ля р. Сьвіслачы быў даўней Менскі *замак*. Цяпер ад яго пазасталіся толькі валы, на якіх цесна забудаваліся бяднейшыя кварталы Менску. Каля замку, з паўночнага боку, цячэ *рэчка Няміга*. Цяпер гэта невялічкая ручаінка, хаця ў часе паводак яна выступае з сваіх берагоў і залівае значную частку места, прыпамінаючы старадаўныя часы, калі была яна шырокаю і многаводнаю. Ля Нямігі стаіць старэйшая Менская царква Пётры і Паўла, („Жоўтая царква") пераробленая расейцамі ў „Кацярынінскую". Пабудавана яна ў XVII веку беларускім ба-

ярствам на знак таго, што яно ніколі ня выpачацца свае веры і народнасьці.

Цяперашні цэнтр Менску ляжыць на шырокім узгорку. Гэтая часьць места завецца *Высокім Местам.* Там цяпер Праваслаўны Сабор, перароблены на маскоўскі лад з старое харошае Свята-Духаўскае Царквы, Касьцёл Катэдральны, Манастыр (будова XVII в.), некалькі, закрытых расейцамі, каталіцкіх манастыроў *(дамінікanскі,* з якога зроблены казармы, *бэнадыктынскі*—што пад архівам і інш.). Тут-жа даўней стаяла *ратуша,* якая згарэла ў 40-х гадох мінуўшага веку. Высокае Места было абкружана валам, рэшткі якога можна пабачыць яшчэ і цяпер.

На левым беразе Сьвіслачы ляжаць *Траецкая Гара* і *Залатая Горка.* На Траецкай Гарэ даўнёй стаяла так сама некалькі манастыроў—між іншым Сьв. Тройцы, Ушэсьця і інш. За Траецкай Гарою, ўздоўж Віленскага гасьцінцу, выцягнулася прадмесьце Пярэспа. На Залатой горцы стаіць цяпер харошы касьцел. Залатая Горка — гэта адна з найбольш беларускіх частак Менску, так сама як і пры ёй ляжачае прадмесьце *Камароўка* і інш.

Менск наймацней расьце з паўднёвага боку—дзе ляжаць вакзалы. Тамака, дзе ня так даўно было чыстае поле, цяпер ужо высяцца шмат-паверхавыя каміяніцы. Тутака ляжаць прадмесьці: *Ляхаўка, Серабранка* (на Ігуменскім гасьцінцы), *Добрыя мысьлі* (на Койданаўскім гасьц.), *Кальварыя*—каталіцкія могілкі і ўрэшце за даўнейшым замкам—*Татарская Слабодка.* Перад вайною Менск меў каля 110—120 тыс. жыхараў. У часе вайны лічба насяленьня падвоілася. Цяпер трэба лічыць заўсёднага насяленьня ў Менску каля *150 тысячаў.* Гэткім парадкам *павялічыні* Менск займае *другое мейсца* пасьля Вільні. Як і ў іншых нашых мястох. больш палавіны жыхараў Менску—жыды, рэшта—беларусы, а так сама палякі, маскоўцы, і інш. Трэба лічыць што на кожную сотню Мінчан ёсьць каля 40 беларусаў.

Беларусы ў Менску найбалей—дробныя дамаўласьнікі, рамясьнікі, чыгункавыя працаўнікі, чыноўнікі, хвабрычныя і падзённыя работнікі. Жыды ў Менску займаюцца найбалей рамёсламі, гандлем і работаю на хвабрыках. Палякі—гэта жменька інтэлігэнцыі, моцная толькі дзеля падтрыманьня ад несьвядомых беларусоў-каталікоў, а расейцы гэта абжыўшыяся ў Менску наездныя чыноўнікі.

*Хвабрычна-заводская прамысловасьць* Менску шыбка расьце і зьмяняецца; за апошнія 20 гадоў напр. лічба работнікаў павялічылася ў 4 разы.

Найбольш разьвіта мэталёвая прамысловасьць. Хвабрыкі будовы машынаў (іх усіх 5) займаюць каля 500 работнікаў. Далей ёсьць 5 хвабрыкаў абояў (з 300 работнікамі), 3 гарбарні, 5 цагельняў, 2 хвабрыкі мэханічнага вобую, 3 дражджавых заводы (бровары), 1 хвабрыка грабянёў, хвабрыкі табачныя, мылаварныя, гільзавыя і інш.

Усе хвабрыкі займаюць больш *2000 работнікаў* і вырабляюць тавару на 4 міліёны рублёў. Апроч хвабрычных работнікаў, у Менску шмат ёсьць рамясьнікоў, якія вырабляюць тандэтныя адзежу і абуцьцё.

З Менску разыходзяцца *чыгункі* ў чатыры бакі: на Вільню, Смаленск, Гомель і Берасьце. Гэткім парадкам усе галаўнейшыя беларускія краіны выгодна зьвязяны з Менскам. Апроч таго, па гэтых дарогах ідзець значны рух загранічных тавараў. Дзякуючы гэтым прычынам гандаль Мінскі досіць разьвіты. Менск раздае тавары на сотні мястэчак навакол сябе і кіруе іхным эканаміцкім жыцьцём. Асабліва добра разьвіўся ў Менску лесавы гандаль. На лесе Менскія купцы шмат зарабляюць.

*Выгляд* Менск мае досіць добры Раскінуўся ён на вялікім прасторы, ўсе акрайны забудаваны дзераўлянымі дамкамі, а пры кожным хоць маленькі садок. З гары Менск выдае скрозь адным садам. Блізка ўсе вуліцы забрукаваны і ўтрымліваюцца ў чыстаце.

За апошнія гады пабудавана шмат новых многапаверхавых камяніцаў. Між іншым пабудаваны харошы новы касьцёл.

Ад пачатку 1917 году Менск стаўся цэнтрам *беларускага нацыянальнага руху*. Тут зьбіраўся першы беларускі нацыянальны зьезд, тут зьмяшчаўся *Нацыянальны Камітэт*, *Вялікая Беларуская Рада*, тут адбыўся *Вялікі Усебеларускі Кангрэс* і ўрэшце тут утварыўся першы ўрад Беларусі,—*Народны Сэкратарыят* і першы парлямэнт, — *Рада Беларускае Нар. Рэспублікі*, аб'явіўшая, 25 сакавіка 1918 году, Беларусь—незалежнай дзяржаваю.

З мястэчак Менскага пав. трэба адзначыць **Заслаўе**, дзе некалісь пасялілася княгіня Рагнеда з сынам сваім Ізяславам; цяпер гэта невялічкае мястэчка ля р. Сьвіслачы. Недалёка ад яго гандлёвае і прамысловае мястэчка **Ракаў**, з 3500 чал. жыхароў. У мястэчку шмат рамясьнікоў, што вырабляюць машыны для гаспадаркі—сячкарні, арфы і інш , якія разыходзяцца па ўсёй Беларусі і навет за яе межы. Апроч таго ёсьць тут шмат ганчароў. На захад ад Ракава ёсьць м. **Івенец**, якога жыхары займаюцца ганчаркаю і вырабам кахляў. Недалёка ад Івенца знаходзіцца маленькі фаліварачак **Люцынка**, у якім жыў Беларускі паэта В. Дунін-Марцінкевіч.

На паўднёвы захад ад Менску, пры чыгунцы, ляжыць у ўраджайнай мяйсцовасьці, досіць вялікае і багатае мястэчка **Койданава**. Пад ім, у XIII веку дзьвёма ўдачнымі бітвамі Скірмунту і Мендоўгу ўдалося спыніць татараў і абараніць Беларусь ад няволі. Ад XVI веку Койданова было адным з цэнтраў беларускага кальвінізму; памяткай гэтай яго ролі застаўся старасьвецкі кальвінскі збор, акружаны валам. Ля Нёмна, пры самай чыгунцы, ляжыць значнае мяст. **Стоўбцы**—з важнаю прыстаняю. Недалёка ад Стаўбцоў Нёман становіцца судаходным. У мястэчку ёсьць хвабрыка сярнічак; рамясьнікі займаюцца будоўляю чаўноў і паленьнем вапны.

На паўдні і захадзе *Менскага пав.* каля Стаўбцоў, Івенца грунты лёгкія, бедныя; рэшта павету ляжыць на цяжкіх глеістых грунтох, на якіх добра родзіць збожжа; лясоў тут мала. Толькі на ўсход ад Менску грунты робяцца беднейшымі і мяйсцовасьць лясістаю.



Стары селянін з пад Менску.

**Слуцак**—найзначнейшае места ў зямлі дрыгвічоў, адзін са старэйшых беларускіх гарадоў, перехаваўшы да таго-ж шмат памятак мінуўшчыны. Даўгі час Слуцак быў сталіцаю удзельнага княжства. Князі Слуцкія (Олельковічы, патомкі Гэдыміна) адзначаліся сваім спагадам да навукі і мастацтва. Пасьля, у XVII в., Слуцак перайшоў да магутнага роду Радзівілаў і пад іхнаю апекаю закрасаваў яшчэ больш. Радзівілы спагадалі, як

вядома, кальвінізму і па ўсёй Случчыне пазакладаліся кальвінскія школы і зборы.

Старасьвецкі Слуцак быў багатым прамысловым местам; у XVII в. у ім працавала *хвабрыка шоўкавых паясоў*, вядомых з свайго хараства і далікатнасьці па ўсёй Эўропе (*Слуцкія паясы*).

У Слуцку ёсьць некалькі старых цэркваў і касьцёл, а так сама Траецкі манастыр, у якім перахована шмат беларускае старасьветчыны. У царкве гэтага монастыра пахавана апошняя з роду князёў Слуцкіх, Сьв. Княгіня Софія.

Слуцак мае каля 18 тыс. насяленьня. Да апошніх часоў гэта было ціхое места, значная частка яго жыхараў займаецца гаспадаркаю. Асабліва славіцца Слуцак сваймі гародамі і садамі. З Слуцкіх садоў выйшаў вядомы сорт ігруш—*Слуцкія Бэры*. Нядаўна ў Слуцак праведзена чыгунка і места значна аджыло.

**Капыль**—даўнейшае места, цяпер невялічкае мястэчка. Жыхары, апроч гаспадаркі, займаюцца ткацтвам. Даўней гэтае рамясло стаяла тут шмат вышэй і больш было пашырана.

**Несьвіж** з даўных часоў рэзыдэнцыя Радзівілаў. Места ляжыць між двох вазёраў, а на другім баку вазёраў высіцца замак Радзівілаў. Замак гэты быў сьведкаю жыцьця нашае найбуйнейшае арыстакрацыі ў часы яе найбольшае вагі. Даўней у замку зьмяшчаліся неапісанае вартасьці музэальныя колекцыі— галерыі абразоў, архівы, бібліатэкі. Самыя важныя дакумэнты з беларускае гісторыі перахоўваліся ў Радзівілаў, якім гэта было даручана каралём Жыгімонтам-Аўгустам. Нясьвіжскі замак быў адным з галоўных культурных цэнтраў Беларусі ў той час, калі беларуская культура магла йсьці побач з кожнаю заходня-эўропэйскаю.



Несьвіж.

З старасьветчыны Нясьвіжскае засталося мала; самае каштоўнае вывезена ў Петраград, Бэрлін і нямаведама куды.

Места Несьвіж, які мае каля 10 тыс. насяленьня, належыць і цяпер да культурнейшых мест Беларусі. Шмат камяніцаў, брукаваных вуліц, некалькі сярэдніх школаў, між імі—вучыцельская сэмінарыя, урэшце шмат прыватных таварыстваў, якія вядуць шырокую культурную працу.

**Клецак**—вялікае тарговае і прамысловае мястэчка (7 тыс. жыхароў) ля р. Лані. У мястэчку некалькі млыноў, хвабрыка грабянёў, і моцна разьвіта гароднiцтва. Тут-жа істнуе адна з старэйшых і мацнейшых пазычковых касаў; у Клецку вядзецца значны гандаль збожжам, ільняным семям і інш. **Ляхавічы**—значнае мястэчка (каля 5 тыс. жыхароў). У мястэчку разьвіта гароднiцтва, шмат ёсьць муляроў. Ляхавічы гандлююць мясам, сырымі скурамі і збожжам. Апошнімі часамі гандаль тут стаў падаць дзеля таго, што шмат купцоў перабралася ў Баранавічы, якія ляжаць недалёка.



Кабета з пад Клецку.

На поўначы **Случчыны**, цераз Клецак і Капыль ідзець узгор'е, што памалу зьніжаецца к паўдню павета. На ўзгор'і і яго спадах ляжаць багатыя гліністыя грунты. Мяйсцовасьць

тут вельмі густа заселеная, лясоў мала. Паўднёвая частка павету мае пяшчаныя грунты, пакрыта лясамі і балотамі. Сёлы тут сустракаюцца рэдка, наагул гэта край бязлюдны. Па ўсім сваім адзнакам ён найбольш падобен да Мозырскага Палесься.

Так сама палескі характар мае і поўдзень *Навагрудзкага павету*, але тут лясы ўжо шмат больш парасьцярэбленыя і мяйсцовасьць досіць густа заселеная. Большая ж часць Наваградчыны зусім блізка бязлесная. На мяжы поля і лясоў ляжаць **Баранавічы**. Навакола — пескавыя неўраджайныя грунты, бедныя вёскі. Такою-ж беднаю вёскаю былі і Баранавічы некалькі дзесяткаў гадоў назад. Але прайшлі цераз Баранавічы тры чыгункі і шосса, пабудаваліся 2 вагзалы і Баранавічы сталі значным мястэчкам з больш, чым 10-х тысячным насяленьнем. Расьлі Баранавічы найбольш коштам іншых суседніх мястэчак, якіх чыгунка абмінула. Аднэй з прычынаў росту Баранавіч былі ваенныя лагеры, якія што год раскідаліся ў ваколіцах мястэчка.

**Наваградак**—да XIII веку быў сталіцаю беларускага княжства, а ў XIII веку ён падпадае пад Літву і робіцца сталіцаю Беларуска — Літоўскае Дзяржавы. Тут карануецца Мендоўг, тут у XV веку закладаецца беларуская мітраполія. Пасьля Наваградак цўгі час зьяўляецца галоўным горадам ваяводзтва і ўрэшце цяпер гэта невялічкае, глухое, паветавае места. Насяленьня ў ім каля 10 тыс., прамысловасьць ня разьвіта, гандаль слабы.



Акопы ў Наваградку.

Ляжыць Наваградак у мяйсцовасьці вельмі прыгожай. На адным з узгоркаў высяцца руіны замку Наваградзкага. Другі

ўзгорак, відаць насыпны, называюць магілаю Мендоўга. У Наваградку вучыўся і жыў Адам Міцкевіч.

На ўсход ад Наваградку ляжаць **Карэлічы**, дзе даўней была цукраварня і — **Шчорсы**, ля Нёмну, на надта цяжкой, але добрай зямлі, слаўныя на ўсю Беларусь з сваёй гаспадаркі. У Шчорсах ёсьць вялікая і каштоўная бібліатэка. На паўдня ад Наваградка ляжыць праслаўленае Міцкевічам **воз. Сьвітазь**, а недалёка ад яго, мейсца урадзін яго—засьценак **Заосьсе**. У гэтым глухім закутку радзіўся найвялікшы з пэтаў Беларусі. Там па блізкасьці, ў **Тугановічах** ёсьць сельска—гаспадарская пробная станцыя.



Вясковая вуліца ў Наваградчыне.

**Мір** — даўней вельмі значнае targовае мястэчка; калісь быў сядзібаю цыганскага старшыні, альбо „караля“. Мірскія цыганы даўней займаліся промысламі, — між іншым ткацтвам і жылі на мейсцы. Пасьля сьмерці свайго апошняга караля яны пацягнуліся па сьвеце. У Міры ёсьць вельмі цікавыя руіны вялізазнага замку, пабудаванага ў XVI веку. Тут была рэзыдэнцыя Караля Радзівіла, вядомага пад прозьвішчам „Пане Коханку“. У Міры каля 3 тыс. жыхараў, бываюць конскія ярмаркі два разы на год



**Возера Сьвітазь уночы.**

**Гарадзея** — або **Замір'е**, станцыя чыгункі, першая ў Беларусі па вялічыні вывазу збожжа. Ляжыць у вельмі ўраджайнай мяйсцовасьці. Пры станцыі вырасла мястэчка. У суседнім двары

ёсьць вялікая сыраварня, у якой вырабляюцца вядомыя навет на Петроградзкім і Варшаўскім рынках „*швайцарскія*“ сыры. Добра пастаўлена гадоўля скаціны і гародніцтва.

*Наваградзкі павет* ляжыць найбалей на ўраджайных гліністых грунтох і мае густое насяленьне. Ня гледзячы на малазямельле, сялянства жыве добра. Моцна разьвіта гадоўля коней, якіх гуртаўшчыкі закупляюць на кірмашах і адпраўляюць за граніцу. Скаціну дзяржаць палепшаных пародаў. Шмат садоў і добрыя гароды. Разьвіта ткацтва. Наднёманскія сёлы зарабляюць на сплаве лесу.

„Але ня толькі ураждайнасьцяй адзначаецца Наваградзкая зямля, піша Кіркар, а яшчэ і чаруючым выглядам сваім. Маса рэчак, ручаёў і вазёраў прарэзуюць павет ува ўсіх кірунках і зьліваюцца ў дзьве галоўныя ракі, у вялічавы Нёман, на паўночным усходзе і-Шчару, на паўдні. Высокія ўзгор'і, абшырныя лагчыны, ўсюдых багатая расьціннасьць, дубовыя гаі, цёмныя лясы прыхарошуюць Наваградзкую зямлю, увесь час зьмяняюць віды яе і не даюць супачынку вачом. Шмат перажыла гэтая старэйшая славянская зямля, зрошаная патокамі беларускае і літоўскае крыві. Шмат захавалася тут і памятак ад часоў пракаветных.

Харошы і ясны край гэты, з сваймі цікавымі гістарычнымі ўспамінамі, знаходзіцца як-бы на мяжы хмарнага, туманнага, балотнага Надпрыпяцкага Палесься“.

Апошнія словы Кіркора можна аднесьці і да ўсяго Менскага краю. Далéй за ім на ўсход і паўдня ўсюдых цягнуцца бары і балоты Палесься.

Наваградзкая зямля радзіла і выгадавала **Адама Міцкевіча**. За гэта ён яе праславіў на ўвесь сьвет, як не праслаўляў ні адзін паэта сваёй Бацькаўшчыны.

---

## IV. Наднеманская краіна (Горадзеншчына).

Да Наднёманскае краіны мы аднясім тыя паветы, што ляжаць уздоўж сярэдняга бегу Нёмна і яго прытокаў: **Горадзенскі, Сакольскі, Ваўкавыскі, Пружанскі і Слонімскі** паветы Горадзенскае губэрні, **Лідзкі** павет Віленскае губ. і беларускую частку Сувальскае губэрні (**Аўгустоўскі павет** і часьці іншых).

Краіна гэта мае выгляд лагчыны, на дне якое, пасярод краю цячэ **Нёман**. Ад Нёмна і на паўдня і на поўнач мяйсцовасьць робіцца вышэйшаю. На поўначы, у Лідзкім павеце, цягнуцца разарваныя вузкія ланцугі ўзгорьяў, *(Лідзкае ўзгор'е)* пераходзячыя на паўначы павету ў значнае *Віленскае ўзгор'е*. Яны прымушаюць Нёман рабіць вялікую дугу ад Наваг-

радка да Горадні. На паўдня ад Нёмна разьляглíся невялікія і нявысокія ўзгор'і (Ваўкавыскае, Горадзенскае), разьдзяляючыя басэйны Нёмна і Віслы.

*Ваўкавыскае ўзгор'е* цягнецца на ўсход ад. м. Ваўкавыску, ў Ваўкавыскім і Слонімскім пав. да р Шчары і дзеліцца папалам глыбокаю далінаю р. Зальвянкі. Вышыня яго каля *100—120* сажняў. На паўдня ў Пружанскім пав., ступянёва і нязначна зьніжаючыся, пераходзіць яно ў палескую нізіну. *Горадзенскае ўзгор'е* ляжыць на паўдня і на захад ад Горадні — у Сакольскім, Горадзенскім і Аўгустоўскім паветах. Вышыня яго меншая крыху, чымся Ваўкавыскага, але ўсё-ж даходзіць 100 сажняў. Дзякуючы гэтаму ўзгор'ю, Нёман пад Горадняю мусіць крута павярнуць на поўнач.

Далей на захад ляжыць шырокая пескавая даліна *р. Бабра*, якая цягнецца да самага Нёмна. У часах ледавіковых па гэтай даліне плыў Нёман, уліваючы свае воды праз Нарэў у Віслу. Пасьля Нёман прабіўся праз скалы Сувальскага ўзгор'я і пабег на поўнач. Яго дно сталося балотнаю далінаю р. Бабра. Цяпер старым сьледам Нёмна йдзе *Аўгустоўскі Канал*, што злучае Нёман з р. Бабром. На захад ад каналу падыймаецца значнае і высокае *Сувальскае ўзгор'е*. Большая яго частка знаходзіцца ўжо за межамі Беларусі.

Урэшце на ўсходзе краіны ў Слонімскім пав., за р. Шчараю ляжыць значная частка *Навагрудзкага ўзгор'я*, якое даходзіць тут значнай высачыні (вышэй *140* сажняў). За тое паўднёвая частка Слонімскага пав. мае характар ужо чыста палескі і нічым ня розьніцца ад суседняе з ёю паўночнай Піншчыны.

*Клімат* Наднёманскае краіны цяплейшы і мягчэйшы, чымся ўсіх папярэдніх, што зусім зразумела. Наднёманская краіна моцна насунута на паўдня і захад, калі прыраўнаваць яе нават да Менскае, альбо Віленскае краінаў. Зіма тут бывае мягкая, сьнег у адлігу часта сходзіць. Затое ўлетку ідзе больш дажджоў, неба пахмурнейшае. Сярэдняя гадавая тэмпэратура каля + 7°. Блізкасьць мора моцна ўплывае на клімат гэтае краіны. (Ад Аўгустова да мора — 170 вёр.).

*Грунты* краіны ў большасьці — лёгкія супяшчаныя, досіць ураджайныя. Паміж супяскоў, на больш павышаных мяйсцовасьцях, ляжаць астравамі—цяжэйшыя суглінкі, і этак званыя пшанічныя землі. Але за тое спатыкаецца досіць многа і зусім бедных пяшчаных грунтоў. Найбольш іх у Слонімскім пав. на правым беразе Шчары, а так сама ля Нёмна ў Горадзенскім пав. (правы бераг) і ў Аўгустоўскім (левы бераг). Хаця большая частка гэтых пяскоў ляжыць пад лясамі, але шмат ужо лясоў парасьцярэблівана. Не заўсёды ўмеў аднак гаспадар скарыстаць з пяшчанага грунту; часта вецер раздзьмухуе палеткі і робіць на іх мейсцы сьветла — жоўтую пяшчаную пустыню — выдму.

Сярэдзіна Наднёманскае краіны мае мала *лясоў;* часта спатыкаюцца зусім бязлесныя мяйсцовасьці, дзе на дзесяткі вёрст наўкола няма лесу. За тое ўздоўж межаў краіны, цягнуцца вялікія лясы — пушчы. Паўночныя наднёманскія пяскі займаюць *пушчы Горадзенская і Аўгустоўская.* З усходу ідуць *Дакудаўскія лясы* — ля Нёмна, і цэлы лесны пояс уздоўж пяшчанага правага берагу Шчары. Урэшце на паўднёвых адхонаватых спадех Ваўкавыскага ўзгор'я, ляжыць слаўная *Белавежская пушча.*

У лясох расьце ўжо шмат ліставога дрэва; спатыкаюцца і цэлыя ліставыя лясы, напр. дубнякі. На паўднёвым усходзе ў Слонімскім і Пружанскім паветах ляжаць абшырныя *балоты,* праўда ўжо моцна падсушаныя. Частка іх улетку ўжо косіцца. *Сенажацяў* наагул уздоўж рэкаў краіны ёсьць шмат; гэта дазваляе трымаць больш скаціны.

*Гаспадарка* ў Наднёманскай краіне стаіць высака і да таго-ж ня толькі ў дварох, а і на вёсках. На лёгкіх грунтох, якіх ў краіне найбольш, дзе даўней сеялі толькі авёс цы грэчку, цяпер садзяць шмат бульбы, сеюць канюшыны, сарадэлі і інш. Найбольш сеюць, ведама, жыта, аўсу, а пасьля *бульбы.* Сеюць так сама і ячмень і грэчку пры чым грэчкі тут сеюць больш, чымся ў суседніх краёх. Гадуюць заводзкую скаціну: коней, сьвіньні. Разводзяць значныя сады і гароды.

Як мы ведаем, цераз краіну праходзіць апрача Нёмна яшчэ *Шчара,* злучаная з Прыпяцьцю *Агінскім каналам.* Гэтыя вадзяныя дарогі, калі-б былі добра выкарыстаны, маглі-б моцна падняць эканамічнае жыцьцё краю. Цяпер яны служаць найбольш для сплаву лесу, даючы заробак насяленьню, асабліва ў Пружанскім і Слонімскім паветах.

Па ўсім краі разсыпана шмат дробных *мястэчак,* населеных найбольш жыдамі У мястэчках звычайна шмат рамяснікоў, а ў некаторых вырастаюць і хвабрыкі як, прыкладам, у мяст. *Крынках.* З прамысловага боку Наднёманская краіна досіць разьвіта. Найбольшы прамысловы цэнтр-*Горадзен.* Моцна йдзе ў гару і **Слонім.**

Апроч вадзяных дарог краіна досіць багата чыгункамі і асабліва шосамі. Краіну перасякаюць 7 чыгункавых лініяў і шмат шосаў. Есьць 5 вузлавых станцыяў: Горадзен, Ваўкавыск, Ліда, Масты і Гайнаўка. З Горадна разыходзяцца чыгункі ў 4 кірунках, а шосы ў 5-х.

**Важнейшыя мяйсцовасьці:**

На высокім правым беразе Нёмна, пры ўтоку р. *Гараднічанкі* разьлёгся паміж лясістых глыбокіх яроў стары **Горадзен** альбо, як яго часьцей называюць *Горадня.* Гэта адзін з цікавейшых і харашэйшых беларускіх гарадоў, астравок старое эўропейскае цывілізацыі сярод безканечных наднёманскіх пушчаў.

Горадзен ляжыць як раз недалёка ад таго мейсца, дзе Нёман, найбліжэй падыйшоўшы да рэк сыстэму Віслы (Бобр) і вялікіх мазурскіх азёраў, што ляжаць у Прусах на бліжэйшай дарозе да мора, крута заварачуецца і цячэ ўжо далей на поўнач у краіны літоўскія.

Мяйсцовасьць з такім добрым географічным палажэньнем была пэўне-ж заселена яшчэ ў самыя далёкія дагістарычныя часы. Гісторыя-ж застае тут дрыгвічоў, якія, пэўне, прыплыўшы па Нёмну, занялі гэты важны пункт і ўсю яго ваколіцу. На беразе Нёмна пабудавалі яны замак Горадзен *(абгароджаны сьцяною)* і адгэтуль пачалі разсяляцца далей па Бабру і ўніз па Нёмну сярод дзікіх бязлюдных пушчаў, што ляжалі ўздоўж гэтых рэкаў, аж пакуль не дайшлі да літоўскіх сялібаў на поўначы і захадзе.

З часам Горадзенскі замак быў яшчэ больш умацаваны, а каля яго вырасла вялікае і багатае места, меўшае шырокія гандлёвыя зносіны. Яго разьвіццю аднак моцна перашкаджалі напады чужынцоў на гэты, далёка на захад высунуты, клін беларускае зямлі. Праз XII і XIII вякі места некалькі разоў забіралі, палілі і рабавалі рыцары-крыжакі, палякі, украінцы, татары. Беларускія Горадзенскія князі і выгадаванае ў бітвах насяленьне моцна баранілі роднага места.

Урэшце Горадзен, як і ўся Беларусь апынуўся *пад Літоўскімі князямі* Вялікія Князі Літоўскія вельмі любілі Горадзен, часта і падоўгу тут жылі. Так сама пасьля ўпадабаўся Горадзен каралём польскім. Апроч свайго хараства быў гэта з вялікіх беларускіх гарадоў найбліжэйшы да Польшчы. Найбольш у Горадні жыў слаўны кароль польскі Стэфан Баторы. Ен-жа пабудаваў тут каменны замак, які істнуе і да нашых часоў *(Стары Замак)*.

Пазьней Горадзен зрабілі *сэймовым местам* і кожын па чародзе трэці соймадбываўся тут у сумысьле на тое пабудаваных палацах. Тут былі каралеўскія канцэлярыі, а ў канцы XVIII веку сюды пераведзены быў Галоўны Трыбунал (суд) і Грашовая Камісыя (міністэрства фінансаў). Урэшце ў Горадні адбыўся сойм, які згодзіўся аддаць большую часьць Беларусі Маскоўцам, падпісаны быў акт аб другім падзеле Польшчы ў 1793 гаду і тут-жа яшчэ цераз два гады апошні кароль Польскі выракся свайго каралеўскага пасаду, дый з Горадні-ж выехаў ён на заўсёднае жыцьцё ў Пецярбург.

У гісторыі гэтага старасьвецкага места, як мы бачым, адбыліся найвыразьнейшыя абразы нешчасьлівага саюзу Беларуска-Літоўскае Дзяржавы з Польшчаю. Як раз у мурох гэтага беларускага места гісторыя наймацней пакарала Польшчу за зьнішчэньне незалежнасьці Беларуска-Літоўскае Дзяржавы.

З старых будынкаў (а ёсьць іх у Горадні даволі) асаблівай увагі варта *Барысаглебская царква*, што знаходзіцца ў *Каложы* (прадмесьце Горадні за р. Гараднічанкаю, проці Замку). Царква

гэтая стаіць ля самага берагу Нёмна і дзеля таго частка яе сьценаў разам з берагам абвалілася. Царква будавана у бізантыйскім стылю; яе сьцены маюць у сярэдзіне ўмураваныя гаршкі—*галасьнікі* для лепшага гуку сьпеваў. Зьверху над гэтай цэннай памяткай старасьвецкага беларускага будаўніцтва зроблена дзераўляная павець.

З касьцёлаў найбольшае ўвагі па свайму характару заслугуе *Фарны* (даўней езуіцкі) *касьцёл*, будаваны ў XVII веку. У капліцы пры гэтым касьцеле ёсьць цудоўны абраз Багародзіцы; на сьценах гэтае-ж капліцы зьмешчаны старасьвецкія абразы цудаў Прач. Багародзіцы, на якіх мы можам пабачыць між іншым старасьвецкія беларускія вопраткі, павозкі і г. д.

Есьць яшчэ некалькі старых касьцёлаў і цэркваў—прыкл. у манастыры Брыгітак, Бэрнардынаў і г. д., якія найбольш пабудаваны ў XVII веку. У мурох Барысаглебскага манастыра зьмяшчаецца адна з першых і лепшых беларускіх школак.

Асаблівай увагі варт *стары замак* Горадзенскі, пабудаваны ў часы Баторыя, ў XVI в. Стаіць ён у вясёлым мейсцы на высокім беразе Нёмна пры самым утоку р. Гараднічанкі, а ад места ён аддзелены глыбокім ровам, цераз які перакінуты стары каменны мост. Стромкія спады гары паабрасталі густым хмызьняком, а ўнізе плыве стары Нёман Зьверху-ж, з замку адкрываюцца цудоўныя віды ў далячыню на пяшчыстыя берагі Нёмна і надбярэжныя хваёвыя бары.

У канцы XVIII веку Горадзен з культурнага і прамысловага боку стаў адным з першых местаў у Беларусі. Падскарбі Літоўскі (міністар фінансаў) *Антоні Тызенгаўз* залажыў тут вэтэрынарную і мэдыцынскую, каморніцкую і архітэктурную *школы*, бібліятэку, батанічны сад, кадэцкі корпус, тэатр, балет і аркестр, друкарню і слаavалітню (дзе робяць друкарскія шрыфты) і выдаваў газэту. Зьбіраўся пабудаваць абсэрваторыю астранамічную і ўвесь час меў на думцы, каб залажыць у Горадні Акадэмію Навукаў.

Вельмі многа зрабіў Тызенгаўз і ў справе эканамічнай. Апроч усякіх палепшаньняў у гаспадарцы каралеўскіх маемасьцей, якімі ён загадаваў, апроч правядзеньня дарогаў, асушэньня балотаў, пракапаньня Каралеўскага Каналу, ён залажыў у Горадні, глаўным чынам у яго прадмесьці *Гародніцы*, паложанай на правым беразе р. Гараднічанкі і ў *Ласосьне*—за Нёмнам, каля *15 хвабрыкаў*: палатняную, якая сваім вырабам была нягорш вядомых галяндзкіх хвабрыкаў, суконную, шаўковых вырабаў, аксамітаў, хвабрыку мэталёвых вырабаў, карэтную і інш. Больш 3000 чал. працавала на гэтых хвабрыках. Аднэй толькі вышэйшай адміністрацыі (выпісанай з-заграніцы) было каля 70 чалавек. Паадкрываны былі хвабрычныя крамы па ўсім краю. А ў Горадні заложаны быў банк і гандлёвая кантора, якая зносілася з заграгічнымі фірмамі.

Тызенгаўз хацеў зрабіць Беларусь адразу прамысловым краем. Але яго хутка скінулі з пасады, дзякуючы прыдворнай інтрызе; без яго-ж і школы і хвабрыкі хутка паразваліваліся. Толькі аб балету і аркестру кароль паклапаціўся і забраў іх у Варшаву.



Нёман пад Друзгенікамі.

Аднак і цяпер Горадзен досіць прамысловае места. У ім ёсьць *хвабрыкі*—табачныя, мылаварныя, бравары, цагельні і г. д. з 3 тыс. работнікаў. На Нёмне — значная прыстань. Апроч таго шмат чыгунак і шосаў, якія злучаюць яго з Вільняю, Беластокам, Варшаваю і іншымі местамі. Улетку вялікі кірмаш. Наагул гандаль Горадні значны, але куды меншы, чымся яму трэба было быць пры такім дагодным геаграфічным палажэньні гэтага места.



**Горадзен.**

*Горадзенскі павет* Нёмнам дзеліцца на дзьве часткі, мала адна да аднэй падобныя. Паўночная мае пяшчаныя грунты і ў большай часьці занята лясамі Горадзенскае пушчы. Паўднёвая частка пакрыта больш цяжкімі, ураджайнымі грунтамі, ўзгоркаватая (Горадзенскае Узгор'е), гусьцей заселеная і блізка што бязлесная.

На поўнач ад Горадні, ля Нёмна, ляжаць **Друзгенікі**. Сюды зьяжджаецца што году каля 10.000 хворых на лячэньне друзгеніцкімі водамі (бромо — іодовымі) і на супачынак сярод цудоўнае прыроды гэтай мяйсцовасьці. Друзгенікі ляжаць пры этнаграфічнай мяжы паміж ліцьвінамі і беларусамі.

**Масты**,—на ўсход ад Горадні, значная прыстань на Нёмне са складамі для ссыпкі збожжа. Ад Мастоў разыходзяцца чыгункі ў 3-х кірунках—на Горадзен, Ліду і Ваўкавыск. Паміж Мастамі і Горадняю ляжыць фалів. **Мілкоўшчына**, дзе радзілася Аліза Гарэшкавая, якая гэтак хораша апісала Наднёманскі край і тамашніх людзей.

На паўдня ад Горадні ляжыць значнае мястэчка **Крынкі**, у якім ёсьць некалькі вялікіх гарбарняў. Есьць апроч таго ў гэтай часьці павету некалькі значных гандлёвых мястэчак, як прыкл. **В. Бераставіца** з вялікімі кірмашамі на коні, **Алекшыцы** і г. д.

**Ліда** — невялікае старое места, на вузьле дзьвёх чыгунак. Насяленьня каля 8 тыс. чал. Некалькі дробных хвабрык з 500 работнікамі. Гандаль досіць значны—скацінаю, сьвіньнямі і коньмі і наагул прадуктамі гаспадаркі.



Руіны Лідзкага замку.

**Эйшышкі** — старое беларускае мястэчка з $2^1/_2$ тыс. насяленьня. Даўней называлася *Остравам*, а ліцьвіны заваяваўшы яго ў XIII в. зьмянілі назоў. Мястэчка вядзе бойкі гандаль скацінаю і сьвіньнямі. З ваколіцаў шмат выяжджаюць у Амэрыку. **Жалудок** невялікае мястэчка славіцца сваім конскім кірмашам. Тут пахаваны адзін з віднейшых эканамічных дзеячоў Беларусі Антон Тызенгаўз.

*Лідскі павет* заняты на высокім ўзгор'ем, якое адходзіць ад Віленскага узгор'я і ступянёва зьніжаецца ў кірунку да Нёмна. Грунты мае, асабліва ў паўднёвай часьці ўраджайныя. Насяленьне тут жыве густа, як ні ў адным з паветаў даўнейшае Віленскае губэрні На поўначы павету, за Эйшышкамі, беларусы жывуць перамяшаўшыся з ліцьвінамі

**Слонім**, ля р. Шчары — стара, беларускае места. Найбольшы росквіт быў у XVIII веку, калі тут была рэзыдэнцыя важнага магната, князя Агінскага, (каторы за свой кошт пракапаў Агінскі канал). Тады Слонім моцна вырас. Пасьля ён крыху падупаў, а цяпер з правядзеньнем чыгункі і шосаў на Берасьце, Беласток і Баранавічы йзноў пачаў шыбка разьвівацца. Цяпер у ім насяленьня больш за *20 тыс.* Есьць прыстань, якая адпраўляе шмат лесу і хлеба ў Прусы Есьць суконная хвабрыка і некалькі заводаў.



Слонім.

За 10 вёрст ад Слоніма, ля Шчары, знаходзіцца **м. Жыровіцы**. У XV веку тут у лясной нетры, на йгрушы пастухі знайшлі абраз Багародзіцы, які праславіўся пасьля на ўсю Беларусь. Быў пабудаваны манастыр, а каля яго вырасла мястэчка. І да цяперашніх часоў сюды сходзяцца тысячы багамольцаў.

На поўнач ад Слоніма, недалёка ад Нёмна, ў гарыстай мяйсцовасьці ляжыць прамысловае м—ка **Дзятлава**. Тутэйшыя рамясьнікі вырабляюць найлепшы паркет. Мястэчка наагул таргове і багатае. Насяленьня каля 5 тыс. чал.

У заходняй часьці Слонімскага пав. ёсьць два мястэчкі: **Дзярэчын і Ражана**, у якіх даўней жылі магнаты Сапегі з сваім казачна-пышным дваром. Уперад рэзыдэнцыя Сапегаў была ў Ражане, але пасьля Сапегі залажылі там некалькі хвабрыкаў, з якіх суконная існуе і дагэтуль, а самі перабраліся ў Дзярэчын, дзе ў харошай мяйсцовасьці пабудаван раскошны палац, якога называлі *Малым Версалем*. Дзярэчын славіцца сваймі садамі, адкуль выйшаў вядомы беларускі сорт ігрушаў *сапяжанкі*. У мястэчку ёсьць гарбарня; спаміж жыхараў шмат ёсьць муляроў і каменяроў.

У **Марачоўшчыне**, невялічкім фальварку каля м-ка Косава радзіўся Тадэуш Касьцюшка, слаўнейшы начальнік польскага войска.

Рака *Шчара* дзеліць *Слонімскі павет* на дзьве розных часьці. На ўсходзе мяйсцовасьць надзвычайна гарыстая, з харошымі відамі, за якія яе называюць **Слонімскай Швайцарыяй**. Грунты тут найбольш лёгкія, ля р. Шчары пяскі, пакрытыя



Зубры ў Белавежскай пушчы.



З Белавежскае пушчы.

вялікімі лясамі. Захад Слонімскага павету ляжыць на ніжэйшых узгор'ях, (Ваўкавыскае) мае ўраджайныя грунты, густа заселены. На паўдні павету, за Шчараю, ляжаць абшырныя балоты (Малочкава і інш.) і лясы, з беднымі грунтамі і рэдкім насяленьнем. Гэта ўжо *Палесьсе*.

Усходняя частка *Пружанскага павету* зьяўляецца пераходнаю да Пінскага краю. Есьць у ёй шмат балот і балоцістых сенажацяў, зямля аднак досіць ураджайная. У гэтай часьці павету галоўным эканамічным цэнтрам зьяўляецца **Бяроза Картузская**, торговае і прамысловае мястэчка ля чыгункі З м. **Пружаны** у 5-х кірунках расходзяцца шосы. Насяленьня ў гэтым месьце каля 10 тыс. чал.

Усю заходнюю частку Пружанскага павету займае найбольшая у Эўропе **Белавежская пушча**. Грунты тут найбольш лёгкія пяшчаныя і супяшчаныя. Насяленьне найбольш займаецца лесавымі промысламі. Насяленьне досіць рэдкае. У самы цэнтр пушчы—вёску **Белавежу**, праведзена чыгунка з Бельску.

На краю пушчы ляжыць значнае мястэчка **Шарашэва**.

**Ваўкавыск** з 10 тыс. насяленьня ляжыць пры крыжаваньні дзьвёх чыгунак. Старое беларускае места, заложанае ў Х веку. У яго павеце асабліва адзначаюцца два старасьвецкіх гандлёвых мястэчкі—**Зэльва і Сьвіслач** з вялікімі кірмашамі, на якія

зьяжджаліся даўней з далёкіх навет паветаў. Асабліва вялікі кірмаш бывае ў Зэльве. Ен цягнецца аж 2 месяцы, улетку. У Сьвіслачы істнуе беларуская вучыцельская семінарыя. Мястэчка досіць прамысловае.

У в. *Мастаўляны* радзіўся Каліноўскі, галава паўстаньня проці расейцаў у 1863 г. Быў ён шчырым беларусам.

*У Сакольскім павеце,* апроч самой **Саколкі**, — невялікага места з 5 тыс. жыхараў, ёсьць яшчэ некалькі гандлёвых і прамысловых мястэчак; у **Янаве** ёсьць хвабрыка зялезных вырабаў, у **Васількаве**,—які ўжо трэба аднесьці барджэй да Беласточчыны, ёсьць прадзільная хвабрыка. Багатыя гандлёвыя мястэчкі **Сухаволя, Дуброва**. У апошнім, у касьцеле ёсьць крыж з надзвычайнай па мастацтву разьбою.

У манастыры, у **Ражаным Стоку** ёсьць цудоўны абраз Багародзіцы, дзеля чаго сюды зыходзяцца што году дзесяткі тысячаў багамольцаў.

Увесь *Сакольскі* павет пакрыты ня высокімі харошымі ўзгоркамі, якія зьніжаюцца ў бок даліны р. Бабра; павет мае добрую ўраджайную зямлю. У тутэйшых рэчках шмат рыбы, у некаторых сустракаецца форэль. На паўдні павету ляжыць досіць абшырная *Букштэльская пушча.* Сялянства ў Сакольскім павеце заможнае і мае вялікую ахвоту вучыць дзяцей. За апошнія дзесяткі гадоў шмат выйшла з Сакольскага сялянства інтэлігэнцыі—асабліва духаўнікоў.

*Аўгустоўскі* павет і частка *Сэйнскага,* якія заселены беларусамі, займаюць обшырныя лясы вядомыя пад назовам **Аўгустоўскае пушчы**. У гэтай пушчы ёсьць шмат рэчак і дробных азёраў. З рэчак найбольшая—р. *Чорная Ганжа,* якая ўходзіць у сыстэму Аўгустоўскага каналу. Спаміж балотаў найбольшае –*Воўчае.* Насяленьне тут чыста беларускае але ёсьць крыху высяленцаў з Польшчы—мазуроў, якія займаюцца гонкаю смалы і дзёгцю. Іх называюць *буднікамі*. Апроч гаспадаркі, жыхары тутэйшыя займаюцца рыбалоўствам (рыбы тут шмат) і дабычаю балотнае руды і торфу на апал. На краю пушчы, у м-ку **Штабіне** ёсьць хвабрыка зялеза і гаспадарскіх прыладаў. Вырабляюць тут так сама жорны для млыноў.

**Аўгустоў** ляжыць паміж вялікіх двох азёраў сярод бедных лясістых пяшчаных ваколіцаў пры Аўгустоўскім канале. Рух на канале малы дзеля малое вады, а яшчэ затым, што праведзена чыгунка і ўсе грузы йдуць па ёй. Ад Аўгустова чыгунка йдзець праз *Сувалкі* проста ў Нямеччыну.

У паўднёвай частцы Аўгустоўскага павету, каля Горадні, мясцовасьць бязлесная і гарыстая (Горадзенскае ўзгор'е) зямля ўраджайная, шмат садоў. Есьць тут навет свая асобая парода скаціны—*зубровая,* якае мае кароткія рогі і надта малочная. Каля в. **Лабна** капаюць тут крэйду, якая ляжыць ня глыбока пад зямлёю.

Над Нёмнам, у Сэйнінскім пав. ляжыць в. *Лішкоў* з руінамі старога замку, некалісь, яшчэ у XI веку пабудаванага Горадзенскімі беларускімі князямі.



Р. Чорная Ганжа ў Аўгустоўшчыне.

У *Сакольскім і Аўгустоўскім* паветах, у беларускай мове спатыкаюцца польскія словы. Аднак граніца паміж беларусамі і палякамі тут вельмі рэзкая. Гэтаму памагае і нацыянальная сьвядомасьць, якая сярод тутэйшых беларусоў значна пашырана.

---

## V. Надбужанскі край (Падлясьсе).

Да Надбужанскага Краю мы залічуем паветы **Бельскі, Беластоцкі і Берасьцейскі**, якія ляжаць над Бугам і яго прытокамі Нарвяй Нурцом, Бабрам і інш. Гэта *самы заходні* спаміж краёў Беларусі і *найбольш разьвіты з прамысловага боку*. Ляжыць ён на мяжы з палякамі (ляхамі), дзеля чаго, называецца *Падлясьсем*.

Край мае выгляд досіць роўны, пахілены на захад і на паўдня ў бок Бугу і Нарві. Берагі р. *Нарві* і яе прытока р. *Бабра* маюць ужо зусім нізінны, балотны характар. У Бельскімжа павеце, на вададзеле Буга і Нарві мяйсцовасьць паднятая, шмат узгоркаў, сярод якіх найвышэйшыя завуцца „*Княжымі горамі*“ (на ўсход ад Бельска).

*Грунты* Надбужанскага краю досіць ураджаўныя, асабліва ў Бельскім павеце. Найбольш пашыраны тут суглінкі і супяскі. Толькі ўздоўж р. *Бабра*, асабліва пры яго ўтоку, ляжаць пяшчаныя грунты. Апроч таго паўднёвая палавіна Берасьцейскага павету мае характар Палесься з беднымі пяшчанымі грунтамі і вялізазнымі балотамі.

*Клімат* Надбужанскага Краю—цёплы і лагодны з сярэдняй гадавою тэмпэратураю каля $+7{,}5^0$, цёплай, маласьнежнаю зімою і вільготным летам. Лясы пераважаюць ліставыя, але засталося іх не багата. Толькі на паўдні Берасьцейскага пав. ды каля Беластоку пазаставаліся значныя лясныя прасторы. За тое шмат сенажацяў.

*Па занятках жыхараў* край распадаецца на дзьве палавіны. У паўночнай, каля Беластоку, вялізазнае значэньне маюць *хвабрычныя промыслы*. Каля *15 тысяч* жыхараў *працуюць на хвабрыках* у самым Беластоку і людных вялікіх мястэчках каля яго. Шмат дробных рамясьнікоў працуюць на ўласных варштатах. З поўным правам Беласточчына займае ў Беларусі *першае мейсца па разьвіцьцю прамысловасьці*. Паўднёвая палова краю носіць ужо больш гаспадарскі характар, хаця і тут трапляюцца прамысловыя мястэчкі і месты.

Па ўсім краю *гаспадарка* стаіць высака. Значны лік месткага прамысловага беззямельнага насяленьня патрабуе, каб гаспадарка прахарчавала яго, а дзеля таго гаспадару лёгка прадаць і дабро, і бульбу, і малако. Дзякуючы добрай зямлі, ды лагоднаму клімату сеюць тут шмат пшаніцы-азімкі, асабліва ў Бельскім павеце, які ў гэтай справе займае першае мейсца ў Беларусі. У Высокім Літоўскім навет выведзены свае сарты

пшаніцы і жыта. Вельмі многа садзяць бульбы. З гэтага боку асабліва адзначаецца *Беластоцкі павет*—ён *найбольш* з усіх беларускіх паветаў *садзіць бульбы*. Гаспадары маюць добрую, часта заводскую, скаціну, сьвіньняў і коней; па вёсках шмат садоў і вялікія прамысловыя месты ў некаторых мяйсцох займаюцца разводам гароднага насеньня на продаж (напр. у *Кляшчэлях*).

Шчыльнасьць насяленьня вялікая і ня толькі ў мястох, але і ў вёсках. Ізноў-жа і *з боку шчыльнасьці насяленьня Беластоцкі павет займае першае мейсца* ў Беларусі. Рэшта краю заселена так сама досіць густа, хаця ўжо значна радзей чымся Беласточчына.

У заходняй частцы краю пры ўтоку Нурца і Бабра перамяшаўшыся з беларусамі жывуць *палякі* (мазуры), а на паўдні Берасьцейскага павету *пінчукі*. Надбужанскія беларусы — самая заходняя частка беларускага народу, сумежная з іншымі славянскімі народамі блізкімі па мове і быту да беларусоў—палякамі і украінцамі. Дзеля гэтага ў мове надбужанскіх беларусоў спатыкаюцца польскія і украінскія словы.

З даўных часоў над Бугам жылі дрыгвічы; тут былі імі пазакладаны месты — Берасьце, Драгічын; сумежна з дрыгвічамі жыло літоўскае плямя *яцьвезь* якое да нашых часоў не дажыло, згінуўшы ў барацьбе з мацнейшымі суседзямі. За надбужанскія гарады даўгі час ішла барацьба паміж Польшчаю, Літвою і Валынскімі ды Галіцкімі (украінскімі) князямі. Некаторы час гэтыя апошнія валадалі краем і ў Драгічыне навет каранаваўся на караля Даніла, князь галіцкі. Пасьля край адыйшоў да Літоўска-Беларускае Дзяржавы.

Пасьля III разьдзелу Польшчы паўночная частка краю — Беласточчына, так сама як і Сакольскі і Аўгустоўскі паветы, былі адыйшлі *пад Прусы* і былі пад ёю аж да 1808 году. За гэтыя дзесяткі гадоў немцы патрапілі стварыць такі моцны прамысловы цэнтр, як Беласток. Пасьля далучэньня краю да Расеі, Беластоцкая прамысловасьць не пабурылася а разьвівалася і разьвіваецца да нашых часоў.

## Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Беласток** заложаны ў XIV веку, але даўгі час быў нязначнаю вёскаю. Толькі ў XVIII веку, калі тут пасяліўся гэтман Бравіцкі з сваім дварам, Беласток пачаў расьці. У хуткім часе ён трапіў пад Прусы і яны тут завялі хвабрычную прамысловасьць. Гэтая прамысловасьць яшчэ больш узрасла, калі ў 30-х гадох мінулага веку была зроблена мытная граніца на мяжы Беларусі з Польшчаю. Шмат хвабрыкантаў пераехала тады з Польшчы ў Беласток разам з сваймі хвабрыкамі. У нашыя часы Беласток *самае большае хвабрычнае места Беларусі*. У ім больш за 300 хвабрыкаў, на якіх працуе каля *6 тыс. работнікаў*; тавараў выробляецца больш як на 6 міл. руб. Найбольш разьвіта *сукон-*

*на-кортавая* прамысловасьць. Ткацкіх хвабрык 175, прадзільных 50, суконных каля 20. Апроч таго ў Беластоку ёсьць некалькі гарбарняў, мылаварных заводаў, пільняў, млыноў і г. д.

Беластоцкія тканіны адзначаюцца сваёю танніною, шмат іх ідзець на тандэтную адзежу. Над шыцьцём гэтае адзежы ў самым Беластоку працуюць больш за 3000 краўцоў, ды на беластоцкім-жа матар'яле працуюць найбольш і віленскія краўцы. Свае вырабы Беласток вывозіць і далёка за межы Беларусі — найбольш у расейскія месты.

З Беластоку разыходзяцца чыгункі ў 5-х кірунках і некалькі шосаў. Жыхараў у Беластоку каля *100 тыс.* чалавек, паміж якіх найбалей (каля 2/3 жыдоў).

Ня менш важныя з прамысловага боку, чымся сам Беласток, яго ваколіцы. У Беластоцкім павеце ёсьць *каля дзесятку вялікіх мястэчак* з моцна развітаю прамысловасьцю. Важнейшыя з іх: Супрасьль, Заблудаў, Харошча, Гарадок, Ясяноўка, Гонёндз, Кнышын.

У **Заблудаве** (на паўдня ад Беластоку) кортавая і суконная хвабрыка і 5 вялікіх гарбарняў, 2 паравых млыны і шмат рамясьнікоў — ткачоў.

У **Супрасьлі** істнуюць суконныя хвабрыкі. Абодва гэтыя мястэчкі між іншым слаўны сваймі *старасьвецкімі праваслаўнымі манастырамі* з багатымі бібліатэкамі, якіх залажылі ў XVI в. Ходкевічы. Былі тут даўней і важныя друкарні, з якіх шмат выйшла тады беларускіх кнігаў У Супрасьльскім манастыры ў царкве, сьцены размалёваны вельмі цікавымі старымі, з XVI в. рысункамі-*фрэскамі*. У **Харошчы**, якая ляжыць над Нарвяй (на захад ад Беластоку) знаходзіцца адна з большых і лепшых суконных хвабрыкаў. Недалёка ад Харошчы ёсьць пакрытая карлаватымі дубамі гара *Сьвіткавізна*, на якой, як кажа лягенда, за часоў паганскіх, адпраўляліся малітвы богу Сьветавіду. Пад самым Беластокам ляжыць вёска **Дайліды**, ў якой ёсьць кортавая хвабрыка, бровар і хвабрыка ільняных вырабаў. А ў **Гарадку** (пры чыгунцы з Беластоку на Воўкавыск) сярод жыхараў шмат ткачоў — рамясьнікоў, што ткуць у сябе ў хаце корты.

У невялікім мястэчку **Ясяноўцы** (на паўнач ад Беластоку) моцна разьвіта гарбарства. Істнуе каля 30 гарбарняў. Акалічныя сяляне ткуць з воўны дываны.

**Гонёндз** вялікае мястэчка ў паўночнай часьці павету, пры чыгунцы Беласток—Граева; значная прыстань на р. Бабру, адпраўляе збожжа і лес. На другі бок Бабра ляжыць крэпасьць **Асавец**, пабудаваная гадоў 30 назад. Далей чыгунка йдзе па *Шчучынскаму павету* каля 3-х міляў і даходзіць ўрэшце граніцы Нямеччыны ў м. *Граеве*. Адгэтуль зялезная дарога йдзе проста цераз Лык-на Кёнігсбэрг (Каралевец).

*Беластоцкі* павет, як ужо казалася, займае вельмі выдатнае палажэньне ў Беларусі. Гэта найбольш прамысловы і найгусьцей заселены спаміж паветаў Беларусі. У ім вельмі многа

мескага насяленьня у вялікіх прамысловых мястэчках; гаспадарка стаіць высака. Грунты Беласточчыны хоць камяністыя, але досіць ураджайныя; ёсьць аднак шмат пяскоў і балотаў, асабліва ўздоўж р. Бабра. Затое ў Беласточчыне вельмі добрыя сенажаці.

У *Бельскім павеце* прамысловасьць мае ўжо меншае значэньне: на першы плян выступае гаспадарка. Грунты тут вельмі добрыя, клімат лагодны. Дзеля таго тут сеюць вельмі многа *азімкі - пшаніцы,* а так сама шмат садоў і добрых гародаў.

Апроч досіць старога павятовага места **Бельска** з 9 тыс. жыхароў, у павеце ёсьць вялікія і прамысловыя мястэчкі **Бранск, Семяцічы, Цехановец** і інш. **Бранск — заходні** (не мяшаць з Бранскам з над Дзясны) над р. *Нурцом* — мае больш *7 тыс.* жыхароў. Вельмі старое места. Цяпер у ім ёсьць вялікая гарбарня, ткацкая хвабрыка і млын. **Семяцічы** — на паўдні павету значные мястэчка з *6 тыс.* жыхароў. Есьць табачная і сукопная хвабрыкі. У XVIII в. княгіня Ганна Сапяжанка залажыла бібліатэку, габінэты натуралістычны, фізычны, музэй старасьветчыны і шмат хвабрыкаў. Усё гэта пасьля яе сьмерці разваліласяя. Княгіня між іншым клапацілася і над доляю сялянства. Яна напісала 8 томаў статутаў для сялянства і подлуг гэтых статутаў упраўляла ў сваіх дварох. Яна старалася прывучыць народ да супольнага, грамадзкага жыцьця, заводзіла коопэратывы. У яе часы Семяцічы далёка былі вядомы. З усіх бакоў з'яжджаліся сюды, каб прыгледзіцца да новых парадкаў, паглядзець на вучоныя габінэты і музэі.

На харошых усхонаватых берегох Бугу стаіць стары **Драгічын** — адзін з важнейшых дрыгвіцкх гарадоў. Шмат бачыў ён за сваю гісторыю. Цяпер гэта невялікае мястэчка. Цікавая тут досіць высокая Замковая гара, якая ўздымаецца над самым Бугам, а на ёй руіны замку, пад'зямельлі. Буг што году ўсё больш і больш падмывае Замковую Гару.

На абодвух берагох Нурца ляжыць прамысловае мястэчка **Цехановец** з *5 тыс.* жыхароў. Есьць у ім некалькі суконных хвабрыкаў, 2 млыны, цагельня, бровар. Ваколіцы Цеханоўца заселены дробнаю шляхтаю, якая моцна спольшчылася.

Невялікае мястэчка **Кляшчэлі** ляжыць пры крыжаваньні чыгунак, што абяцае яму з часам шыбкае разьвіцьцё. Цяпер Кляшчэлі славяцца разводкаю гароднага насеньня, найгалаўней— агурковага, і хмелю.

У Бельскім-жа павеце знаходзіцца м-ка **Мельнік.** Процi яго за Бугам стыкаецца беларуска — польская і беларуска — украінская межы. Мельнік старое мястэчка. Цяпер яго жыхары займаюцца паленьнем вапны, якую капаюць у акалічных горах.

У паўночнай часьці Берасьцейскага павету, якая мае шмат супольнага з суседнім Бельскім паветам ляжаць між іншым старасьвецкія мястэчкі — **Высокае** і **Камянец**. *)

**Высокае** мае каля *5 тыс.* жыхараў, занятай гандлем і промысламі. Славіцца Высокае вельмі добра пастаўленаю гаспадаркаю ў яго ваколіцах. Адгэтуль выйшлі беларускія сарты збожжа: *Высока - Літоўская пшаніца і жыта*. Разводка заводзкага насеньня і цяпер вядзецца ў шырокіх разьмерах. У тутэйшым двары надзвычайна харошы парк. **Камянец** — значнае мястэчка (каля *7,500* жыхараў) на краю Белавежскае пушчы. Ад старых часоў (з XIII веку) перахавалася тут вежа, цабудаваная валынскімі князямі, якая служыла для абароны. Завуць яе „*стаўпом*“.

Старое дрыгвіцкае места, **Берасьце** або як яго яшчэ называюць *Брэст - Літоўск*, — ляжыць над Бугам, пры ўпадзе ў яго Мухаўца. Лежачы ў самым паўднёва — заходнім куце Беларусі, Берасьце ўвесь час было прычынаю спрэчак паміж рознымі дзяржавамі. Валадалі ім палякі, розныя ўкраінскія князі, нападалі татары, аж пакуль не адыйшоў ён пад Літву. У XV — XVI вякох Берасьце зрабілася вялікім і багатым горадам. У гэтыя часы тут моцна разьвіўся рэфармацкі рух, была заложана друкарня, у якой друкавалася кальвінская біблія. У Берасьці было шмат старасьвецкіх манастыроў, касьцёлаў, і цэркваў, але ў 1831 гаду ў Берасьці пачалі будаваць крэпасьць і большую частку гэтых сьвятыняў абярнулі пад казармы, альбо зусім зьнішчылі.

З Берасьця ў 6-х кірунках, разыходзяцца чыгункі, ёсьць некалькі шосаў. Апроч таго Мухавец і Буг з'яўляюцца надзвычайна важнымі воднымі шляхамі. Дзякуючы такому свайму палажэньню Берасьце мае вялікае гандлёвае значэньне.

Прамысловасьць у Берасьці так сама пачынае разьвівацца. Цяпер ёсьць некалькі сотняў дробных прадпрыемстваў з 1200 работнікамі. Усіх жыхараў — каля 50 тысяч.

*Берасьцейскі павет* досіць рэзка дзеліцца на *дзьве часткі*. На поўнач ад Берасьця грунты гляістыя, ураджайныя, насяленьне жыве густа, лясоў мала. На паўдня ад Берасьця — звычайнае Палесьсе з пяшчанымі беднымі грунтамі, з рэдкім насяленьнем, багатае на лясы і балоты. На паўдня ад Берасьця жыве народ найбольш падобны да жыхараў Пінскага і Кобрынскага паветаў — *пінчукоў*.

---

*) Іх у літэратуры звычайна называюць *Літоўскімі* (Высокае - Літоўскае, Камянец - Літоўскі), дзеля таго, што яны належылі, як і ўся Беларусь — да Літвы і на тое каб адрозьніць іх ад іншых местаў з такім самым назовам. Ведама што ніякіх ліцьвіноў тут няма.

## VI. Піншчына.

Піншчына ляжыць над верхняй Прыпяцьцю і яе прытокамі, а так сама займае вададзел паміж Прыпяцьцю і Бугам. Да яе мы адносім паветы **Пінскі і Кобрынскі**.

Па прыродзе сваёй гэтая краіна выразьліва дзеліцца на тры часткі, якія навет маюць свае асобныя назовы: *Зарэчча*, *Загародзьдзе* і *Палесьсе*.



Зарасьнікі чароту і праток у Пінскіх балотах.

**Зарэчча** гэта балацістая нізіна, якая ляжыць на паўдня і на ўсход ад Пінску. Яе паўночную мяжу творыць Прыпяць (ад чаго і назоў), да якое тут зьбягаюцца з усіх бакоў яе важнейшыя прытокі: Стаход, Стыр, Ясельда і інш. Трапіўшы ў краіну Зарэчча з яе вельмі малым спадам, гэтыя рэкі, шырока разьліўшыся, плывуць ляніва, памалу, дзеляцца на шмат пратокаў, якія пакрываюць усё Зарэчча густою сецьцю. Сярод гэтае воднае сеці прападае часамі навет галоўнае пячэньне ракі, а разам з тым і яе імя. Гэтак навет Прыпяць вышэй Пінска ў некаторых мяйсцох траціць свой назоў і вядома пад найменьнем „Парок", „Стаход", „Струмень".

Берагі рэкаў у гэтай краіне нізкія і балоцістыя. Трэба толькі, каб крыху паднялася вада і ўсё Зарэчча на шмат дзесяткаў вёрст навакола заліта. Вясною і ўвосень Зарэчча зьяўляецца праўдзівым возерам. Аж да сярэдзіны лета стаіць вада, пры тым гэтак глыбока, што можна езьдзіць у чоўне ў якім — хочаш кірунку. Над вадою відњеюцца толькі вольхі і лозы якімі звычайна абрастаюць берагі пратокаў, ды на пяшчаных

узгорках—*астравох*—вёскі пінчукоў. За час веснавое паводкі вада заносіць пяском старыя пратокі і пракопуе новыя, наносіць пяшчаныя ўзгоркі і пласты глею.

За лета ўсе гэтыя вадзяныя прасторы зарастаюць буйнымі балотнымі травамі: чаротамі, трысьнягамі, сітнікамі і інш., але паміж імі на сушэйшых гляістых мяйсцох трапляюцца астравы пазарастаўшыя асакою, а часта і вельмі добрым мурагом.

Лесу ў Зарэччы мала і толькі дзе-ня-дзе пяшчаныя грады і ўзгоркі паабрасталі хваёвым борам. Значыць называць Зарэчча „Палесьсем“ навет ня вельмі выпадае.

Жывуць тутэйшыя гаспадары досіць заможна. Значную часьць году яны адрэзаны ад усяго сьвету і навет да бліжэйшых суседніх вёсак перапраўляюцца ў чаўнох



**Пінскія балоты.**

На левым беразе Прыпяці мяйсцовасьць адразу вышэе на некалькі сажняў і пераходзіць у высокую раўніну, якую называюць звычайна Загародзьдзем.

**Загародзьдзе** займае клін паміж ракою Ясельдаю і яе прытокам Пінаю і цягнецца на захад аж да р. Мухаўца. Загародзьдзе на ўсім яго досіць вялікім прасторы не перасякае ні адна значная рэчка, так сама і балотаў спатыкаецца вельмі мала і то найбольш па краёх Загародзьдзя, за Пінаю і Каралеўскім каналам. Грунты Загародзьдзя гляістыя, ураджайныя. Жыхары жывуць густа і багата і займаюцца найбольш земляробствам. Лясы ў Загародзьдзі павысяканы; засталося іх вельмі мала (ка-

ля 15%); за тое вельмі многа сенажацяў,—як нідзе ў Беларусі. Усё гэта дазваляе гаспадаром трымаць шмат скаціны і сьвіньняў.

Паўночна-ўсходнюю частку Піншчыны займаюць безканечныя пушчы і непраходныя балоты **Палесься**, якія адгэтуль пераходзяць у Мозырскі павет і цягнуцца далёка на ўсход. З гэтаю часткаю Піншчыны аднародная паўднёвая часьціна Слонімскага павету і паўднёва-заходні край Слуцкага. У Слонімскім павеце пачынаецца пояс аграмадных балотаў паўночнага Палесься, аб якім мы ўжо казалі. У Пінскім Палесьсі ляжыць як раз балота Качайла і так сама частка балота Грычына. У лясох Пінскага Палесься вельмі многа ўсялякага зьвяр'я і дзічыны.

Жыхары тут займаюцца лясным промыслам, паляваньнем, гадоўляй скаціны і інш. Край гэты, у якім так многа прыроднага багацьця, зусім рэдка заселены: на вялізазным прасторы налічуюць усяго некалькі дзесяткаў вёсак. А ўздоўж берагу Прыпяці, на ўсход ад Пінску на дзесяткі вёрст цягнуцца зусім бязлюдныя балотныя прасторы



**Дзяўчаткі з Піншчыны.**

*Клімат Піншчыны* належыць да найцяплейшых і найлагаднейшых у Беларусі. Гадавая тэмпература Пінску + 6, 7, зіма бывае кароткая, мяккая; цягнецца яна менш 3-х месяцаў.

У гэты час, калі замярзаюць рэкі і балоты, ўсходняя і паўднёвая Піншчына аджывае. Па лёдзе пракладаюцца простыя дарогі, па якіх лёгка трапіць у суседняе мястэчка і ў самы Пінск жыхарам якое небудзь адрэзанае балотамі ад сьвету вёскі. Узімку найбольш аджывае тут і гандлёвае жыцьцё.

Палесьсе вельмі багата *вадзянымі шляхамі*. Прыпяць, Стаход, Стыр, Гарынь, Ясельда, Піна — судаходныя рэкі. А Каралеўскі і Агінскі каналы злучаюць іх з басэйнамі Віслы і Нёмна. Апроч таго цераз усю краіну праходзіць Палеская чыгунка з Берасьця — на Гомель і другая, што йдзець па ўсходняй Піншчыне з Вільні--на Лунінец і Роўнае.

Гэтыя чыгункі мяйсцамі праведзены цераз непраходныя балоты, дзе-ня-дзе навет ідуць па дрыгве.

Значэньне іхнае для Палесься і цяпер вялізазнае, а з часам пэўне-ж яшчэ пабольшае.

У большай часьці Піншчыны, а ласьне ў Загародзьдзі і ў Зарэччы, жывуць *пінчукі*, аб якіх мы ўжо казалі вышэй.

У Піншчыне ёсьць шмат дробных мястэчак, населеных рамясьнікамі. Так - сама і вясковае насяленьне апроч гаспадаркі займаецца шмат дзе хатнімі рамёсламі. Напр. — *у м-ку Горадне* шмат ганчароў, а ў *Пагосьці* — ткачоў.

**Важнейшыя мяйсцовасьці.**

**Пінск**—стары дрыгвіцкі горад, пабудаваны ў дагістарычныя часы,—высіцца на левым беразе Піны нац аграмаднымі нізінамі Зарэчча. Да правядзеньня чыгункі Пінская прыстань мела надзвычайна важнае значэньне. Тут ішоў бойкі гандаль збожжам і салам, якія дастаўляліся з Украіны і адпраўляліся ў Нямеччыну і Польшчу па каналах. Цяпер з гэтага богу Пінск мае меншае значэньне. Але яго палажэньне на сярэдзіне важнейшае вадзяное дарогі з Украіны ў Нямеччыну абяцае яму лепшую будучыну.

Хвабрычная прамысловасьць Пінску разьвіта досіць слаба. Есьць каля 20 хвабрыкаў і заводаў, з якіх найбольшыя—хвабрыка сярнічак і 4 пільні, а так сама завод будоўлі суднаў. Усіх жыхараў у Пінску каля *35 тысячаў*. З старых будынкаў найцікавейшыя — гэта манастыр, пабудаваны ў XVI веку і касьцёл, пабудаваны ў XIV веку.

На захад ад Пінску ля р. Ясельды ляжыць вядомае сяло **Парэчча**. Гаспадары тутэйшага двара, Скірмунты, пабудавалі тут некалькі хвабрыкаў,—між іншым вялікую суконную хвабрыку, якая працуе і дагэтуль. Спэцыяльна для яе патрэбаў разводзіцца тут-жа ў Парэччы патрэбная да вырабаў сукна паўднёвая расьціна *Діпсакус*. Некалькі дзесяткаў год назад была тут і цукраварня (пасьля згарэла); цукровыя буракі разводзіліся ў Парэччы і яго ваколіцах. Трэба адзначыць, што ўсе Парэцкія хвабрыкі добра пастаўлены, работнікі досіць забязпечаны.

У Пінскім павеце ёсьць досіць многа невялікіх мястэчак, якія ў мінуўшчыне йгралі досіць важную ролю для ўсяе Беларусі, а цяпер яны толькі цэнтры эканамічнага жыцьця для свах ваколіцаў. Такія: Любяшоў, Талеханы, Нобель, Столін, Парост, Кожан-Гарадок. За апошнія часы моцна расьце **Лунінец** —

пасёлак пры станцыі таго-ж іменьня, дзе крыжуюцца дзьве важнейшыя палескія чыгункавыя лініі.



Вёска ля Прыпяці.

**Кобрынь**—паветавае места пры р. Мухаўцу з 10-цю тыс. жыхараў; досіць гандлёвы гарадок, дзякуючы свайму палажэньню пры сыстэме Каралеўскага каналу і чыгунцы.

З мястэчак *Кобрыньскага павету* адзначаецца **Антопаль**. Гэта прамысловае мястэчка; ёсьць у ім некалькі гарбарняў і маслабойных заводаў. У м. **Янаве** (на ўсходзе павету) жыў і замучаны іезуіт Андрэй Баболя, якога каталіцкі касьцёл лічыць сьвятым.

---

# VII. Вялікая Палеская нізіна.

Паветы **Мозырскі, Рэчыцкі і Бабруйскі** блізка што на ўсім сваім прасторы носяць чысты палескі характар і рэзка выдзяляюцца спаміж усіх краінаў Беларусі. Гэта край *з найменшаю гушчынёю насяленьня і з найбольшым лікам зямлі няпрыдатнай да гаспадаркі*.

Вялікая Палеская Нізіна ляжыць уздоўж сярэдняе і ніжняе Прыпяці і ніжняе Бярэзіны. Мяйсцовасьць тут усюдых роўная, слаба пахіленая на паўднёвы ўсход. З акалічных узгор'яў скатуюцца сюды чысьленыя рэкі, якія, трапіўшы на нізіну, сьцішаюць свой бег і плывуць у нізкіх берагох, абкружаныя часамі на шмат вёрстаў забалочанымі прасторамі. Апрача слабога

спаду для вады, забалочаньню тут памагае яшчэ і тое, што пад усім блізка Палесьсем ляжаць гліны, толькі прыкрытыя зьверху пяскамі. А значная частка балотаў Палесься зьяўляецца мусіць апошнімі сьлядамі быўшага тут некаліс *Гэрадотавага мора*, пазарастаўшымі травою і мохам азёрамі.

Балоты займаюць тут чуць ня чверць усяго прастору краіны. Безканечныя балотныя пустыні, паросшыя то дробнаю лазою, то высокімі чаротамі, цягнуцца дзесяткамі вёрст; іх перарываюць векавыя бары, павырастаўшыя на пяшчаных узгорках, *астравох*, параськіданых сярод балота. На гэтых-жа астравох пабудаваны і рэдкія вёскі паляшукоў і знаходзіцца іхнае ворнае поле.

Ад вёсак цераз балота цягнуцца *гаці*, замошчаныя хворастам і бярвеньнем. Язда па гэтых гацях трудная. А па іх ідзець палеская дарога часамі па некалькі вёрст.

*Балоты* спатыкаюцца ўсіх відаў, але найчасьцей—травяныя, паросшыя лазою. Імшары са сфагнумам спатыкаюцца так сама дзе-ня-дзе плямамі сярод хваёвых бароў.

У гаспадара поле часамі бывае на некалькіх астравох, якія закінуты далёка ад вёскі ў балотнай і лясной глушы. Каб дайсьці да іх прыходзіцца йсьці па *кладках*, намошчаных цераз балота.Аруць тут часта валамі. Вось-жа гаспадар бярэ саху на плечы і йдзе на свой востраў па кладцы, а валы йдуць па вадзе. Калі востраў дзе далёка ад хаты, дык там робіцца будка, раскладаецца агонь і гаспадар жыве тут аж пакуль скончыць работу. Часамі навет малоцяць дабро на востраве, а перавозяць ужо ўсё ўзімку, як замерзьне балота.

Сеюць тут найбольш *грэчку і бульбу*, бо зямля звычайна вельмі лёгкая, пяшчаная. Гаспадараць аднак тут ня кепска. Гаспадары трымаюць *шмат скаціны*, часамі па дзесятку і больш галоў, бо пашы хапае, і добра дзеля таго гнояць зямлю. Дый народ тут аб гаспадарцы рупіцца; ў некаторых мяйсцох навет *полюць засевы*.

*Лясы* ў Палесьсі зусім нядаўна займалі чуць што не палавіну ўсяго прастору. Цяпер іх моцна падцерабілі і на мейсцы даўнейшых векавых пушчаў цягнуцца цяпер пасекі, часамі выкарчаваныя і вырабленыя пад поле, а часьцей паросшыя маладым лесам і хмызьнякамі.

Аднак усё-ж лясоў тут вельмі многа. Найбольш у Палесьсі хваёвых бароў. Елкі зусім блізка няма, бо пяшчаныя грунты. Але тут-жа больш чымся дзе ў Беларусі ёсьць і ліставых лясоў, найбольш дубовых і бярозавых. Дубы тут часамі даходзяць вялізазнае вялічыні; спатыкаецца так сама шмат вольхі, ліпы, клёну і інш.

Ува ўсіх гэтых лясох, часта яшчэ не закранутых рукою чалавека, водзіцца бяз меры ўсякага *зьвяр'я і дзічыны*. Ласі, медзьвядзі, сарны, дзікі спатыкаюцца тут часта. Навет *бабры* водзяцца па глухіх рачных затоках у некаторых закутках Палесься, дзе да іх яшчэ не дабралася рука паляўнічага.



**Палеская гаць.**

*Сенажацяў* у Палесьсі ня так шмат, як можна было-б спадзявацца Вялізазныя прасторы, якія з невялікім накладам, расьцерабіўшы, можна было-б абярнуць у сенажаці, цяпер лічацца безкарыснымі балотамі, няўжыткамі.

*Насяленьня* ў Палесьсі пакуль што замала і яно яшчэ далёка ня можа і ня ўмее выкарыстаць вялікія багацьці, якія крыюцца ў гэтым краю. Дый замала зварочавала ўвагі на Палесьсе дзяржаўная ўлада і грамадзянства. Аднак ужо першыя ступяні ў гэтай справе зроблены. Ужо зроблена проба вялікага *асушэньня Палесься.*

У апошней чверці XIX веку вяліся шырокія *работы па асушцы* ўрадоваю *Экспэдыцыяй* пад загадам генярала *Жылінскага* Было пракопана больш *4-х тысяч вёрст* каналаў, якімі асушана каля *3-х мілёнаў дзесяцін.* Асушка вялася найбалей у скарбовых лясох. Вялікая карысьць ад яе скора выявілася. На мейсцы непраходных балотаў—цяпер багатыя сенажаці, якія даюць вялікі даход скарбу; мокрыя лясы, ў якіх даўней вельмі дрэнна расло дрэва, цяпер паправіліся і сталі шыбка расьці. Апроч таго па каналах сплаўляецца дрэва з такіх мяйсцоў, да якіх уперад ніяк нельга было дабрацца. Вартасьць усяго абсушанага прастору паднялася больш як у *дзесяць разоў.*

Апроч таго экспэдыцыя зрабіла і другую вялікую работу, яна добра *абсьледавала і апісала Палесьсе,* адкрыўшы вочы грамадзянству на тое, якія тут ёсьць багацьці. Экспэдыцыя залажыла і некалькі вельмі патрэбных навуковых установаў — напр. мэтэоролёгічныя станцыі ў Васілевічах, у Пінску, пробныя гаспадаркі на балотах і г. д.

Сярод усяе Палескае нізіны адзінока падыймаецца высокі бераг Прыпяці каля *Мозыра.* Ен паміж іншым пакрыты лёссам, на якім утварыліся *шэрыя суглінкі* (грунты лесастэпу). Тут яны займаюць невялікі прастор. У Рэчыцкім-жа павеце шэрыя суглінкі цягнуцца шырокім паясом цераз сярэдзіну павету каля мяст. Брагіна, Хойнікаў і Юравіч. Апроч таго ўздоўж правага берагу Прыпяці, *каля Турава,* спатыкаюцца *гляістыя грунты,* ды кавалкі гляістых, суглінiстых і супяшчаных грунтоў пераходзяць у Бабруйскі павет з суседніх паветаў і займаюць яго краі. Па за гэтым - жа ўвесь прастор Палесься пакрыт лёгкімі пяшчанымі грунтамі на „астравох“ і пластамі—торфу, травяністага ды імховага ў балотах.

*Торф* гэты, які мяйсцамі ляжыць вельмі таўстымі пластамі (найтаўсьцейшыя пласты торфу ў Рэчыцкім павеце каля Васілевічаў), нідзе блізка ня ўжываецца на апал і не разрабляецца, бо дровы надта танныя, а насяленьне рэдкае.

*З боку гушчыні насяленьня* Палесьсе займае ў Беларусі *апошняе мейсца. У Мозырскім павеце* і цяпер яшчэ на 1 квадр. вярсьце жыве ўсяго каля *20 чалавек.* Праўда за апошнія часы Палесьсе стала залюдняцца. Аграмадныя лясы павысяканы, а пасекі двары прадаюць сялянам, якія сюды зьяжджаюцца з усяе

Беларусі. Яны прыносяць з сабою і свае звычаі бытавыя і гаспадарскія, моцна адзначаючыяся ад палескіх.

*Гісторыя* застала Палесьсе заселеным Дрыгвічамі. Тутака быў і галоўны іхні палітычны цэнтр *Тураў*. Але Дрыгвічом не ўдалося стварыць моцнае дзяржавы і яны ўвес час былі то пад кіеўскімі, то пад іншымі суседнімі князямі, аж пакуль ня злучыліся з рэштай Беларускіх пляменьняў, пад уладаю Літвы.

Палесьсе мела вялікае значэньне ў гісторыі Беларусі і Літвы. Яно бараніла іх увесь час ад нападу з паўдня. Пад сьценамі палескіх замкаў і гарадоў, а найбольш у балотах і лясох Палесься спыняліся магутныя напоры паўднёвых народаў на Беларусь.

Апроч гаспадаркі вясковае насяленьне займаецца і *рамёсламі*. У глухіх палескіх мяйсцовасьцях пануе г. зв. *натуральная гаспадарка*: — людзі нічога не прадаюць і вельмі мала або нічога ня купляюць. Усе патрэбныя да жыцьця рэчы робяць самі. Ведама, што хатнія рамёслы павінны быць тут моцна разьвітыя. І запраўды, — у Палесьсі напр. пашырана ткацтва, шмат людзей займаецца вырабамі з дрэва. Моцна разьвіта рыбалоўства; часамі цэлыя вёскі жывуць найбольш з гэтага промыслу. Вельмі пашырана пчалярства — ці ляпей *бортніцтва*, асабліва ў Мозырскім павеце.

Народ зарабляе ў лесе, на сплаве, займаецца гонкай смалы і дзёгцю, паляваньнем і інш. лясными промысламі.

*Хвабрычная прамысловасьць* досіць разьвіта. Найбольш спатыкаецца *пільняў і бравароў*. Апошніх асабліва многа ў *Рэчыцкім павеце*, які з гэтага боку займае *першае мейсца* ў *Беларусі*. Апроч таго ёсьць некалькі хвабрыкаў сярнічак, некалькі шкляных гутаў, гарбарняў і г. д. — Прамысловасьць Палесься толькі яшчэ пачынае разьвівацца і перад ёю шырокая дарога.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

У Мозырскім павеце ёсьць некалькі вялікіх мястэчак, з каторых кожнае зьяўляецца важным цэнтрам для свае ваколіцы. Гэткія—*Давід - Гарадок, Тураў, Пётрыкаў* зьяўляюцца цэнтрамі вялікае ваколіцы, роўнае па прастору цэлай дзяржаве. Усе яны ляжаць на берагох Прыпяці, альбо яе найбольшых прытокаў і зьвязаны з сьветам найбольш вадзянымі дарогамі.

**Давід - Гарадок** ляжыць на астравох *р. Гарыні*; старое мястэчка, заложанае пэўне яшчэ ў дагістарычныя часы. Цяпер у ім каля *4 тыс.* жыхараў, якія займаюцца між іншым будоўляй суднаў, а так сама — рыбалоўствам, гародніцтвам (разводзяць цыбулю), служаць лоцманамі на суднах і г. д.

Тутэйшыя мяшчане—народ прамысловы. Яны вырабляюць вянгліну, кілбасы і сыры. Загатаўляюць дзічіну, сушаную рыбу і грыбы, сушаную садавіну і вывозяць усё гэта на продаж у вялікія беларускія месты а так сама і далёка за межы Беларусі,

(навет у Бесарабію). Давід - Гарадзецкія рамясьнікі выробляюць спэцыяльныя боты з даўгімі халявамі, якія так сама вывозяцца на старану; робяць тут яшчэ вельмі добрыя пляцёныя брычкі. Давід - Гарадок нейкі час лічыўся паветавым местам.

Над Прыпяцьцю, на яе правым беразе, пасярэдзіне Мозырскага павету стаіць стары **Тураў**, даўнейшы рэлігійны і культурны, а часткаю і палітычны цэнтр дрыгвіцкае зямлі—Палесься. Лічуць, што залажыў яго ў IX веку нейкі вараг Тур, таварыш Рагвалода. У X веку тут была заложана праваслаўная эпархія, тут жылі архірэі аж да сярэдзіны XV веку. Тады Тураў быў вялікім горадам, разсаднікам хрысьціянства і прасьветы ў Палесьсі. Пасьля, як вырас Пінск, яго значэньне зьменшылася. Ад слаўнае мінуўшчыны Турава засталіся толькі лягенды, якія жывуць сярод акалічнага люду.—Цяпер Тураў-невялікае мястэчка, з 3 тыс. жыхараў, якія найбольш займаюцца гаспадаркаю, рыбалоўствам, сплавам лесу, а так сама гандлем.

Есьць у Тураве досіць бойкая прыстань і бываюць два кірмашы ў год.

Ніжэй Турава, на левым беразе Прыпяці, стаіць гандлёвае мястэчка **Петрыкаў** з 3 тыс. жыхараў, сярод якіх шмат шаўцоў. Петрыкаўскія мяшчане адзначаюцца сваёю прамысловасьцю і здольнасьцю да гандлю. Некаторыя з іх маюць свае баркі і возяць на іх лес; шмат хто займаецца рыбалоўствам. У Петрыкаве ёсьць прыстань і зьбіраецца ў год два вялікіх кірмашы.

Паветавае места **Мозыр** ляжыць на высокім правым беразе Прыпяці, ў надзвычайна харошай мяйсцовасьці. Гэта досіць стары горад, вельмі часта цярпеўшы ад чужаземных нападаў. Быў тут некаліс і замак. Цяпер у Мозыры каля *12 тыс.* жыхараў, ёсьць вялікая хвабрыка сярнічак і дробныя гарбарні, прыстань на Прыпяці, зьбіраюцца два кірмашы, йдзе досіць жывы гандаль. Да апошніх часаў чыгунка йшла за 12 вёр. ад места. Цяпер праведзена новая чыгункавая лінія цераз самы Мозыр, што павінна значна аджывіць яго эканамічнае жыцьцё.

*Мозырскі павет* найбольшы па прастору з усіх беларускіх паветаў і найрадзей заселены. У ім найбольш балотаў і лясоў і найменш зямлі прыгоднае для гаспадаркі. Значная частка лясоў павысякана, а балотаў абсушана.

Толькі берагі Прыпяці і ваколіцы Мозыра густа заселены. Рэшта павету—глухі палескі край, вельмі слаба зьвязаны са сьветам.

У сярэдзіне Рэчыцкага Палесься, пры чыгунцы ляжыць **с. Васілевічы**. Тут экспэдыцыяй Жылінскага былі асушаны значныя прасторы, заложана мэтэоролёгічная станцыя. Апошнімі часамі Васілевічы сталі шыбка расьці (цяпер каля *3 тыс.* жыхараў) стаў разьвівацца гандаль.

З *Васілевічаў* у глыбіню павету адходзіць лінія чыгункі. Яна канчаецца ў *м. Хойніках.*

**Хойнікі і Брагін**—два значныя мястэчкі (Брагін стары горад), ляжачыя недалёка адно ад аднаго, у мяйсцовасьці з багатымі грунтамі (лёссавы паяс). У Хойніках была нядаўна зялезная гута.

На Дняпру, недалёка ад Брагіна, проці ўтоку Сожа ёсьць значнае гандлёвае мястэчка **Лоеў** з прыстаньню і вэрфяй для будовы суднаў. На Лоеўскай прыстані складаюцца тавары для развозкі па прыстанях Дняпра, Бярэзіны, Сожа.



Беларус—Паляшук.

**Рэчыца** паветавае места, над Дняпром пры перасячэньні яго Палескай чыгункай. Мае *10 тыс* жыхараў, з якіх шмат хто займаецца гаспадаркай (між іншым адкормам сьвіньняў), рыбалоўствам і сплавам лесу. Разьвіты гандаль збожжам і лесам; бойкая прыстань; з хвабрыкаў ёсьць некалькі вялікіх пільняў і хвабрыка сярнічак.

*Рэчыцкі павет* у большай сваёй часьці мае палескі характар, з пяшчанымі грунтамі і рэдкім насяленьнем. Але па сярэдзіне павету йдзе *паяс лёссавых грунтоў*, мацней заселены. Так сама густа заселены і берагі Дняпра.—У гаспадарках Рэчыцкага пав. садзяць шмат *бульбы*; *у павеце найбольш бравароў*, чымся дзе ў Беларусі.

**Бабруйск** адзін з большых паветавых местаў Беларусі, з *42 тыс.* жыхараў, ляжыць на правым беразе р. *Бярэзіны*, там дзе яе перасякае Лібава - Роменская чыгунка. У трох кірунках з Бабруйску разыходзяцца шосы. Такое палажэньне робіць Бабруйск важным гандлёвым пунктам. Разьвіцьцю яго перашкаджала дагэтуль Бабруйская крэпасьць, пабудаваная тут у пачатках XIX веку расейскім урадам.



**Даўнейшыя тыпы беларусоў Меншчыны.**

Бабруйск вядзе значны *гандаль лесам і збожжам*; пры ім ёсьць прыстань на Бярэзіне. Прамысловасьць Бабруйску нявельмі значная. Есьць каля 30 дробных хвабрыкаў і заводаў— найбольш *пільняў і цагельняў*. Ніжэй Бабруйску, на р. Бярэзіне, ў Палескай мяйсцовасьці ляжыць значнае мястэчка **Парычы** з прыстанью, з якой найбольш адпраўляюць *лес*.

У глыбіне Палесься над р. Птычом ляжыць м. **Глуск**, *з 5 тыс.* жыхараў; ня гледзючы на сваё папраўдзе глухое палажэньне (далёка ад чыгунак) мястэчка досіць бойка гандлюе *скацінаю*. Мяшчане займаюцца гаспадаркаю, рыбалоўствам і пчоламі, а так сама вырабам г. зв. *глускае гарбаты* (разбаўляюць праўдзівую гарбату розным зельлем). Апроч таго ёсьць некалькі гарбарняў.



Даўнейшыя тыпы беларусоў Меншчыны.

Навакола Глуску палеская мяйсцовасьць з пяшчанаю неўраджайнаю зямлёю. Такі-ж характар мае і ўвесь блізка *Бабруйскі павет*. Толькі на ўсход і поўнач ад Бабруйску мяйсцовасьць павышаецца, грунты лепшыя, жыхары жывуць гусьцей, лясоў і балотаў менш. Адным словам усё ў гэтай частцы павету прыпамінае сумежную Магілеўшчыну.

---

## VIII. Беларускі лесастэп.

Да гэтае краіны мы адносім 9 паўднёва - ўсходніх паветаў Беларусі: **Гомельскі, Суражскі Мглінскі, Навазыбкаўскі, Старадубскі**, і беларускія часткі: **Гарадзянскага, Ноўгарад - Северскага, Трубчаўскага і Бранскага** паветаў. Ласьне назоў *лесастэпу* з усім правам заслужуюць толькі паветы Старадубскі, Трубчаўскі, Ноўгарад—Северскі, Мглінскі і часткаю суседнія з імі паветы, бо толькі ў іх грунты ўтвораныя на лёссе займаюць значную частку павету і толькі тут у часы дагістарычныя быў стэп, пасьля выцесьнены лесам. Але рэшта паветаў па гушчыні нася-

леньня, наагул па свайму эканамічнаму характару вельмі падобна да гэтых і зьвязана з імі, дзеля чаго мы іхі злучаем у адну краіну.

*Паверхня* гэтага краю зьяўляецца раўнінаю, значна паніжанаю на захадзе. На ўсходзе, наадварот, у яе ўходзяць адарваныя лапіны ўзгор'яў Окаўскага Лесу, якія ўтворуюць высокія, зрэзаныя ярамі, правыя берагі р. Дзясны пад Бранскам і Трубчаўскам. Так сама значна павышана мяйсцовасьць у Навазыбкаўскім, Старадубскім, і Мглінскім паветах. Рэшта краіны моцна нізінная, асабліва Гомельскі павет, заходняя частка якога мае ўжо зусім палескі выгляд,—з аграмаднымі прасторамі балотаў і лясоў.

На *Старадубскім* узвышшы і ўздоўж правага берагу р. *Дзясны* залёг *лёсс*. Пад Старадубам на ім стварыліся досіць ураджайныя *шэрыя суглінкі*, якія і займаюць большую часьць Старадубскага павету. Навакола іх няшырокім абручом ляжаць *дзярновыя суглінкі на лёссе*. Досіць шырокі пояс гэтых суглінкаў адыходзіць у Мглінскі і Бранскі паветы; у апошнім павеце яны займаюць досіць вялікія прасторы, пакрываючы высокі правы бэраг р. Дзясны. Досіць значныя *астравы* гэтых *суглінкаў на лёссе* знаходзяцца і ў Трубчаўскім павеце, а так сама ў Навазыбкаўскім і Гараднянскім паветах. Урэшце ў Суражскім і Гомельскім паветах гэтыя грунты сустракаюцца досіць рэдка.

Левыя берагі рэк звычайна пакрыты тут шырокімі палосамі бедных пяшчаных грунтоў. Дзякуючы гэтаму ўся заходняя і паўднёвая частка Гомельскага павету, блізка ўвесь Суражскі, заходняя частка Бранскага і значныя прасторы ў іншых паветах займаюць *пяшчаныя грунты*, пакрытыя найбольш хваёвым борам. Рэшта прастору займаюць *супяскі*, ды ў Гомельскім і Гараднянскім паветах ёсьць досіць многа *трасьніковых балотаў*, а на поўначы Гомельскага — лапіна звычайных дзярновых суглінкаў на марэннай гліне.

Апроч хваёвых бароў у лесастэпу сустракаецца досіць многа ліставых *лясоў*, асабліва ў Старадубскім пав. У гэтых лясох найбольш расьце дуб, клён, вельмі многа ёсьць так сама маладых бярэзьнікаў, ялаўцовых зарасьнікаў. Елка тут сустракаецца рэдка, а далей на паўдня яе і зусім няма. Трэба заўважыць, што лясы, якіх тут даўней было вельмі многа, цяпер моцна расьцярэблены і з кожным годам іхныя прасторы зьмяншаюцца, зьмяняючыся ральлёю навет *на зусім бедных пяшчаных грунтох* з якіх пасьля вецер робіць *пяшчаныя выдмы*.

*Гаспадарка* наагул стаіць тут нявысока, асабліва ў дварох, якія ня маюць заўсёдных парабкоў, а здаюць зямлю *палавіншчыкам*. Годзі сказаць, што, як у вёсках, так і ў дварох яшчэ вельмі часта аруць сахою, а ў лясістых мяйсцовасьцях яшчэ і дагэтуль часамі паляць ляды, як у самым глухім Палесьсі.

У вёсках-жа перашкодаю гаспадарцы зьяўляецца *абшчыннае ўладаньне зямлёю*, якое не дае магчымасьці культурнейшым гаспадаром у вёсцы заводзіць палепшаньні. Уся вёска мусіць

гаспадарыць ці добра, ці дрэнна, але ацналькова. З гэтага знаходзяць выхад толькі такі, што выдзяляюць лапіны зямлі пры хаце у кожнага гаспадара, на якім ён можа гаспадарыць сваім адумам. На гэтыя лапіны гаспадары вывозяць большую частку гною і сеюць тут больш пераборлівыя і выгаднейшыя расьціны: ячмень, бульбу, *каноплі*, *табаку*.

Апошнія дзьве расьціны йграюць у гаспадарцы лесастэпу важную ролю. З гаспадаркі йдуць на продаж толькі пянька, альбо табака. Найбольш *канапель* разводзяць *у Старадубскім, Трубчаўскім*, а так сама ў *Суражскім і Мглінскім паветах*. Прадаюць пяньку найбольш у Трубчаўску, Почапе, і інш. мястэчках. Гандляры з гэтых мястэчак яшчэ з вясны езьдзяць па вёсках і даюць задаткі на пяньку, пры чым сяляне, ведама прадаюць яе на самых нявыгадных умовах.

*Табаку* разводзяць найбольш у паветах *Мглінскім, Суражскім і Старадубскім*. Разводзяць тут апрача прасьцейшых сартоў яшчэ і далікатны сорт *гундзі*. Як канаплямі, так і табакаю найбольш займаюцца сяляне, дзеля таго, што гэтыя расьціны патрабуюць каля сябе шмат клопату.

Ува ўсім гэтым краю шмат сеюць *грэчкі*. Побач з ёю на захадзе краіны шмат мейсца займае *бульба*, значная часьціна якое йдзе на бравары.

*Клімат* лесастэпу ня вельмі спрыяе гаспадарцы. *Ападаў тут менш*, чымся ў рэшце Беларусі, часьцей бываюць засухі і дзьмуць *сухія ўсходнія вятры*. Гэта часамі нядобра адзываецца на пяшчаных грунтох.

Уся краіна аднак вельмі густа заселена і з гэтага боку займае адно з першых мяйсцоў у Беларусі. *Найгусьцей заселены Суражскі павет*.

Галоўная маса жыхараў (85—90%)—беларусы, патомкі даўнейшых радзімічаў, якія спрадвеку жылі ля Іпуці, а пазьней занялі і ўсходнюю частку краіны, спустошаную татарамі, аж да самай р. Дзясны і навет за Дзясною. Мова тутэйшых беларусоў досіць чыстая і харошая, хоця ў ёй і сустракаецца крыху расейскіх словаў.

Апрача беларусоў у гэтай краіне жывець шмат *(да 7%) старавераў—маскоўцаў*, якія ўцяклі сюды з Маскоўшчыны, дзе ім не давалі верыць па свойму, яшчэ ў XVII веку. Жывуць староверы найбольш у вялікіх мястэчках—*пасадах* і займаюцца рамёсламі, гандлем, а так сама прамысловым гародніцтвам і садоўніцтвам. Найбольш старавераў у Навазыбкаўскім павеце.— За тое жыдоў у лесастэпавай краіне менш, чымся на захадзе Беларусі. Так сама, як і там, насяляюць яны найбольш месты і мястэчкі і займаюцца гандлем і прамысловасьцю.

*Прамысловасьць* лесастэпавае краіны моцна разьвітая. З гэтага боку займае яна *пасьля Беласточчыны другое мейсца*.

З рамёслаў, у Гараднянскім і Суражскім паветах пашырана ганчарства, у Навазыбкаўскім павеце шмат шаўцоў, У надня-

проўскіх мястэчках будуюць судны—*дубы, абшыванкі*, а ў пас. *Ардоне*—Суражскага пав. цэлых 8 майстроўняў вырабляюць павозкі. Сярод хвабрыкаў і заводаў важнейшыя *суконныя*, якія знаходзяцца ў *Клінцох* (Сураж. пав.). Есьць так сама вялікія хвабрыкі сярнічак, вялізазная папяровая хвабрыка ў *Дабрушу*, хвабрыка гарматаў і іншыя зялезныя хвабрыкі ў *Бранску*, асабліва-ж шмат ёсьць *пенькатрапальных і маслабойных заводаў*. Урэшце на паўдні краю сустракаюцца чынныя і дагэтуль *цукраварні*.

Але ні гаспадарка, ні рамёслы, ні хвабрычная прамысловасьць лесастэпавае краіны ня могуць прахарчаваць усяго яе насяленьня. Дзеля гэтага вельмі пашыраны тут *адыход на заработкі* ў чужыя краі: у Данецкія капальні, на Кубань і г. д., і *перасяленьне ў Сыбір*.

Большая частка паветаў лесастэпу адносіцца *да Чарнігаўскае губэрні*, а два паветы—Бранскі і Трубчаўскі адносяцца да *Арлоўскае губ.* Аднак годзі навет павярхоўнага агляду гэтага краю, каб прызнаць, што ён з рэштай Чарнігаўскае і Арлоўскае губэрняў мае вельмі мала супольнага. Розьніца паміж імі ня толькі тая, што тут жывуць беларусы, а там украінцы, або маскоўцы; вялізазныя розьніцы ёсьць паміж іх у самай прыродзе (там чарназём) і ў характары эканамічнага жыцьця.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Гомель**—найбольшае места паўднёва-ўсходняе Беларусі. ляжыць на высокім, абрывістым беразе Сожа. У старадаўныя часы быў ён адным са значнейшых местаў у зямлі радзімічаў; вялікага палітычнага значэньня аднак Гомель ня меў. Пачаў ён моцна расьці толькі ў апошнім веку. Гэты час належыў ён да магутных расейскіх вяльможаў (Румянцавых, пасьля Паскевічаў), якія дбалі аб яго дабрабыце. Але асабліва паднялося яго значэньне пасьля таго, як праз Гомель прайшлі чыгункі. За апошнія дваццаць гадоў Гомель вырас утрая. Цяпер Гомель мае больш за *100 тыс.* жыхараў. Выгоднае палажэньне (рака, чыгункі, якія расходзяцца ў 4-х кірунках і, ўрэшце, шоса з Магілева на Чарнігаў), робяць з Гомеля вельмі важны гандлёвы пункт. Гомель вядзе бойкі гандаль *лесам, пянькою, алеем, салам.* Хвабрычная прамысловасьць у Гомелі разьвіваецца. Найбольш заводаў па *вырабах з дрэва.* Есьць аднак некалькі заводаў чыгуновых, цагельняў, маслабойняў, пільняў. А ў прадмесьці Гомеля—**Новай Беліцы** (на другі бок Сожа) ёсьць вялікая хвабрыка сярнічак.

Памятнікаў старасьветчыны ў Гомелі мала. Цікавейшыя будоўлі і памятнікі адносяцца да пачатку XIX в., калі тут гаспадарылі Румянцавы. Ад іх застаўся харошы палац з вялікім паркам і багатымі гістарычнымі калекцыямі.

За тры мілі ад Гомеля, пры р. Іпуці, знаходзіцца аграмадная **Добрушская папяровая хвабрыка**—князя Паскевіча *з $1\,^1/_2$ тыс.*

работнікаў. Для яе руху зужыта між іншым вялізарная сіла р. Іпуці.

Вышэй Гомеля, над Сожам, знаходзіцца **м-ка Ветка**, з *8 тыс.* жыхараў, найбольш стараевераў і жыдоў. У гісторыі старавераў гэтае мястэчка мела важнае значэньне. Гэта была першая іхняя „*слабада*“ ў Беларусі. Адсюль маскоўскія цары два разы высялялі, забраўшы край, цэлыя дзесяткі тысяч старавераў назад у Маскоўшчыну, але тыя йзноў, пачакаўшы, варочаліся і Ветка аджывала. Цяпер гэта гандлёвае мястэчка. Есьць тут некалькі хвабрыкаў лінаў (канатаў).



**Гомель.**

На мяжы Гомельскага і Гараднянскага паветаў знаходзіцца вялікі гандлёвы „пасад“ **Дабранка** (з *10 тыс* жыхараў), у якім ёсьць некалькі гарбарняў. Гандлюе Дабранка найбольш, *мясным быдлам*. Над Дняпром, у вельмі харошай мяйсцовасьці, у Гараднянскім пав., на мяжы з Украінаю знаходзіцца старое места **Любеч**

Заходнюю частку *Гомельскага павету* займае шырокі пояс лясоў і балотаў, якія мала што не даходзяць да самага Гомеля. Гэты-ж пояс ідзець і ўздоўж Дняпра далей на паўдня ў Гараднянскі пав., запаўняючы блізка ўсю яго беларускую частку.

Тут між іншым ляжаць вялікія трасьніковыя балоты—*Перыста* і *Замлай*.

Недалёка ад Добрушу, ў Навазыбкаўскім пав., знаходзіцца пас. **Злынка** з хвабрыкамі *сярнічак*. Такія самыя хвабрыкі ёсьць і ў Навазыбкаве і яго ваколіцах. **Навазыбкаў** досіць значнае гандлёвае места з *15 тыс.* жыхараў. У ім між іншым знаходзіцца сярэдняя тэхнічная школа і мэтэаралёгічная станцыя.

У Навазыбкаўскім павеце ёсьць яшчэ два вялікіх прамысловых пасады: **Клімаў**—з шчацінными заводамі і аляярнямі і **Новы Ропск**, дзе шмат рамясьнікоў-шаўцоў. Апроч таго ў двары **Софіеўцы**—вялізная хвабрыка сярнічак.

На поўнач ад Навазыбкава, ў Суражскім пав., знаходзіцца пас. **Клінцы**, з *12 тыс.* жыхараў — гэты, як кажуць, беларускі Манчэстэр. Клінцы—буйны прамысловы цэнтр. У самым пасадзе і яго прадмесьцях ёсьць каля *10 суконных* і ткацкіх *хвабрыкаў*, некалькі чыгуновых заводаў, гарбарняў, маслабойных, вяровачных заводаў. На гэтых хвабрыках працуюць каля *4 тыс.* работнікаў і вырабляецца тавараў на некалькі міліёнаў рублёў у год. У Клінцох ёсьць так сама шмат дробных рамясьнікоў-ткачоў. Сам **Сураж**—невялікі горад над р. Іпуцьцю. Есьць у ім картонная хвабрыка.

*Суражскі павет* найгусьцей заселены і *мае найбольш разьвітую прамысловасьць.*

*Мглінскі пав.* у гэтай справе застаецца далёка ззаду. Сам **Мглін** невялікае места (*8 тыс.* жыхараў) з 3-мя кірмашамі, на якіх ідзе торг на *пяньку, алей, скаціну*. **Почап**, на *р. Судасьці*, пры чыгунцы,—прамысловае мястэчка. Вядзе бойкі гандаль *пянькою*, мае каля 10 пенькатрапальных заводаў і вялікую аляярню.

Мглінскаму і асабліва Суражскаму паветам нехапае хлеба для прахарчаваньня жыхараў. З гэтага боку *Старадубскі* павет знаходзіцца ў лепшым палажэньні і яму свайго хлеба хапае. **Старадуб**—цяпер ціхое, заросшае садамі места, меў, знаходзячыся на самам краю Беларусі, вельмі бурную гісторыю. Гандаль яго з ростам пасадаў зьменшыўся. Гандлюе *збожжам і пянькою*. Люднасьці каля *12 тыс.* Ад ст. Унеча да Старадубу праведзена вузкакалейная чыгунка.

*Старадубскі павет* мае слаба разьвітую прамысловасьць. У пас. **Ялёнцы** ёсьць некалькі шчацінных і пенькатрапальная хвабрыка. У мяст. **Погары**, старасьвецкім горадзе на *р. Судасьці*, які даўней называўся *Радагошч*—цяпер ёсьць пенькатрапальная хвабрыка. У Старадубскім павеце разьвіта хатняе ткацтва палатна і сарпінак. З пад с. **Рахманава** выйшла адна з першых Беларускіх пясьнярак—М. Косіч, якая напісала і выдала некалькі кніжок у мове Старадубскіх беларусоў.

У *Ноўгарад-Северскім пав.* над р. Дзясною, пры вусьці *р. Судасьці* ляжыць мястэчка **Грамяч**, дзе спатыкаюцца тры народы—беларускі, украінскі і маскоўскі. На паўдня ад Грамяча, аж да самога Ноўгарад-Северска беларусы жывуць перамяшаўшыміся з украінцамі.

Беларуская частка *Трубчаўскага пав.* асабліва вядома са сваёй *пянькі*, якая лічылася лепшаю ў Расеі. З промыслаў тут разьвіты лясныя—сплаў па р. Дзясьне і будоўля на ёй суднаў.

**Трубчаўск** з 7 *тыс.* люднасьці, на высокім правым беразе *Дзясны*, мае шмат дробных хвабрыкаў: пенькатрапальных, аляярняў, хвабрыкаў лінаў (канатаў) і вядзе значны гандаль *пяньжою і алеем,* а так сама і *лесам* з Адэссаю і Рыгаю.

Над Дзясною ў надзвычайна пекнай мяйсцовасьці, сярод гораў і глыбокіх яроў ляжыць самае ўсходняе беларускае места **Бранск.** Вельмі старое гэтае места было ў даўнейшыя часы (XIV—XV век) апораю Беларуска-Літоўскай Дзяржавы на Усходзе. Ад сівой старасьветчыны засталося ў ім крыху памятак, сярод якіх асабліва вызначаецца *Сьвенскі Манастыр,* што стаіць ля места на высокай гары, абкружанай ярамі. Манастыр гэты далёка вядомы у ўсходняй Беларусі: зә сотні вёрст сходзяцца сюды багамольцы.

Бранск значны прамысловы і гандлёвы горад. Есьць у ім вялікі завод гарматаў, некалькі пенькатрапальных, канатных заводаў, пільняў, аляярнаў. *Бранская прыстань* на р. Дзясьне сплаўляе шмат *лесу, алею, пянькі.* Як раз ад Бранску (проці яго ляжыць уток *р. Болвы*), Дзясна робіцца судаходнаю, бо вышэй яна запруджана бярвеньнем, якое сплаўляецца па ёй розсыпам. Бранск урэшце значны і важны чыгункавы вузел: з яго чыгункі разыходзяцца ў 6-х кірунках.

З паўночнага захаду ў *Бранскі павет* уходзіць Рослаўскае ўзгор'е, на якім знаходзяць вельмі многа *фасфарытаў.* Апроч таго тут на берагох Дзясны ламаюць камень, крэйду, вапну.

Узгор'е цягнецца ўздоўж берагу Дзясны, пакрыта досіць ураджайнымі грунтамі і густа заселена. На захад ад яго, на беднай пяшчанай раўніне разлеглася *Акуліцкая пушча* (каля 80 тыс. дзесяцін лесу), да якой навет праведзена сумысьне чыгунка *(Жукаўка-Косаўка).* Лясы тут хваёвыя, грунты пяшчаныя, шмат выдмаў; люднасьць вельмі рэдкая, зарабляе ў лесе, гоніць смалу, дзёгаць, паліць вугаль і г. д.

Тым часам, як правы бераг Дзясны ў Бранскім і Трубчаўскім пав. высокі, зрэзаны ярамі, левы бераг наадварот—нізінны, роўны, пакрыты пяшчанымі грунтамі, на якіх параслі аграмадныя „*Бранскія Лясы*", што цягнуцца далёка на ўсход у Калужскую губэрню (Жыздрынскі пав.). Лясы гэтыя заселены „*палехамі*", якія подлуг мовы сваёй ёсьць пераходным племем ад беларусоў да маскоўцаў, а па звычаям жыцьця найбольш зьліжаны да беларусоў. *)

Сярод гэтых лясоў *над р. Болваю* здабываюць добрую *зялезную руду* і дзеля таго, тут павырастала шмат вялікіх заводаў (**Мальцаўскія заводы**) і праведзена сумысьне чыгунка. З гэ-

*) Тыпы палехаў добра апісаны Тургеневым у „Запісках Паляўнічага" і Семёновым у „Жывапіснай Расіі".

тых заводаў асабліва важны—*рэльсавы*, які вырабляе тавару на 5 міліёнаў руб. у год і крыштальныя ды шкляныя гуты, якія вырабляюць тавару на $1^1/_2$ міліёна. Есьць яшчэ некалькі чыгуновых і зялезных заводаў. Усе Мальцаўскія заводы выраблююць тавараў у год больш як на 7 міліёнаў руб. Цэнтр гэтых заводаў знаходзіцца у с. **Дзядзькаве**, Бранскага пав., а *капальні руды* (шахты) найбольш у *Жыздрынскім пав.*

---

## IX. Радань—(Паўднёвая Магілеўшчына).

На поўнач ад Беларускага лесастэпу ляжыць рад паветаў, рэдка залюднёных, з благімі, найбольш пяшчанымі, грунтамі: **Рагачоўскі, Быхаўскі, Чэрыкаўскі, Клімавіцкі і Рослаўскі.**

У пачатках нашай гісторыі жыла тут главная маса племені *радзімічаў*. Дзеля гэтай прычыны мы і называем гэты край *Раданьню*—зямлёю Радзімічаў.

Паўночную мяжу краіны творыць Дняпроўскае Узгор'е. Паверхня краю з'яўляецца раўнінаю, вельмі ступянёва зьніжаючайся ад Дняпроўскага ўзгор'я на паўдня—аж да ўзгор'яў лесастэпу. Толькі правыя берагі рэкаў значна падняты над валіцаю. Усход краіны (Рослаўскі павет) высака падняты і ўзгоркаваты з тэй прычыны, што ў яго заходзяць часткі *Окаўскага лесу* (**Рослаўскае ўзгор'е**), адыходзячыя сюды ад Ельнінскага Вузла. Самаю нізкою часткаю краіны з'яўляецца Захад яе,—Быхаўскі і Рагачоўскі паветы, якія маюць у сабе шмат падобнага да суседняга Палесься, але адзначаюцца ад апошняга большай гушчынёю залюдненьня.

Важнейшымі *рэкамі* краіны з'яўляюцца: *Сож*, які са сваімі прытокамі *Астрам, Бесядзьдзю* і *Іпуцьцю* абвадняе большую, ўсходную часьць краіны і *Дняпро* з *Друцьцю*, якія маюць вялікае значэньне для заходняй часткі.

Подлуг *грунтоў* краіну можна лічыць пераходнаю. На ўсходзе яе трапляецца досіць часта лёсс. *Дзярновыя суглінкі на лёссе* займаюць значныя абшары ў Рослаўскім павеце, а на мяжы Клімавіцкага і Чэрыкаўскага паветаў ляжыць навет досіць значны востраў *шэрых суглінкаў*. З поўначы заходзяць звычайныя дзярновыя суглінкі *на марэнных глінах* і займаюць значную часьць прастору, які ляжыць паміж Сожам і Дняпром. Урэшце, з захаду заходзяць у краіну аграмадныя абшары пяскоў і балотаў. Яны займаюць заходні задняпроўскі кавалак краіны, робячы там саўсім Палескую мяйсцовасьць. А так сама пяшчаныя грунты займаюць блізка *ўвесь абшар*, які ляжыць *на левым беразе Сожа*, апрача востраву шэрых суглінкаў.

У Рослаўскім павеце, ня гледзячы на яго паднятае паложэньне спатыкаецца шмат балотаў—імшараў.

Супяскаў найбольш у Рослаўскім павеце, у Рагачоўскім пав., паміж Дняпром і Сожам, і ў Быхаўскім пав.—на правым беразе Дняпра. Апроч таго над Дняпром і Сожам моцна разьвіты надрэчныя наносныя грунты. Пяшчаныя грунты тут, як і ўсюдых найбольш заняты хваёвымі барамі. У Рагачоўскім-жа павеце спатыкаецца досіць многа ліставых—дубовых і іншых лясоў.



Тыпы Беларусоў з Магілеўшчыны: Таечкі (прыяцелькі) зюкаюць.

*Лясоў* у краіне ёсьць, наагул кажучы, досіць многа. Саўсім нядаўна Радань можна было назваць Палесьсем. Цяпер лясы вельмі моцна падцярэблены. За апошнія 20 гадоў, прыкладам, абшар лясоў у Чэрыкаўскім павеце зьменшыўся на палавіну і гэты павет стаўся адным з найбольш бязлесных у Беларусі.

Вызначаючыся сярод суседніх краінаў сваёю рэдкаю залюднёнасьцяй, паветы Радані з гэтага боку рожняцца і між сабою. Найгусьцей заселены Клімавіцкі павет, найрадзей Быхаўскі і Рагачоўскі, якія з'яўляюцца пераходнымі к Палесьсю. Рэдкая залюднёнасьць краіны тлумачыцца між іншым недахватам зялезных дарогаў, якія йдуць толькі праз Рослаўскі і заходнія часткі Быхаўскага і Рагачоўскага паветаў.

Усход-жа абодвых апошніх паветаў, і навет цэлыя Клімавіцкі і Чэрыкаўскі паветы *зусім ня маюць чыгункаў* на сваіх прасторах. Ад паветавага места Чэрыкава да чыгункі найбліжэй 75 вёрст. Да таго-ж па Сожу параходы ходзяць толькі да Прапойску. Толькі *шосы* крыху аджыўляюць гэтую глухую краіну, асабліва Маскоўска—Варшаўская, якая йдзе як раз цераз сярэдзіну Радані.

Недахват шляхоў вельмі моцна адбіваецца на эканамічным жыцьці. *Гаспадарка* стаіць у краіне нізка. У Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах, напрыклад, гаруць сахамі, а плугі толькі пачынаюць заводзіць.

З прычыны пяшчаных грунтоў усюды сеюць шмат *грэчкі і бульбы*. У Чэрыкаўскім і Клімавіцкім паветах бульбы садзяць мала. За тое грэчкі там надзвычайна многа. У ўсходняй часьці краю так сама, як і ў суседнім лесастэпу сеюць шмат *канапель* і прадаюць пяньку. У Рослаўскім павеце сеюць шмат *лёну*. У заходніх паветах досіць разьвіта садаўніцтва, а ўва ўсёй краіне наагул - пчалярства.

*Хатнія рамёслы і промыслы* ў краіне пашыраны, асабліва ў *Клімавіцкім пав.* Хатняе ткацтва вельмі пашырана ўжо дзеля таго, што сяляне тут найбольш носяць вопратку свайго вырабу. Моцна разьвіты лясныя промыслы і рамёслы дзераўляных вырабаў—усякай пасуды і начыньня, павозак, рашотаў, бёдраў, гонтаў, сталярка. Шмат народу займаецца драньнём лыкаў, гоніць смалу і дзёгаць. Дзе-ня-дзе займаюцца ганчарствам, паляць вапну. А ў Рослаўскім павеце здабываюць *фасфарыты*, вельмі карысныя для гнаеньня зямлі, і мелюць іх у спэцыяльных млынох.

*Хвабрычная прамысловасьць* разьвіта вельмі слаба. Найбольш у краіне ёсьць бравароў, асабліва ў Клімавіцкім, Рагачоўскім і Рослаўскім пав. Шмат ёсьць так сама пільняў і шкляных гутаў. Хвабрычная прамысловасьць найбольш разьвіта ў Рослаўскім павеце, дзе на хвабрыках працуе каля 2000 работнікаў, тым часам, як іншыя паветы маюць толькі па некалькі сотняў хвабрычных работнікаў.

Ні гаспадарка, ні прамысловасьць краіны ў іхнім цяперашнім стане ня могуць прахарчаваць усяе прырастаючае людпасьці. Дзеля таго тут надта пашырыўся *адыход на старану*, асабліва на Данецкія капальні, і *перасяленьне*. Найбольш моцны адыход з Клімавіцкага, Чэрыкаўскага і Рослаўскага паветаў.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Рослаў** даўней быў значным гандлёвым цэнтрам: таргаваў воскам і мёдам з Нямеччынай. Цяпер гандлюе найбольш *хлебам, ляснымі таварамі і пянькою*. Хвабрычная прамысловасьць слабая— ёсьць 2 аляярні ды 2 гарбарні. Людпасьці каля *20* тысячаў.

З мястэчак Рослаўскага павету трэба адзначыць **Рагнедзіна**, (на паўд.-ўсход ад Рослаўля), у якім ёсьць каля $1^1/_2$ тысячы прамысловай і гандлёвай людпасьці. У Рагнедзіне ёсьць дзьве аляярні, гарбарня, пенькатрапальны завод і інш. Гандлюе мястэчка *хлебам, пянькою і алеем*.

Недалёка ад мястэчка, пры в. **Сешчы**, здабываюць *фасфарыты* і тут-жа іх мелюць на невялікіх заводах.

*Рослаўскі павет* ляжыць у мяйсцовасьці досіць высака паднятай, на ўзгор'і (*Рослаўскае ўзгор'е*), якое адыходзіць ад Ельнінскага Вузла, утварае правы высокі бераг Дзясны, працякаючай па ўсходняй мяжы павету, і дзеліць тут басэйны Дзясны і Сожа. Ня гледзячы на гэта, павет моцна *балоцісты*. Балоты тут найбольш імховыя. З грунтоў найбольш пашыраны лёгкія супяскі ды пяскі. Каля Рослаўля, на ўсход ад яго, ёсьць шырокі пояс грунтоў ураджайных, сугліністых, ляжачых і на лёссе і на марэнных глінах.

Рослаўскі павет *адзін з першых* у Беларусі *па сваіх мінэральных багацьцях*. У ім знаходзяцца самыя значныя залежы *фасфарытаў*. Апроч фасфарытаў, здабываюць тут яшчэ *буры вугаль*, *горны воск*, *зялезную руду і г. д.*

Прамысловасьць досіць разьвіта. Пашыраны ўсякія лясныя промыслы (ў павеце шмат лясоў). Сярод хвабрыкаў найбольшае значэньне маюць *шкляныя гуты* (ёсьць вялікая гута з 350 работнікамі і некалькі малых), *пільні і бравары*. Спатыкаюцца гарбарні, аляярні і інш. Даўней былі тут і *цукраварні*.

У гаспадарцы важнае мейсца займаюць *канаплі* і *лён*, а так сама *бульба*. Досіць разьвіта пчалярства. Даўней павет далёка быў вядомы са свайго мёду і воску.

Суседні з Рослаўскім *Клімавіцкі павет*,—адзін з найбяднейшых у Беларусі. Блізка ўвесь павет пакрыты пяшчанымі грунтамі і толькі на паўднёвым захадзе, над р. *Бесядзьдзю*, знаходзіцца востраў *шэрых суглінкаў*. У павеце досіць пашыраны *хатнія рамёслы*, хвабрычная-ж прамысловасьць разьвіта вельмі слаба. Гаспадарка стаіць нізка; значная частка люднасьці шукае зарабаткаў на старане.

Паветавы горад **Клімавічы**,—вельмі маленькі (8 тыс. люднасьці) і цікавага ў ім мала. З мястэчак найбольшыя—Шумячы, Хацімск і Касьцюковічы. **Шумячы** (з *5 тыс.* люднасьці) і **Хацімск** ляжаць на мяжы Рослаўскага павету. **Касьцюковічы** ляжаць над Бесядзьдзю, ў пекнай мяйсцовасьці. У Шумячох і Касьцюковічах досіць разьвіта гарбарства.

*Чэрыкаўскі* павет мае шмат супольнага з Клімавіцкім. *Сож* дзеліць павет на паўночную і паўднёвую частку. Паўднёвая мае такія-ж бедныя, як і ў Клімавіцкім пав. пяшчаныя грунты, з раскіданымі сярод іх астраўкамі *шэрых сугліінкаў*. Паўночная палавіна павету мае лепшыя, сугліністыя грунты. Ня гледзячы на тое і тут гаспадарка стаіць нізка, прамысловасьць няразьвіта, пашыраны адыход на чужыну. Главная прычына—дальнасьць чыгункаў.

Апроч самага **Чэрыкава** (з *5 тыс.* люднасьці) досіць старога, але закінутага гарадка над *Сожам*, у павеце лічуцца важнейшымі мястэчкамі Крычаў і Краснапольле.

**Крычаў** на высокім беразе *Сожа*—вельмі старое мястэчка, якога, лічуць, залажылі Крывічы, дзеля чаго ён нібы і называў-

ся *Крывічаў*. Цяпер у ім *6 тыс.* людн*а*сьці, вядзецца досіць бой-
кі гандаль *хлебам, пянькою, лёнам.* Есьць 4 гарбарні.

**Краснапольле**, невялікае мястэчка на паўдні павету, мае
ў сабе некалькі прамысловых закладаў, між якіх вызначаецца—
картонная хвабрыка.

*Быхаўскі павет* у заходняй сваёй часьці мае пяшчаныя
грунты, а у ўсходняй, паміж Дняпром і Сожам, найбольш су-
гліністыя. У ім захавалася досіць многа лясоў. Людн*а*сьць жыве
ня вельмі густа. Разьвіты лясныя промыслы, а хвабрычныя сла-
ба. Шляхоў досіць многа:—чыгунка, 3 шосы, рэкі—Дняпро і Сож.
Гасп*а*дарка стаіць тут ляпей, чым у двох папярэдніх паветах.

**Стары Быхаў** над Дняпром быў некаліс аднэй з мацней-
шых крэпасьцяў Беларусі. На памяць аб гэтым часе засталіся
толькі зямляныя валы ды некалькі старых гарматаў. З прамы-
словых закладаў ёсьць дробныя гарбарні і аляярні. Людн*а*сьці
каля *7 тыс.* чал.

З мястэчак Быхаўскага павету найбольшае, **Прапойск** - які
ляжыць над Сожам і мае прыстань. Гэта стары горад Радзімі-
чаў. Недалёка ад яго знаходзіцца р *Пішчана*, над якою Радзі-
мічы былі ў бітве пераможаны ваяводаю кіеўскім Воўчым Хва-
стом, пасьля чаго гэтае беларускае племя на заўсёды страціла
сваю самастойнасьць. У Прапойску ёсьць некалькі дробных за-
водаў (кахляныя, канатныя і інш.) Значны гандаль лесам.

**Рагачоў** належыць да гарадоў, якія за апошнія гады,
пасьля правядзеньня чыгунак, вельмі моцна ўзрасьлі. Людн*а*сьць
Рагачова вырасла ў 3 разы. Цяпер яе лічыцца каля *25 тыс.*
Ляжыць Рагачоў у пекнай мяйсцовасьці, на правым беразе Дня-
пра, пры вусьці Друці. Вядзе значны гандаль *лесам і яблыкамі*;
прамысловасьць у ім разьвіта слаба.

З мястэчак Рагачоўскага пав. вызначаюцца: *Жлобін* і *Ча-
чэрск.*

**Жлобін** над Дняпром пры вузлавой зял.-дар. станцыі, до-
сіць вялікае мястэчка і прыстань. Вядзе Жлобін значны гандаль
*хлебам, пянькою, лёнам і лесам.*

**Чачэрск,** у досіць глухой мяйсцовасьці над *Сожам*, з па-
раходнаю прыстаньню. Мястэчка гэтае досіць старое. Есьць тут
вельмі цікавы будынак ратушы, на 4 паверхі, пабудаваны ў га-
тыцкім стылю. Чачэрск скупляе ў ваколіцы *хлеб, пяньку і лён.*

*Рагачоўскі павет* мае грунты найбольш пяшчаныя і су-
пяшчаныя і толькі на паўдні яго трапляюцца часамі суглінкі.
У заходняй часьці, суседняй з Палесьсем, шмат трасніковых
балотаў. Лесу досіць многа. Залюднёны слаба. Гаспадарка вя-
дзецца досіць добра, садзяць шмат *бульбы*, моцна разьвіта *са-
даўніцтва*, пры чым *шмат яблыкаў вывозілася навет заграніцу.*

Ушпавеце досіць многа пільняў, бравароў і крахмальняў. Есьць так сама вялікая шкляная гута. Шмат людносьці зарабляе ў лесе і на сплаве.

---

## X. Верхне-Бярэзінская країна.

Верхне-Бярэзінская краіна складаецца з паветаў **Ігуменьскага і Барысаўскага**. Пасярэдзіне яе працякае Бярэзіна са сваімі прытокамі, а ў яе заходняй часьці—Птыч і верхні Нёман, які тут-жа, на захадзе Ігуменьскага пав., і пачынаецца. Мяйсцовасьць у заходняй часьці, асабліва ў Барысаўскім пав., паднятая, гарыстая. Сюды заходзіць частка Менскага ўзгор'я. На паўночным усходзе Барысаўскага пав., каля Халопеніч, падымаюцца ўзгор'і *Катарсаў*. Рэшта-ж краіны, асабліва яе паўднёвая частка і пояс уздоўж р. Бярэзіны, з'яўляюцца роўнаю нізінаю. Гэтая нізіна пакрыта блізка ўсюдых пяшчанымі грунтамі з хваёвымі барамі на іх; на паўдні Ігуменьскага павету апроч таго знаходзіцца шмат *трасніковых балотаў*, што надае гэтай мяйсцовасьці палескі характар і робіць яе як-бы працягам Бабруйскага Палесься. Паднятыя часьці краіны маюць грунты найбольш супяшчаныя, часамі досіць ураджайныя, а дзеня-дзе трапляюцца і суглінкі.

Значная часьць краіны, каля $^2/_5$ цэлага яе прастору, пакрыта аграмаднымі *лясамі*; на паўдні краіны спатыкаецца шмат лістовых лясоў, на поўначы ў лясох найбольш хвоі ды елкі. Асабліваю лясістасьцю адзначаецца часьць краіны, што ляжыць на ўсход ад Бярэзіны *(Любашанскія пушчы)*. Краіна мае рэдкае залюдненьне. З гэтага боку яна рэзка выдзяляецца з усіх суседніх краёў, дзе ўсюдых залюдненьне гусьцейшае, і зьбліжаецца да ляжачага на паўдня Палесься.

*Гаспадарка* аднак стаіць тут досіць высака. Сеюць шмат бульбы і ячменю. Пашыраны *лясныя промыслы*, а ў Ігуменьскім пав.—*хатнія рамёслы*, асабліва ўсякія дзераўляныя вырабы. З хвабрык і заводаў найбольш бравароў і пільняў. У розных мяйсцох так сама шмат смалярняў і тэрпэтынных заводаў. Краіна вывозіць лес, а прывозіць хлеб. Сетка чыгунак у краіне рэдкая, шмат мяйсцовасьцяў ляжаць далёка ад чыгунак і гэта перашкаджае іх эканамічнаму разьвіцьцю.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

Найбольшы горад краіны—**Барысаў**, з *20 тыс.* людносьці. Ляжыць ён на левым беразе *Бярэзіны*, на якой мае параходную прыстань, і пры чыгунцы. Барысаў вядзе досіць жывы гандаль

*лесам, смалою, дзёгцем,* найбольш з Украінаю. Хвабрычная прамысловасьць разьвіта. Есьць дзьве вялікіх *хвабрыкі сярнічак,* 6 пільняў, шкляная гута, картонная хвабрыка і дзесяткі два дробных заводаў. Лік работнікаў даходзіць да 1700 чал.

Барысаў належыць да старых гарадоў; яго пабудаваў у XII в. полацкі князь Барыс Усеславіч. На востраве сярод Бярэзіны быў даўней замак, якога расейцы абярнулі ў вастрог. Са старых будынкаў ёсьць цікавы касьцёл, пабудаваны у XVII веку. На правым беразе ракі, на ўзгор'ях высяцца акопы, зробленыя ў часе расейска-францускай вайны 1812 г. Барысаў іграў у часе гэтай вайны значную ролю. Недалека ад яго была нешчасьлівая пераправа цераз Бярэзіну Напаляонавых арміяў.



**Вясковая вуліца ў Барысаўскім Палесьсі.**

Ніжэй Барысава ёсьць на Бярэзіне прыстань **Чарнаўка** і пры ёй невялікае, але прамысловае мястэчка, вядомае са сваіх *ганчарскіх* вырабаў. Недалёка ад яго ёсьць зялезныя хвабрыкі Радзівіла, якія працавалі на балотнай рудзе. Цяпер яны нячынныя.

На поўначы Барысаўскага пав., на мяжы яго з Дзісьненскім, знаходзіцца невялікі, глухі гарадок **Докшыцы**, з *5 тыс.* люднасьці. На захад ад Барысава, ў гарыстай і лясістай мяйсцовасьці над р. *Гайнаю* ляжыць старасьвецкае мястэчка **Лагойск.** Быў тут даўней вялікі замак, навакола якога былі на цэтую мілю параскіданыя меншыя замкі. Цяпер ад замкаў пазасталіся толькі руіны, пазараставшыя лесам. Лагойскі двор належыў Тышкевічам, адзін з якіх быў навучоным археолагам;

ён шмат папрацаваў над памяткамі мінуўшчыны Беларусі. Тыш-
кевічы сабралі цэнны архіў і музэй і залажылі хвабрыкі ткац-
кую і зялезную. Цяпер Лагойск невялікае мястэчка з досіць
разьвітым гандлем. У ваколіцах Лагойску ёсьць некалькі серных
і зялезістых *крыніцаў*, якія ў мінулым веку славіліся сваімі ля-
чэбнымі прыметамі, а цяпер аб іх забыліся.

*Барысаўскі павет* р. Бярэзінаю дзеліцца на дзьве розныя
часьці. На захад ад Бярэзіны—*Менскае ўзгор'е*, грунты супяш-
чаныя і, хаця лясоў шмат, але ўсё-ж менш, чым у ўсходняй
часьці, дзе цягнуцца, асабліва уздоўж вярхоўяў Бярэзіны, агра-
мадныя пушчы, на пяшчаных грунтох. Асабліва бязлюдны па-
лескі характар маюць ваколіцы *Бярэзінскага каналу*. Праўда і
там падымаецца каля Халопеніч узгор'е *Катарсаў*, але яно
займае невялікі куток. Дзякуючы багацьцю лесам, Барысаўскі
павет вывозіць шмат лесу найцаннейшых сартоў (мачтавы
лес), а так сама смалы і ськівідару на Украіну і, па Бярэзінскаму
каналу,—ў Рыгу і ў Заход. Эўропу. Павет багаты сенажацямі.
Шмат дзе здабываюць зялезную руду. У заходняй часьці, каля
Лагойску, шмат *вапны*. Прамысловасьць у павеце разьвіта слаба.

*Ігуменьскі павет* ляжыць шырокім пасам, працягнутым ад
Нёмна аж за Бярэзіну. Прырода яго на гэтым вялікім прасторы
няроўная. Паўночна-заходняя часьць ляжыць на ўраджайнай
зямлі, лясоў мае мала, а насяленьне густое. Па ўсім прыметам
яна з'яўляецца натуральным працягам Менскае краіны. Паў-
днёвая часьць, над Птычом, ляжыць найбольш на пяскох і па-
крыта хваёвымі барамі і трасьніковымі балотамі,—такімі самымі,
як і ў суседняй Палескай нізіне. Рэшта павету ляжыць на пяш-
чаных і супяшчаных грунтох, мае шмат лясоў, хвойных і ліста-
вых. Гэтыя ліставыя лясы цягнуцца па правым беразе Бярэ-
зіны і над р. Сьвіслачай і складаюцца найбольш з ліпы і дубу.
Апрача гаспадаркі люднасьць займаецца ляснымі промысламі,
сплавам і *хатнімі рамёсламі*. Асабліва пашыраны *вырабы з дрэва*.
Так, у раіоні ліставых лясоў шмат сялян заняты драньнём лыка,
вырабам рагожаў, палазоў, дугаў, лапцяў, кашоў і іншых выра-
баў з ясені, дуба, асіны і ліпы. Шмат дзе займаюцца бандаркаю.

Хвабрычная прамысловасьць у павеце, апрача бравароў і
пільняў, разьвіта слаба. Няма так сама і значных гандлёвых
пунктаў.

З мястэчак, апроч паветавага места **Ігуменя** (з *5 тыс.* люд-
насьці), які ляжыць у глухой мяйсцовасьці, сярод аграмадных
лясоў і мае вельмі малое эканамічнае значэньне, трэба сказаць
аб мястэчку **Бярэзыні**. Ляжыць яно над р. Бярэзінаю, ў цэнтры
аграмаднага палескага раіону. Мае параходную прыстань і вядзе
значны гандаль дрэвам і смалою. У ваколіцах ёсьць *вапельні*.
Люднасьці каля *4 тыс.* чал.

У заходняй часьці павету ляжыць рад дробных мястэчак,
як *Узда*, *Дукора*, *Пухавічы*, *Пясэчна* і г. д. Кожнае з іх мае



**Рака Бэрэзіна** на мяжы Барысаўскага і Ігуменьскага пав.

сваю, часта вельмі цікавую, гістарычную мінуўшчыну, а цяпер з'яўляецца гандлёвым пунктам. Спаміж іх выдзяляюцца **Сьмілавічы**—невялікае, але прамысловае і гандлёвае мястэчка, ляжачае за 5 міль ад Менску. Тут ёсьць суконная хвабрыка і некалькі гарбарняў, дзе найбольш працуюць татары, якіх у мястэчку шмат.

Сярод Ігуменьскіх і Барысаўскіх пушчаў шмат захавалася рэлігійных лягендаў аб асобных мяйсцовасьцях, зьвязаных найбольш з абразамі Прач. Багародзіцы. У такія мейсцы, гэтак званыя *прошчы*, у пэўныя дні, найбольш *у маладзіковыя нядзелі*, зьбіраюцца багамольцы з усяе ваколіцы, а часта і здалёку. З такіх прошчаў выдзяляецца **Мар'іна Горка**,—на паўдня ад Ігуменя. Была тут даўней мусіць паганская сьвятыня. Лягенда кажа, што нехта ахвяраваўся пабудаваць капліцу, пабачыўшы ў сьне Матку Божую і, выздаравеўшы, пабудаваў. У гэтай капліцы аказаўся цудоўны вобраз, які не гарэў пры пажарах і шмат каго ўздараўляў. З часам гэты вобраз стаў далёка вядомы. Кожную маладзіковую нядзелю атпраўляецца тут служба Божая.

У Мар'інай Горцы істнуе *сельска-гаспадарская школа.*



**Даўнейшыя тыпы беларусоў Меншчыны.**

## XI. Мсьціслаўшчына.

На паўночны захад ад верхняга і сярэдняга *Сожа* мяйсцовасьць значна вышэе, робіцца фалістаю. З Раданскай лясістай раўніны мы падымаемся на Дняпроўскае ўзгорь'е, густа засе́ленае і малалеснае. Мсьціслаўшчынаю мы называем землі, ляжачыя на Дняпроўскім ўзгор'і, на ўсход ад Дняпра, а значыць паветы: **Гарэцкі, Мсьціслаўскі, Чавускі,** Магілеўскай губэрні і **Красенскі** павет Смаленскай губ.

*Дняпроўскае ўзгор'е* ў Мсьціслаўшчыне даходзіць высачыні *120 сажняў*. Даліны рэк зрэзуюць яго ўва ўсіх напрамках. Дняпро, ня могучы прабіцца цераз сьцяну ўзгор'я, каб цекці, як яму трэба, на паўдня, даўгі час мусіць цекці на захад, аж пакуль пад Оршаю не прарве каменную сьцяну. Дняпро служыць мяжою Мсьціслаўшчыны з поўначы і захаду.

Блізка што па ўсёй краіне заляглі ўраджайныя суглінкі. Прычынаю іх ураджайнасьці лічаць тое, што пад грунтамі ляжаць слаі маргелю. Толькі каля большых рэк цягнуцца шырокія паясы пяскоў. Сустракаюцца так сама і супяскі. Урэшце каля Мсьціславу ёсьць досіць вялікі востраў лёссу, на якім ляжаць *шэрыя суглінкі*. Гэта самы паўночны востраў лёссу на Беларусі.

*Балотаў* сустракаецца мала і займаюць яны невялікія прасторы. Так сама блізка няма і вазёраў.

З *мінэральных багацьцяў*, якія мае краіна, трэба адзначыць перад усім гліны, якія ў некалькі мяйсцох далі мажлівасьць разьвіцца кахельным і ганчарным рамёслам. Здабываюць тут так сама вапну (каля Мсьціслава, Дрыбіна, Чавускага пав.). У Красенскім (каля в. Пацёмкіна) і Гарэцкім пав. знаходзяць охру.

Урэшце ў Мсьціслаўскім павеце (каля в. Вялікай Слабады) і ў Чавускім (каля в. Слабады) ёсьць зялезістыя крыніцы.

*У лясох* Мсьціслаўшчыны расьце найбольш елкі (на захадзе). На ўсходзе краіны, (Мсьціслаўскі пав.), у лясох вельмі многа бярозы. Лясоў тут наагул небагата,—каля 25% агульнага прастору. Займаюць яны, ведама, горшыя грунты, бо лепшыя даўно расьцярэблены і заўраты. Найбольш лясісты павет Чавускі, але і там лясоў ня больш 28%.

*Клімат* Мсьціслаўшчына мае ўжо досіць халодны. Сярэдняя гадавая тэмпература каля + 4,5°. Да таго-ж клімат гэты ўжо зьбліжаецца крыху да кантынентальнага клімату Маскоўшчыны. Некаторыя географы лічаць, навет, што ўжо на ўсход ад Мсьціслаўшчыны клімат мае выразна-кантынентальны характар. *) Опадзі бывае сярэдне каля 500 міл. ў год. Садам і наагул гаспадарцы тут ужо значна шкодзяць позьнія (у канцы вясны) замаразкі.

*) З гэтым згодзіцца нельга: глядзі клімат Смаленшчыны.

Дзякуючы сваім прыродным асобнасьцям, краіна *заселена* была вельмі рана. Гісторыя застае тут ужо гарады крывічоў (а на паўдні—радзімічаў), якія былі ў залежнасьці то ад Полацку, то ад Смаленску.

Цяпер краіна заселена досіць густа,—шмат гусьцей, чым усе іншыя краіны навакола. На 1 кв. вярсту выпадае да 60 чал. (у Гарэцкім пав.) Люднасьць уся—чыста беларуская, апрача жыдоў, якіх тут жыве, агулам лічачы, каля 10% (у Красенскім пав. жыдоў няма саўсім).

Вясковая люднасьць займаецца гаспадаркаю. З ярыны сеюць шмат *аўса, ячменю і бульбы*. У Мсьціслаўскім павеце сеюць вельмі многа *грэчкі* (на паўдні павету, за Сожам, ляжаць пяскі), а ў Красенскім сеюць шмат *лёну*. У гэтых-жа двох паветах сеюць шмат *канопляў*.

Гаспадарка тут, наагул кажучы, стаіць ня вельмі высака. Глаўная прычына гэтага—адсутнасьць шляхоў. Гэтую багатую краіну не пераразае ні адна зялезная дарога, а ні шоса. Усе чатыры паветавыя гарады ляжаць за дзесяткі вёрст ад бліжэйшай станцыі. Вадзяныя шляхі так сама маюць малое значэньне. Дняпро і Сож ідуць па мяжы краіны, а больш значных судаходных рэкаў няма. Няма ў краіне і вялікіх гарадоў. Пры такіх варунках збыт прадуктаў гаспадаркі ня лёгкі, а дзеля таго і гаспадарка стаіць нявысака.

У сялянскіх гаспадарках часта яшчэ аруць сохамі, аб палепшаных машынах ня знаюць, штучных гнаёў ня ўжываюць. Аднак бліжэй да зялезных дарогаў гаспадарка выглядае ляпей. У кожным разе гаспадарка далей на ўсход—яшчэ горшая.

Садоў у краіне шмат. Асабліва ў Красенскім пав. Трапляюцца і вялікія прамысловыя гароды.

Гадоўля скаціны і коней пастаўлена досіць добра. Есьць шмат скаціны палепшанай пароды. У Красенскім павеце разьвіта сыраварэньне.

Хвабрычная прамысловасьць у краіне ня значная. Толькі ў Гарэцкім павеце ёсьць значныя ткацкія хвабрыкі,—у м. *Дуброўне*, і кахляныя,—у м. *Копысі*. Есьць яшчэ досіць бравароў.

У заходніх паветах краіны ёсьць шмат мястэчак, у якіх квітнуць рамёслы і йдзе бойка гандаль. У Красенскім пав., як і у ўсёй Смаленшчыне і ў Расеі, мястэчак няма. Гэта вельмі дрэнна адбіваецца на яго эканамічным жыцьці. Гандаль там ідзець найбольш на ярмарках, якія ад часу да часу зьбіраюцца ў большых сёлах.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Мсьціслаў**,—адзін са старэйшых беларускіх гарадоў. Успамінаецца аб ім першы раз у XII веку. Быў ён сталіцаю асобнага княжства, пасьля належыў да Смаленскага княжства і ўрэшце апынуўся пад Літвою. У XVI веку яго зрабілі галоўным го-

радам Мсьціслаўскага ваяводзтва,—самай усходняй з земляў Рэчы Паспалітай. Дзякуючы такому свайму палажэньню, шмат цярпеў Мсьціслаў ад маскоўцаў.

У часы цара Аляксея на Мсьціслаў напаў маскоўскі ваявода Трубецкой, які, ўзяўшы яго, перарэзаў блізка ўсіх людзей. Гэты страшны ўчынак і дагэтуль жыве ў памяці народнай пад імем „Трубяцкой разьні“. Мсьціслаў быў тады досіць вялікім горадам, разы ў тры большым, чым цяпер.

У нашыя часы Мсьціслаў — невялікі правінцыяльны гарадок, — з 10 тыс. люднасьці. Ляжыць ён у вельмі пекнай мяйсцовасьці, зрэзанай ярамі. Гістарычных памятак засталося ня шмат. Засталася высокая, абкружаная глыбокім ровам, Замковая гара. Есьць яшчэ і другая Замковая гара,—*Дзявочая гара*, дзе ў часы паганскія была пэўне бажніца.

З старых будынкаў ёсьць касьцёл і праваслаўны Тупічаўскі (ў прадмесьці *Тупічаве*) манастыр, з цудоўным абразом Прачыстае. Манастыр пабудванны ў XVI веку.

З мястэчак Мсьціслаўскага пав. (а ёсьць іх шмат і ўсе заселены ўбогай жыдоўскай люднасьцю) найцікавейшае **Хіславічы**. Ляжыць яно над р. Сожам, на мяжы з Рослаўскім пав. Жыхараў у ім каля *5 тыс.* Хіславічы вядуць торг хлебам і лёнам, скупляючы іх, глаўным чынам, у суседніх Рослаўскім і Красенскім паветах.

*Мсьціслаўскі павет*—чыста земляробскі. На паўночным захадзе мае ён грунты сугліністыя, далей на паўдня,—аж да Сожа, йдуць *шэрыя суглінкі на лёссе*, а за Сожам ляжыць значны кавалак бедных пяшчаных грунтоў. Сяляне сеюць шмат канапель і грэчкі.

У Чавускім павеце ёсьць некалькі вельмі старых мястэчак, як, прыкладам, **Радамля**, даўней досіць вялікі горад, як лічаць навет, сталіца радзімічаў. Цяпер толькі старое гарадзішча прыпамінае аб мінуўшчыне. **Чавусы** так сама досіць стары гарадок, з 6 тыс. людпасьці. Вырас ён, як і некаторыя іншыя мястэчкі на ўсходзе Магілеўшчыны, каля каталіцкага манастыра; манастыра гэтага даўно ўжо няма: яго закрылі расейцы ў мінулым веку.

Найбольш жывое мястэчка ў Чавускім павеце —гэта **Дрыбін**. Людпасьць гэтага мястэчка і яго ваколіцаў досіць прамысловая. Займаецца яна, апроч гаспадаркі, вырабам кахляў, усякімі дзераўлянымі вырабамі, а глаўнае *шапавальствам*. Дрыбінскія шапавалы слаўны на ўсю ўсходнюю Беларусь. Робленыя імі шапкі *магеркі* толькі апошнія часы пачала выцясьняць з ужытку хвабрычная тандэта.

Заходняя частка *Чавускага* павету пакрыта лёгкімі пяшчанымі і супяшчанымі грунтамі, на якіх яшчэ засталося шмат лесу. Рэшта-ж павету мае сугліністую зямлю і чыста земляробскі характар.

Такі-ж характар мае і сумежны з Чавускім *Гарэцкі павет*. Гаспадарка тут стаіць досіць добра, дзякуючы ўраджайным грунтом і болей выгоднаму збыту:—ў павеце ёсьць шмат вялікіх мястэчак, ды і чыгункі блізка праходзяць. Грунты Гарэцкага павету сугліністыя і толькі ўздоўж Дняпра цягнуцца пяскі.

**Горкі** (альбо *Гарыгоркі*)—найбольш слаўныя сваймі школамі. Даўней быў тут вышэйшы агранамічны інстытут, які меў аграмаднае значэньне ў гаспадарскім і культурным жыцьці Беларусі. Сярод прафэсараў яго былі такія научоныя, як Людагоўскі, Стэбут і інш., якіх працаю створана расейская агранамічная навука. У 1863 гаду расейцы закрылі Гарыгарэцкі Інстытут і перанеслі яго габінэты ў Пецярбург. А на мейсцы інстытуту адкрылі сярэднюю ўжо агранамічную школу, якая істнуе і дагэтуль. Пры школе істнуе завод гаспадарскіх машынаў, конскі завод, вялікі фруктовы сад і цудоўны парк. Істнуе апроч таго ў Горках каморніцкая школа.—Жыхараў у Горках каля 7 тысячаў.

На захадзе Гарэцкага пав. над Дняпром ляжыць старасьвецкі **горад Копысь.** Істнаваў ён яшчэ ў XI веку і належаў тады да Полацку. Пасьля яго шмат разоў палілі маскоўцы Са старасьветчыны тут засталося дагістарычнае яшчэ гарадзішча і вельмі старая (найстарэйшая ўва ўсёй Магілеўшчыне) царква.

Копысь у нашыя часы найбольш славен сваймі кахлянымі заводамі, якіх у ім ёсьць больш дзесятка і на якіх працуе каля 500 работнікаў. Есьць апроч таго пры ім прыстань на Дняпры. Люднасьці мае Копысь каля 4 тысячаў.

**Дуброўна**, з *8 тыс.* люднасьці. Мястэчка гэта асабліва вядома тым, што тут спрадвеку ткуцца жыдоўскія *талясы* (рэлігійная адзежына). Істнуе некалькі ткацкіх хвабрыкаў, спаміж каторых адна вялікая, з *500* работнікамі. Апроч таго ля мястэчка здабываюць вапну. На Дняпры ёсьць тут бойкая прыстань і вэрф, дзе будуюцца баркі.

Урэшце на мяжы з Красенскім паветам знаходзіцца мяст. **Ляды**, ў якім каля *8 тыс.* люднасьці. Гэта вельмі гандлёвае мястэчка. Таргуе найбольш пянькою і лёнам. Есьць у ім вялікі завод, дзе трэплюць пяньку.

У Красенскім павеце, як мы ўжо казалі, няма мястэчак і няма таго бойкага торговага элемэнту, які найбольш аджыўляе нашыя мястэчкі,—жыдоў. Дзеля гэтага з гандлёвага боку Красенскі павет цягнецца да мястэчак сумежных паветаў:—Гарэцкага і Мсьціслаўскага.

**Красны** (альбо, як даўней ён называўся, **Красен**), невялікі гарадок, істнаваў яшчэ ў XII веку і быў палітычна залежным ад Смаленска. У 1812 гаду адбылася тут вялікая бітва паміж французамі і маскоўцамі. Красны мае каля *3 тыс.* люднасьці. Гандлюе найбольш пянькою і хлебам, якія адпраўляе на Па-

рэцкую прыстань (у Смаленшчыне, на р. Касплі). Такі сама гандаль вядзе і найбольшае сяло Красенскага пав.—**Дасугава**, (*750 чал.* люднасьці.) .

На паўдні Красенскаго пав. ляжыць **с. Андрусава**, дзе быў у 1667 г. падпісаны мір паміж Маскоўшчынаю і Польшчаю

*Красенскі павет* мае грунты супяшчаныя і сугліністыя, вельмі ўраджайныя. У павеце вельмі разьвіта садаўніцтва, з якога тут сяляне маюць добры зыск. Сяляне сеюць шмат лёну і канопляў. Сеюць так сама шмат і канюшыны. Добра тут пастаўлена малочная гаспадарка. У павеце ёсьць некалькі вялікіх сыраварняў і шмат меншых. Хвабрычная прамысловасьць саўсім нязначная. Павет наагул чыста землябробскі.

---

## VII. Аршанская краіна. — (Паўночная Магілеўшчына).

Тры паветы, якія разьляглiся на захад ад Дняпра, на Дняпроўскім ўзгор'і і яго спадах— **Аршанскі, Сеннінскі і Магілеўскі** маюць між сабою шмат супольнага: густата люднасьці, спосабы гаспадаркі, мінуўшчына ўва ўсіх трох вельмі падобная.

Адарваныя Дняпром, заходнія часткі *Дняпроўскага Узгор'я* ляжаць у гэтых паветах некалькімі гнёздамі, разьдзеленымі *р. Друцьцю* і яе прытокамі. Высачыня Дняпроўскага Узгор'я тут даходзіць *120* сажняў. Узгор'е стварае мяйсцовасьць моцна фалістую з атхонаватымі спадамі ўзгоркаў і пакрыта найбольш супяскамі. К захаду, ў бок Лепельскага пав., узгор'е памалу зьніжаецца, пераходзячы ў раўніну, густа засееную вазёрамі ды імховымі балотамі, моцна прыпамінаючы суседнюю Лепельшчыну. На самай заходняй мяжы краіны (з Барысаўскім пав.) падыймаецца значнае горнае гнязло *Катарсаў*. К усходу ад Воршы, Дняпроўскае Узгор'е, дайшоўшы найбольшай высачыні (*128 саж.*), рэзка абрываецца над вялікай пяшчыстай раўнінай, пасярод якой ляжаць *Верацейскія Балоты.* Далей на ўсход за Верацейскімі балотамі, мяйсцовасьць ізноў вышэе.

На паўдня, ў Магілеўскім пав., узгор'е, нязначна зьніжаючыся, пераходзіць у *Раданскую* і *Палескую нізіны*.

Аршанская краіна багата вадзянымі шляхамі. На ўсходзе яе цячэ *Дняпро*, па якім тут ужо ходзяць і параходы, а на поўначы-*Дзьвіна* і яе прытокі, каторыя вельмі блізка падыходзяць к Дняпровым прытокам, дзеля чаго тут у даўныя часы йшло шмат вадзяных шляхоў і *волакаў* (мяйсцоў, дзе чаўны перацягаваліся з аднэй рэчкі ў другую). Шмат ёсьць тут і азёраў; паміж іх найбольшыя—*Лукомскае* (22 кв. вяр.), *Чарэйскае* і *Сядява.* У азёрах шмат рыбы.

Што да *мінэральных багацьцяў* краіны, то пры берагох Дняпра і ў некалькіх іншых мяйсцох здабываюць *найлепшага гатунку вапну.* У Сеннінскім і Аршанскім паветах здабываюць *балотную зялезную руду.* Краіна багата так сама мінэральнымі *крыніцамі,*—некаторыя з іх абсьледжаны і апісаны, але шмат ёсьць такіх, аб якіх ведае толькі мяйсцовая людносьць, як аб лечачых розныя хваробы. Ды і з апісаных ужо крыніцаў ні адна, як трэба, ня выкарыстана.

Аршанская краіна мае яшчэ досіць многа *лясоў.* Толькі ў Сеннінскім павеце лясоў засталося менш, але два другія па лясістасьці сярод паветаў Магілеўскай губэрні займаюць *першае* мейсца. У лясох найбольш елкі, асіны, бярозы У Магілеўскім-жа павеце найбольш хваёвых бароў. Лясныя промыслы маюць у краіне вялікае значэньне, асабліва ў Аршанскім павеце. Лес адгэтуль адпраўляещца ва ўсе бакі і па зялезных і па вадзяных шляхох.

*Гаспадарка* ў краіне стаіць добра Народ тутэйшы, спрадвеку заняты толькі гаспадаркаю, каля зямлі хадзіць умее добра. Плугі тут ужо замянілі сохі даўно. Сяляне ўжываюць штучныя гнае, акуратна вырабляюць ральлю. Дзеля таго хлеба тут свайго хватае, а яшчэ шмат і вывозіцца за межы краіны. З ярыны сеюць шмат *аўса, ячменю, бульбы.* У Аршанскім і Магілеўскім паветах сеюць шмат *лёну* і *канапель.* У Сеннінскім павеце сеюць больш чым у іншых пав. *ячменю,* што тлумачыцца суседзтвам гэтага павету з Полаччынаю; так сама шмат сеюць гароху. У краіне разьвіта садаводзтва і агародніцтва, асабліва пад Магілевам.

У Аршанскім павеце, над Дняпром, шмат ёсьць заліўных сенажацяў. Дзякуючы гэтаму тут дзержаць шмат скаціны.

З *промыслаў,* апрача лясных, віднае мейсца займае рыбалоўства ў Дняпры і вельмі багатых рыбаю вазёрах Сеннінскага пав.

З хатніх рамёслаў асабліва разьвітыя дзераўляныя вырабы. Прамысловасьць хвабрычная найболып разьвіта ў Магілеве і Воршы. Шмат ёсьць у краіне пільняў і бравараў, але спатыкаюцца і іншыя хвабрыкі — па вырабу сярнічак, шкляныя гуты, хімічныя заводы, паперні. Есьць яшчэ шмат вялікіх млыноў

*Людносьць* жыве ўкраіне ня лішне густа—радзей чым у суседніх Мсьціслаўшчыне і Полацкім Наддзьвіньні, аднак гусьцей чым у Палесьсі. Вёскі яшчэ маюць значную вялічыню, але ўжо шмат меншыя, чым на паўдні. Далей на поўнач, у марэнным краю, вёскі саўсім маленькія, з некалькіх хатаў.

Аршанская краіна ёсьць аднэй з найцікавейшых краінаў Беларусі, як з боку сваёй *мінуўшчыны,* так і цяперашняга ўнутранаага культурнага жыцьця

Край сьвятых вазёраў, цудоўных крыніцаў і старэнькіх—старэнькіх мястэчак, край, дзе гісторыя густа разсеіла сьляды свае: — тысячагадовыя каменныя крыжы пры дарогах, старасьвецкія курганы, гарадзішчы, закінутыя ў нетры лясоў. Край,

за каторы праз тры вякі білася Масква з Беларуска-Літоўскай Дзяржаваю. Білася дзеля таго, што край гэты ёсьць брамаю да Беларусі і да Маскоўшчыны. Часта яго ўсходнюю частку так і называюць „*Смаленская Брама*“.



Спрадвечныя могілкі ў цэнтральнай Беларусі.

Цэнтр Беларусі быў абаронены са стараны Маскоўшчыны: з поўначы Дзьвіною і бязлічнымі вазёрамі Віцебшчыны, з усходу Дняпром, Сожам і Палескімі пушчамі, што пакрывалі берагі гэтых рэкаў. Але паміж Дняпром і Дзьвіною заставалася паласа зямлі без вялікіх рэкаў, і іншых перашкодаў для руху, досіць густа залюднёная, а значыць з расьцярэбленымі лясамі. Спрадвеку сюдою йшлі дарогі з усходу на захад і тут яны крыжаваліся з яшчэ важнейшымі ў даўныя часы дарогамі—з паўдня на поўнач (з Варагаў у Грэкі). Дзеля таго тут ад прадаўвых часоў пазакладаліся гарады. Досіць добрыя грунты спрыялі гаспадарцы, а дзеля таго ў краіне была густая і вясковая люднасьць. Зразумела дзеля гэтага, чаму Маскоўскія войскі, нападаючы на Беларусь, кідаліся наўпярод у гэтую „Смаленскую Браму.“

Паяс між Дняпром і Дзьвіною крыху толькі шырэйшы за 100 вёрстаў. Але ў ім, як раз пасярод яго, ляжаць вялікія Верацейскія Балоты. Дзеля гэтага Смаленская брама робіцца саўсім вузкою. Дарогі з усходу на захад мусяць ісьці праз вузкі калідор паміж Дняпром і Верацейскімі балотамі.

Каб заўладаць Смаленскаю Брамаю і непрапусьціць праз калідор ворага і Маскоўшчына і Літва будавалі крэпасьці.— Смаленск замыкаў Браму з—усходу, а Ворша з—захаду.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Ворша**. На крыжаваньні дзьвёх чыгунак праразаючых краіну, на высокіх берагох Дняпра, недалёка ад того мейсца, дзе ён павяртае на паўдня і дзе на ім ёсьць *Кабеляцкія Парогі*, раськінулася Ворша. Гэта надта стары горад; ўспамінаюць аб ім летапісы ў XI веку, але пэўне быў ён яшчэ і ў дагістарычныя часы. У часах літоўскіх была Ворша значнай крэпасьцю, якая закрывала Смаленскую Браму. Тут-жа адбываліся зборы беларуска-літоўскага і польскага войска перад паходамі на Маскву. У 1564 г. пад Воршаю Маскоўцы былі моцна разьбіты беларуска-літоўскім войскам. За тое маскоўцы ў тым-жа сталецьці некалькі разоў нападалі на Воршу, палілі і рабавалі яе. У XVII веку тут пазакладана было шмат манастыроў. З іх да нашага часу дажылі толькі 2 праваслаўныя Кутэінскія (над рэчкаю *Кутэінкаю*) манастыры. Усе-ж каталіцкія манастыры маскоўскі ўрад скасаваў.

З правядзеньнем чыгунак места стала моцна расьці. Узрасла і прамысловасьць. Цяпер у Воршы ёсьць некалькі дзесяткаў заводаў. З іх найбольшы драцяна-цьвяковы завод, а так сама хімічны завод; абодвы маюць па 200—300 работнікаў.

Ворша мае адну з найбольшых дняпроўскіх прыстаняў, з якой адпраўляецца шмат хлебных і лясных грузаў. З Воршы па Дняпру ўніз ходзяць параходы.

Надзвычайна дагоднае географічнае палажэньне абяцае Воршы важную будучыну. Цяпер-жа яна выглядае досіпь бедна. Люднасьці ў Воршы—каля *25 тыс.*

Частка *Аршанскага павету*, што ляжыць на ўсход ад Верацейскіх балотаў, мае ў сабе шмат падобнасьці да суседняй Смаленшчыны. З тамашніх мястэчак можна адзначыць *Лïозну*, *Любавічы. Рудню і Бабінавічы.* Мястэчкі гэтыя цосіць бойка таргуюць лесам і лёнам, а часткаю і хлебам. Пры станцыях праходзячай тут Рыга-Арлоўскай чыгункі, ёсьць значныя *хвабрыкі, абрабатуючыя лён*, напрыклад у *Крынках*—лёна-прадзільная хвабрыка, з 300 работнікамі). Стары горад **Бабінавічы**, стаіць у глухой лясістай мяйсцовасьці, над р. *Лучосаю* і гандлюе лесам. Жыхараў у ім усяго каля *2 тыс.*

На захадзе Аршанскага пав. ёсьць некалькі мястэчак, ляжачых у багатай мяйсцовасьці з ураджайнай зямлёю. Дзеля таго яны найбольш таргуюць хлебам:—скупляюць яго і вывозяць праз станцыі праходзячай тут Маскоўска-Берасьцейскай чыгункі. Спаміж такіх мястэчак можна адзначыць *Коханава* (ляжыць пры чыгункавай станцыі), *Смальяны, Абольцы* і інш.

**Магілеў**. На спадах Дняпроўскага ўзгор'я, на мяжы яго з Палескай і Раданскай нізінамі ляжыць адзін са значнейшых беларускіх гарадоў—Магілеў. Займае ён высокі, ўзгоркаваты правы бераг Дняпра. А за Дняпром знаходзіцца яго прадмесьце—*Лупалава.*

Калі заложаны Магілеў—вестак у гісторыі няма. Адно толькі вядома, што людзі тут жылі яшчэ ў самую далёкую дагістарычную эпоху. Імя сваё Магілеў нібы дастаў ад іменьня разбойніка Магілы, які жыў у лясной нетры над Дняпром. Гэта, праўда, толькі лягенда. Спачатку Магілеў належыў Віцебскім князём.

Найбольш разросься і разбагацеў горад у XVI ды XVII вяках. Каралі ,хочучы забяспечыць сабе вернасьць магілеўцаў, надалі гораду шмат усякіх прывілеяў. Магілеў вёў тады шырокі гандаль з Рыгаю, Масквою, Украінаю, а так сама і з нямецкімі гарадамі.—Лейпцыгам, Кёнігсбэргам, Данцыгам і г. д.

Хоць шмат шкоды прыносілі Магілеву маскоўскія напады таго часу, але горад далей рос і багацеў. Найбольш шкоды прынясла Магілеву вайна швэдская, калі яго займалі, то швэды. то маскоўцы, пры чым і адны і другія рабавалі жыхароў, а ўрэшце маскоўцы, па загаду цара Пятра, *спалілі ўвесь горад*. Пасьля таго Магілеў апусьцеў і ўжо ня мог паправіцца аж да апошніх часоў.

Са старасьвецкіх будынкаў найбольшай увагі заслугуюць Ратуша і Брацкі Манастыр з царквою Сьв. Вадохрышча, пабудаваныя ў XVII веку. Апроч таго цікавы з боку малярства сабор Сьв. Язэпа, пабудаваны ўжо ў часы расейскія.

Гарадзкія валы, прыпамінаўшыя сабою гэраічную абарону магілеўцамі роднага места, нядаўна былі зраўняны з зямлёю па загаду губэрнатара.

*Хвабрычная прамысловасьць* у Магілеве невялікая. Істнуе досіць многа малых прадпрыемстваў—табачныя хвабрыкі, гарбарні, пільні, бравары і г. д. За тое шмат ёсьць рамясьнікоў. З промыслаў найбольш пашырана—агародніцтва, рыбалоўства, выраб алею, ганчарства і ўрэшце-гарбарства. Гарбарства моцна разьвіта ў прадмесьці Лупалове—за Дняпром. Магілеў *таргуе* глаўным чынам *скурамі, салам і хлебам*. На Дняпры ёсьць значная прыстань.

На паўдня ад Магілева ляжаць старыя **манастыры Буйніцкі і Варкалабаўскі**, пабудаваныя ў XVII вяку. На захад ад Магілева, над *р. Друцьцю* знаходзіцца **Бялыніцкі Манастыр**, а ў ім слаўны на ўсю Беларусь цудоўны абраз Прачыстай. З XVI веку і да гэтага часу ў Бялынічы сходзяцца што году дзесяткі тысяч багамольцаў. Даўней манастыр гэты йграў значную культурную ролю; пры ім, напрыклад, была друкарня, школы і г. д.

Пасярод павету ляжыць невялікае, вельмі старое м-ка **Галоўчын**, якое даўней было горадам і, як кажа лягенда, мела „15 цэркваў і 100 кузьняў.“

Над Дняпром, вышэй Магілева ляжыць **Шклоў**. Гэты стары гандлёвы горад гадоў сто назад быў багацейшы за Магілеў Цяпер яго значэньне крыху зьменшылася. Аднак і цяпер Шклоў вядзе бойкі гандаль лесам, пянькою, красным таварам і футрамі. Есьць у Шклове і некалькі значных хвабрыкаў:—вялікая па-

перня (робіць картон) з 600 работнікаў, хвабрыка сярнічак і інш. Усёй люднасьці ў Шклове каля 7 *тыс*. Люднасьць складаецца блізка з адных жыдоў.

Адзін са старэйшых беларускіх гарадоў — **Друцк**, над р *Друцьцю*—цяпер ёсьць маленькім бедным мястэчкам. На востраве сярод ракі падыймаюцца валы аграмаднага гарадзішча, прыпамінаючыя слаўныя часы Друцка.

У розных мяйсцох Магілеўскага пав. знаходзяцца *ўздараўляючыя мінэральныя крыніцы*. Такія крыніцы есьць напрыклад **у в. Палыкавічах** над Днапром і туды зыходзяцца тысячы народу, лічачы крыніцу цудоўнай. Есьць зялезныя крыніцы на захадзе павету, каля **м. Цяцерына** і ўрэшце каля *м. Шапялевічаў* знаходзіцца **возера Хіцемля**, вада з якога памагае ад наскурных і інш. хваробаў.

*Магілеўскі павет* мае грунты сугліністыя і супяшчаныя, дагодныя для гаспадаркі. Толькі на паўднёвым захадзе цягнуцца пяскі, якія з'яўляюцца працягам Бярэзінскага Палесься.

У Сеннінскім павеце ёсьць цэлы рад мястэчак, у цяперашнія часы невялікіх і бедных. **М. Сенна**—невялікі гарадок з *8 тыс*. людпасьці. Недалёка на захад ад яго ёсьць *зялезныя крыніцы*. На паўдні павету, пры станцыях Маскоўска-Берасьцейскай чыгункі павырасталі значныя гандлёвыя мястэчкі, якія таргуюць хлебам і лесам. З іх найважнейшае **Талочын**. У ім між іншым ёсьць і дзьве хвабрыкі: вялікая шкляная гута (з 4-мя сотнямі работнікаў) і дражджавы завод. Людпасьці ў Талочыне каля *2 тыс*. чал. Пры ст. **Крупкі** ёсьць хвабрыка сярнічак.

У паўночна-заходняй часьці павету, над вялікім возерам ляжыць старое мястэчка **Лукамля**, вядомае яшчэ з XI веку. Даўней Лукамля была сталіцаю асобнага княжства. Цяпер гэта невялікае і беднае мястэчка. На захад ад Лукамскага возера падымаецца ўзгор'е *Катарсы*.

Сеннінскі павет ляжыць на грунтох багатых, сугліністых і супяшчаных. Людпасьць яго, апроч гаспадаркі, займаецца лясьнымі промысламі і рыбалоўствам.

Мяйсцовасьць у Сеннінскім і Аршанскім паветах, каля Дняпроўскага ўзгор'я, вельмі пекная, яна навет, як піша аб ёй у сваіх мэмуарах царыца Кацярына II, „прыпамінае ангельскі парк".

---

## XIII. Краіна Задзьвінскіх узгор'яў (Віцебшчына).

На поўнач ад р. Дзьвіны і ад Полацкай нізіны падыймаюцца, сярод лясоў і вазёраў, *Задзьвінскія ўзгор'і*. Яны запаўняюць сабою паветы **Невельскі, Гарадоцкі, Віцебскі, Себежскі** і беларускія часткі паветаў **Люцынскага і Апочацкага**.

Падняўшыся ўсхонавата над правым берагам Дзьвіны ў Віцебскім павеце, ўзгор'е запаўняе гэты павет і йдзе далей на поўнач у паветы Гарадоцкі і Невельскі, пад імем *Віцебска-Невельскай Горнай Грады*. Найбольшай высачыні даходзіць града на поўнач ад Гарадка (Паганаўская гара—136 саж.). У Невельскім павеце, каля паўночнай мяжы Беларусі, узгор'е робіцца асабліва высокім, спады яго ўсхонаватымі, мяйсцовасьць прыймае выгляд саўсім горны, як мы пісалі на стр. 13. Гэтае высокае горнае гняздо, як яго некаторыя географы называюць, „Райскія горы“, цягнецца з Невельскага пав. на захад, у Себежскі павет, і там ужо значна зьніжаецца, асабліва за м. Себежам Заходзіць гэтае ўзгор'е і ў Люцынскі пав., дзе дайшоўшы значнай высачыні каля м. Люцына, ізноў ніжэе, далей на захад пераходзячы ў *Надбалтыцкую Нізіну*. У Апочацкім і Вялікалуцкім пав. гэтыя-ж ўзгор'і вядомы пад імем „*Вязаўскіх гораў*“.

Задзьвінскія ўзгор'і дзеляць воды басэйну *Дзьвіны* і рэкаў *Ловаці і Вялікай*, ўпадаючых: першая ў *возера Ільмень*, а другая ў воз. *Пскоўскае.* Абодвы вазёры злучаны рэкамі з Фінскай затокаю. Рэкі Ловаць, Вялікая і некаторыя іх прытокі пачынаюцца ў Краіне Задзьвінскіх Узгор'яў, ля самай беларускай мяжы з Маскоўшчынаю і вялікага эканамічнага значэньня для Беларусі ня маюць.

Як ні адна іншая краіна Беларусі, засеена Задзьвіньне невялікімі вазёрамі. Усё сказанае вышэй аб марэнным краю безпасрэдна адносіцца да Задзьвіньня, бо яно як раз і з'яўляецца найбольш тыповаю — марэннаю краінаю. З вазёраў найбольшыя *воз. Няшчорда, воз. Іван, воз. Себежскае, воз. Невельскае, воз. Сьвібла.* У гэтых вазёрах водзіцца шмат рыбы і рыбалоўства, дзеля таго, дае тут люднасьці значны зарабатак. Аднак пры правядзеньні належнай рыбнай гаспадаркі можна было-б з вазёраў гэтых мецьдаходы ў шмат разоў большыя.

*Рака Дзьвіна* пераразае папалам Віцебскі павет. Тут ужо яна судаходная. Ад Віцебску ў абодвы бакі ходзяць і баркі і параходы. Недалёка ад Віцебску на р. Дзьвіне ёсьць значныя парогі. (*Руба і Капачы*). З прытокаў Дзьвіны важнейшы *р. Вобаль*, якая пачынаецца з возера Езярышча ў мяйсцовасьці, асабліва густа засеенай вазёрамі і як раз недалёка ад р. Ловаці. Істнаваў дзеля таго праект злучыць гэтыя рэкі каналамі. Праўда р. Ловаць лёгка было-б зьвязаць каналамі і з іншымі прытокамі Дзьвіны.

Краіну пакрываюць вельмі разнародныя *грунты.* На Віцебска-НевельскайГрадзе ляжаць глаўным чынам суглінічтыя і цяжкія гляістыя грунты, на захадзе-ж краіны, у Себежскім і Люцынскім паветах, пераважаюць супяскі, хаця шмат спатыкаецца і суглінкаў. На спадах узгор'я, на ўсход і захад ад м. Гарадка, ляжаць дзьве значныя плямы неўраждайнага *падзолу*, а каля некаторых рэкаў заляглі значныя абшары пяшчаных грунтоў. Асабліва гэта трэба сказаць аб прытоках р. Вобалі.

*Клімат* краіны яшчэ мае на сабе значныя ўплывы недалёка ляжачага мора, але ўжо досіць халодны. Сярэдняя гадавая тэмпература каля $+5^0$, тэмпература студзеня — $7{,}5^0$. Ападаў бывае шмат:—каля *6 міл.* Неба па большай часьці захмурана.

Такі клімат ня вельмі спрыяе гаспадарцы на цяжкіх грунтох, ці можа, ляпей кажучы, вымагае на цяжкіх грунтох вельмі культурнай і акуратнай гаспадаркі, каракчы за ўсякую памылку вымаканьнем руні, гніцьцём збожжа і г. д.



Хатнія вырабы ў Віцебшчыне.
Бажніца свае́й работы *).

У *гаспадарцы* тут на першы плян выступаюць дзьве расьціны: *ячмень і лён*. Ячменю ў Задзьвінскай краіне сеюць больш, чым дзе на Беларусі. Аўса-ж за тое сеюць тут менш, чым у большасьці краінаў. Тлумачыцца гэта часткаю кліматычнымі варункамі, часткаю суседзтвам Латвіі, дзе ячменю сеюць асабліва шмат. Шмат сеюць у краіне і лёну, хаця менш, чым у суседняй Смаленшчыне. З гэтага боку краіна займае пасьля Смаленшчыны *другое мейсца* ў Беларусі. Гаспадарка ў Задзьвінскай краіне наагул стаіць нявысока. Затым і ўраджай тут нізкі.

Рамёслы ў краіне слаба разьвіты. Тых вялікіх прамысловых мястэчак, якія мы бачылі навет у суседняй Магілеўшчыне тут саўсім няма. Тутэйшыя мястэчкі бедныя і невялікія, вядуць

*) Шафка, што стаіць на куце і ў ей трымаюць грамніцу, проскуркі і інш. асьвячаныя рэчы.

найбольш толькі дробны гандаль. З рамёслаў найбольш разьвіты тыя, што вырабляюць *дрэва*—прыкл. бандарства, (у Віцебскім і Невельскім паветах). У гэтых-жа паветах шмат рамясьнікоў занята гонкаю смалы і дзёгцю.

Досіць разьвіта *кравецтва* (у Гарадоцкім, Люцынскім, Віцебскім, пав.), а на захадзе краіны (Люцынскі, Себежскі пав.) шмат кавалёў.

*Хвабрычная прамысловасьць* у краіне невялікая. Толькі піваварных бравароў ёсьць шмат (больш чым дзе), ёсьць некалькі хвабрыкаў сярнічак. Наагул кажучы, ўся блізка хвабрычная прамысловасьць працуе ў *самым Віцебску*, які сярод гарадоў беларускіх займае віднае мейсца па сваей прамысловасьці. Рэшта-ж краю з прамысловага боку стаіць вельмі нізка.

Такі эканамічны заняпад Задзьвінскай Краіны часткаю тлумачыцца яе рэдкай залюднёнасьцю. Аднак гэтае агульнае тлумачэньне тутака ўжо затым несправядліва, што як раз адсюль шмат народу йдзе на зарабаткі—асабліва ў расейскія вялікія гарады—Петраград і Маскву.

Трэба дзеля таго зьвярнуць асаблівую ўвагу на *гісторыю* краіны. Спрадвеку краіна была заселена *крывічамі* і належала да Віцебскага а часткаю да Полацкага княжстваў. Так сама спрадвеку праз яе йшлі вялікія шляхі з паўдня—да Ноўгараду і Пскова і да Варажскага Краю. Дзеля таго тут ніколі ня сьціхала барацьба беларусоў з суседзямі. Асабліва барацьба гэтая разгарэлася тады, калі ўзмацнела Масква і ўсе землі беларускія сабраліся ў Літоўска-Беларускую Дзяржаву. Азёрны Задзьвінскі край быў для гэтай дзяржавы тэй сьцяною, якая бараніла ад Маскоўшчыны самае яго сэрца, яго культурныя цэнтры Полацак, Вільню. Дзеля таго праз увесь час войнаў з Масквою тут адбываліся самыя зацятыя бітвы. Абедзьве стараны стараліся замацаваць за сабою Азёрны край, і дзеля таго, будавалі тут замкі і крэпасьці. Уся краіна засеена руінамі гэтых крэпасьцяў, якія сумна высяцца на астравох азёр, на ўсхопаватых узгорках, альбо ў лясной нетры. Саўсім зразумела, што спакойнай гаспадарскай людпасьці ў часе войнаў жыцьця ня было. І толькі калі барацьба скончылася, край пачаў аджываць.

Праз увесь 16-ты век, калі рэшта Беларусі жыла найбольш шырокім нацыянальна-культурным жыцьцём, паветы Себежскі і Невельскі разам з Усходняй Беларусьсю (Смаленшчынаю) прабылі пад уладаю Маскоўшчыны, якая і тады старалася іх абмасковіць. Пэўне-ж гэтае сталецьце так сама вельмі нядобра адбілася на жыцьці Задзьвіньня. На мове тамашніх беларусоў гэта асабліва моцна адбілася. І да нашых часоў яны дамешуюць да мовы шмат расейскіх словаў і зваротаў.

Для лепшай абароны граніцаў Вялікія князі і Каралі раздавалі землі на пагранічны вайсковым людзям, якія называліся *панцырнымі баярамі*, альбо *шляхтаю*. У часох прыгону яны былі вольнымі. Гэта адбілася і на іх патомках, якія заможнейшыя і

культурнейшыя ад звычайных сялян. Патомкаў гэтых панцырных баяраў шмат ёсьць у Себежскім, Невельскім і іншых прыгранічных паветах Беларусі.



Беларускі шляхціц.

Адным толькі Задзьвінская краіна папраўдзе багата—гэта шляхамі. Апроч вадзяных шляхоў, аб якіх ужо гаворана, краіну сякуць аж пяць чыгункавых ліній. З кожнага з гарадоў: з Віцебску, Невеля і Себежу разыходзяцца чыгункі ў чатырох кірунках. Апроч таго праз усю блізка краіну йдзець шоса.

Так сама як і ў сівой мінуўшчыне застаецца Віцебшчына вялікім раздарожжам. Усе гарады краіны стаяць пры чыгунках (зраўнуй з Мсьціслаўшчынаю). Гэта дае надзею на тое, што ў недалёкай будучыне яе эканамічнае жыцьцё йзноў адродзіцца, калі толькі для таго, ведама, будуць патрэбныя палітычныя варункі.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

Над Дзьвіною, дзе, зьвіваючыся на дне глыбокіх яроў, у яе ўпадае р. Віцьба, стаіць стары **Віцебск**. Гісторыю гэты горад меў багатую і цікавую. Ня важучыся пераказаць яе тут, успомнім хаця аб некаторых цікавейшых выпадках з гэтай гісторыі.

Так сама, як і шмат іншых беларускіх гарадоў, заложаны Віцебск не за памяцьцю гісторыі. Быў ён найбольш зьвязаны з Полацкам, але ў некаторыя часы быў у залежнасьці ад Сма-

ленску. Віцебск вельмі доўга бараніў сваей незалежнасьці перад літоўскімі князямі. Дастаўся ён урэшце Альгерду, ды і той не заваяваў яго, а атрымаў, як пасаг за Віцебскай княжнай, з якою ажаніўся і стаўся такім чынам Віцебскім князем.

Альгерд, як ведама, быў грэцкай-усходняй веры. Вось-жа ў Віцебску ён пабудаваў *некалькі цэркваў*. Адна з іх, якую ён толькі перабудаваў, істнуе і да нашых часоў (Царква Благавешчаньня). Так сама пабудаваў Альгерд на левым беразе р. Віцьбы і Дзьвіны моцныя *каменныя замкі*.

Аб сьцены грозных замкаў віцебскіх ня раз разьбівалася чужаземная навала. Адважна бараніліся ў іх віцябляне перад маскоўскімі ваяводамі. А адбараніўшы роднае места няраз праганялі ворагаў і з межаў краю.

У 1605 г. прыкладам, віцебская дружына пад камандаю Марка Лыткі напала сваім адумам на маскоўскае войска і саўсім яго разьбіла.

Віцебск спрадвеку быў жывым гандлёвым горадам. Заўсёды меў ён гандлёвыя зносіны з Рыгаю, Кёнігсбэргам і іншымі заходнімі гарадамі. Гандаль гэты моцна ўзбагачываў люднасьць, а зносіны з Заходняй Эўропаю высака падымалі яе з боку культурнага. Але сталыя войны з Маскоўшчынай моцна падрывалі дабрабыт Віцебску.

Да ваенных бедаў далучыліся яшчэ ўнутраньнія рэлігійныя сваркі. У 1623 г. на грунце гэтых сварак быў забіты ў Віцебску гарачы прапаведнік Уніі арх. Іозафат Кунцэвіч, прызнаны пасьля Р.-Каталіцкім Касьцёлам за сьвятога. За гэта забойства ўвесь горад быў моцна пакараны. Але найгоршая бяда сталася Віцебску сто гадоў пазьней.

У часе швэдскай вайны віцебляне спрыялі швэдам і навет памаглі ім грашмі. За гэта Пётра І загадаў спаліць Віцебск. Казакі падпалілі места з усіх бакоў. Згарэлі пад той час замкі, усё места, ратуша, крамы, усе прадмесьці, 4 касьцёлы, 12 цэркваў, а ад Задзьвіньня казакі ўзялі выкуп. З гэтай пары Віцебск моцна падупаў і пачаў ён аджываць толькі ў апошнія дзесяткі гадоў, калі правялі чыгункавыя дарогі.

Цераз Віцебск цяпер праходзяць дзьве чыгункавыя лініі, шоса і на р. Дзьвіне ёсьць вялікая прыстань. Гандаль Віцебску цяпер значна вырас. Ен з'яўляецца складачным мейсцам тавараў, якія раздае на мястэчкі і гарады сумежных паветаў. Найбольш таргуе Віцебск *лесам і лёнам*, якія адпраўляе ў Рыгу і заграніцу, а часткаю і *хлебам*. Апроч таго Віцебск таргуе *гатовай адзежаю* (тандэтнаю) ў досіць значным разьмеры.

Хвабрычная прамысловасьць Віцебску мае значныя разьмеры. На хвабрыках яго працуе каля *2000 чал.* Хвабрыкі Віцебскія найбольш невялікія; з іх трэба адзначыць—картонную хвабрыку, некалькі табачных, досіць вялікую хвабрыку акуляраў.

Апроч таго ёсьць некалькі піваварных бравароў, аляярняў і гарбарняў. З рамёслаў моцна разьвіта кравецтва.

Мала засталося старасьветчыны ў Віцебску. Ад замкаў не засталося ані сьледу; навет Гару Замковую раскапалі. Толькі дзьве прастарыя цэрквы засталіся на ўспамін аб слаўных часах Віцебску: гэта ўспомненая царква *Благавешчаньня* і царква *сьв. Ільлі* перабудаваная ў XVII вяку. Мае Віцебск, апроч таго, пекны сабор будаваны ў XVIII веку.

За тое мяйсцовасьць, у якой знаходзіцца Віцебск і яго ваколіцы робяць чаруючае ўражэньне.

Недалёка ад Віцебску, над Дзьвіною стаіць вельмі стары *Маркаў Манастыр,* перабудаваны толькі ў XVII веку.

З мястэчак Віцебскага павету вызначаюцца **Янавічы** з вялікім кірмашам на коні і **Сураж**, які лічыцца местам, мае каля *4* тыс. люднасьці. і ня гледзячы навет на сваё дагоднае палажэньне над Дзьвіною, пры вусьці р. Касплі і Усьвяту, мае вельмі малое значэньне з боку гандлю і прамысловасьці. Места гэтае досіць старое. Мяйсцовасьць навакола неўраджайная.

*Віцебскі павет,* якога Дзьвіна дзеліць папалам, мае ў паўднёвай частцы грунты добрыя, — супяшчаныя і сугліністыя. Паўночная-ж палавіна толькі на ўзгор'і *(Віцебска—Невельская Града),* якое праходзіць пасярэдзіне павету, мае грунты сугліністыя. На захад ад узгор'я ляжаць на значным абшары бедныя падзолы, а на ўсход, апрача падзолаў, што адтуль цягнуцца аж пад Вяліж, ёсьць яшчэ і значны абшар пяскоў. Паверхня павету наагул узгоркаватая, пакрытая дзе-ня-дзе невялікімі вазёрамі. Найбольшае з іх *воз. Лосьвіда,* ляжыць на поўнач ад Віцебску, ля чыгункавай дарогі.

У павеце сеюць шмат лёну. Гаспадарка тут стаіць някепска. Досіць разьвіта садаўніцтва (каля Віцебску ёсьць значная школка фруктовых дрэўцаў). Каля Віцебску, у *Бабіцкай воласьці,* здабываюць вапну.

У суседнім з Віцебскім Г*арадзецкім павеце* паўднёва-заходні і паўднёва—ўсходні куты заняты беднымі падзоламі. Пасярод іх на паўдні знаходзіцца самае места **Гарадок**, з *6 тыс.* люднасьці; паўночную палавіну павету займаюць суглінкі. Тут над возерам у пекнай мяйсцовасьці стаіць старое мястэчка **Езярышча.** На востраве сярод возера знаходзіцца старасьвецкае гарадзішча. Некаліс быў тут моцны замак.

Пясярэдзіне Гарадзецкага павету йдзець узгор'е, на якім лясоў мала. За тое на сладах яго на ўсходзе і захадзе, пакрытых беднымі грунтамі і багатых азёрамі і рэчкамі, лясоў шмат. З промыслаў у павеце маюць значэньне *рыбалоўства* і *лясныя промыслы.* У гаспадарках павету сеюць шмат *ячменю* і *лёну.*

Далей на поўнач ляжыць *Невельскі павет.* На мяжы яго з Гарадзецкім стаяў даўней, у XII веку, Полацкі горад—**Емянец**. Цяпер там засталося толькі сяло з гэтым імем.

**Невель** ляжыць між вазёраў, на крыжаваньні чыгункавых дарогаў. Люднасьці ў ім каля *14 тыс.* Прамысловае жыцьцё ў ім досіць разьвіта. Бываюць так сама і вялікія кірмашы. Над возерам, на ўзгорку стаяў некалісь Невельскі замак. Ад яго засталіся толькі валы.

На ўсход ад Невеля ляжыць досіць вялікае воз. *Іван.* Грунты навакола яго лёгкія, супяшчаныя.

Рэшта Невельскага пав. мае грунты сугліністыя, а мяйсцамі і цяжкія гліністыя. Паверхня Невельскага пав. моцна няроўная, ўзгоркаватая, а на поўначы мяйсцовасьць мае выгляд гарысты (*Райскія Горы*). На поўначы і ўсходзе Невельскага павету лясы складаюцца найбольш з бярозы і дуба, а часта трапляюцца і чыстыя дубовыя лясы.

У двары *Студзянец* ёсьць *серная крыніца.* У Невельскім павеце вельмі пашырана рыбалоўства ў вазёрах (Невельскія вазёры славяцца рыбным багацьцем); так сама разьвіты і лясныя промыслы, гонка смалы і дзёгцю.

*Себежскі павет*, які ляжыць далей на захад, мае грунты найбольш супяшчаныя. Толькі ўздоўж паўднёвай яго мяжы йдзе пояс суглінкаў. Досіць *рэдкая люднасьць* гэтага павету займаецца апрача гаспадаркі—*ляснымі промысламі.* У павеце сеюць вельмі многа *ячменю* і *лёну.* Мяйсцовасьць у павеце пекная, ўзгоркаватая, пакрытая азёрамі. Тут ляжаць такія значныя вазёры, як *возера Сьвібла, Няшчорда* і *Себежскае.* На высокай паўвыспе сярод апошняга возера стаіць **Себеж**. Невялікі гэта горад (каля *4 тыс.* люднасьці), але досіць гандлёвы. Вядзе гандаль скурамі і лёнам. Зьбіраецца ў ім некалькі кірмашоў у год. Цераз Себеж праходзяць крыжуючыся дзьве зялезна-дарожныя лініі.

*Люцынскі павет* моцна даўгі і дзеліцца на дзьве непадобныя адна да аднэй палавіны. Заходняя-нізінная, лясістая, заселена латышамі; ўсходняя-ж ляжыць на ўзгор'і, мае лясоў мала, а заселена беларусамі. Мы будзем гаварыць толькі аб усходняй палавіне.

Па прыродзе сваёй і па гаспадарцы яна вельмі падобна да Себежскага павету.

Над возерам *Лужаю* стаіць паветавае места **Люцын**, з *6 тыс.* люднасьці. Пры возеры на высокай гары высяцца руіны *Люцынскага замку*, якога залажылі лівонскія рыцары.

На паўдня ад Люцына, каля *в. Адэлінова* знаходзяцца *зялезістыя крыніцы.* Гэта дазваляе спадзявацца, што на нейкай глыбіне пад зямлёю ляжыць зялезная руда.

Урэшце на поўнач ад Люцына, на *Паўночна-Заходняй* зял. дар. ляжыць станцыя **Корсаўка**. Тут выходзяцца тры народы:

*беларусы, латышы і маскоўцы.* Ад Корсаўкі канчаецца мяжа беларуска-маскоўская, а пачынаецца беларуска-латышская.

На поўнач ад апісаных паветаў беларусы жывуць яшчэ ў *Апочацкім* і *Вяліка-Луцкім* паветах, у паўднёвай іх часьці.

На захадзе Апочацкага пав., каля *р. Сіняй* здабываюць вапну, а каля *м. Апочкі*—зялезную *охру* (фарба). Далей на ўсход, аж пад самыя Вялікія Лукі, цягнуцца высокія *Вязаўскія Горы*, якія тут становяць вададзел паміж *р. Вялікаю і Ловацьцю.* У гаспадарках сеюць шмат лёну, травы (канюшыны) і ячменю.

Прырубежны беларускі горад **Вялікія Лукі** ляжыць над *р. Ловацьцю* і на яе астравох. Успамінаецца аб гэтым горадзе яшчэ ў XII веку; тады ён лежачы на вялікім шляху з Варагаў у Грэкі, быў залежным ад Ноўгарада. Пасьля быў ён даўгі час пад Літвою.Цяпер у В. Луках каля *8 тыс.* люднасьці. З промыслаў моцна разьвіта гарбарства.

Беларуская частка Вяліка-Луцкага павету (паўднёвая) моцна лясістая. Люднасьць мае зарабатак ад сплава лесу па р. Ловаці і наагул ад лясных промыслаў.



**Люцынскі Замак у XVIII в.**

## XVI. Смаленшчына.

У паўночна-ўсходнім куце Беларусі, на вярхоўях Дняпра і Дзьвіны ды іх прытокаў (Мяжа, Касплая і інш.), разьлягласяабшырная Смаленская Краіна. Да яе мы адносім паветы: **Смаленскі, Ельнінскі, Дарагабужскі, Духаўшчынскі, Бельскі, і Парэцкі** Смаленскай губэрні, **Вяліжскі** павет Віцебскай губ. і беларускія часткі сумежных паветаў Пскоўскай губ. (**Вялікалуцкага, Тарапецкага**), Цьверскай губ. (**Асташкаўскага, Ржэўскага**) і ўрэшце Калужскай губ. (**Жыздрынскага і Масальскага пав.**).

Паміж асобнымі паветамі гэтай краіны, асабліва з боку прыроднага, можна знайсьці шмат рожніцы. Нічога дзіўнага ў тым няма, бо краіна цягнецца больш, як на 200 вёрст з усходу на захад і стольki-ж—з поўначы на паўдня. Але з боку эканамічнага і гістарычнага краіна мае шмат супольнага. Гэта тлумачыцца тым, што ўвесь гэты абшар заўсёды быў зьвязаны з Смаленскам, зьвязаны з ім і дагэтуль. У апісаньні краіны мы будзем рэзка падкрасьляць рожніцы паміж яе часткамі.

Ужо па будове паверхні трэба разьдзяліць Смаленшчыну на дзьве часьці. Усход краіны,—паветы Бельскі, Дарагабужскі і Ельнінскі,—ляжыць на ўзвышшы *Окаўскага лесу*, якое як ужо гаворана, адзначаецца там, што мае паверхню раўнінную, нягледзячы на значную сваю высачыню, і пакрыта глаўным чынам дроб *лёссавіднымі суглінкамі*, ў якіх няма саўсім каменяў, навет ных. Няма так сама на Окаўскім лесе і вазёраў. А толькі ў паніжаных майсцовасьцях ляжаць там часамі вялікія імшары—тарфяныя балоты.

Саўсім іншы абраз уяўляе захад Смаленшчыны,—*марэнны край*. Далёка менш падняты над морам, ён аднак мяйсцамі робіць ўражэньне горнага краю (Смаленскае ўзгор'е). Наагул паверхня яго няроўная. Пакрыты ён, глаўным чынам, супяскамі, хаця шмат ёсьць суглінкаў, падзолаў і пяшчаных грунтоў. Але ва ўсіх гэтых грунтох ёсьць каменьні. Часамі каменьня бывае гэтак шмат, што яно перашкаджае вырабу зямлі. Сярод узгоркаў ляжыць тут шмат вазёраў, як і ў суседняй Віцебшчыне.

Марэнны край абымае паветы Вяліжскі, Парэцкі, Смаленскі, большую частку Духаўшчынскага і невялікую (заходнюю) частку Бельскага пав.

Найвышэйшыя пункты ў марэнным краю знаходзяцца на мяжы Духаўшчынскага і Парэцкага пав., у вярхоўях *р. Хмосьці*. Найвышэйшая частка Окаўскага лесу (каля *150 саж.*) знаходзіцца каля м. Ельні і называецца *Ельнінскім Вузлом* (бо адгэтуль ува ўсе бакі разьбягаюцца рэкі—Сож, Дзясна, Угра і інш.)

Цераз Смаленшчыну наскрозь праходзіць *вялікі Эўрапейскі Вададзел*, які тут дзеліць басэйны Дзьвіны і Дняпра. А па ўсходняй мяжы краіны йдзець вададзел Касьпійска - Чарнаморскі і Касьпійска - Балтыцкі. З Окаўскага лесу пачынаецца шмат прытокаў р. Волгі і р. Окі (р. Угра, Малады Туд, Жукопа). Та-

кое палажэньне надаець Смаленшчыне асаблівага значэньня: яна з'яўляецца якбы *вадзяным вузлом* усяе *Ўсходняе Эўропы.*

Разам з тым вададзелы—гэта натуральныя граніцы. Асаблівай увагі заслугуе тое, што *ўсходняя мяжа Беларусі* йдзець, як раз блізка *па Волжскаму вададзелу.*

*Усходняя мяжа* Беларусі (Окаўскі лес) з'яўляецца і важнай *кліматычнай мяжой.* За ёю клімат мае ўжо ўсе адзнакі кантынентальнага клімату, тым часам як уплывы мора сягаюць на ўсю Беларусь да яе ўсходніх рубяжоў, а значыць, і на Смаленшчыну.

Смаленшчына, найльбольш высунутая на ўсход краіна Беларусі. мае усё-ж *клімат моцна вільготны*: у ёй *ападаў* у год бывае больш за *600 міл.* А на ўсход ад Окаўскага лесу клімат ужо значна сушэйшы—толькі з 500 міл. ападаў. Вільготнасьць клімату Смаленшчыны можна між іншым разтлумачыць яе вялікай лясістасьцю і высокім палажэньнем над роўнем мора. Дзякуючы гэтым прычынам і вялікія рэкі, што бяруць свой пачатак у Смаленшчыне адбараняюцца ад памяленьня.

Аднак клімат Смаленшчыны—*найхаладнейшы ў Беларусі.* Сярэдняя гадавая тэмпература + *4.5°*, пры сярэдняй тэмпературы студзеня — *8,5°*. Зімы тут бываюць даўгія, многасьнежныя. Сьнег ляжыць *5 месяцаў*—ад палавіны лістападу да палавіны красавіка.

Дзякуючы вільготнаму клімату, ў Смаленшчыне *грунты* моцна выпаласканыя. На вялікіх абшарах тут залягаюць бедныя нішчымныя падзолы. Аднак пасма падзолаў, шырынёю вёрст 30, цягнецца ад м. Гарадка (з-пад Віцебску) аж да вярхоўяў Дзьвіны. Другая, — шырынёю вёрст 50, цягнеца ам м. Вяліжа да паўночнай мяжы Бельскага павету.

Вільготнасьць клімату робіць нялёгкай гаспадарку і на багатых суглінках. Дзеля гэтага ў Смаленшчыне мы бачам такое з'явішча, якое ў рэшце Беларусі спатыкаецца ня часта: на аграмадных абшарах *суглінкаў* растуць лясы,—ды навет не лясы. а толькі бярозавыя гаі.

Наагул уся Смаленшчына моцна *лясістая.* Але тры паўночныя паветы,—*Вяліжскі, Парэцкі і Бельскі*, з гэтага боку асабліва выдзяляюцца. Лясоў тут больш *45%* агульнага абшару дзеля таго гэтую старану трэба лічыць самаю лясістаю ў Беларусі. Некаторыя географы навет называюць гэты край *Бельскім Палесьсем.* Нічога затым дзіўнага, што паўночныя паветы Смаленшчыны заселены вельмі рэдка,—каля *30 чал.* на квадр. вярсьце. Рэшта краіны так сама нягуста залюднёна і так сама мае шмат лясоў, апрача аднаго Смаленскага павету, ў якім, дзякуючы блізкасьці вялікага места і чыгунак, лясы моцна парасьцярэбліваны, а люднасьць жыве гусьцей.

На цяжэйшых грунтох у лясох Смаленшчыны найчасьцей спатыкаецца бяроза. Бярозавымі лясамі пакрыты ўвесь усход краіны—Окаўскі Лес. Побач з бярозаю ў лясох Смаленшчыны,

асабліва на захадзе, шмат расьце елкі, а так сама асіны; на пяшчаных грунтох—як і ўсюдых растуць хваёвыя бары.

За апошнія дзесяткі гадоў лясы Смаленшчыны моцна вынішчуюцца. Шмат лесу йдзе ў Маскву (з усходняй часткі краіны). Заходняя частка свой лес сплаўляе ўніз па Дняпру і Дзьвіне.

Лясы даюць шмат *зарабаткаў* люднасьці Смаленшчыны. Апроч рубкі, вывазу і сплаву леса, тут разьвіты такія хатнія рамёслы, як выраб саней, павозак, колаў, кашоў, бёрдаў, як бандарка і гонка смалы і дзёгцю. Наагул трэба адзначыць, што ў Смаленшчыне промыслы моцна разьвітыя. Нідзе навакола няма гэтулькі люднасьці, маючай прамысловыя заняткі, як у Смаленшчыне. Усе 7 паветаў рэзка выдзяляюцца з гэтага боку ад іншых. Трэба заўважыць, што і ў суседніх паветах Маскоўшчыны працэнт прамысловай люднасьці *меншы,* чым у апісуемай краіне.

*З мінэральных багацьцяў* Смаленшчыны разрабляюцца найбольш ганчарныя гліны (у Бельскім пав., каля Дзьвіны і Дняпра,) што спрыяе разьвіцьцю ганчарства. З гліны, што здабываецца пад Смаленскам у *слаб. Рачаўцы,* робяць добрыя кахлі. Добрыя гліны знаходзяць і ў Дарагабужскім пав. У некалькі мяйсцох здабываюць вапну. У балотах Бельскага і Духаўшчынскага пав. ёсьць шмат балотнай зялезнай руды.

Хвабрычная прамысловасьць у Смаленшчыне слаба разьвіта. Навет такі значны горад, як Смаленск, з гэтага боку мала высуваецца наперад. У іншых жа паветах ёсьць па некалькі пільняў ды бравароў. За тое ў с. *Ярцаў Перавоз,*—Духаўшчынскага пав., знаходзіцца аграмадная,—найбольшая ў Беларусі, хвабрыка, дзе прадуць бавоўну і ткуць паркалі, кумач і інш. На хвабрыцы гэтай працуе *больш 4 тыс. работнікаў*.

*Гаспадарка* і ў Смаленшчыне ёсьць глаўным заняткам люднасьці. Тэхніка гаспадарская ў сялян стаіць някепска; — гэта трэба тлумачыць мусіць тым, што тут вось ужо каля 60 гадоў працуе земства. Вырабляюць зямлю сяляне *плугамі,* сеюць шмат *травы* (канюшыны, цімафейкі), а мяйсцамі навет ужываюць *штучных гнаёў* (парашкоў). Дзеля таго ўраджайнасьць тут добрая,—лепшая чым у суседняй Віцебшчыне і Магілеўшчыне.

На полі сеюць у Смаленшчыне вельмі шмат *лёну. Па засеву лёну* Смаленшчына займае *першае мейсца* ў Беларусі. Тым часам, як у рэшце Беларусі, (апроч Віцебшчыны) лён сеюць найбольш для свайго ўжытку, тут лён ідзе на продаж. Ен даець гаспадару Смаленскаму грашавую гатоўку, так патрэбную на зварот у гаспадарцы. Ад суседняй Віцебшчыны Смаленшчына адзначаецца па-першае тым, што тут ячменю сеюць мала, а на першы плян выходзіць *авёс* (толькі ў Смаленскім павеце сеюць досіць многа ячменю, але і там аўса ўсёж больш). Другая адзнака ад Віцебшчыны, гэта тое, што ў Смаленшчыне шмат садзяць *бульбы.* Урэшце ў паўднёвых паветах, асабліва-ж у Ельнінскім і Дарагабужскім сеяць шмат *канапель.*



**У полі.** Аратыя ў Смаленшчыне.

*Агародніцтва* і *садаўніцтва* ў краіне мала разьвіта. У сялян садоў блізка што саўсім няма.

Добра стаіць у Смаленшчыне *малочная гаспадарка*. Істнуе шмат маслабойных заводаў і сыраварняў.

Хлеба свайго Смаленшчыне звычайна хватае. Нягледзячы на гэта, значная частка люднасьці адыходзіць *на старану, на зарабаткі*:—найбольш у вялікія расейскія гарады, але так сама на будову чыгунак, шосаў, на хвабрыкі. Так сама шмат высяляецца ў Сыбір. І, што ўсяго дзіўней, вельмі многа ў Сыбір выяжджаюць як раз з рэдканаселенага Бельскага павету, ў якім зямлі сваёй здавалася-б хапае даволі.

У эканамічным жыцьці заходніх паветаў Смаленшчыны важную ролю йграюць *вадзяныя шляхі*, якіх тут ёсьць паддастаткам. У паўднёвай частцы краіны праходзіць шмат чыгунак.

Сярэдзіна-ж і паўночны ўсход краіны ня маюць добрых шляхоў. *Гандаль* у Смаленшчыне стаіць горай чым у іншых краінах Беларусі. Адбываецца ён найбольш на кірмашах, якія зьбіраюцца ў гарадох і большых сёлах—па некалькі раз у год. Мястэчак, якія вядуць сталы абмен і разьдзел тавараў, у Смаленшчыне (апрача некалькіх мястэчак Вяліжскага павету) няма. Гэта вельмі перашкаджае эканамічнаму разьвіцьцю краіны. Адсутнасьць мястэчак, гэтых маленькіх культурных цэнтраў, якімі густа засеена ўся Беларусь, шкодзіць і культурнаму стану краіны.

Смаленшчына на пачатках беларускай *гісторыі* была заселена *крывічамі* і стварыла моцнае *незалежнае княжства*. Калі-ж Вялікія Князі Літоўскія пачалі зьбіраць пад сваёй ўладай Беларусь, Смаленшчына так сама апынулася пад уладаю Літвы. У часе вялікай барацьбы Літвы - Беларусі з Масквою, Смаленшчына заўсёды была арэнаю гэтай барацьбы, мейсцам найгарачэйшых бітваў. Смаленск, як мы ўжо казалі, замыкаў Смаленскую Браму.

Затым-жа мэтаю маскоўцаў заўсёды было заўладаць Смаленскам. Гэта-ж самая прычына прымушала нашых продкаў за ўсякую цану бараніць Смаленску і Смаленшчыны. Праз цэлы XVI век была Смаленшчына пад уладаю Масквы. Маскоўцы, хочачы мацней прывязаць край да сябе, высылалі з Смаленшчыны шмат беларусоў у Маскоўшчыну, а на іх мейсца насылалі ў край маскоўцаў. Аднак на пачатку XVII в. Смаленшчына йзноў на 50 гадоў аб'ядналася з рэштай Беларусі. За гэты час туды перабралася шмат дробнай і буйнай беларускай шляхты з Захаду, якая асела па ўсёй Смаленшчыне і засталася там да апошніх часоў, хаця цяпер ужо абмаскавілася. У 1667 гаду Смаленшчына йзноў адыйшла да Расеі.

Дзякуючы даўгому супольнаму жыцьцю з Маскоўшчынай, у Смаленшчыне пазаводзілася шмат *парадкаў маскоўскіх*, як добрых (напр. земствы), так і благіх. Мова Смаленскіх беларусоў значна абмаскавілася, а у ўсходніх паветах ёсьць мяйсцамі маскоўская люднасьць. Тут, як гэта заўсёды бывае на паграніччах, беларусы жывуць перамяшаўшыся з маскоўцамі, але ўсюдых значная большасьць беларусоў. За тое троху беларусоў, перамяшаўшыся з маскоўцамі, жыве і на ўсход ад беларускай мяжы—у Вяземскім павеце, пераховуючы сваю мову і звычаі.

У паўночнай Смаленшчыне беларусы ўжываюць „*цокаючай*“ гаворкі (гаварацъ як мазуры) — цяго, цалавек і г. д.)

Даўгая барацьба, якая йшла на землях Смаленшчыны яшчэ і з другога боку адбілася на жыцьці гэтай краіны. Ею трэба тлумачыць *бязьлюднасьць усходніх паветаў* краіны, на якіх барацьба заўсёды адбівалася наймацней. На Окаўскім лесе шмат дзе сярод лясной нетры можна знайсьці калодзіж, руіны даўнейшых будынкаў і г. д. Даўней стаялі тут вёскі, народ жыў гусьцей. І мяйсцовае апавяданьне пацьвярджае гэта, кажа, што ў часе вайны людзі ўцякалі ў больш бяспечныя мейсцы, сяліліся там, а іхныя сялібы зарасталі лесам. Такія мейсцы называюцца *пустошамі*.

### Важнейшыя мяйсцовасьці.

**Смаленск** стаіць на высокім, зрэзаным ярамі, левым беразе *Дняпра*. Калі ён быў заложаны, нямавецама; залажылі яго, барджэй усяго, палачане. Ад самага пачатку сваёй гісторыі быў Смаленск бойкім гандлёвым пунктам. Як раз у ім крыжаваліся дзьве важнейшых дарогі ўсходу Эўропы: — адна з Варагаў да Візантыі і другая з усходу, — (з краю баўгараў і хазараў) з-за Волгі — да Нямеччыны. Смаленск тады таргаваў з Рыгаю, востр. Готляндам і г. д., быў багатым і кульлурным местам, меў добрыя школы і такіх высокаасьвечаных людзей, як архірэй Клімэнт Смаляціч, альбо сьв. Аўрамі Смаленскі.

Наўгародзкія і Кіеўскія князі ўвесь час прэтэндавалі на Смаленск: Хаця ўрэшце ім і ўдалося падчыніць яго сабе, аднак не вялікае было іхнае значэньне ў Смаленску. Смаленск упраўляўся сваім вечам, а князём мусіць навет небяспечна жыць было ў месьце, бо мусілі будавацца на отшыбе, за местам, над р. Сьмядыньню.

Умеў пад той час Смаленск і бараніцца ад ворагаў. Захавалася ў ім напалову лягендарнае апавяданьне аб Сьв. Мяркурыю, які са жменяю смалян кінуўся на аграмадныя татарскія горды, што падыйшлі былі к Смаленску, разьбіў іх, і адагнаў ад Смаленску, але заплаціў за гэта сваім жыцьцём.

Калі большая частка Беларусі адыйшла пад Літву, Смаленск зрабіўся быў цэнтрам барацьбы за незалежнасьць Беларусі. Смаленск літоўскім князём прыйшлося здабываць сілаю. Аднак, і пад Літвою будучы, трымаўся Смаленск вельмі незалежна і перахаваў найбольш вольнасьцей за ўсе іншыя гарады Беларускія.

Пад Літвою жылося Смаленску вельмі добра. Ніколі недаходзіў такога росквіту яго гандаль, як пад Літвою, ніколі гэтак не багапела смаленская людн‌асьць.

Але ня доўга цягнуўся гэты час дабрабыту. Узмацнеўшая Масква пачала нападаць на землі Смаленскія і заяўляць прэтэнсыі да самога Смаленску. Каб адбараніць места быў тады, —

у XV веку, пабудаваны земляны замак. Моцны быў гэты замак, але ня вытрымаў напору маскоўскага: у 1514 гаду ўзяў Смаленск Васіль III. Быў Смаленск пад Масквою аж да 1611 году. Маскоўцы ў часы Барыса Гадунова пабудавалі вакол места аграмадную сьцяну,—шырынёю ў 1 сажань, вышынёю ў 2 сажані, а даўжыні 7 вёрст. Сьцяна гэтая перахавалася да нашых часоў.

Трудна было адабраць Смаленск ад Масквы. Войскі літоўска-польскія двацпаць месяцаў стаялі пад ім, пакуль узялі.

Ізноў аджыў Смаленск, злучаны з рэштаю Беларусі. За 40 якіх гадоў яго было не пазнаць. Ен моцна вырас, пабагацеў, а глаўнае, зрабіўся чыста эўрапейскім местам. У ім было ўведзена магдэбургскае права, шмат наехала і пасялілася люднасьці з заходніх краінаў Беларусі. Побач с праваслаўнымі цэрквамі пазакладаліся і каталіцкія касьцёлы ды манастыры. Але ў 1654 гаду Смаленск ізноў адабралі Маскоўцы і зараз-жа скасавалі ўсе парадкі беларускія, а завялі Маскоўскія. Шмат беларускай людн асьці вывязьлі з Смаленску, а на яе мейсца пачалі сяліцца маскоўцы.

У 1812 гаду Смаленск моцна пацярпеў ад французаў

Смаленск цяпер адзін з найпяк чейшых і найцікавейшых гарадоў Беларусі. Места гэта перахавала гэтакі памятак слаўнаў беларускай мінуўшчыны, як можа ніякае другое. Праўда, большаю часьцю, яны ляжаць у руінах. Але гэтыя руіны павінны быць бязьмерна мілымі і дарагімі кожнаму беларусу. З пад Маскоўскага налёту, асеўшага на Смаленску, яны найвыразьней гаворапь аб тым, што тут беларуская зямля была, ёсьць і будзе.

З уцалеўшых старасьвецкіх будынкаў трэба ўспомніць перад усім *Сьвірскую царкву*, пабудаваную ў XII веку. Знаходзіцца яна на прадмесьці, дзе некаліс быў княжы замак; перахавалася гэтая царква да нашых часоў уса ўсёй сваёй пекнаце. Есьць у ёй надзвычайна цікавы абраз Прачыстай беларускага рысунку. На яго адваротнай старане знаходзіцца беларускі надпіс, якога дагэтуль яшчэ ніхто ня змог прачытаць. За Дняпром стаіць яшчэ старэйшая *Петра-Паўлаўская царква*, якую, праўда, пазьней перараблялі.

У старай цэркаўцы *Спаса* знаходзіцца вельмі стары цудоўны абраз Прачыстай — Уміленьня, а ў надзвычайна пекным *саборы*, які высіцца на гарэ над горадам і Дняпром, знаходзіцца слаўны абраз Прачыстай Одігітрыя.

Сьцены Смаленскія надаюць гораду шмат хараства; на іх перахавалася яшчэ шмат вежаў. З вежы, якая называецца „*Весялухаю*“, адкрываецпа цудоўны від на места і яго ваколіцы.

*З гандлёвага і прамысловага боку* Смаленск не вызначаецца. Абслужуе ён толькі бліжэйшыя паветы сваёй краіны. Хвабрыкі яго невялікія—некалькі аляярняў, табачаная хвабрыка, гарбарня, бровар. Моцна аджыўляюць яго чыгункі, якія з Смаленску разыходзяцца ў 5-х кірунках. На Дняпры ёсьць значная пристань.

Праз сам Смаленск і праз іншыя станцыі ў яго павеце, вывозіцца шмат лясных матар'ялаў, дроў, а так сама і хлебных грузоў. Гэта апошняе ўжо паказуе, што гаспадарка ў павеце стаіць ня кепска. Грунты павету найбольш—суглінкі і народ жыве досіць густа. Сеяць шмат аўса, ячменю, бульбы і лёну. На захадзе павету знаходзяцца вялікія маслабойні і сыраварныя заводы ў **Катыні** і **Ваплярове**. Промыслы ў павеце слаба разьвіты, на старану адыходзяць мала, займаюцца найбольш гаспадаркаю. Па нацыянальнасьці—больш 90% беларусы.

Мяйсцовасьць у павеце мае моцна ўзгоркаваты выгляд. Вышыня *Смаленскага ўзгор'я* даходзіць тут *140 сажняў*. У павеце ёсьць шмат мяйсцовасьцяў з памяткамі мінуўшчыны, руінамі, гарадзішчамі і г. д.

**Парэчча** — невялікі гарадок, з *6 тыс.* люднасьці, ляжыць на судаходнай *р. Касплі*. Гэта адзін з нямногіх надрэчных гарадоў беларускіх, які перахаваў сваё старадаўняе гандлёвае значэньне. Як і ў пракаветныя часы, цягнуцца да яго з усяе блізка Смаленшчыны абозы з пянькою, лёнам, хлебам; Парэцкія купцы раз'яжджаюць па краю, скупляючы прадукты гаспадаркі. Усё гэта звозіцца ў Парэчча, а там стаяць старыя сьвірны, дзе гэта ўсё складаецца, пакуль можна будзе яго ўпакаваць на баркі і адправіць *да Рыгі* ды ў *заморскія краі*.

Таргуе Парэчча *пянькаю, хлебам, салам, скурамі і лёнам*.

Рака *Каспля* выцякае з досіць значнага *возера Касплінскага*, якое ляжыць на паўдні павету, недалёка ад Дняпра. Лічаць, што як раз тут знаходзіўся *галоўны волак* на вадзяным шляху з Варагаў да Грэкаў, бо апошні мусіў ісьці *з Дняпра на Касплінскае возера, далей па р. Каспілі, перасякаў Дзьвіну і падымаўся ўверх па р. Усьвяту* да новага волака, перайшоўшы цераз які, трапляў *у р. Ловаць*.

Сярэдзіна і поўдзень *Парэцкага пав.* пакрытыя найбольш лёгкімі супяшчанымі грунтамі, з'яўляюцца лясістым краем; гаспадарка стаіць тут аднак ня кепска. З ярыны сеюць найбольш аўса, лёну і бульбы. У павеце шмат сыраварняў. З промыслаў тут разьвіты лясныя: па рубцы і сплаву леса і асабліва рыбалоўства ў р. Каспілі і яе прытоках.

Калі паўднёвая частка павету лясістая, дык паўночная з'яўляецца аднэй *суцэльнай пушчай*, якую перарываюць толькі дзе-ня-дзе азёры (з іх найбольшае воз. *Шчучае*) і балотныя імшары, як напрыклад вялізны *Жакоўскі Мох*, што займае каля *150 кв. вёрст* абшару. Усю гэтую частку павету пакрываюць бедныя падзолы. Людпасьць тут рэдкая, займаецца апроч гаспадаркі ляснымі промысламі, рыбалоўствам і г. д. Гэтую частку павету абвадняе другі вялікі прыток Дзьвіны *Мяжа*. Над ёю сярод безканечных пушчаў і балотаў, стаіць старэнькі манастыр—*Ордынская Пустынь*. Безканечныя пушчы цягнуцца адгэтуль і на ўсход—у Бельскім павеце і на захад—у Валіжскім пав.

Усход і поўнач *Вяліжскага пав.*, а так сама і сумежная беларуская частка *Тарапецкага*, так сама з'яўляюцца блізка адбеларускаю лесам. Так сама і тут найбольшаю частку паверхні займаюць падзолы і толькі ўздоўж левага бегагу Дзьвіны ляжаць пяшчаныя і супяшчаныя грунты. У гэтакай глухой мяйсцовасьці, на значным узгорку, над *Дзьвіною*, ляжыць досіць значны горад **Вяліж**, з *17 тыс.* людвасьці. Горад гэта стары, а даўней, як кажуць, быў вельмі вялікі (затым і *Вяліжам* называецца) і багаты. Так сама, як і Парэчча, аддалены ад зялезнае дарогі, вядзе ён, як і вёў спрадвеку жывы гандаль па рацэ з *Рыгаю*. Сплаўляе ён туды па Дзьвіне найбольш лес і лён, а навет і хлеб. Шмат людвасьці ў ім і наагул у павеце займаецца сплавам і наагул лясными промысламі. Вяліжане славяцца і як добрыя цесьлі: па Дзьвіне шмат ходзіць, імі будаваных, барак.

Наагул у Вяліжскім павеце промыслы моцна разьвіты, чым ён рэзка выдзяляецца з усёй Віцебскай губэрні, да якой афіцыяльна адносіцца. На поўнач Вяліжскага пав., каля *в. Панькава* ёсьць сернiстая крыніца.

На захадзе Вяліжскага пав. лясы радзеюць, грунты ляжаць багацейшыя, — найбольш суглінкі. Тут як раз цячэ р. *Усьвят*, праз каторую, як мы ўжо казалі, ішоў даўней вялікі вадзяны шлях. Выплывае гэтая рака з *возера Усьвят*, і тут над ім, недалёка ад пачатку *р. Ловаці*, стаіць вельмі старое мястэчка **Усьвят**, адзін з старэйшых полацкіх гарадоў. Цяпер гэта досіць бойкае гандлёвае і прамысловае мястэчка, з *4 тыс.* людвасьці. У ім моцна разьвіта гарбарства — ёсьць 8 гарбарняў. Гандлюе Усьвят найбольш *з Рыгаю*, сплаўляючы туды *скуры і хлеб*.

Гаспадарка Вяліжскага павету вызначаецца вялікімі засевамі аўса, лёну і бульбы.

У паўднёвай, беларускай частцы сумежнага *Тарапецкага пав.*, сярод вялікіх, мокрых лясных абшараў, ляжаць вялікія вазёры—*воз. Дзьвіньне*, (50 кв. вёр.) *воз. Жыжыца* і шмат меншых. На ўсход ад гэтых вазёраў мяйсцовасьць вышэе, робіцца ўзгорковатаю (тут пачынаюцца г. зв. „*Вераб'ёвыя горы*"), гусьцей залюднёнаю. Па ўсходняй і паўднёвай мяжы павету цячэ *Дзьвіна*. Берагі яе тут скалістыя (каля *в. Веражуня* ёсьць скала вышынёю да 60 сажняў), пакрытыя лесам. Прырода і гаспадарка тут маюць шмат супольнага з прыродай і гаспадаркаю Вяліжскага пав. Моцна разьвіты лясныя промыслы.

*Духаўшчынскі пав.* па ўстройству сваёй паверхні з'яўляецца пераходным. Тым часам, як яго заходняя частка ёсьць марэнным краем, а мяўсцамі мае навет гарысты выгляд, з грунтамі суглiністымі і супяшчанымі, моцна камястымі, ўсходняя ўжо ляжыць на Окаўскім Лесе. Тут ляжаць *лёссавідныя суглінкі*, мяйсцовасьць высокая і роўная. Паўночны-ж куток павету, уціснуты паміж Парэцкім і Бельскім паветамі, нічым ад іх не адзначаецца:—тыя-ж лясы, балоты і вазёры.

Паветавы горад **Духаўшчына** ляжыць далёка ад чыгункі, мае каля 3 тыс. люднасьці і вядзе дробны гандаль. Далёка цікавейшым за яго з'яўляецца *с. Ярцаў-Перавоз,* дзе знаходзіцца ўспамінаная ўжо, аграмадная прадзільная і ткацкая хвабрыка бр. Хлудовых, з 4 тыс. работнікаў. Пры хвабрыцы вырас цэлы гарадок, досіць добра ўстроены. Там-жа праходзіць Маскоўска-Берасьцейская чыгунка.

Апрача гэтай хвабрыкі ў павеце прамысловасьць няразьвіта. Есьць некалькі пільняў, бравароў, адна гарбарня, паравы млын. Ярцаўская хвабрыка стаіць саўсім адзінока.

Людпасьць у павеце жыве гусьцей, чым у суседніх, апрача Смаленскага. З промыслаў разьвіта гарбарства, выраб кашоў, бёрдаў. Недалёка ад Духаўшчыны, пры **в. Зімніцы,** у пекнай гарыстай мясцовасьці, знаходзіцца серна-зялезная *крыніца*.

З трох паветаў, што ляжаць на Окаўскім лесе, найгусьцей залюднёны *Ельнінскі.* Ня глядзячы на сваё вельмі паднятае палажэньне *(Ельнінскі вузел да 150 саж.)*, мае ён паверхню роўную. Пакрыты ён найбольш лёссавіднымі суглінкамі, а ў далінах большых рэкаў ляжаць супяскі. У няглыбокіх западзінах ляжаць тут на версе ўзгор'я досіць значныя тарфяныя імшары, із якіх пачынаюцца *р. Дзясна, р. Угра* і інш.

У гаспадарках Ельнінскага пав. шмат сеюць *бульбы і лёну.* Але побач з лёнам тут ужо сеюць шмат і *канапель* на паўдня ад Ельнінскага пав. ляжаць чыста канапляныя раіоны—Радань Лесастэп. З промыслаў тут разьвіты лясныя і зьвязаныя з імі: выраб павозак, саней, бандарка. У некаторых вёсках разьвіта гарбарства. Урэшце шмат народу адыходзіць на зарабаткі на старану:—глаўным чынам, працуюць пры будове чыгунак. Прамысловасьць хвабрычная разьвіта слаба. Як і ўва ўсёй Смаленшчыне,—стаяць тут пільні, крыху бравароў, млыны.

**Ельня**—маленькі (мае 2 тыс. людпасьці) гарадок, заўсёды быў Смаленскім прыгарадам і дзяліў яго долю. Істнаваў ён яшчэ ў XII веку. Эканамічнае значэньне яго малое.

На паўдня ад Ельні, над р. *Дзясною,* сярод лясоў ляжыць **сяло Навaспаскае,** дзе радзіўся і жыў гэніяльны кампазытар Міхайла Глінка. Усю сваю моладасьць заслухаваўся ён тут на Бацькаўкічыне ельнінскімі беларускімі песьнямі, а пасьля іхныя матывы ўвёў у свае творы. Зьмест гэтых твораў, праўда, прасякнуты маскоўскім патрыятызмам. Але ў музычных творах глаўнае—музыка і яна там часта беларуская.

Сумежны з Ельнінскім **Дарагабужскі павет,** крыху больш за яго лясісты і радзей заселены. Вехні *Дняпро* рэжа павет на дзьве часьці. Шырокая даліна Дняпра пакрыта тут супяскамі, пяскамі і наноснымі грунтамі. Рэшта-ж павету ляжыць на *лёссавідных суглінках.* Як раз на гэтых грунтох на поўначы павету знаходзіцца *Бацішчаўская сельска-гаспадарская пробная станцыя* (каля **в. Бацішчава**), найбольшая і найслаўнейшая з усіх такіх

установаў у Беларусі. Залажыў яе гаспадар Бацішчаўскага двара, граф. Энгельгардт, у 70-х гадох мінулага веку. На жаль станцыя гэта, лежачы на самай блізка мяжы Беларусі, ня можа абслужаваць яе ўсяе і мае значэньне толькі для Смаленшчыны і то глаўным чынам, усходняй.

У гаспадарках павету найбольш сеюць *аўса, лёну* і *бульбы* і апроч таго шмат сеюць *канапель*. У павеце разьвіта сыраварэньне. З промыслаў разьвіта найбольш бандарка, гарбарства, выраб саней, кашоў, бёрдаў, гонка дзёгцю і г. д. Шмат народу адыходзіць на зарабаткі на старану (каменяры, цесьлі і інш.). Хвабрычная прамысловасьць слаба разьвіта.

Над Дняпром стаіць стары дыпекны **горад Дарагабуж**. Праз увесь час сваей гісторыі быў гэты, найбліжэйшы да Масквы, беларускі горад, як бы *перадавым фортам Смаленску*, а значыць і ўсёй Беларусі. Гэтую сваю ролю спаўняў ён праз увесь час верна і шчыра, аж пакуль такі сіла не ўзяла верх. Аднак, невясёлыя для беларуса ўспаміны вяжуцца з Дарагабужам: — два разы тут маскоўцы моцна разьбілі беларуска — літоўскае войска. Як успамін мінуўшчыны засталіся ў Дарагабужы валы замку

Люднасьці цяпер у Дарагабужы каля 7 *тыс.* Гандлюе места найбольш пянькаю і хлебам.

У Дарагабужскім пав., каля *в. Быкавай* ёсьць серністая крыніца.

Аб прыродзе *Бельскага пав.* ня раз ужо намі гаворана. Мусім цяпер яшчэ адзначыць, што ў той час, як уся паўднёвая, ўсходняя і назет паўночныя часткі павету ляжаць на Окаўскім лесе, на лёссавідных суглінках, заходняя частка павету — сумежная з Парэцкім пав., пакрыта найбольш падзоламі і супяскамі і ёсьць як-бы пераходам да Марэннага краю. Тут спатыкаюцца ўжо вазёры і асабліва шмат балотаў—імшараў; з апошніх найбольшае *Сьвіцкі мох.*

Бельскі павет увесь пакрыты лясамі і балотамі. Гэта *найбольш лясісты павет у Беларусі.* Лясы тут найбольш бярозавыя з домешкай асіны, елкі і г. д. Люднасьць жыве рэдка. Надзвычайна важнае значэньне для яе маюць лясныя промыслы: — рубка і сплаў лесу, якія тут моцна разьвіты. Хвабрычная прамысловасьць разьвіта слаба. Апроч некалькіх пільняў і млыноў ёсьць досіць значная і добра пастаўленая шкляная гута ў *с Навасельску* (на поўначы пав.). Адыход на старану, на зарабаткі, разьвіты мала. За тое шмат перасяляецца адгэтул у Сыбір, на Амур і ў Закаўказье.

Зялезная дарога йдзець толькі праз паўночны край гэтага вялікага па абшару павету. Глаўным-жа шляхам комунікацыі з'яўляецца значная судаходная *р. Мяжа* з сваім, гак сама значным, прытокам *р. Вобшаю*. Над гэтай апошняй ракою стаіць **горад Белы**. Пабудован ён мусіць каля XIV веку і належаў да Смаленску. Цяпер гэта невялікі гарадок, з 7 *тыс.* людпасьці. Жывець

ён найбольш ад рэчнага гандлю:—гандлюе з Рыгаю аўсом, пянькою і лесам. Недалёка ад гораду здабываюць вапну.

З іншых мяйсцовасьцяў Бельскага пав. трэба ўспомніць пра в. **Клёцавую**, што ляжыць пры самай блізка мяжы Беларусі. Каля яе пачынаецца вялікая беларуская рака—*Дняпро*.

На поўначы павету ляжыць с. **Тацева**, дзе вучыў даўгі час у пачатковай школе вядомы пэдагог, прафэсар С. Рачынскі.

Беларусы жывуць і на поўнач ад Бельскага пав., ў паўднёвых частках *Ржэўскага і Асташкаўскага паветаў*. Цьверскай губ. Тут беларуская мяжа даходзіць да р. Волгі і некалькі дзесяткаў вёрст ідзець уздоўж яе берагу.

Праз гэтыя абшары цячэ прыток р. Волгі—*р. Малады Туд*; ад яго і тамашніх беларусоў называюць *Тудаўлянамі*.

З прыроднага і гаспадарскага боку гэтыя абшары падобныя да сумежнага Бельскага павету. Аднак яны менш лясістыя і маюць гусьцейшую люднасьць, чым у Бельскім павеце.

На захадзе гэтых абшараў цячэ, сярод высокіх скалаў і дубавых лясоў, верхняя *р. Дзьвіна*. Берагі яе тут маюць шмат *мінэральнага багацьця*. У некалькі мяйсцох цякуць *серна—зялезныя крыніцы*, сярод скалаў знаходзяць *дарагія каменьні*: халцедон, сердолік, горны крышталь. Урэшце каля **в. Адрыянопалю,** над Дзьвіною, знайшлі ў пачатку XIX веку навет *золата*. Праўда, аказалася яго там мала.

Далей на ўсход, паміж *Дзьвіною* і *Жукопаю* (прыток Волгі) цягнуцца лясы і балоты, якімі тут пакрыты Волжска — Дзьвінскі вададзел. Лясы гэтыя вельмі багаты дзічынаю. Мяйсцовасьць мае гарысты выгляд.

Яшчэ далей, на паўднёвы ўсход, мяйсцовасьць робіцца раўнейшаю, лясы радзеюць і пачынаюцца абшары земляробскія. Тут як раз знаходзіцца значнае **сяло Малады Туд**, над рэчкай таго-ж іменьня—з *500 чал.* людасьці. Гэта вельмі старая мясьціна. У XIV веку беларуска-літоўскае войска пабудавала тут абаронны замак; руіны яго відны яшчэ і дагэтуль. Цяпер м. Туд вядома, як гандлёвы пункт: тут зьбіраецца аж 6 кірмашоў у год. У **в. Акоўцах** ёсьць царква з цудоўным абразам і „Сьвятою“ серністаю крыніцаю. Сюды зыходзіцца шмат багамольцаў.

**Ржэва** — стары (успамінаецца ў XI в.) горад над Волгаю. Вядзе значны гандаль лёнам і пянькою.

# Што чытаць па географіі Беларусі.

Да гэтай пары можна лічыць, што спэцыяльнай географіі ўсёй Беларусі, як цэласьці, ня было. Толькі сьветлай памяці Адам-Ганоры Кіркор, вядомы беларускі гісторык і географ, гадоў 30 назад зьмесьціў свае пекныя, прасякнутыя гарачым замілаваньнем да Бацькаўшчыны, артыкулы аб Беларусі ў агульнарасейскім географічным выданьні „*Живописная Россія*“ (*том III*). На вялікі жаль, ён, сьледам за расейскай навукай, разглядаў там асобна „Беларускае Палесьсе“ (ўсходнюю і цэнтральную Беларусь) і асобна „Літоўскае Палесьсе“ (заходнюю Беларусь, разам з этнаграфічнаю Літвою) Хаця гэта крыху шкодзіць яго твору і хаця кніга гэтая ўжо крыху перастарэла, але і цяпер мы мусім яе перад усім раіць для больш дэтальнага абзнаёмленьня з географіей Беларусі, асабліва ж з гістарычнаю географіей.

Цэнтральная і Усходняя Беларусь вельмі добра і дэталічна апісана ў другім агульна расейскім географічным выданьні: „*Россія* Полное географическое описаніе нашего отечества“. Том IX пасьвячаны „Верхнему Поднѣпровью і Бѣлоруссіі“ СПБ 1905 г. Заходняй Беларусі аднак тут саўсім няма.



Адам Ганоры КІРКОР.

Польскія кніжкі па беларускай географіі ёсьць найбольш у даўнейшых і цяпер распраданых выданьнях. Аднак і ў навейшых агульных польскіх географіях шмат мейсца адводзіцца Беларусі. Наагул трэба адзначыць, што ў Беларускай географіі польскія навуковыя крыху папрацавалі. Дзеля гэтага з цікавась-

цю можна прачытаць страніцы пасьвячаныя Беларусі, напр. у навейшай і лепшай агульна-польскай географіі: Sujkowski. Geografja ziem dawnej Polski. Warszawa. 1918 (2 томы). Вельмі цэнныя статыстычныя данныя аб Беларусі можна знайсьці ў зборніках праф. Ромэра Rocznik Polski Tablice statystyczne. Kraków. 1917. Надзвычайна цэнным з'яўляецца атлас выданы тым-жа праф. Ромэрам (E. Romer. Atlas Polski—1916). Найнавейшыя данныя з географіі і статыстыкі Беларусі (разам з Літвою і Польшчаю) ілюстраваны тут вельмі добра і арыгінальна-апрацаванымі картаграмамі.

Шмат ведамасьцяў аб асобных мясьцінах Беларусі можна знайсьці у ўсякіх слоўніках географічных і энцыклапэдычных (асабліва варт увагі вялікі расейскі *слоўнік Бракгаўза-Эфрона)* і ў іншых справачных выданьнях, прыкл. Przewodnik po Litwie i Białej Rusi, Н Роўбы, Przewodnik po Wilnie—таго ж *А. Кіркора* і г. д.

У справе межаў Беларусі і нацыянальнай статыстыкі вельмі цэнная кніга *праф. Карскага: „Этнографическая карта Белорусскаго Племени. Петроград 1917 г.“*. Так-сама шмат ведамасьцяў да географіі Беларусі можна дастаць з кнігі таго-ж аўтара *„Бѣлоруссы“ т. I. Варшава 1904 г.*

Цікавы нарыс эканамічнага становішча Беларусі можна знайсьці ў кніжцы вядомага беларускага эканаміста *А. Уласова—Бѣлоруссія и Литва—Минск* 1918, так сама ў кнізе L. Wasilewski—Litwa i Białoruś—1911.

Урэшце шмат артыкулаў аб географіі Беларусі было зьмешчана ў розных географічных журналах; асабліва цікавыя рэчы можна знайсьці ў журнале „Ziemia“, выдаваным у 1910—1914 гадох Польскім Т-вам Краёзнаўчым у Варшаве.

Усе вышэйпаказаныя выданьня досіць лёгка дастаць у кнігарных і бібліатэках. Што да рэдкіх кніг, а так сама ўсякіх монографіяў аб асобных местах, паветах і губэрніях беларускіх, урэшце, што да ўсякіх навуковых матар'ялаў, якімі можна было-б карыстацца пры будаваньні навукі Беларускай географіі, дык апрацаваньне іхнага сьпіску ёсьць справаю бязьмерна патрэбнаю, але дагэтуль яшчэ нявыкананаю. Праўда, пры кожнай блізка з вышэйпаданых кніжок можна знайсьці больш ці менш поўны бібліографічны сьпісак.

Адсылаючы будучых працаўнікоў над навукаю аб радзімай зямлі да гэтых кніжок, хочу я яшчэ колькі слоў сказаць на заканчэньне гэтай кнігі.

---

У кнізе пэўне знайдзецца шмат памылак і недахватаў. Пісана яна і выдана ў такім часе, які найменш спрыяе навуковай выдавецтву рабоце. Асабліва трудна было дастаць, навет у большых нашых гарадох, больш менш сьвежых, а так сама

рэдкіх матар'ялаў да географіі Беларусі. Дый трэба сказаць, што матар'ялаў гэтых ёсьць наагул нягуста, навука-ж беларускай географіі, нават яе бібліографія саўсім не распрацованы. Кніга яшчэ на жаль, выдана без дагляду аўтара і гэта можа быць прычынаю розных драбнейшых недахватаў.

Але з другога боку адкладаць працу гэтую далей было нельга. Беларуская школа і курсы беларусазнаўства ня маюць ніякіх падручнікаў па географіі Бацькаўшчыны. Нацыянальны рух, шырокай ракою разьліўшыся па Беларусі за апошнія два гады, ўжо шмат церпіць ад таго, што ня толькі шырокая публіка, а навет шмат хто з маладых беларускіх працаўнікоў, ня маюць аб родным краі найпатрабнейшых ведамасьцяў і часта навет ня ведаюць скуль іх могуць узяць.

Урэшце масы беларусоў, прайшоўшы расейскія і іншыя школы яшчэ і дагэтуль глядзяць на родны край вачамі казённых вучэбнікаў. З аўтараў гэтых вучэбнікаў здаецца ні адзін не разумеў і не хацеў разумець, што наша Бацькаўшчына, якая подлуг іх апісаньняў, ёсьць самым бедным і няшчасным краем, сталася такою толькі дзякуючы Маскоўскаму Ураду, яго сыстэме цэнтралістычнай і русіфікацыйнай. Беларуская маладзёж даведавалася ў школе толькі аб тым, што яе Бацькаўшчына—гэта якоесь адно балота, самае важнае ў ёй-гэта хвароба „каўтун“, а па-за-тым больш няма нічога цікаўнага.

Атручаная такою расейскаю „навукаю“ беларуская маладзёж, як толькі станавілася на ўласныя ногі, старалася як найхутчэй уцякаць куды небудзь з Бацькаўшчыны ў Маскоўшчыну, Польшчу, Сыбір. А і тыя, якія заставаліся ў краю, працавалі найбольш для свайго толькі кутка, бо бачылі, які ён пекны, які багаты як непадобен да расейскіх апісаньняў. Для ўсяго-ж краю працаваць, баяліся, бо не маглі паверыць, успамінаючы школьную навуку, што гэты край можа быць здольным да самаістнага жыцьця.

Вось-жа калі-б тыя беларусы, што прачытаюць гэтую кніжку зацікавіліся сваей Бацькаўшчынай, каб узяліся самі за глыбейшае навуковае пазнаньне яе, ці асобных праяваў яе жыцьця, каб заахвоціліся шукаць і бачыць яе арыгінальнае харство, дык-бы аўтар лічыў сваю працу дайшоўшай мэты. А калі-б у іх хоць крыху пабольшала замілаваньне ў сваёй роднай многапакутнай старане, такой простай і разам цудоўнай, навет у часы заняпаду свайго поўнай вялічу і схаваных сілаў, каб яны паверылі ў яе вялікую будучыну і дзеля будучыны гэтай шчыра працаваць і змагацца пачалі, тады-б аўтар быў папраўдзе шчасьлівы.

---

Сярод рысункаў гэтай кнігі, большая частка ўзята са збораў Таварыства Краёзнаўчага ў Варшаве. Паміж іх шмат ёсьць фатаграфіяў вядомага нашага земляка артысты-фотографа Яна Булгака з Вільні.